**Міхась Скобла. Высьпятак ад Скарыны.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2017. 500 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Марына Сідаровіч*

Кнігі ня толькі маюць свой лёс, яны могуць кіраваць лёсамі сваіх аўтараў. Кнігі, вартыя, каб іх прачыталі мільёны, і заслугоўваючыя аўтадафэ, кнігі — як абарончы мур і кнігі-касманаўты, кнігі — помнікі каліграфіі і ахвяры цэнзуры, Кніга над кнігамі — Біблія — у сваім першародным выглядзе — вось галоўныя "героі" гэтага выданьня, прымеркаванага да 500-годзьдзя беларускага кнігадрукаваньня.

Цытаты з прадмоваў і пасьляслоўяў Францішка Скарыны прыводзяцца паводле выд.: Скарына Ф. Маем найбольшае самі: кніга перастварэньняў Алеся Разанава. — Мастацкая літаратура, 2017.



ISBN 978-0-929849-86-7

# Зьмест

## Сучасьнікі

Сёньня,

праз 500 гадоў пасьля Скарыны,

Кожны, хто па-беларуску моліцца,

Кожны, хто па-беларуску каецца,

Кожны, хто па-беларуску лечыць,

Кожны, хто па-беларуску вучыць,

Кожны, хто па-беларуску чытае,

Кожны, хто па-беларуску піша,

Кожны, хто па-беларуску друкуе —

Друкуе, піша, чытае, вучыць, лечыць,

каецца і моліцца так,

Бо ёсьць Скарына.

Кожны.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

**Усякаму чалавеку трэба дружбаваць з кнігай, бо яна люстэрка людзкога жыцьця і душэўныя лекі, уцеха — самотным, зьнявераным — помач.**

**Францішак Скарына**

## НАШ АБАРОНЧЫ МУР

Вялікая кітайская сьцяна, змураваная з сабранага па ўсёй імпэрыі каменьня, стагодзьдзямі аберагала жыхароў Паднябеснай ад варожых набегаў.

Рыцары ў сярэднявечнай Эўропе абносілі свае замкі землянымі валамі, абкопвалі глыбокімі равамі і выседжвалі ў непрыступных фартэцах самыя працяглыя аблогі.

Абарончая сьцяна ў самым высакагорным горадзе Мачу-Пікчу ў пэруанскіх Кардыльерах высечаная з суцэльнай скалы, якая і сёньня вежавымі зубцамі прычэсвае аблокі, хоць ахоўваць няма каго — турыстаў і тых няшмат на каменных вузкіх вулачках.

З чаго складзеная абарончая сьцяна Беларусі? Зь якіх найтрывалейшых матэрыялаў, што і ў агні

не згарэлі, і перад ваеннымі землятрусамі ўстаялі? З кніг. З тысячаў і мільёнаў кніг, якія леглі ў тую сьцяну замест цаглінаў і камянёў. І гэта самая трывалая сьцяна, самы надзейны мур у сьвеце, бо яго не падкапаеш і таранам не разаб'еш.

Беларусь шматкроць кроілі дзяржаўнымі межамі, дзялілі на чужацкія *гміны* і *ўезды*, заганялі то ў літбелы, то ў бээсэсэры, то ў райхі, а беларусы як жылі на сваёй зямлі, так і жывуць. І цары, і генэральныя сакратары сыходзілі, а Беларусь заставалася. Значыць, мае яна надзейны абарончаахоўны мур, які падступнаму чужаку разбурыць не пад сілу. І няхай мур гэты, кажучы сучаснай мовай, віртуальны, ён можа абараніць вас ад усіх нашэсьцяў. Гэты мур самаўзводзіцца ў кожным з нас дзякуючы прачытаным кнігам. Таму мы, беларусы, павінны ў кожнай кватэры-хаце мець па бібліятэцы. Нечытаньне кніг мяжуе для нас з нацыянальным злачынствам. Невыпадкова вялікі будаўнік ахоўнай сьцяны Беларусі Ўладзімер Караткевіч напісаў у адным са сваіх праграмных вершаў: «Чалавек прыходзіць / з-за далёкіх, чужых нам меж / і зьдзіўляецца: / што вы за нацыя, / хай вас халера, / што ні дом — сотні кніг! / Гэта правільна, дружа, / іначай бы мы не былі / ні народам, / ні нацыяй, / а гноем, / хімерай». Таму і ня дзіўна, што беларус купляе кнігі «коштам пайковага хлеба», а «выходзячы пад бомбы ў дарогу, / мае — у сэрцы Бога, / а ў кайстры — / Багдановіча, Танка, Купалу, / Коласа, Панчанку і Эклезіяста».

Нам трэба радавацца кожнай таленавітай беларускай кнізе — зь яе выхадам ахоўная сьцяна Беларусі мацнее.

Кожны муляр ведае, што самае галоўнае ў мулярскай справе — закласьці кутнія камяні, выверыць па іх падмуркі, узьвесьці вуглы. Далей па нацягнутым шнурку цэглу класьці здолее і вучань. У ахоўнай сьцяне Беларусі кутнія камяні кладуць і вуглы ўзводзяць гісторыкі. На іх працу раўняюцца астатнія будаўнікі.

Юры Туронак паклаў свае кутнія камяні глыбока і трывала. Можна сказаць — непарушна. Стаяцьме на іх наша абарончая сьцяна вечна.

Ня мною заўважана, што гісторыя чалавецтва — гэта пераважна гісторыя войнаў. Ня стала тут выняткам і гісторыя Беларусі — на нашай тэрыторыі зброя бразгала часьцей чым дзе. Але паколькі войны на беларускай зямлі, як правіла, ішлі за чужыя інтарэсы, то і гісторыю гэтых войнаў для нас пісалі таксама чужакі. Як прыклад можна прывесьці таўшчэзны двухтамовік «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў» аўтарства Цанавы (ён жа Джанджагава, ён жа Лаўрэнцій II паводле чэкісцкіх сьвятцаў). Паводле гэтага партызаназнаўцы ў генэральскіх пагонах, ледзь ня зь першых дзён вайны ўсе беларусы, якія не пасьпелі змабілізавацца ў Чырвоную армію, шчыльнымі радамі пайшлі ў лес, адкуль білі фашыстаў і ўдзень, і ўночы, і ў хвост і ў грыву. На падобных гісторыях і выхоўваліся мы ўсе, у тым ліку аўтар гэтых радкоў. Але ў школе мне пашанцавала на настаўніка, які часам расказваў тое, чаго не было ў савецкіх падручніках. Аднойчы настаўнік, Пятро Мікалаевіч Марціноўскі (сьветлая яму памяць), проста на ўрок прынёс дзьве кнігі — «Бе-

ларускую граматыку» Браніслава Тарашкевіча і «Беларускі правапіс» Антона Лёсіка. Абедзьве — выданьня 1943 году. Дапытлівым вокам я неўзабаве згледзеў, што наклад тых «ваенных» падручнікаў — па 100 000 асобнікаў. Лічба мяне ўразіла. Атрымлівалася, што пад нямецкай акупацыяй у Беларусі дзейнічала прыкладна 500 школаў з прыблізна такой жа колькасьцю вучняў, як у нашай сярэдняй Дзярэчынскай. Наклады Тарашкевіча і Лёсіка ў два разы пераўзыходзілі наклады аналягічных савецкіх падручнікаў!

Знайшоўшы хвілінку, каб нам ніхто не перашкаджаў, я падаўся ў роспыты да настаўніка. Аказалася, што ён пры немцах вучыўся ў беларускай школе, ведаў дружыновага Саюзу беларускай моладзі на Слонімскую акругу Барыса Суравога, ад якога навучыўся сьпяваць файныя песьні. Настаўнік па-маладому матлянуў густым пасівелым чубам і напаўголаса прасьпяваў: «Дык ці ў шчасьця дзень пагодны, / ці у буры дні благім / знайма першы кліч народны: / Беларусь — перадусім!».

З таго часу прайшлі доўгія гады, пакуль складаная гісторыя апошняй вайны больш-менш упарадкавалася ў маёй галаве. І ўпарадкаваў яе гісторык з Варшавы Юры Туронак. Памятаю, як на маіх вачах у менскай кнігарні «Сьветач» людзі стаялі ў чарзе, каб набыць ягоную «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» у кідкай бела-чырвона-белай вокладцы. І бралі па дзьве, па тры — сабе і сябрам. Дайце веры, навуковая кніга стала сапраўдным бэстсэлерам!

Зразумела, што і ўсе пазьнейшыя кнігі Юрыя Туронка не прайшлі міма мяне — і «Беларуская кніга пад нямецкім кантролем», і «Людзі СБМ», і «Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі», і, нарэшце, «Мадэрная гісторыя Беларусі», куды ўвайшлі асноўныя працы гісторыка. Усе кнігі чыталіся запоем. Чытаў і думаў — гэта ж адзін чалавек зрабіў работу за цэлы інстытут, прычым ня маючы папярэднікаў, ідучы па цаліку. Асоба! А паколькі асоба гэтая жыве ў Варшаве, куды і пасьля прыўзьнятай жалезнай заслоны не заўсёды даедзеш, то зьвестак пра Туронка мы мелі мала. Хацелася ведаць больш. Звычайна незаменныя штрыхі ў партрэт любой асобы дадаюць мэмуары. І вось — маем іх і ад Юрыя Туронка. Кнігу «За кардонам Бацькаўшчыны» мне падараваў куратар і апякун бібліятэчкі часопісу «Беларускі гістарычны агляд» Генадзь Сагановіч, дзякуючы якому яна і пабачыла сьвет.

Юры Туронак і ў мэмуарах застаецца гісторыкам, таму чытача чакае падрабязная гісторыя яго родных Дукштаў — зь лічбамі і табліцамі, па якіх можна параўнаць два стагодзьдзі ў жыцьці мястэчка — XIX і XX. У Дукштах будучы гісторык 27 красавіка 1929 году прыйшоў на сьвет, там немаўлём быў ахрышчаны ў парафіяльным касьцёле ксяндзом Зянонам Буткявічусам, там падшпаркам на вуліцах услухоўваўся ў польскую, жыдоўскую, расейскую і літоўскую мовы. (Свая — беларуская — культывавалася ў сям’і, у доме, дзе на сьценах віселі партрэты Багушэвіча, Купалы і Казімера Сваяка.)

«Jak ty się nazyvasz? Jureczek?» — пыталася ў трохгадовага лабатага хлопчыка суседка. «Nie Jureczek, а Юрачка», — адказваў той насуплена, і рабілася відавочным — такога не перавучыш і не пераназавеш.

Вялікую ўдзячнасьць да сваіх бацькоў — Баніслава Туронка і Марыі з дому Рэшацяў — захаваў у сваім сэрцы сын. Бацька, лекар па прафэсіі, лячыў усю ваколіцу, а сабе не дапамог — рана памёр ад запаленьня лёгкіх. Але спрыяў сыну і пасьля сьмерці — у 1942 годзе, пачуўшы прозьвішча Туронак, дырэктар віленскай гімназіі без іспытаў залічыў Юрку ў гімназісты і нават вызваліў ад платы за навучаньне ў 100 марак. Прыйдзе час, і ўдзячны сын напіша пра бацьку цэлую кнігу, якую выдасьць слынны нью-ёркскі БІНіМ.

Успаміны Юрыя Туронка часам жахаюць сваёй праўдай. Вось малаўцямная для нас, сёньняшніх, карцінка: жанчыны на каленях моляцца ў хаце: «Божа, пашлі вайну!». Але што гэтаму папярэднічала? Дэпартацыя ў клятую Сыбір (тры дні і тры ночы энкавэдысты напаўнялі эшалён на станцыі ў Дукштах)... Местачковы вэтэрынар, псыхалягічна ня вытрымаўшы тэрору, брытвай перарэзаў сабе горла… Дарэшты запалоханая, як і ўсе местачкоўцы, новай уладай, Юркава бабуля спаліла ў печы кніжку Францішка Аляхновіча «У капцюрох ГПУ»… Вайна насамрэч была збаўленьнем і ачышчэньнем ня толькі для маленькіх Дукштаў, але і для ўсёй вялізнай краіны, якая на касьцях сваіх грамадзянаў будавала цёмны шлях у сьветлую будучыню. Была яна збавеньнем і для галоўнага тырана, якому сьпісвала ўсе грахі, і для яго-

ных незьлічоных памочнікаў, якія перад абліччам больш грознага ворага маглі не актыўнічаць у пошуку ворагаў народу сярод суайчыньнікаў.

Так што сапраўды не пазбаўленая сэнсу дзіўная на першы погляд расейская прыказка: *кому война, а кому мать родна*. На вайну можна сьпісаць любыя злачынствы, як тое і рабілася неаднойчы ў паваенны час. Напрыклад, па звыклай завядзёнцы на немцаў сьпісалі забойства беларускіх ксяндзоў Станіслава Глякоўскага і Дзяніса Мальца, а забілі іх менскія праваслаўныя экстрэмісты пад кіраўніцтвам беларуса-паліцыянта. Пра ўсё гэта піша ў сваіх мэмуарах гісторык Юры Туронак. Колькі яшчэ савецкіх мітаў дрыжыць у страху перад ім?

Са школьнай лаўкі памятаю ўзрушаны аповед настаўніцы пра партызанскія зялёныя школы, дзе вучыліся без падручнікаў, а пісалі ледзь не на бяросьце. Сам у адным з музэяў трымаў у руках скручаны дротам цуд партызанскага самвыдату — паэтычны зборнік Анатоля Астрэйкі «Слуцкі пояс», аздоблены застаўкамі зь бярозавых і дубовых плашак… Ніхто ж не спрачаецца — і зялёныя школы, і партызанскі самвыдат мелі месца, але, гаворачы пра іх, ня варта аддаваць забыцьцю іншыя школы, іншыя кнігі і іншыя друкарні. Паводле падлікаў Юрыя Туронка, у акупаванай немцамі Беларусі пабачылі сьвет 52 кнігі. Нібыта і няшмат (у суседняй Латвіі за той жа пэрыяд — 1500), але гэта былі вартыя выданьні — «Сягоньня» Натальлі Арсеньневай, «Мае песьні» Алеся Салаўя, «Беларусь учора і сяньня» Язэпа Найдзюка…

За настаўніцкую працу падчас вайны прафесар Тадас Іванаўскас (родны брат Вацлава Іваноўскага) меў ад літоўскага савецкага ўраду мэдаль «За доблестный труд». А якія падзякі атрымалі беларускія настаўнікі, якія вучылі школьнікаў па тых «статысячных» падручніках Тарашкевіча і Лёсіка? Добра яшчэ, калі абыходзілася дзесяцігадовай выправай у Сыбір, а магло скончыцца і трагічна, як тое бліскуча апісана ў апавяданьні Вячаслава Адамчыка «Прылёт кажана». Многа, ой многа прыгадак-асацыяцый прыходзіць на памяць над старонкамі Туронкавых успамінаў.

Славуты афарызм Тэрэнцыяна Маўра мы звыкліся цытаваць у абсечаным выглядзе: *Habent sua fata libelli* («Кнігі маюць свой лёс»). Але ёсьць яшчэ і працяг: «Кнігі маюць свой лёс, гледзячы па тым, як іх прымае чытач». І тут зноў хочацца вярнуцца да кнігі «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Я ўжо згадваў, як яе разьмяталі з прылаўкаў менчукі. Але хто падрабязьней ведае лёс кнігі, яе біяграфію, як ня сам аўтар? Аказваецца, самая вядомая кніга Юрыя Туронка перад тым, як трапіць на варштат Скарыны, пабыла навуковай дысэртацыяй і прынесла дасьледніку годнасьць доктара гуманітарных навук у галіне гісторыі. Прычым (факт рэдкі!) усе 23 чальцы навуковай рады прагаласавалі «за». З посьпехам абароненую дысэртацыю рыхтавалі да выданьня ў варшаўскім нелегальным выдавецтве WERS (1987 год, яшчэ існавала народная Польшча). Пакуль тэкст набіраўся, польскі камуністычны рэжым ляснуў і кніга выйшла ў сьвет легальна. З поль-

скага арыгіналу яе пераклалі ў Менску Вітаўт Мартыненка і Ўладзімер Панада і пасьпелі ціскануць некалькі разьдзелаў у газэце «Чырвоная зьмена», пакуль не спахапіліся іх камсамольскія куратары. І, нарэшце, «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» своечасова трапіла на Першы зьезд беларусаў сьвету — у тым самым бела-чырвона-белым аздабленьні выдавецтва «Беларусь».

Акрылены посьпехам кнігі аўтар справядліва чакаў ня толькі захопленых чытацкіх водгукаў (іх было шмат), але і ўзважанага слова калегаў-гісторыкаў і мужоў дзяржаўных. І дачакаўся. Тагачасны прэм'ер-міністар Беларусі Вячаслаў Кебіч на сустрэчы з вэтэранамі паабяцаў прыцягнуць Юрыя Туронка да крымінальнай адказнасьці і дадаў: «По поводу книги „Беларусь под немецкой оккупацией" я уже вёл разговор с министром информации, кому подчинено издательство. Как можно такое издавать?». Прысутная на сустрэчы старэнькая Марыя Восіпава (удзельніца замаху на Вільгельма Кубэ) падтакнула прэм'еру: «Есть ли мозги у того, кто написал книгу?». Магчыма, калі б Юры Туронак зьяўляўся грамадзянінам Беларусі, яго і сапраўды паспрабавалі б пасадзіць на лаву падсудных. Хто ведае — такі быў час. А сёньня месца злосным філіпікам прэм'ера бачыцца хіба толькі сярод камэнтароў да будучага трэцяга выданьня «Беларусі пад нямецкай акупацыяй», якое даўно насьпела.

Кніга «За кардонам Бацькаўшчыны» — гэта панарама чалавечага жыцьця, дзе трэба — дакладна-падрабязная (відаць, што аўтар абапіраецца на дзёньнікі), дзе трэба — жывапісна-кіне-

матаграфічная. Вось адна зь яскравых сцэнак. 29 чэрвеня 1944 году, Дукшты. Беларус Пецька Кузьміцкі, які служыць у латыскім (!) вайсковым аддзеле, у форме люфтвафэ (!) ідзе зь вінтоўкай на варту і сьпявае на ўсю вуліцу расейскую савецкую (!) песьню «С нами Сталин родной, / он железной рукой…». Наўрад ці дзесяцігадовы падлетак разумеў усю трагікамічнасьць гэтай сытуацыі, але запомніў, каб потым выкарыстаць як аздобу-дэталь у сваіх мэмуарах.

Ці яшчэ адна сцэнка, ужо з гісторыі найноўшай, якая так і просіцца ў які-небудзь гісторыка-прыгодніцкі фільм пра чарговую хвалю беларускага адраджэньня: 25 сакавіка 1985 году, Варшава. Пры шчыльна завешаных вокнах і запаленых сьвечках у памяшканьні Беларускага грамадзка-культурнага таварыства праходзіць строга закансьпіраваная сустрэча студэнтаў. Даклад пра стварэньне БНР чытае доктар Юры Туронак зь бела-чырвона-белай стужкай на грудзях…

У тыя шматспадзеўныя гады і ў менскія студэнцкія асяродкі даходзіла выдадзеная за заходняй мяжой літаратура. Тую кантрабанду аднымі яму вядомымі сьцежкамі спраўна дастаўляў у беларускую сталіцу беластоцкі студэнт Юрка Ляшчынскі. Ён часам падначоўваў у нашым інтэрнаце на вуліцы Кастрычніцкай, дзе мы і сартавалі пачкі з самвыдатаўскімі часопісамі, са сьпеўнікамі і падцэнзурнымі брашуркамі. Ня ведаў я тады, ды і пазьней не падазраваў, што да шматлікага варшаўска-беластоцкага самвыдату меў самае непасрэднае дачыненьне Юры Туронак — дзяліўся прывезенымі ў свой час зь Лён-

дану тэкстамі, перадрукоўваў на машынцы песьні Данчыка…

Прыміце ж, паважаны кніганоша, хоць запозьненую падзяку ад спажыўца той друкаванай прадукцыі, якая прыносіла ў Беларусь адчувальны подых свабоды!

А цяпер пра два шкадаваньні, адчутыя мною пасьля прачытаньня кнігі Юрыя Туронка «За кардонам Бацькаўшчыны». Шкадаваньне першае. Гісторык прыгадвае, што ліставаўся з удавой прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка Нінай Ляўковіч і нават пазнаёміўся зь ёю падчас паездкі ў Парыж. Шкада, што стасункі гэтыя не прывялі да выяўленьня архіву БНР, які, паводле відавочцаў, захоўваўся на гарышчы Абрамчыкавага дому ў Вільпінце. Шкадаваньне другое. Мэмуары Туронка выдадзеныя недаравальна мізэрным накладам — усяго 100 асобнікаў. Гэта роўна ў тысячу разоў меней ад накладаў згаданых вышэй граматыкі Тарашкевіча і правапісу Лёсіка, выпушчаных у сьвет пад нямецкай акупацыяй! І гэта прытым, што Туронкавы кнігі, якім пашчасьціла на выхад у Беларусі, неаднаразова перавыдаваліся. Што з гэтай акалічнасьці вынікае? Вынікае, што шаноўнаму гісторыку рана карчаваць пні на лецішчы ў падбеластоцкіх Трыпуцях. Трэба рыхтаваць другое, дапоўненае выданьне сваіх мэмуараў.

*2011*

**Не капай ямы другому — увалісься сам у яе; ня стаў, Амане, шыбеніцы Мардахею — будзеш вісець на ёй сам.**

**Францішак Скарына**

## КУПАЛА ЯНКА І ЛАЯНКА

Празь якія выпрабаваньні павінен прайсьці пісьменьнік, каб канчаткова і незваротна вытрымаць іспыты перад вечнасьцю? Праз агонь, ваду і медныя трубы, адкажаце вы. І што тут дадаць, калі ў гэтай біблейскай трыядзе насамрэч зашыфравана ўсё тое, што звычайна чакае творцу на калдобістай жыцьцёвай дарозе. З трох пералічаных выпрабаваньняў найцяжэйшым лічацца медныя трубы — той хвалебны фіміям, ад якога шмат у каго закружылася галава, а сёй-той учадзеў ды перастаў адэкватна ўспрымаць сьвет.

Але ёсьць яшчэ адно выпрабаваньне, дадатковае, вытрымаць якое пісьменьніку таксама няпроста. А магчыма, яно і найскладанейшае, бо — пасьмяротнае. Праходзячы першыя тры, пісьменьнік сам ці праз кагосьці можа паўплываць на сытуацыю, а вось пераадоленьне чацьвёртага

ад яго зусім не залежыць. Чацьвёртае выпрабаваньне — гэта поўны збор твораў. Калі ўдумацца, то ў гэтым ёсьць нешта помсьлівае. Гэткая сабе помста няўдзячных нашчадкаў. Ах, цябе пры жыцьці ўзьвялічылі, табе помнікі скрозь паставілі? Зараз мы цябе трохі апусьцім. Поўны збор твораў — адзін са спосабаў апусьціць. Бо цягам цэлага жыцьця ня скажа нічога лішняга толькі нямы.

У гісторыі беларускай літаратуры пад падобную экзэкуцыю падпалі пакуль толькі чацьвёра — Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас і Максім Танк. Поўныя зборы твораў першых двух, куды ўвайшлі нават дарчыя надпісы на фотаздымках, ужо выйшлі, для двух апошніх гэты малапрыемны працэс яшчэ не закончыўся. Поўнымі зборамі твораў ганаруюцца (караюцца?) толькі вялікія. А да вялікіх і патрабаваньні асаблівыя. Вось і шаноўны Ян Максімюк у сваім артыкуле «Цёмная камора белліту» на сайце Радыё Свабода вырашыў зрэвізаваць «Поўны збор твораў» Янкі Купалы ў 10 тамах. І выбраў для рэвізіі самы змрочны пяты том, які склалі вершы і паэмы паэта за дванаццаць апошніх гадоў — з 1930-га па 1942-гі. Менавіта ў ім зьмешчаныя, паводле вызначэньня Максімюка, «драўляныя вершы пра хлопчыкаў і лётчыкаў ды тапельцаў у Вісьле». А таксама паэма «Над ракой Арэсай», названая маім апанэнтам «гідотай». Ян Максімюк вывучаў гэты твор у вясковай школе на Падляшшы і да гэтай пары гідзіцца, я — у Дзярэчынскай СШ на Гарадзеншчыне, але ні тады, ні цяпер ня гіджуся. «Крумкач глюгу зьвесіў / над згніўшай

калодай, / прысьніла Палесьсе / мінулыя годы», — з чаго ж тут гідзіцца?

Майго дзеда-хутаранца бізунамі (літаральна!) заганялі ў калгас, праўда, прапаноўвалі і альтэрнатыву — Калыму. Таму зьмест паэмы да мяне вельмі добра даходзіў, як і зьмест «Людзей на балоце» Івана Мележа. Ці існавалі калгасы на замежным Падляшшы? Ян Максімюк прызнаецца, што не, і падзеі, апісаныя ў паэме «Над ракой Арэсай» успрымаліся ім ня дужа ўцямна, як рэаліі жыцьця на Марсе. Дык адкуль гэткая катэгарычнасьць («гідота»!) у дачыненьні «іншаплянэтных» рэалій?

Я таксама не лічу згаданую паэму шэдэўрам. «Над ракой Арэсай» я б ніколі не ўключыў у выбранае Купалы, ёй месца толькі ў ПЗТ. Але савецкая сыстэма адукацыі акурат і базавалася на падобных творах. Яна мела на мэце дыскрэдытаваць нацыянальную літаратуру, каб вучні як мага хутчэй адчулі сябе часткай адзінай гістарычнай супольнасьці — савецкага народу. Але ці ж варта твор Купалы, хай сабе і няўдалы, называць гідотай? Увогуле мяне зьдзіўляе, зь якой лёгкасьцю і безапэляцыйнасьцю Ян Максімюк выносіць свае прысуды. Ну напрыклад: «Купалу зламалі ня толькі як паэта і як сымбаль нацыянальнага духу, але і зрабілі апалягетам сыстэмы, якая ў сваіх мэтастазах трывае ў Беларусі і па сёньняшні дзень».

Па-першае, некарэктна параўноўваць сталінізм і сёньняшні палітычны лад у Беларусі. Гэта ўсё ж не з аднаго гнязда птушкі. Па-другое, калі б Купала быў апалягетам сталінскай сыстэмы, яго не цягалі б на начныя допыты ў ГПУ, ён не рабіў бы

сабе харакіры, а ягоную кнігу «Творы» ў 1930-м не парэзалі б на макулятуру. Урэшце, у 1942 годзе таварыш А. Кучар не напісаў бы санкцыяваны зьверху хлусьлівы данос у адпаведныя інстанцыі, што фашысты ў акупаваным Менску назвалі вуліцу імем Купалы, пасьля чаго паэта скінулі ў лесьвічны пралёт гасьцініцы «Масква» (была ж прычына!). Са сваімі апалягетамі сыстэма так не абыходзілася.

Прызнаюся, мяне проста шакуюць сваёй паказной бравадай «парады» Яна Максімюка Купалу: мог жа дзеля ўратаваньня свайго імя падацца ў эміграцыю, «мог сказаць бальшавікам «не» і ўпасьці ў дол у Курапатах», «мог бы напісаць нешта, што прасьлізнула б празь сетку бальшавіцкай цэнзуры і засталося б нам у спадчыну як сымбаль нескаронасьці духу перад дулам пісталета».

А хіба перадсьмяротны ліст Купалы ня ёсьць гэтае «нешта»? «Уміраю, прымаючы тое, што лепей сьмерць фізычная, чымся незаслужаная сьмерць палітычная. Відаць, такая доля паэтаў. Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне туды за імі дарога…» Ці многа ва ўсясьветнай літаратуры падобных дакумэнтаў? Якіх жа яшчэ «сымбаляў нескаронасьці» нам трэба?

У свой час, агледзеўшы экспазыцыю Купалаўскага музэю, у сутнасьці сваёй — ардэнаносна-савецкую, я напісаў верш, у якім былі такія радкі: «Вось Купалу машына вязе, / вось Купала заняты гаворкаю, / вось Купала стаіць у чарзе — / не па хлеб, па аўтограф да Горкага, / вось Купала ў прэзыдыўме зноў ж / разам зь іншымі дбае аб

міры… / Пакладзіце ля ордэна нож, / што зрабіў песьняру харакіры!»

Нож поруч з ордэнам у экспазыцыю і па сёньняшні дзень не паклалі. Як не паклалі і перадсьмяротны ліст паэта на імя старшыні ЦВК Аляксандра Чарвякова. А каб паклалі? Як гэтыя экспанаты ўжываліся б з ордэнам Леніна? Нешта давялося б прыбраць. Я прыбраў бы ордэн...

Ці выратавала б Купалу эміграцыя? Сумняваюся. Вось жа Ларысу Геніюш і эміграцыя не ўратавала. З другога боку, як тая эміграцыя мусіла выглядаць? Купала на ўласным «шэўрале» пад'яжджае да «Негарэльскае аркі», яму казыраюць памежнікі, а начальнік пагранзаставы становіцца на зважай? Такую карціну ўявіць немагчыма, можна толькі напісаць — «маслом». Посным. Бо іншым ніяк не атрымліваецца.

Што да славутага «шэўрале», які часам таксама выступае ў якасьці аргумэнту… Аднойчы ў Ляўках, пабачыўшы лецішча Купалы і гараж з тым самым аўто, я пацікавіўся ў музэйнага наглядчыка: а што гэта за дамок проста перад ганкам паэта? «А ў ім жыў Купалаў шафёр», — патлумачыў наглядчык…

А цяпер давайце пачытаем ліст Купалы да сябра Б. Емяльянава, пісаны 8 траўня 1942 году ў Пячышчах пад Казаньню: «Шафёр Яртымік у мяне больш не працуе, пачаў хаміць — ажно да асабістых абразаў». Ці магчыма ўявіць сабе звычайнага шафёра, які абражае таго, каго возіць — на даручэньне ўраду? Немагчыма. Значыць, шафёр, які меў дамок-вартоўню пры паэтавым лецішчы, быў не зусім звычайны. Да забойства

Купалы заставалася менш за два месяцы, пра тое таварыш Яртымік ведаў, вось і «адвязаўся». Старэйшыя пісьменьнікі прыгадвалі: калі той шафёр памёр, дык хавалі яго з ротай ганаровай варты. Купалу так не хавалі. Так што той разрэклямаваны «шэўрале» было насамрэч «чорным воранам», які і прывёз урэшце Купалу да пагібелі.

Аўто, дарэчы, нядаўна выстаўлялі пры музэі на ўсенародны паказ. Цэлы натоўп вакол сабраўся, карэспандэнту БТ было дазволена залезьці ў кабіну, каб «карцінкай» пацьвердзіць клопат савецкай дзяржавы пра народнага песьняра. Вось на што агідна было глядзець. Якая там рака Арэса… «А па рэчцы па Арэсе / бегае маторка, / стары човен, як карыта, / пазірае горка». Эх, каб сеў Купала ў тую маторку, ды Арэсаю — у Прыпяць, а па Прыпяці — у Буг, а па Бугу — у Віслу, па якой плаваў тапелец, а па Вісьле — яшчэ куды далей і далей… Натальля Арсеньнева заплыла ажно за Атлянтычны акіян, у ЗША. І што — уратавала імя? «Люблю цябе, Сталін, і я невымоўна», — гучыць аднекуль, мабыць, зь «цёмнай каморы белліту», яе даваенны верш.

А сьледам, з гэткай жа цёмнай каморы, гучаць радкі Ганны Ахматавай: «И благодарного народа / Вождь слышит голос: «Мы пришли / сказать, — где Сталин, там свобода, / мир и величие земли».

А сьледам «цёмная камора» азываецца голасам Восіпа Мандэльштама: «И на земле, что избежит тленья, / будет будить разум и жизнь Сталин».

А сьледам ужо чуваць цэлы хор прасталінскай паэтычнай патэтыкі — Мікалай Забалоцкі, Барыс Пастэрнак, Яраслаў Сайфэрт, Пабла Нэ-

руда… Ахматава, каб уратаваць з ГУЛАГу сына, напісала і надрукавала цэлы зборнік прасавецкіх вершаў зь вельмі красамоўнай назвай «Слава міру». Народнаму паэту Беларусі Янку Купалу таксама было што і каго ратаваць, і ён выдатна ведаў, чым можа абярнуцца ягонае непадпарадкаваньне, ягоны бунт.

Чаму ж сёньня ў Расеі не пабіваюць камянямі тую ж Ахматаву, а захапляюцца яе «Рэквіемам»? Чаму там не прывязваюць да ганебнага слупа Мандэльштама, Забалоцкага і Пастэрнака? І чаму ў Беларусі стала ледзь ня модным вінаваціць Купалу ў «здрадзе літаратуры», называць яго Каянам Лупакам ды папікаць савецкім ордэнам, лецішчам і пэрсанальным «шэўрале»?

«Як чалавека Купалу можна і трэба апраўдваць. Як прароку і паэту яму няма дараваньня», — з уласьцівай яму катэгарычнасьцю заяўляе Ян Максімюк. Рыхтык пракурор на судзе. Усім крытыкам з пракурорскімі замашкамі я мог бы назваць дзясятак-другі геніяльных твораў Купалы, пачынаючы з паэмы «Курган», якой адной хопіць для любога апраўданьня, але замест гэтага нагадаю адну старазапаветную прыпавесьць. Хам, сын Ноя, пабачыў на бацьку, што спаў пасьля выпіўкі, непрыкрыты сорам і пачаў падʼюджваць братоў Сіма і Яфета на зьдзек са старога. Але тыя далікатна папраўлілі бацькава адзеньне і прысаромілі Хама. У свой час гэтую прыпавесьць трапна пракамэнтаваў Антон Паўлавіч Чэхаў: «Хам заўважыў толькі, што бацька ягоны — пʼяніца, і зусім забыўся пра тое, што ён пабудаваў каўчэг і выратаваў сьвет».

Янка Купала таксама пабудаваў для нас каўчэг. Разам зь Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Алесем Гаруном, Максімам Гарэцкім. Каўчэг новай беларускай літаратуры. Дык ці выпадае нам сёньня прыпадабняцца да таго Хама, якому так хацелася пазьдзекавацца з бацькі?

Пра горы мяркуюць па вяршынях. А пра вялікіх пісьменьнікаў — па іхных шэдэўральных творах. Ня варта залазіць у «цёмныя каморы» поўных збораў твораў і выцягваць адтуль на белы сьвет нештачка такое, што выклікае ў сёньняшніх літаратурных гурманаў эстэтычнае ці любое іншае несмакоцьце. Тым болей ня трэба трагедыюператвараць у фарс.

І апошняе. Янка Купала — псэўданім Яна Луцэвіча, сына Дамініка. Можна сказаць Ян Луцэвіч, а можна — Луцэвіч Ян, ад гэтага нічога ня зьменіцца. Але паводле гетэранімічных нормаў і здаровага сэнсу нельга перастаўляць месцамі склады і словы ў псэўданіме. Бо калі мы замест звыклага Янка Купала гаворым Купала Янка, чуецца — лаянка. Давайце ня будзем лаяцца.

*2011*

**На зямлю сышоўшы, казаў Гасподзь, нас навучаючы добрым справам: «Усякае дрэва, што плоду добрага не прыносіць, сьсякаюць і кідаюць у агонь».**

**Францішак Скарына**

## А ДЗЕ Ж ПІСЬМЕНЬНІКІ?

Агітбрыгада расейскіх журналістаў пасьля чарговага прэс-туру па Беларусі засталася, як заўсёды, задаволенай. Прадстаўнікам пераважна правінцыйных СМІ спадабалася ў нашай краіне ўсё — і новая агратэхніка на дагледжаных палетках, і спарткомплексы, і лякарні, і чыстыя вуліцы. Прыяжджае да нас зьнядоленая газэтчыца зь якога-небудзь Урупінску ці Казадоеўску і захоплена ўсплёсквае ручкамі: ах, у Беларусі дворнікі падмятаюць, камбайнэры жнуць, а даільныя апараты дояць… Дзівосы для расейскай глыбінкі.

Аднак гэтым разам у расквітнелай Беларусі гасьцям не хапіла адной дробязі. А менавіта — беларускай літаратуры. Усе прафэсіі навідавоку, а пісьменьнікі кудысьці прапалі. Вымерлі ўсе да аднаго за дваццаць гадоў? У гастарбайтары за

мяжу падаліся? Перакваліфікаваліся ў тыя самыя дворнікі? З удаванай прастадушнасьцю адна журналістка на прэс-канфэрэнцыі бяз лішніх выкрунтасаў так і спыталася: «А где же ваши писатели, Александр Григорьевич?».

І Аляксандар Рыгоравіч, уздыхнуўшы, патлумачыў, што за часы ягонага кіраваньня ў беларускай літаратуры нічога вартага, на жаль, не зьявілася. Так што няма каго ўзьнімаць на катурны.

Журналістка з хітрынкай у вачах выслухала адказ і ўдакладняць нічога ня стала. А ўдакладніць ня шкодзіла б.

Калі нічога вартага не зьявілася, то каго друкуюць на сваіх старонках тыднёвік «Літаратура і мастацтва» і часопіс «Полымя»? Адных графаманаў? Калі ў прыўладным і шматлюдным Саюзе пісьменьнікаў Беларусі няма сапраўды маштабных творцаў, то навошта і каму такая арганізацыя патрэбная? Мікалаю Чаргінцу — дзеля прыробку да пэнсіі? Калі той саюз — пустое месца, то чаму ўсе ягоныя функцыянэры сядзяць на дзяржаўных заробках і ў вус ня дзьмуць?

Кіраўнік прыўладнага саюзу ў адным з інтэрвію нядаўна прызнаўся, што падначаленыя змушаюць абярэмкамі насіць Аляксандру Лукашэнку іхныя кнігі. Цягнуць спачатку ў саюз — з патрабаваньнем перадаць прэзыдэнту. Той пачытае і ацэніць. Нешта пакуль не ацаніў.

Па іроніі лёсу мне аднойчы давялося прысутнічаць пры перадачы кнігі прэзыдэнту. Анатоль Сыс падчас нейкага пісьменьніцкага сходу схапіў Мікалая Чаргінца за рукаў і дэманстратыўна

ўручыў яму свой новы паэтычны зборнік з гэткім надпісам: «Алесь, любі Беларусь, любі сваю маці. Яна ў цябе старэнькая, як і ў мяне. Дык беражы яе!». Ці перадаў генэрал у адстаўцы кнігу таму, каму яна падпісвалася? Сумняваюся. І рэкамэндую калегам несьці свае шэдэўры адразу на Маркса, 38. Бо на Фрунзэ, 5 — перадатчык ненадзейны. Нясіце, але будзьце гатовыя да лупцоўкі амапаўскімі дручкамі, бо любыя несанкцыяваныя шэсьці ў раёне рэзыдэнцыі прэзыдэнта разганяюцца імгненна.

Беларуская літаратура ў нашай краіне — занятак, трэба прызнаць, небясьпечны. Паколькі з гэтай самай літаратурай улада вядзе вайну. І аўтару гэтых радкоў нават давялося прысутнічаць пры яе абвяшчэньні. Я маю на ўвазе сустрэчу кіраўніка краіны зь пісьменьнікамі, якая праходзіла ўлетку 1998 году ў тым самым вядомым будынку на Маркса, 38. Тады перамовы (ініцыяваныя Ўладзімерам Някляевым і задуманыя як мірныя) працягваліся чатыры гадзіны, зь якіх тры з паловай гаварыў гаспадар кабінэту. Ён параўноўваў літаратуру зь вялікай палітыкай, напорыста перабіваў пісьменьнікаў, і было зразумела, што яны для яго — як змабілізаваныя ў палітычнае войска жаўнеры. А ў войску не пярэчаць — выконваюць каманды. Чаго толькі не наслухаліся пісьменьнікі на той сустрэчы! І што «писательское перо — острое оружие», і што «президент готов поддержать тех писателей, которые поддерживают власть», і што «учебник по литературе должен быть, как с хорошей стали отточенный меч». Усім прысутным адразу стала

ясна, што літаратуры, якая не жадае станавіцца «ва фрунт», беларуская ўлада абвяшчае вайну. І вайна сапраўды пачалася.

Спачатку беларускіх пісьменьнікаў выціснулі зь дзяржаўнага тэле- і радыёэфіру. Затым закрылі ім доступ на старонкі масавых грамадзка-палітычных газэтаў. Потым улады стварылі свой Саюз пісьменьнікаў пад кіраўніцтвам таго самага Чаргінца і паспрабавалі ў судовым парадку ліквідаваць ня свой. Тады адбылася гвалтоўная касьцянізацыя айчыннай літаратуры, калі літаратурнымі пэрыёдыкамі быў пастаўлены кіраваць чыноўнік па прозьвішчы Касьцян. Потым Міністэрства адукацыі разаслала ў падведамасныя ўстановы адмысловае распараджэньне, якое забараняла сустрэчы вучняў і студэнтаў зь пісьменьнікамі, што належалі да «няправільнага» саюзу. У тым жа міністэрскім рэскрыпце рэкамэндавалася наладжваць сустрэчы з «правільнымі». Па-мойму, гэта самы ганебны дакумэнт, які выходзіў калі-небудзь са сьценаў Мінадукацыі. Вымалёўвалася проста абсурдная сытуацыя: школьнікі вывучаюць на ўроках творчасьць народных паэтаў Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча, а сустракацца мусяць з графаманам N., які за ўсё жыцьцё тры разы надрукаваўся ў раёнцы, але ў прыўладны Саюз пісьменьнікаў быў прыняты безадкладна.

Абсурдную сытуацыю ўзяўся выпраўляць усё той жа чаргінцоўскі саюз — з дапамогай дырэктыўных органаў. Цытую паводле афіцыйнага сайту СПБ:

«Наш Саюз мае права рэкамэндаваць Інстытуту адукацыі і Міністэрству адукацыі найбольш таленавітыя творы, якія былі надрукаваныя і набылі станоўчы водгук на працягу апошніх 10–15 гадоў. Прыйшлі новыя пакаленьні, новыя творцы: М. Башлакоў, З. Марозаў, М. Мятліцкі, Г. Пашкоў... Чаму іх творчасьць павінна заставацца ў тэндэнцыі замоўчваньня, а з клясы ў клясу дзеці павінны вывучаць толькі Р. Барадуліна і Г. Бураўкіна? Што тычыцца журналісткі С. Алексіевіч, дык яна ніколі ня мела дачыненьня да беларускай літаратуры. Гэта расейскамоўны журналіст, і зь яе творчасьцю павінны знаёміцца па праграме «Расейскамоўныя пісьменьнікі Беларусі».

Пасьля такой цытаты мне хочацца зьвярнуцца да швэдзкіх акадэмікаў, каб пачакалі з разглядам творчасьці Сьвятланы Алексіевіч. Нобэлеўскую прэмію яшчэ не атрымалі Зьмітрок Марозаў, Мікола Мятліцкі, Міхась Башлакоў і Генадзь Пашкоў. Іх вершы, як і проза яшчэ аднаго актывіста СПБ Георгія Марчука (пра сваё вылучэньне на Нобэля ён паведаміў на старонках «ЛіМа»), ужо запакоўваецца на менскім паштамце для высылкі ў Стакгольм. Творы іх надзіва зьмястоўныя і высокамастацкія, як, напрыклад, верш пад назвай «Трактарыст»: «З-за нікчэмнай прэміі — ватоўкі, / Што табе па праву не далі, / Нібы дэзертыр вінтоўку, / ты пакінуў трактар на ральлі».

Магчыма, радкі пра пакрыўджанага трактарыста ня ўразяць швэдзкіх акадэмікаў. Тады ім нічога не застанецца, як прачытаць вершы яшчэ аднаго беларускага паэта, які своечасова зьмікіціў, за каго аддаць свой паэтычны голас на старон-

ках часопіса, які сам і рэдагуе. Паэт нібы зьвяртаецца да Беларусі, але зь яўным разьлікам, што будзе пачуты і там, дзе трэба: «А ты галасуеш па клічу сэрца, / А ты галасуеш душой і зрокам. / Ня трутняў спажывы, а аднаверцаў / маеш у сьвеце шырокім».

Ну хто цяпер паверыць, што чарговы рэфэрэндум ці выбары ў Беларусі сфальсыфікаваныя? «Пропечатал в газете, и порядок», — як гаварыў незабыўны Паліграф Паліграфавіч Шарыкаў.

«А што вы хочаце? Каб пісьменьнікі-апазыцыянэры вывучаліся ў школах!?» — чую я злараднае хіхіканьне калегаў па пяры, што прысягнулі на вернасьць уладзе. Але няўжо вы, пільнавокія і чуйнавухія, ня бачыце, што ўлада ваюе не зь імёнамі, не зь «няправільнымі» аўтарамі, а з усёй беларускай літаратурай?

Для гэтай улады і Янка Купала — апазыцыянэр, бо ў трагікамэдыі «Тутэйшыя» вывеў на сьвятло рампы прыстасаванца і прайдзісьвета Мікіту Зноска. І сёй-той, между протчым, пазнаў у ім сябе. А каму ахвота глядзецца ў крывое люстэрка? Вось і вылецелі «Тутэйшыя» са школьных хрэстаматый — па камандзе баязьлівых чыноўнікаў, якім у самім спалучэньні словаў «Купала Янка» няйначай чуецца «лаянка».

Сёньня ўжо ўсе забыліся пра незавершаныя выданьні збораў твораў Алеся Адамовіча, Вячаслава Адамчыка і Віктара Карамазава. З часу, калі выйшлі першыя тамы, прайшло ўжо гадоў пятнаццаць, а пра наступныя і гаворкі няма. У маім кнігазборы ёсьць маскоўская «Литературная энциклопедия» ў 12 тамах (гады выданьня

1929–1939). Яна некамплектная — няма дзясятага тома. Доўгі час я дапільноўваў у букіністычных аддзелах той дзясяты том. Пакуль не даведаўся, што ён і не выходзіў. Аказваецца, там быў артыкул пра Сталіна, які не спадабаўся самому правадыру. І — дзясяты том быў забаронены. Сталін забараніў самога сябе, а разам і сотні пісьменнікаў… А хто забараніў Адамовіча з Адамчыкам?

Падобных прыкладаў я мог бы прывесьці безьліч. Распачатая ўладай вайна зь беларускай літаратурай працягваецца і сёньня. На яе перадавых пазыцыях не грымяць гарматы. Затое пагрымваюць друкарскія варштаты, якія вялікімі накладамі друкуюць літаратуру ўсіх часоў і народаў... па-расейску. Зайдзіце ў любую кнігарню (скажам, у сталічны «Сьветач»), і вы пабачыце, як шматлікія паліцы з расейскамоўнай літаратурай узялі ў аблогу і заціснулі ў куток некалькі палічак зь беларускімі кнігамі.

Сугучна тым друкарскім варштатам пагрымваюць і амапаўскія дручкі — па шчытах ці па галовах — па чым патрапяць. І калі дручок апусьціўся на галаву кандыдата ў прэзыдэнты Уладзімера Някляева — ён біў і па беларускай літаратуры.

Калі зьбіты да непрытомнасьці і выкрадзены зь лякарні паэт знаходзіўся ў засьценках КДБ, Мікалай Чаргінец выступіў з адмысловай заявай, у якой асудзіў калегу і прызнаў дзеяньні сілавікоў правамоцнымі.

У Максіма Гарэцкага ёсьць апавяданьне «Дурны настаўнік». У ім настаўніка-бязбожніка вясковыя падшыванцы дражняць: «Плюнь на

царкву — дам бублік». І той пляваў, і атрымліваў «бублік». Ці не апынуліся сёньня ў ролі гэткіх «настаўнікаў» і некаторыя «правільныя» пісьменьнікі, якія на загад зьверху, у чаканьні «бубліка», гатовыя назваць чорнае белым, а рыдлёўку далакопа — рыштункам клапатлівага садоўніка?

У 1942 годзе ў праскую кватэру Ларысы Геніюш заявіліся два нямецкія афіцэры і прапанавалі propagande machen (рабіць прапаганду). Паэтка рашуча выгнала іх прэч, рызыкуючы трапіць у Асьвенцым. Чым сёньня рызыкуюць чальцы прыўладнага саюзу? Дабрабытам? Месцам у чарзе да варштата Скарыны? Пагадзіцеся, рэчы — несувымерныя.

Мой знаёмы літаратар, які ўступіў у прыўладны саюз нібыта каб ня страціць працу, пры сустрэчы апраўдваўся, маўляў, я служу ў дзяржаўным выдавецтве, значыць — служу дзяржаве. Што можна сказаць на падобныя апраўданьні? Калі пісьменьнік і павінен камусьці служыць, то хіба радзіме, а дзяржаве хай служаць КДБ і АМАП.

У выдатнага расейскага паэта Барыса Слуцкага ёсць страшнаватыя радкі пра дзяржаву: «Государи должны государить, / государство должно есть и пить, / и должно, если надо, ударить, / и должно, если надо, убить». І, «калі было трэба», дзяржава не раздумваючы забівала ўласных грамадзянаў. У Курапатах, у ГУЛАГу, у Катыні… Пару гадоў таму ў сэрыі «Беларускі кнігазбор» выйшла кніга «Расстраляная літаратура». Там зьмешчаныя творы 66 беларускіх аўтараў, зьнішчаных бальшавіцкай уладай — ад Фабіяна Шантыра, расстралянага ў 1920-м, да Янкі Філістовіча,

расстралянага ў 1950-м. Гэтай страшнай анталёгіі нельга паказваць школьнікам, бо Мінадукацыі ў навучальнай праграме па літаратуры патрабуе: «выключыць нэгатыўныя палітызаваныя ацэнкі літаратуры 30–50-х гадоў».

Да ўлады ў мяне пытаньняў няма. Сваю антыбеларускую сутнасьць яна паказала даўно і з тае пары ня ўтойвае. Але мне хочацца спытацца ў тых не абдзеленых талентам пісьменьнікаў, якія сёньня пішчом лезуць у школьныя праграмы, выдаюцца ў дзяржаўных выдавецтвах, выступаюць па дзяржаўным радыё і тэлебачаньні, якія ўзначальваюць рэдакцыі і спадцішка радуюцца, што яны нарэшце возьмуць сваё: калегі, а сумленьне ў вас ёсьць? Няўжо вы думаеце, што з назапашаных за пазухай камянёў можна збудаваць сабе надзейны пастамэнт? Разваліцца ён, і грымнецеся вы долу, як было ўжо ня раз у гісторыі ў падобных выпадках. І вы пра гэта ведаеце. Ведаеце і працягваеце *propagande machen* па камандзе тых, хто распачаў вайну зь беларускай літаратурай. Толькі дарэмныя вашыя высілкі. Бо, як сказаў клясык, «на шыбы вечнасьці ўжо лягло / яе дыханьне і яе цяпло». Бо ваяваць зь літаратурай — як страляць па зорках з рагаткі.

У фашыстоўскай Нямеччыне таксама змагаліся зь літаратурай і нават палілі кнігі на плошчах. Прыкладна ў той самы час у двары менскай турмы-амэрыканкі таксама гарэлі вогнішчы з кніг. Паўтары тысячы назваў — сьпіс гэты апублікаваны ў кнізе Аляксандра Лукашука «За кіпучай чэкісцкай работай». Былі там творы Максіма Багдановіча, Язэпа Пушчы, Уладзімера Дубоўкі,

Вацлава Ластоўскага, Уладзімера Жылкі… Жудаснае відовішча — агонь гартае і ператварае ў попел белыя старонкі. Пра гэта напісаў адзін паэт, якога ўлады таксама выкідалі са школьных падручнікаў. Звалі яго Бэртольд Брэхт.

«Калі загадалі нацысты публічна спаліць / кнігі са шкодным зьместам, / калі адусюль цягнулі валы да кастроў / павозкі з кнігамі, / адзін ганімы паэт, адзін з самых лепшых, / прачытаўшы сьпіс спаленых, жахнуўся, / чаму яго кнігі забыты. / Акрылены гневам, / ён падбег да пісьмовага стала / і напісаў ліст да тых, у каго ўлада. / «Спаліце мяне! Не зьневажайце мяне! / У сьпіс уключыце мяне! / Хіба я ў сваіх кнігах не пісаў шчырую праўду? / Чаму ж вы ставіцеся да мяне, як да лгуна*?»

Хто з прыўладнага пісьменьніцкага саюзу змог бы сёньня паступіць, як брэхтаўскі Паэт? Вось, скажам, прыехаў антыфашыст Брэхт у лукашэнкаўскую Беларусь і пытаецца — хто? А ў адказ яму чуецца: «Не всё плохое в истории Германии было связано с Гитлером»…

Дык дзе ж яны, беларускія пісьменьнікі? Пытаньне пад шклянымі скляпеньнямі Нацыянальнай бібліятэкі так і засталося без адказу. На вайне, адкажу я. На грамадзянскай вайне, дзе ідзе змаганьне за сучаснасьць і будучыню Беларусі і за тое, каб ва ўласнай краіне ня дыхаць крадзеным паветрам.

*2011*

* Пераклад зь нямецкай мовы Аляксея Зарыцкага.

**І няма нам, хрысьціянам, вялікай патрэбы тыя іхныя пісьмы чытаць, бо мы маем найбольшае самі.**

**Францішак Скарына**

## РАСПУСКАНЬНЕ ТКАНІНЫ

Кросны для мяне — не экспанат у музэі. У мае школьныя гады ў вёсках на Гарадзеншчыне яшчэ ткалі. Адзін з дарагіх успамінаў — зімовым вечарам вучу ўрокі, а за перагародкай мякка пастукваюць кросны. Маці ткала посьцілкі на ложкі — у нас іх называлі радзюжкамі. Ромбікі, палоскі, дробныя квадрацікі, нейкія мудрагелістыя карункі сьняжынкападобнай формы — невядома адкуль тыя арнамэнты браліся. Спалучэньне колераў і па сёньня выклікае зьдзіўленьне — то чорным па жоўтым, то зялёным па чорным, то рознакаляровыя квадраты і ромбікі — па такой жа стракатай тканіне.

Маці ткала доўга, пачасту далёка за поўнач, але вельмі марудна. Так мне, прынамсі, здавалася. Імкліва лётаў чаўнок, хутка, як пэдалі ровара, апускаліся-падымаліся панажы, але гатовая ўзорыстая тканіна накручвалася на навоі надзвычай павольна. Амаль незаўважна — па некалькі сан-

тымэтраў за гадзіну. На тканьне адной посьцілкі ішоў мінімум месяц. Што і казаць, нудная была праца ткальляў, мусілі яны, апрача ўсяго іншага, мець вялікае цярпеньне.

Каб разьвеяць нуду, да нас у хату штовечар прыходзілі суседкі. Успаміналі маладосьць, часам ціха сьпявалі, часам прыладжвалі ў куце калаўротак. О, гэта было за шчасьце — пакруціць яго з паўгадзіны! Уяўлялася, што некуды едзеш і едзеш на вялікім драўляным коле. Кола шпарка круцілася, бёрды ў кроснах мякка пастуквалі, нясьпешна цякла размова, і раптам…

— Лёдзя, ты ж няправільна тчэш, тут у строгі раёк трэба, а ты закасіла. Распускаць трэба! — гэта маладзейшая і нібыта больш відушчая суседка, якая незадоўга перад тым зайшла ў хату.

Жаночы кансыліюм схіляецца над сьвежавытканай посьцілкай. Прыглядаюся да яе і я, хоць, прызнацца, ніякіх «райкоў» і «перакосаў» ня бачу. Узор ляжыць роўна, сымэтрычна, і мне не зразумелыя прэтэнзіі патрабавальнай суседкі. Тым ня менш прымаецца калегіяльнае рашэньне распусьціць немалы адрэзак посьцілкі.

Гэта была самая недарэчная, самая антыпрадукцыйная праца, якую мне даводзілася назіраць у маленстве. На патрабаваньне суседкі, якая, падазраю, разьбіралася ў народных ткацкіх арнамэнтах, як у канфігурацыі зорак на небе, колькідзённая работа ішла кату пад хвост. Маці як не сваімі рукамі выцягвала назад «няправільна» ўтканыя ніткі, каб па-новаму выткаць той строгі раёк.

Яшчэ раз паўтару, расплятаньне тканіны выглядала нават у дзіцячых вачах відавочнай непа-

трэбшчынай. Ды і маці шкадаваў, яе вачэй і рук, што «цягам доўгія часіны» (ужо тады я ведаў на памяць «Слуцкіх ткачых» Багдановіча), сантымэтар за сантымэтрам выштукоўвалі тыя неабходныя ў хатнім побыце посьцілкі.

Той даўні выпадак прыгадваецца мне кожнага разу, калі сёньня ў СМІ ці на інтэрнэт-форумах чытаю пра неабходнасьць адмовіцца ад назвы Беларусь. Маўляў, накінула яе нам расейская імпэратрыца, каб прывязаць Белую Русь да Русі Маскоўскай. А вось калі мы адмовімся ад гэтай імпэрскай «белай рашкі» на карысьць гістарычнай Літвы, то ўсё ў нас адразу пойдзе на лад: і нацыянальная сьвядомасьць адновіцца, і мова адродзіцца, і самы зацяты імпэрац з намі ва ўсім палахліва згодзіцца. І тады ўжо, маўляў, мы падкуём сваіх коней залатымі цьвікамі — як нібыта казалі некалі ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Не падкуём, на жаль. Па-першае, коней амаль усіх зьвялі; па-другое, золата ў Нацбанку — кот наплакаў, каб хоць на падтрымку штаноў хапіла, ня тое што на цьвікі.

А калі сур'ёзна, то хочацца спытацца ў ахвотнікаў пераназвацца — вы сапраўды думаеце, што калі трухлявы плыт назваць ледаколам, то ён лёд пачне крышыць? Сёньня вам «прывязка» да Расеі жыць замінае, а заўтра «прывязка» да Летувы — ня будзе?

На маю думку, дыскусіі пра зьмену назвы краіны — гэта тое самае расплятаньне тканіны. Цягам стагодзьдзяў, хай сабе з вымушанымі перапынкамі, працавалі кросны і ткаўся, напаўняўся сэнсамі назоў *Беларусь*. Са сваімі пазнавальнымі,

хоць і някідкімі, узорамі. А тут прыходзіць «суседка» (ці свой, ёю падвучаны) і кажа: саткана няправільна, трэба распусьціць. І калі пагадзіцца, то пачнецца доўгае і пакутлівае распусканьне-расплятаньне тканіны. Камусьці, відаць, патрэбнае, але з нашага нацыянальнага гледзішча — самае звычайнае марнатраўства.

Пакаленьні і пакаленьні працавалі за тымі кроснамі. Працавалі стваральна, пакідаючы сваю залатую нітку ў агульным узоры. Марудна, празь неймаверныя высілкі палатно ўсё ж ткалася. Прыходзіў вораг, ламаў кросны, драпежыў ільняныя палеткі і гнаў з сабой воўну, якая яшчэ бляяла і мэкала. Але мінаў час, недатканае палатно даставалася са схованi, рабіліся новыя кросны, і праца працягвалася.

І калі Францішак Багушэвіч у прадмове да сваёй «Дудкі беларускай» накрэсьліваў нашы этнічныя межы — ён ствараў нацыянальнае палатно пад назвай Беларусь.

І калі касінеры Кастуся Каліноўскага на пытаньне «Каго любіш?» адказвалі «Люблю Беларусь!» — яны імкнуліся даткаць тое самае палатно.

І калі Янка Купала, які па прыродзе сваёй ня ўмеў пісаць лёзунгі, усё ж апошнім радком выдыхаў «Гэта крык, што жыве Беларусь!» — ён дастварaў тое самае палатно, якое ў часы паэта ператварылася ў напоўнены сэнсам габэлен, які можна было і на сьцяну павесіць.

І Максім Багдановіч («Беларусь, твой народ дачакаецца»), і Ўладзімер Жылка («О як соладка сэрцу маліцца: Беларусь, Беларусь, Беларусь»),

і Ўладзімер Дубоўка («О Беларусь, мая шыпшына»), і Натальля Арсеньнева («Беларусь, Беларусь залатая»), і Ларыса Геніюш («Як жыць — дык жыць для Беларусі»), і Рыгор Барадулін («Беларусь — ты мой сон велікодны»), і сотні іншых выдатных творцаў жыцьцё паклалі, каб той габэлен Беларусь даткаць, дарабіць, дастварыць. І амаль даткалі, дарабілі, засталося пару ўзораў давяршыць ды кутасікамі аздобіць.

А тут зьяўляюцца разумнікі і кажуць: усё ня так, трэба габэлен назад расплесьці і з тых самых нітак выткаць новы, пад іншай назвай — Літва ці Вялікалітва. А мы ўсе пад тым габэленам станем, назавёмся ліцьвінамі, і ад той пары ні Кацярына Вялікая, ні Ўладзімер маленькі над намі ніякай улады ня мецьмуць.

У сацыяльных сетках растуць як грыбы пасьля дажджу кіраваныя спрактыкаванай рукой «ліцьвінскія» суполкі, выдаюцца тэматычныя альманахі; любы гісторык, які разумее ўсю небясьпеку кампаніі перайменаваньня, літаральна задзёўбваецца на інтэрнэт-форумах (прычым хутка і дружна — відаць, што працуе адмысловая каманда). Пасупова падобная дзейнасьць дае свой плён. І вось ужо моладзь пляскае ў ладкі, а знаны празаік, аўтар гістарычных раманаў пра Міндоўга, Усяслава Чарадзея і Канстанціна Астрожскага пасяляе сваіх герояў-суайчыньнікаў у краіне Ліцьвініі...

Усё гэта — закрэсьліваньне працы папярэдніх пакаленьняў, падсяканьне сука, на якім мы ўсе сядзім. Расплятаньне тканіны, распусканьне палатна.

У старажытнай міталёгіі ёсьць адпаведнік апісанаму тут беларускаму выпадку. Памятаеце, Пэнэлёпа, замест таго каб прагнаць з двара нахабных залётнікаў, ткала і расплятала палатно. Праца бессэнсоўная, але яна ведала, што вернецца Адысэй і паразганяе нахабнікаў, якія спустошвалі каморы. Нам на Адысэя-збаўцу спадзявацца не выпадае. Таму не гуляйма з агнём і не падпускайма да беларускіх кроснаў сумнеўных тыпаў, мэта якіх адна — распусканьне палатна.

*2015*

**Каін, калі забіў Абэля, свайго брата, вызнаў свой грэх — сказаў: «Завялікі чын беззаконьня майго, каб мог вымольваць міласэрнасьць».**

**Францішак Скарына**

## КАІНАВА БРАТЭРСТВА

«І сказаў Каін Абэлю, брату свайму: хадзем у поле. І калі яны былі ў полі, паўстаў Каін на Абэля, брата свайго, і забіў яго» (Быцьцё, 4:8). Першае ў гісторыі чалавецтва братазабойства было ўчыненае праз дробязь: ахвяра Абэля прыйшлася больш даспадобы Богу, чым ахвяра Каіна, і апошні зараўнаваў. Факт забойства знайшоў сваё адлюстраваньне ў шматлікіх творах мастацтва, спарадзіў крылатыя выразы: каінава пячатка і г. д. Набыў, адным словам, шырокую вядомасьць.

Чамусьці падрабязнасьці гэтай біблейскай гісторыі заўсёды выклікалі куды меншую цікавасьць. Ну вось, напрыклад, чым Каін забіў Абэля?

Славуты ілюстратар Бібліі Гюстаў Дарэ паказвае Каіна зь нейкай невыразнай ламачынай.

Ды і забойства адбываецца відавочна ня ў полі, а ў нейкім змрочным, зарослым хмызьняком яры.

На карціне Аляксея Марачкіна «Каін і Абэль» старэйшы брат забівае малодшага штылетам, які, папраўдзе, не зусім спалучаецца з набедранымі павязкамі сыноў Адама і Эвы.

У паэта Алеся Пісьмянкова мне сустрэліся радкі: «Ох і лёгкі ў Каіна нож, / ох і цяжкі ў Каіна грэх!».

Мастак, вядома ж, мае права на фантазію, на свой, сучаснай мовай кажучы, відэашэраг у асэнсаваньні біблейскага сюжэту. Але калі трымацца першакрыніцы, то сьмяротнай зброяй Каіна была звычайная асьліная сківіца. Што трапілася пад руку зайздросьніку, тым і ўдарыў.

Наўрад ці гэтая старазапаветная трагедыя і праз тысячы гадоў захавала б сваю прыцягальнасьць, каб у тым бязьлюдным полі насьмерць сышліся ў двубоі проста араты і проста пастух. Але адбылося братазабойства, якое мусіў не дазволіць, не дапусьціць голас крыві. Мусіў не дапусьціць, але дапусьціў.

Біблейскія тэксты не павінны ўспрымацца літаральна, гэта хутчэй павучальныя прыпавесьці, якія лёгка накладаюцца і на сучаснасьць. За прамінулыя з часоў Каіна і Абэля тысячагодзьдзі брат брата забіваў безьліч разоў. І спадцішка, і на барыкадах грамадзянскіх войнаў, і ў міждзяржаўных закалотах. Да паслугаў братазабойцаў былі і ёсьць цэлыя арсэналы бясконца дасканаленай зброі. Але якой бы сучаснай і эфэктыўнай яна ні была, за ёю ўсё роўна праглядаецца асьліная сківіца.

У контурах установак залпавага агню «Град», якія зруйнавалі дзясяткі гарадоў і вёсак на Данеччыне, можна заўважыць абрысы асьлінай сківіцы. Драпежныя гарбаносыя МіГі ляцяць, як асьліныя сківіцы. Кожны «калашнікаў» у руках салдата — як асьліная сківіца. Калі «Град», МіГ і «калашнікаў» — зброя ў братазабойчай вайне, гэта — асьліныя сківіцы XXI стагодзьдзя. Нават тэлевізар можа прыняць абрысы асьлінай сківіцы, калі зь яго няспынна льецца братазабойчая хлусьня.

Гісторыя пра своеасаблівае — Каінава — братэрства міжволі прыходзіць на розум, калі глядзіш фэдэральныя расейскія тэлеканалы, чытаеш афіцыйныя і прыватныя расейскія сайты. Братэрскі народ, брацкая краіна, браты-славяне… А ў тых, хто сьпявае пра братэрскую любоў, з-пад крыса вытыркаецца асьліная сківіца. Менавіта яна зьяўляецца неадʼемным атрыбутам расейска-ўкраінскіх дачыненьняў апошнім часам.

І калі «Газпром», што гарыць сінім полымем, абвяшчае Ўкраіне газават — газавую вайну, — ён таксама ваяўніча трасе над галавой асьлінай сківіцай.

Дзіўна, але нават некаторыя расейскія пісьменьнікі (прадстаўнікі яшчэ той, «самай гуманнай у сьвеце» савецкай літаратуры) парабіліся вяшчальнікамі вайны. Прычым літаратурныя вэтэраны накшталт Аляксандра Праханава дарэмна думаюць, што іх на перадавую не пашлюць. Памыляюцца, бо іхная зброя — усё тая ж асьліная сківіца слова, якая імгненна далятае да Ўкраіны, запушчаная з Астанкінскай тэлевежы.

Дакладны дыягназ сваім калегам, якія ўзялі ў рукі братазабойчую зброю, паставіў расейскі празаік Віктар Ерафееў, нават не спрабуючы кагосьці адвесьці ўбок, далей ад тых, хто падхапіў, як ён піша, «вірус імпэрыялізму». Гэта не правакацыйныя прыдумкі злых бандэраўцаў, так расейцы бачаць саміх сябе: «Мы даже не скрываем наше чувство превосходства перед нашим младшим братом украинцем, или, скорее сказать, хохлом. Мы его зовём к себе как заблудшую овцу, и когда эта овца к нам вернётся, её нужно будет как следует взгреть».

Небясьпечныя вірусы ў нашых кампутарах лёгка выяўляюцца і зьнішчаюцца адмысловымі праграмамі. Але ніякі «каспэрскі» ня здольны зьнішчыць імпэрскі вірус у сьвядомасьці нашага ўсходняга суседа. Не Праханаў з Захарам Прылепіным яго прыдумалі. На вялікі жаль, вірус гэты можна заўважыць шмат у каго з расейскіх клясыкаў. Хто там да нас найбліжэй? Пачытайма позьняга Іосіфа Бродзкага (маці якога, дарэчы, была родам зь Дзьвінску): «Прощевайте, хохлы, пожили вместе — хватит. / Плюнуть, что ли, в Днепро, может, он вспять покатит». І далей — зьняважліва пра «брехню Тараса». Тут ужо ня вірус, а падазрэньне на доўгі час хаваную форму хранічнай хваробы.

Малы Ося — такую мянушку Бродзкаму дала Ганна Ахматава, якая ў свой час блізка ведала вялікага Осю — Мандэльштама. А што сама Ганна Андрэеўна? У сваіх дзёньніках паэтка пакінула недвухсэнсоўны запіс: «У меня в Киеве была очень тяжёлая жизнь, и я страну ту не лю-

блю и язык. Мамо, ходимо — не люблю». Ці не ад аўтаркі славутага «Рэквіему» падхапіў вірус нелюбові да Украіны малы Ося? Падхапіў, каб падгадаваць і пры зручным выпадку пусьціць далей.

А калі зірнуць не далей, а глыбей? Скажам, у стагодзьдзе XIX, дзе сьвяціла сонца расейскай паэзіі — Пушкін? Плямы на сонцы і шукаць ня трэба, яны відаць няўзброеным вокам: «Славянские ручьи сольются в русском море…». Верш гэты, «Клеветникам России», быў пакліканы да жыцьця нацыянальна-вызвольным паўстаньнем 1830 году, «волнением Литвы», паводле Пушкіна. Ён у 1831 годзе зусім у духу сучасных пуцінскіх прапагандыстаў даваў адлуп лібэральнай Эўропе і заклікáў да рашучых дзеяньняў суайчыньнікаў: «Вы грозны на словах — попробуйте на деле! / Иль старый богатырь, покойный на постеле, / Не в силах завинтить свой измаильский штык? / Иль русского царя уже бессильно слово? / Иль нам с Европой спорить ново? / Иль русский от побед отвык?». Дарэчы, пазьней паэт паплаціўся за гэты верш уласным помнікам — ён быў прыбраны з бульвару ў Вільні і схаваны ў музэй.

Пасьля «Клеветников России» імпэрскі вірус проста з падскокам гуляў па ўсёй расейскай літаратуры. Некаторыя паэты захварэлі невылечна, як, напрыклад, Цютчаў: «Так мы под горестной Варшавой / удар свершили роковой, / купили сей ценой кровавой / Росии целость и покой». «Кичливый лях», «орёл презренный, хоть одноплеменный» — гэта тое, што было дазволена цэнзурай, якая, трэба прызнаць, часам стрымлівала песьняроў-імпэрцаў. Нават сам цар быў вымушаны

на адным з падобных твораў накрэсьліць рэзалюцыю: «Прошу вас поляков не ненавидеть». Падумаць толькі — цар уціхамірваў паэтаў!

Наўрад ці мы прычакаем падобных міралюбных заклікаў ад Пуціна — наконт ўкраінцаў. Наадварот, крамлёўская прапагандысцкая машына гоніць мітынговую хвалю па ўсёй Расеі — ад Уладзівастоку да Белгараду і Бранску. Хваля пераліваецца цераз мяжу, і ўжо пад расейскімі трыкалёрамі хвалюецца плошча ў Харкаве. Асабліва хутка распаўсюджваецца імпэрскі вірус там, дзе ёсьць аазісы з адпаведным кліматам — расейскія вайсковыя базы, манастыры РПЦ… Летась я звазіў аднаго замежнага прафэсара-беларусіста ў Жыровіцы. Ён выйшаў за манастырскую браму, азірнуўся і паныла прадэклямаваў: «Там русский дух, там Русью пахнет».

Сытуацыя ва Ўкраіне — апошняе папярэджаньне нам, беларусам. Традыцыйныя яшчэ з савецкіх часоў узаемныя прызнаньні ў братэрскай любові чым далей, тым часьцей гучаць як шаманскія камланьні. І хочацца зазірнуць за сьпіну шаману — ці не прыхаваў ён там асьліную сківаіцу? Каінава братэрства — вось такая сёньня ў нас з Расеяй ступень сваяцтва.

*2013*

**Скарбы — не дыямэнты, ня срэбра,
ня золата, не смарагды,
а чалавечыя словы.**

**Францішак Скарына**

## ПРАФЭСАР КРЫЛАТАЙ МОВЫ

Фразэалёгія — самая жывая галіна на дрэве моваznаўства. Гэта вам ня коскі з працяжнікамі расстаўляць, не жаночыя і мужчынскія прозьвішчы на *-а* скланяць, не склады на фанэмы дзяліць. А — бачыць і адчуваць, як мова сьмяецца, смуткуе, выкпівае, іранізуе, насьміхаецца, жартуе, пагражае, кленічы насылае. У мудраслоўях — тысячагадовы досьвед народу, як быццам дзясяткі пакаленьняў аднachасова прыселі на прызьбе і з табой пра жыцьцё-быцьцё гутарку вядуць. Як тут не прыслухацца?

Іван Лепешаў больш за паўстагодзьдзя прыслухоўваўся да жывой мовы, учытваўся ў яе пісьмёны, прасейваў «адзінага слова дзеля тысячы тонаў слоўнай руды». І пачутае, вычытанае, прасеянае — занатоўваў, кампанаваў у слоўнікі. У сваёй гарадзенскай кватэры з гонарам паказваў мне рукапісную картатэку — каля 100 000 (!) картак. Кнігі чытаў з алоўкам, яго цікавіла ўжываньне

таго ці іншага фразэалягізму ў розных кантэкстах. Мабыць, не было такога пісьменьніка, у якога ён не адшукаў бы моўнай залацінкі. Ён мог не зьвяртаць увагі на рыхлы сюжэт, на безаблічнасьць герояў, на прадказальнасьць аўтарскай задумы. Ён заходзіў у кнігу, нібы ў пагудасты лес, і пускаў сваю думку, як ганчака па сьледзе, у пошуках крылатых выразаў.

Сем тысячаў фразэалягізмаў зафіксавана і растлумачана ім. Тут Івану Лепешаву роўні не было. Яго слоўнікі часам крытыкавалі — за расейскія ўплывы і пазычаньні. Памятаю, пра гэта мы неаднойчы гаварылі зь яшчэ адным знаным мовазнаўцам з Гарадзенскага ўнівэрсытэту Паўлам Сьцяцко, які прытрымліваўся больш радыкальных поглядаў у лексыкаграфіі. Слоўнікі Сьцяцко — гэта мова, якая прайшла праз своеасаблівы чысьцец, і ў гэтым іх каштоўнасьць. Слоўнікі Лепешава фіксуюць сучасны стан мовы — з усімі яе хваробамі і адхіленьнямі ад нормы. Але насамрэч патрэбныя і тыя, і другія. Каб паставіць дыягназ, неабходна ведаць гісторыю захворваньня.

Сваю галоўную працу — двухтамовы «Слоўнік фразэалягізмаў» (2008) Іван Лепешаў падараваў мне з такім аўтографам: «Шаноўнаму Міхасю Скоблу з найлепшымі пачуцьцямі падпісваю гэты словазбор, зь якога, на жаль, цэнзары выкінулі 15 аўтараў (і вас у тым ліку)».

Хто ж цэнзураваў лепешаўскі слоўнік? Фактычна цэнзар быў адзін — пыхлівы і графаманісты Г. П. — галоўны рэдактар дзяржаўнага выдавецтва, дзе той слоўнік меўся выйсьці. Раней той

рэдактар рэдагаваў камуністычную газэту і да цэнзураваньня матэрыялаў яму было не прывыкаць. Сьмела пішу «цэнзураваньня», бо і сам меў магчымасьць пераканацца ў мэтадах працы Г. П.

У свой час для таго ж выдавецтва я склаў анталёгію беларускай паэзіі, яна была заплянаваная ў сэрыі «Школьная бібліятэка». Прынёс на візу галоўнаму рэдактару. Той учытаўся ў зьмест… Праз тры хвіліны я ўжо шкадаваў, што зьвязаўся з такімі выдаўцамі. З анталёгіі вылятаў паэты толькі за тое, што былі сьвятарамі; выкасоўваліся вершы, прысьвечаныя ня тым падзеям і асобам. Агаломшаны, я спрабаваў штосьці адстаяць, камусьці вярнуць — безвынікова. Службова-чыноўніцкая пыха («я прызначаны на пасаду прэзыдэнтам і павінен сачыць!») біла цераз край, маіх аргумэнтаў ніхто ня слухаў.

Прафэсара Лепешава таксама ніхто не паслухаў. Сабраны цягам паўстагодзьдзя выніковы слоўнік быў разгромлены тым самым Г. П. гэтак жа бесцырымонна, як і мая бяскрыўдная анталёгія. Згледзеўшы ў іменным паказьніку прозьвішчы «нячэсных» пісьменьнікаў, рэдактар-цэнзар распарадзіўся ачысьціць слоўнік спачатку ад іх. Алесь Пашкевіч? Ён жа неляяльны да ўлады саюз пісьменьнікаў узначальвае. Прэч. Аляксандар Лукашук? Ён жа на Радыё Свабода працуе. Далоў. Сьвятлана Алексіевіч? Яна ж па замежжах туляецца і на радзіму паклёпнічае. Выкінуць. Сяргей Дубавец таксама свабодавец. Выкрасьліць.

І выкрэсьліваліся імёны з такімі ці падобнымі характарыстыкамі. Да пералічаных прадказальна дадаліся Ларыса Геніюш, Натальля Арсеньнева,

Масей Сяднёў, Уладзімер Някляеў, Сяргей Законьнікаў, Уладзімер Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Вінцэсь Мудроў, Барыс Пятровіч…

Аўтары выкасоўваліся, а цытаты зь іхных твораў часам заставаліся. Не акадэмічны слоўнік атрымліваўся, а зборнік ананімак.

Пасьля расправы над пісьменьнікамі рэдактар-цэнзар абрынуў свой гнеў на пэрыядычныя выданьні. У выніку са сьпісу крыніцаў вылецелі часопіс «Дзеяслоў» і газэты «Наша ніва», «Народная воля», «Наша слова», «Свабода», беластоцкая «Ніва».

Пасьля экзэкуцыі над пэрыёдыкамі настала чарга ўласна фразэалягізмаў. Тут ужо рэдактар-цэнзар разышоўся не на жарты. Не выкасоўваў — касіў. Размашыста і пад корань. Усё, што нейкім чынам замахвалася на ягонае камуняцкае мінулае. І зазеўралі ў жывой тканіне слоўніка новыя шматлікія лякуны.

«Архіпэляг ГУЛАГ — канцэнтрацыйныя лягеры ў пэрыяд сталінскага таталітарызму»; «завезьці да белых мядзьведзяў — адправіць у канцлягеры на поўначы Расеі»; «чырвоны памешчык — старшыня калгасу як гаспадар з неабмежаванай уладай»; «кактэйль Молатава — бутэлька з гаручай сумесьсю»…

Кожны з нас безьліч разоў чуў гэтыя ўстойлівыя выразы. Але іх па волі невука на пасадзе Г. П. няма ў слоўніку Лепешава. Ні выразаў, ні тлумачэньняў да іх, напісаных — трэба аддаць належнае аўтару — мовай простай і дакладнай.

Што відавочная ці прыхаваная антысавеччына асабліва раздражняла таварыша Г. П. — гэта я

зразумець магу. Не магу ўцяміць, чым пільнавокі і чуйнавухі галоўны рэдактар (супрацоўнікі выдавецтва казалі — «угалоўны») кіраваўся, калі выкідаў са слоўніка, напрыклад, такое чатырохрадкоўе Рыгора Барадуліна: «Няхай жыве народ / у думцы, згодзе, бунце — / яму замок на рот / павесіць не спрабуйце»? Як па мне — запамінальная, проста афарыстычная ілюстрацыя да вядомага фразэалягізму. І аўтар — народны паэт, які, як і належыць, доляй народу пераймаецца. А ўсё ж ня пройдзе! Паэта ў слоўніку замянілі на другога. Каб змаглі, мабыць, і народ замянілі б...

Усяго са слоўніка галоўным-»угалоўным» рэдактарам ды яго памочнікамі было выкінута больш за паўтысячы (!) цытатаў. Дзясяткі і дзясяткі фразэалягізмаў засталіся без пацьверджаньняў. Скалечаны слоўнік выйшаў у сьвет, непрынёсшы аўтару заслужанай радасьці. Якой там радасьці — стаў несьціханым пажыцьцёвым болем аўтара. У дадатак выдавецтва падманула яго з ганарарам.

Магчыма, таварыш Г. П. у дачыненьні да Івана Лепешава дзейнічаў так брутальна, бо ведаў: пры ягонай любімай камуністычнай уладзе той пакаштаваў гулагаўскай баланды. Ці — зьезьдзіў да белых мядзьведзяў, як сам напісаў у сваім слоўніку. Гэта цемнаватая старонка ў жыцьцяпісе гарадзенскага прафэсара. І асьвятляць яе ён чамусьці не стараўся. Увогуле неяк не спалучаліся яны — Лепешаў і ГУЛАГ. Нездарма ў даведніку Леаніда Маракова «Рэпрэсаваныя настаўнікі» пэрсаналія «Іван Лепешаў» нібы пра нейкага іншага Лепешава, які таксама нарадзіўся ў кастрыч-

ніку 1924 году ў вёсцы Іскозы на Дубровеншчыне, таксама працаваў настаўнікам у мястэчку Сьвіслач, таксама быў 9.8.1949 арыштаваны, 12.10.1949 асуджаны, 23.9.63 рэабілітаваны, чый «далейшы лёс невядомы». Так нібыта і пазначана ў асабовай справе № 8034п, што зьберагаецца ў архіве КДБ па Гарадзенскай вобласьці.

Справа ляжала на паліцы, а былы гулагавец зь «невядомым лёсам» штодня хадзіў міма таго архіву на працу — у Гарадзенскі дзяржаўны ўнівэрсытэт імя Купалы.

Я паказваў Івану Якаўлевічу тую таямнічую пэрсаналію. Ён адказаў, як і належала прафэсару фразэалёгіі, устойлівым выразам: «Бач, нават яны ў трох соснах заблукалі». І было незразумела, хто заблукаў — Леанід Маракоў ці КДБ...

Іван Лепешаў працаваў, не адчуваючы гадоў за плячыма. За свае амаль дзевяноста толькі сорак два дні пасьпеў пабыць пэнсіянэрам. Марыў перавыдаць свой слоўнік — без цэнзурных скаротаў, з гулагаўскімі, праверанымі на ўласнай практыцы, фразэалягізмамі.

Падчас нашай апошняй сустрэчы скрушна ўздыхаў: «Зь беларушчынай горай было толькі за царызмам». Уздыхаў і зноў схіляўся над сваёй статысячнай картатэкай, дзе апервалася крылатымі выразамі, каб таксама стаць крылатай, мова. Зрэшты, гэта ня так і мала — зрабіць сваю мову крылатай. Каб — крылатая — і за чырвоныя сьцяжкі, і з кіпцюроў белых мядзьведзяў змагла вырвацца.

*2014*

**Піша Майсей, як паслаў Гасподзь Бог манну зь нябёсаў, калі ў высяленцаў ня стала яды, а калі яны зьнемагалі ад смагі, з каменнай скалы ім адтуліў крыніцу.**

**Францішак Скарына**

## КНІГА, ПАСЬЛЯ ЯКОЙ ХОЧАЦЦА ЖЫЦЬ

Анатоль Вярцінскі сваім сябрам і знаёмцам любіць рабіць нечаканыя падарункі ў выглядзе рэдкіх кніг. Прызнаюся, у ліку ашчасьліўленых неаднойчы давялося быць і мне. Неяк Анатоль Ільліч пасьля гутаркі пра пераклады ўсясьветнай клясыкі на беларускую мову падараваў мне беларускамоўнага Бальзака 1937 году выданьня. Перакладнікам там значыўся Рыгор Казак, і я, да таго часу падрыхтаваўшы да друку тры кнігі паэта-эмігранта Рыгора Крушыны (а гэта і ёсьць Рыгор Казак) і лічачы сябе не абы-якім крушынаведам, глядзеў на тое выданьне з такім зьдзіўленьнем, як мой дзед Васіль на хмарачосы ў Чыкага, куды езьдзіў на заробкі са свайго заходнебеларускага хутару...

А неяк я выходзіў з паэтавай кватэры, несучы пад пахай анталёгію «Fair Land of Byelorussia» («Мая цудоўная Беларусь») — з аўтографамі перакладніка на ангельскую Уолтэра Мэя і амаль

усіх сарака пяці (!) яе аўтараў — А. Куляшова, М. Танка, К. Крапівы ды іншых. Жартоўная прыпіска дароўцы яшчэ больш дадавала вартасьці і без таго каштоўнаму выданьню: «Маю дачыненьне да гэтай кнігі ня толькі як аўтар, але і як укладальнік (compiler), і аўтар біяграфічных даведак. Словам, пасупрацоўнічаў з англасаксам. Сто рублёў (ці фунтаў стэрлінгаў) ня меў — меў Уолтэр Мэй. А. Вярцінскі».

Пра яшчэ адзін падарунак Анатоля Ільліча варта было б напісаць асобна (дасьць Бог, калінебудзь напішу) — гэта ягоная паэмы «Заазер'е», выдадзеная ў 1975 годзе ў адгароджаным на той час жалезнай заслонай Нью-Ёрку. Тады беларускаму паэту выдацца там было — як зьлятаць на Месяц. На такіх глядзелі з асьцярогай і падазрэньнем. А як іначай можна было глядзець на таго ж Вярцінскага? Прадмову да яго кніжкі напісаў перакладнік і па сумяшчальніцтве заўзяты антысаветчык Леанід Палтава, пасьляслоўе — былы палявы камандзер УПА Яраслаў Стэцько, а ананімнае (ці засакрэчанае?) выдавецтва зьмясьціла на вокладку геаграфічную карту, дзе і Бранск, і Дзьвінск, і Беласток — у межах Беларусі…

Дзеля цікавасьці я праверыў — нью-ёрскага «Заазер'я» няма нават у Нацыянальнай бібліятэцы. Якія кніганошы ці кнігавозы і якімі кантрабанднымі сьцежкамі даставілі кніжку ў Менск — ведае, відаць, толькі аўтар. Я зь лішнімі роспытамі ў вочы яму ня лез. Хтосьці дужа рызыкаваў, ды і паэту ў выпадку чаго не паздаровілася б. Але неяк абышлося.

Думаю, сказанае вышэй яскрава пацьвярджае відавочную выснову: Анатоль Вярцінскі — чалавек сьмелы і шчодры. Шчодры ў раздаваньні, раздорваньні свайго іншым. Бо і сапраўды, як трапна зазначыў Руставэлі, «што схаваў ты, ўсё прапала, што аддаў ты, ўсё тваё».

Прыгадаўшы бібліяфільскія дарункі паэта асабіста мне, як жа я магу забыцца на тысячы і тысячы ашчасьліўленых чытачоў, якіх Анатоль Ільліч вось ужо паўстагодзьдзя абдорвае сваімі ўласнымі кнігамі? Было іх нямала, і кожная заслугоўвала і заслугоўвае ўхвальнага слова. Аўтар гэтых радкоў проста спазьніўся нарадзіцца, і кнігі са шматспадзеўных шасьцідзясятых прыходзілі да мяне пазьней, парою ўнівэрсытэцкага юнацтва. Памятаю, якім адкрыцьцём і скарбонкай паэтычных афарызмаў стала для мяне кніга «Ветрана». Атмасфэра тады, у сярэдзіне 80-х, была даволі гнятлівая, хацелася сьвежага паветра, і кніга тая зрабілася для мяне своеасаблівай кіслароднай падушкай. Чытаў — як дыхаў…

Але хопіць уздыхаць па далёкім мінулым, паэзіі знаходзіцца месца і ў непаэтычнай на першы погляд сучаснасьці. Нядаўна чытачы атрымалі ад Анатоля Вярцінскага чарговы падарунак — кнігу «Жыцьмем». Думаецца, яна невыпадкова так назвалася, бо яе асноўны матыў — жыцьцесьцьвярджальны. Дзеясловы жыцьця дамінуюць у вершах і паэмах, бадзёра перагукаюцца між сабой: «жыцьме мой родзе, мой народзе», «прагучаў тройчы вокліч, што радзіма жыве, прагучала малітва «Магутны Божа», «жыцьцё ж не канчаецца, жыцьцё прадаўжаецца»… А вось

як паэт канкрэтызаваў славуты купалаўскі кліч «Занімай, Беларусь маладая мая, / свой пачэсны пасад між народамі» (у першым варыянце ў Купалы было — «між славянамі»): «Jeszcze Polska nie zginęła… / Ще не вмерла Україна… / І жыве на сьвеце белым / Беларусь, мая краіна».

У касьцёле існуе добрая традыцыя — па заканчэньні службы вернікі паціскаюць суседзям рукі, абмяняўшыся пранікнёнымі позіркамі. Перадаюць адзін другому знакі супакою. Дзеля малітоўнай прасьветленасьці ў душы, дзеля руху любові ад сэрца да сэрца. Паэзія рухаецца, наадварот, неспакоем. І ўся новая кніга Анатоля Вярцінскага — гэта знакі неспакою. Прыхільнік падарожжаў (у свой час аб'езьдзіў паўсьвету — ад Нью-Ёрку да Кітаю), ён і ў новай кнізе застаецца вандроўнікам. Падарожныя ўражаньні жывяць яго музу. І тут, відаць, ня мае вялікага значэньня, па Вялікай Кітайскай сьцяне ты ідзеш ці лясною гравійкаю сьпяшаесься ў быкаўскія Бычкі на адкрыцьцё Дому-музэю славутага пісьменьніка. Бо ў любым выпадку via est vita, як казалі старажытныя, і кожная дарога дорыць свае непаўторныя ўражаньні. А часам і правярае на трываласьць.

На адкрыцьцё таго музэю мы з паэтам і нашымі агульнымі сябрамі ўлетку 2004 году безнадзейна спазьняліся. І тут на нейкім скрыжаваньні пад Лепелем Анатоль Ільліч выбраў малапрыкметную на карце партызанскую дарогу, якая мусіла нас вывесьці наўпрост у Бычкі, мінаючы Вушачу. Як не паслухаць карэннага лепельца? Паехалі па ёй і ледзь не загрузьлі ў пяску. Завярнулі на іншую дарогу, яшчэ менш прыкметную

і яшчэ больш партызанскую, да таго ж гарыстую. Неспрактыкаваны да язды ў такіх умовах, я (бяру ўсю віну на сябе) у нейкі момант ня справіўся са стырном, і аўто зьляцела з дарогі, наскрозь пратараніўшы малады падатлівы ельнік. Вылез я на дарогу з дрыжачымі каленьмі (думаю, ня толькі ў мяне яны дрыжалі)... Ці ж думалася мне тады, што тое ДТЗ (паводле міліцэйскага пратаколу) трапіць і ў паэтычныя аналы. А яно-такі трапіла: «Была вайна, мог быць забіты, / мог быць забіты і забыты, / на тыя зьвезены клады, / дзе ціха сьпяць твае дзяды… / Пацьвердзяць Скобла і Акулін, / як іх аўто ляцелі кулем, / як мы ляцелі пад адхон / зь бядою наўздагон, на скон. / Усе жывыя, дзякуй Богу. / Жыву, зьбіраюся ў дарогу».

Не, што ні кажыце, прыемна стаць героем кнігі, хай сабе і коштам разьбітай аўтамабільнай фары! А тады, калі мы на самым прыцемку ўсё ж дабраліся ў Бычкі, Анатоль Вярцінскі па-філязофску падсумаваў: «Дарога да Быкава простай не бывае». І як тут не пагадзіцца з паэтам-мысьлярам? Да зрубленай на скорую руку музэйнай хаты можна і па заасфальтаванай шашы пад'ехаць, а каб асэнсаваць творчасьць вялікага пісьменьніка, трэба часам і пакружляць. Увогуле, быкаўская тэма для Вярцінскага — не праходная і не празная. Свайму старэйшаму сябру прысьвяціў ён нямала радкоў. Вось і ў новым зборніку мы знаходзім такія выдатныя вершы, як «Зь ліста Васілю Быкаву ў Фінляндыю» і «Быкаў — гэта лета».

Адметная кніга «Жыцьмем» і тым, што некаторыя творы, зьмешчаныя ў ёй, у свой час друкаваліся толькі ў пэрыёдыцы і ніколі не траплялі

ў кніжныя выданьні. Зь ліку такіх хачу назваць паэму зь дзіўнай назвай «Кэты-мэнэй». Напісаная ў далёкім 1971 годзе, яна чакала апублікаваньня ў часопісе «Крыніца» роўна трыццаць гадоў, а пасьля ізноў зь невядомых прычынаў была адкладзеная аўтарам у глыбокую шуфляду. Не ўвайшла, скажам, у «кнігазбораўскі» том, пра што мне як чытачу і даўняму прыхільніку паэта даводзіцца толькі пашкадаваць. «Кэты-мэнэй» не забараняла цэнзура, яна пра каханьне, пра сьветлае маладое каханьне, пра дзівосную пару, калі закаханыя могуць размаўляць на адной ім зразумелай мове, вынаходзячы для яе нечуваныя раней словы: «Кэты-мэнэй!» — гукнулі разам мы. / «Кэты-мэнэй!» — зашапацела лісьце. / «Кэты-мэнэй!» — зашчабяталі птушкі. / «Кэты-мэнэй!» — загаманілі дрэвы. / Выходзіла, што двое закаханых / знайшлі агульную з усімі імі мову»… Або: «і я глядзеў на яблыні, / на гэты цуд новаяўлены, / я глядзеў на квецень / і адыходзіў душой. / Такое было адчуваньне, / такое хваляваньне, / якое бывае ў храме / зь яго ўрачыстай імшой». Зрэшты, выбачаюся, апошняя цытата не з паэмы, а зь верша «Ня помню такога лета». Але як гэтыя два творы (між датамі іх напісаньня — цэлае чалавечае жыцьцё) гучаць ва ўнісон! Паверце, гэта вельмі рэдкая зьява, калі паэт і ў сталым веку не развучыўся глядзець на сьвет па-юнацку.

Блізкі мне Анатоль Вярцінскі і сваім стаўленьнем да айчыннай гісторыі. Чытаючы яго верш «Адзін дзень у БНР» (яго можна назваць міні-паэмай), дзе фігуруе ці ня ўвесь сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі, ледзь не пагалоўна

пасьля вынішчаны, міжволі прыгадваеш, што і аўтар гэтага твору самым непасрэдным спосабам прычыніўся да абвяшчэньня незалежнай Беларусі ў 1991-м. Так што сьледам за «Адным днём у БНР» ня шкодзіла б Анатолю Вярцінскаму апісаць і тыя дні ў Вярхоўным Савеце, калі яму даводзілася і тэкст Канстытуцыі рэдагаваць, і Дзень Незалежнасьці з парлямэнцкай трыбуны абвяшчаць.

Калі ўжо зайшла гаворка пра гісторыю, то не выпадае абмінуць увагай і верш-рэцэнзію на кнігу «Расстраляная літаратура». Шэсьцьдзесят шэсьць яе аўтараў былі забітыя ў Курапатах, не вярнуліся з ГУЛАГу, былі закатаваныя ў савецкіх турмах. Наймаладзейшаму зь іх — Янку Філістовічу — было 26 гадоў, найстарэйшаму — Аляксандру Уласаву — шэсьцьдзесят сем. Трыста дзевяноста дзевяць кніг «ворагаў народу» ў 1937-м былі спаленыя ва ўнутраным дворыку тагачаснай турмы НКВД. Чытаць «Расстраляную літаратуру» цяжка, і складаць яе было цяжка — сьведчу як адзін з укладальнікаў. Як пра гэтую трагедыю сказаць у вершы? Тут любая неасьцярожная рыфма можа стацца блюзьнерскай бразготкай. А як падшукаць той эпітэт, які будзе да месца і не паблякне на чорным мармуры? Анатоль Вярцінскі знайшоў патрэбныя словы. І калі на месцы спаленьня кніг калі-небудзь паўстане помнік (а ён позна ці рана павінен паўстаць), то словы для яго ўжо знойдзеныя Вярцінскім: «Пакутніцкія лікі / глядзяць з тых кніжных бачын. / Госпадзе, памілуй, / дай іхным душам спачын. / А нам, жывым, дай моцы, / дай пільнасьці, каб

надалей / нас гэтак больш не зьнішчалі, / нас, нашых кніг і людзей».

У Нямеччыне падобны помнік на месцы, дзе ў часы трэцяга райху адбываліся кніжныя аўтадафэ, паставілі. Калісь час ачышчэньня і пакаяньня настане і ў Беларусі, і пісьменьнікам і іхным кнігам аддасца належнае. Бо спаліць кнігу — гэта таксама злачынства.

«Паболей вершаў, паменей Трэцяга аддзяленьня», — так, здаецца, адгукнулася Ганна Ахматава на манаграфію аднаго пушкініста, які на жыцьцяпісы Бэнкендорфа і яго супрацоўнікаў таксама не пашкадаваў атраманту. Магчыма, падобнага водгуку заслугоўвае і аўтар гэтых радкоў. Маўляў, хіба няма ў творчасьці Вярцінскага, як і ў кожнага сапраўднага паэта, чыстай красы? Вядома ж, ёсьць. Але ёсьць і болевыя кропкі, якія, на маю думку, зьяўляюцца вызначальнымі для кнігі «Жыцьмем».

А яе вяршынным творам, ні хвіліны не вагаючыся, я назаву верш (які, ізноў жа, сваім зьместам заважыць на цэлую паэму) «Здарэньне ў Судны дзень, або Ніл Гілевіч як аргумэнт». Твор-прыпавесьць пра тое, як вернасьць роднай мове аднаго чалавека ўратавала цэлы народ. Гэта вялікі ва ўсіх сэнсах твор — і колькасьцю радкоў (каля паўтары сотні), і сваёй мастацкай значнасьцю. Наўмысна ня буду яго цытаваць. Знайдзіце і прачытайце. Шэдэўры (як жа яны рэдка зьяўляюцца!) заслугоўваюць быць прачытанымі ад пачатку да канца. У кнізе, поўнай знакаў неспакою, «Здарэньне ў Судны дзень…» выглядае, наадварот, як знак су-

пакою і нацыянальнага аптымізму. А такіх знакаў беларускай літаратуры сёньня відавочна бракуе.

Думаў на гэтым паставіць кропку. Але згадаў яшчэ адзін — самы нечаканы — падарунак ад Анатоля Вярцінскага. Аднойчы ён падараваў мне… Каран. Дыхтоўнае выданьне — пераклад і грунтоўны камэнтар акадэміка Ігната Крачкоўскага. На мой запытальны позірк дароўца параіў знайсьці дваццаць шостую суру пад назвай «Паэты». І што я прачытаў у мудрай, шанаванай мільёнамі людзей кнізе? Дайце веры, там чорным па белым было напісана, што «паэты — хлусы, якія блукаюць па раўнінах і гавораць тое, чаго самі ня робяць». Рызыкую наклікаць на сябе гнеў прарока Мухамада, але беларускіх паэтаў тыя словы ніякім чынам не датычацца.

Беларускі паэт — і на Найвышэйшым судзе аргумэнт, як пераканальна паказаў Анатоль Вярцінскі. Беларускія паэты сваю праўду адстойвалі часам коштам сваіх жыцьцяў, і пра гэта высокі Судзьдзя таксама не забудзе. А лжэсьведчаньні, як вядома, на тым судзе пад увагу не бяруцца.

*2012*

**Як у каштоўным камені моц, як ядро ў арэху, як золата ў зямлі, гэтак мудрасьць у прыпавесьцях схавана.**

**Францішак Скарына**

## КАВАЛЕР ОРДЭНА ЎСМЕШКІ

Аднойчы, быўшы ў Варшаве, я зайшоў у кнігарню паблізу Тэатральнай плошчы. Заўважыўшы маё зацікаўленьне польскай паэзіяй, ветлівая пані параіла зьвярнуць увагу на адну кніжную паліцу. На ёй стаяла кніг трыццаць — рознага фармату і формы. Былі там кнігі-мініятуры і падарункавыя фаліянты, кнігі ў бліскучых супэрвокладках і факсымільныя перавыданьні. Была нават кніга, зробленая ў форме сэрца.

Ва ўсіх гэтых кніг быў адзін аўтар — невядомы мне Ян Твардоўскі. Я ўзяў у рукі прыемны на дотык томік, разгарнуў і прачытаў: «Kiedy Bóg drzwi zamyka — to otwiera okno» («Калі Бог зачыняе дзьверы, то адчыняе акно»). Гэты радок настолькі ўразіў мяне, што я згроб усю тую паліцу ў абярэмак і пад зьдзіўленым позіркам прыязнай

прадавачкі прыладкаваўся за нізенькім столікам у куце кнігарні…

Праз гадзіну я выйшаў на вуліцу трошкі іншым чалавекам. Лепшым за таго, які нядаўна от так сабе, ад няма чаго рабіць тузануў дзьверы тае кнігарні. Ці шмат увогуле на сьвеце кніг, якія могуць нас палепшыць?

Яшчэ пару гадзінаў таму я бязмэтна блукаў па Варшаве, недзе глыбока ў памяці трымаючы двух Твардоўскіх. Адзін зь іх, беларус з паходжаньня, стаў выдатным расейскім паэтам, рэдактарам найлепшага ў СССР літаратурнага часопісу. У часы партыйных ганеньняў на Васіля Быкава ён насуперак усім загадам зьверху друкаваў земляка, а аднойчы з Масквы ў Горадню, дзе жыў тады апальны пісьменьнік, прыслаў паштоўку з памятнымі зь юнацтва словамі — «усё мінецца, а праўда застанецца». Ні характарам, ні абліччам ён ня вельмі ўпісваўся ў маскоўскія літаратурныя прэзыдыюмы, дзе яго за вочы пагардліва называлі *чудь белоглазая*.

Звалі таго паэта і рэдактара Аляксандар Твардоўскі.

Другі Твардоўскі быў зь ліку маіх улюбёных літаратурных герояў — гэта ён у вядомай балядзе Адама Міцкевіча перадасьціпнічаў нячысьціка ў навагрудзкай карчме пад назвай «Рым».

І вось у маім жыцьці зьявіўся трэці Твардоўскі — Ян. І засланіў сабою ўсіх астатніх.

У той варшаўскай вандроўцы я ўсё ж схітрыўся заашчадзіць колькі дзясяткаў злотых і дамоў вярнуўся з кніжкай паэта-ксяндза «Budzić nadzieję». А неўзабаве ў менскай кнігарні «Духоўная кніга»

трапіліся мне вершы Яна Твардоўскага ў перакладзе на расейскую мову. Таксама набыў. Яшчэ і з тае прычыны, што адным зь перакладнікаў значыўся там масквіч Андрэй Базілеўскі, мой даўні знаёмец. Неяк на адным зь міжнародных паэтычных фэстываляў у Варшаве, зьдзіўлены ягонай бездакорнай польскай мовай (для масквічоў зьява даволі рэдкая) і западозрыўшы ў ім тую самую «чудь белоглазую», я напаўжартам пацікавіўся ў Андрэя — зь якіх базілеўсаў ён выводзіць свой радавод? І пачуў у адказ прадказальнае — мой бацька зь Беларусі, зь Віцебскай вобласьці…

Помніцца, сваім прыпозьненым адкрыцьцём вялікага паэта-мысьляра я падзяліўся з рэдактаркай часопісу «Наша вера» Хрысьцінай Лялько. І як жа быў усьцешаны, калі пачуў ад яе, што рыхтуецца кніга Яна Твардоўскага па-беларуску. І вось яна выйшла ў выдавецтве «Pro Christo» — на паспалітае чытаньне і добрае навучаньне, калі пакарыстацца вядомым Скарынавым выразам.

Кніга «Разам з Табою» — гэта паэтычны ружанец, які кліча да роздуму і да малітвы; перабіраеш вершы-пацеркі — і змрочны сьвет робіцца ясьнейшым, а нам сёньня так бракуе яснасьці сьвету!

Кніга «Разам з Табою», як спрыктыкаваны лекар, робіць чытачу небалючыя прышчэпкі веры ў несьмяротнасьць чалавечай душы. Я ўпэўнены — нават зацятага матэрыяліста прымусіць задумацца ну хоць бы такі радок: «Сьмерць — хвіліна найбольшай надзеі».

У кнізе «Разам з Табою» з усьмешкай гаворыцца пра рэчы сакральныя, але гэта не дэсакралізуе і не прыніжае іх. Ці гэта просьба да

Крыжа, каб не прыходзіў у наш сьвет без Укрыжаванага. Ці гэта іранічны пасаж наконт фіранак у стаенцы, дзе нарадзіўся Збаўца. А як вам такая замалёўка, зробленая (аж ня верыцца) паэтамксяндзом: «Мой Бог галодны / худое цела і рэбры / ня мае грошай / высокіх катэдраў са срэбра / не памагаюць яму / доўгія песьні і сьвечкі / упалыя грудзі / лекаў ня хоча з аптэчкі»?

Неяк аўтару гэтых радкоў давялося выступаць з чытаньнем вершаў у касьцёле (цяпер літаратурныя сустрэчы ў храмах — ня рэдкасьць). Прагучалі тады і радкі пра тое, як «ня можа ніяк — увесьчасна занята — дазваніцца да Бога адноўлены храм». Пасьля сустрэчы да мяне падышла сур'ёзная кабета і наківала пальцам — больш так, малады чалавек, не багахульствуйце. Пачытала б яна Яна Твардоўскага, у яго падобнага «багахульства» — тры карабы з каптуром.

І яшчэ адно адхіленьне ў сваё, асабістае. Калі мы з братамі ставілі надмагільны помнік па бацьку, паўстала пытаньне — а што на ім напісаць? Думалі-прагаворвалі, а да згоды ніяк прыйсьці не маглі. Тады я ўзяў Біблію і папрасіў аднаго з братоў назваць старонку і нумар радка зьверху. Прагучалі дзьве адвольныя лічбы. Я разгарнуў Кнігу кніг і прачытаў нібы знарок напісанае для эпітафіі: «Душа мая да Цябе прыляпілася, і Ты трымаеш яе ў дзясьніцы Сваёй».

Чаму мне гэта прыгадалася? Бо Ян Твардоўскі падобным спосабам выбіраў назвы для сваіх зборнікаў!

Ён быў мудрацом і любіў паглыбіцца ў одум на лавачцы пад лістоўніцай, што расла паблізу

яго сьціплай, як манаская кельля, кватэркі пры касьцёле сясьцёр-візытантак у Варшаве. У той кватэрцы ён жыў разам з парцалянавымі анёламі і драўлянымі пеўнікамі, што скакалі па падваконьні, а ў шыбах зіхацелі каляровыя батлеечныя вітражы.

Ён любіў усё жывое, у сваіх паэтычных казанях размаўляў з кветкамі, птушкамі і дрэвамі, а яго ўлюбёным лірычным героем была… божая кароўка, якая павольна перапаўзала зь верша ў верш ды так і засталася на вокладцы адной зь ягоных кніг.

Ён ведаў, што самая вялікая каштоўнасьць у сьвеце — любоў, і перад няспынным гадзіньнікам вечнасьці заклікáў сваіх чытачоў: «Сьпяшаймася любіць людзей!».

Яна Твардоўскага называлі паэтам Хрыста, які ўсьміхаецца, і гэта вельмі трапнае і дакладнае азначэньне.

Імем паэта-ксяндза ў Польшчы названыя больш за 200 (!) школаў і бібліятэк, ён быў доктарам honoris causa Люблінскага ўнівэрсытэту, атрымаў вельмі шмат розных прэміяў і ўзнагародаў, у ліку якіх і найганаровейшы Камандорскі крыж ордэна Адраджэньня Польшчы. Але, як мне падаецца, знакі дзяржаўнай увагі не асабліва цікавілі паэта. Праўда, быў ва ўзнагародным сьпісе Яна Твардоўскага незвычайны ордэн — польскія дзеці ўганаравалі яго ордэнам Усьмешкі! Паэт атрымаў узнагароду з будучыні, і гэта найлепшае прызнаньне для творцы.

Сам Ян Твардоўскі пра сваё служэньне Богу і паэзіі сказаў так: «У сьвеце бязьвер’я я спрабую

гаварыць пра веру, у сьвеце без надзеі — пра надзею, у сьвеце безь любові — пра любоў». І ягоная творчасьць, што грунтуецца на веры, надзеі і любові, — гэта паэтычнае кварцаваньне прасторы, пасьля чаго зьнікаюць бацылы бязьвер'я, адчаю і нянавісьці.

Калісьці ўжо прыгаданы ў гэтых нататках другі Твардоўскі (ня той, што перахітрыў нячысьціка ў карчме «Рым») параўнаў паэтычны пераклад з высушаным сенам, а арыгінал — з пахучай сакавітай канюшынай.

Перакладніцы кнігі «Разам з Табою» — Данута Бічэль і Хрысьціна Лялько — аспрэчылі гэтыя словы. Паэзія Яна Твардоўскага ў іхным перакладзе ня страціла ні каліва сваёй першароднай вобразнай красы і філязофскай сілы. Думаю, што гэта была нялёгкая праца, параўнальная хіба зь перакладам багаслужбовых тэкстаў.

На жаль (і гэта адзіны выпадак, калі, загарнуўшы кнігу «Разам з Табою», хочацца прамовіць: на жаль), у беларускі зборнік Яна Твардоўскага ня трапіў адзін верш, які запыніў маю ўвагу яшчэ ў той, шчасьлівай для мяне, варшаўскай кнігарні. Я яго проста перакажу сваімі словамі, не прэтэндуючы на эквілінеарнасьць ды іншыя патрабаваньні перакладніцкага рамяства. Верш мае назву «Больш нічога».

«Бог мой» — напісаў ён. І закрэсьліў, падумаўшы: настолькі ж мой, наколькі я эгаіст. Напісаў «Бог людзей» — і прыкусіў язык, згадаўшы, што ёсьць яшчэ анёлы і камяні, падобныя ў сьнезе на зайцоў. Нарэшце напісаў проста «Бог». Больш нічога. Бо і так напісаў занадта шмат».

Ян Твардоўскі працаваў, як Радэн. Скульптар прызнаваўся, што бярэ мармуровую глыбу і проста адсякае ўсё непатрэбнае. Паэт зь безьлічы словаў таксама пакідаў у вершы мінімум, гаворачы пры гэтым пра многае.

І ашчасьліўлены будзе той, хто пачуе гэтага кавалера ордэна Ўсьмешкі.

*2012*

**І калі я схібіў у нечым і нешта сказаў ня так, прашу вас — усіх, хто ўвабраў у сябе большыя веды і мае глыбейшае разуменьне, — папраўце мяне і дапоўніце дзеля Ўсявышняга Бога і паспалітай карысьці.**

**Францішак Скарына**

## ПРАСЕЯНАЯ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ, альбо ХТО ЗАСЛУЖЫЎ ВЫСЬПЯТКА АД СКАРЫНЫ

Сто чатыры гады таму ўкраінскі славіст Іларыён Сьвянціцкі выдаў у Львове кнігу «Відродженe білоруського писменства», дзе сказаў колькі словаў пра апавяданьне Максіма Багдановіча «Музыка», незадоўга перад гэтым надрукаванае ў «Нашай Ніве». Гэтую публікацыю, відаць, і можна лічыць пунктам адліку для айчыннага багдановічазнаўства. За стагодзьдзе з добрым гакам жыцьцёвы і творчы шлях паэта быў дасьледаваны даволі падрабязна. Калі і засталіся факталягічныя таямніцы, то хіба нязначныя, а фэномэн зьяўленьня генія заўсёды застанецца загадкавым, і кожнае новае пакаленьне разгадвае яго па-свойму.

Велізарны факталягічны матэрыял даўно патрабаваў энцыкляпэдычнай сыстэматызацыі. І вось нарэшце зьявілася доўгачаканая энцык-

ляпэдыя «Максім Багдановіч» — трэцяя пэрсанальная, пасьля аналягічных выданьняў, прысьвечаных Янку Купалу (1986) і Францішку Скарыну (1988).

Тры пэрсанальныя энцыкляпэдыі за чвэрць стагодзьдзя — зусім ня кепскі паказьнік для адзінага ў краіне галіновага выдавецтва «Беларуская энцыкляпэдыя імя Петруся Броўкі», якое гадоў пяць таму загадам сталічных уладаў было выселенае з уласнага будынка на Акадэмічнай вуліцы. Цяпер там засядае суд. Што ж, судзьдзі ў сучаснай Беларусі насамрэч запатрабаваныя куды больш, чым энцыкляпэдысты…

Энцыкляпэдыя «Максім Багдановіч» пакідае прыемнае ўражаньне — і сваім густоўным паліграфічным аздабленьнем, і зьместам. Але гэта толькі на першы погляд. І чым далей я яе гартаў, тым болей маё ўражаньне мянялася — у горшы бок.

Скажам, аўтар грунтоўнага артыкулу «Багдановічазнаўства» Юрась Пацюпа добрым словам згадвае двух знаных дасьледнікаў — Антона Адамовіча і Станіслава Станкевіча, пад рэдакцыяй і з прадмовамі якіх мюнхэнскае выдавецтва «Бацькаўшчына» ў 1960 годзе выпусьціла ў сьвет «Вянок паэтычнай спадчыны» М. Багдановіча. Сам факт выхаду гэтай кнігі сучасны дасьледнік называе «яркай падзеяй». Але артыкулаў пра Адамовіча і Станкевіча ў энцыкляпэдыі няма. «Вянкоў» там зафіксавана ажно чатыры: славуты «марцінакухтаўскі» 1913 году, віленскі 1927 году, выдадзены на дзясятыя ўгодкі з дня сьмерці паэта, славацкі «Veniec» — 59 вершаў у перакладзе

Юрая Андрычыка (год выданьня — 1990) і факсымільнае перавыданьне «Вянка», ажыцьцёўленае ў 1981-м. А мюнхэнскі «Вянок», хоць і «яркая падзея ў багдановічазнаўстве», на старонкі энцыкляпэдыі, на жаль, ня трапіў.

Зразумела, што ў энцыкляпэдыях падобнага кшталту павінны быць артыкулы пра кожнае асобнае выданьне дасьледаванага творцы. Скажам, як выглядала б Скарынаўская энцыкляпэдыя, калі б на яе старонках былі абыдзеныя ўвагай «Малая падарожная кніжка» ці «Апостал»? А вось у Багдановічаўскай энцыкляпэдыі гэты заганны выбарачны прынцып прысутнічае. Апісваецца, напрыклад, нічым не прыкметнае менскае «Выбранае» 1977 году, але чамусьці забытыя «Выбраныя творы» (Ватэнштэт, 1946) і «Апокрыф» — выдадзены чацьвёрачы: Згуртаваньнем беларускіх скаўтаў у тым самым Ватэнштэце ў 1946-м, выдавецтвам «Ніва» ў ЗША ў 1952-м і двойчы па-гішпанску ў 1956-м — у Мадрыдзе і Нью-Ёрку (пераклад Янкі Сурвілы). Перакладнік у энцыкляпэдыі ўвогуле ня згадваецца.

Не пашанцавала і іншым перакладнікам. Прычым выбар іх таксама дзіўнаваты. Скажам, украінец Раман Лубкіўскі ў энцыкляпэдыю заслужана трапіў, а ягоны суайчыньнік Леанід Палтава — не. А ён жа выдаў «Малую анталёгію беларускай паэзіі», дзе зьмешчаная і ладная нізка перакладзеных ім жа вершаў М. Багдановіча. Зь незразумелых прычынаў адсутнічае ў энцыкляпэдыі і перакладнік Валеры Стралко — аўтар шыкоўна выдадзенай анталёгіі «Трыяда беларускай паэзіі» (Кіеў, 2008). Ён перакладае М. Баг-

дановіча на ўкраінскую і расейскую мовы. Так, у перакладніка можна знайсьці нямала хібаў, але ці падстава гэта для выкрэсьліваньня яго імя са слоўніка пэрсаналій? Не. Артыкул пра Стралка мусіў быць у энцыкляпэдыі — з адпаведным аналізам зробленых ім перакладаў.

Забыліся энцыкляпэдысты-багдановічазнаўцы і на яшчэ аднаго перакладніка — нямецкага гісторыка і літаратара Аўгена фон Энгельгарта, які пакінуў па сабе ня толькі цікавае дасьледаваньне «Беларусь: народ і край» (1943), але і пераклаў цэлы зборнік лірыкі М. Багдановіча «Беларуская радзіма» (1949).

А ці шмат у нас манаграфічных дасьледаваньняў пра М. Багдановіча? Паспрабуем пералічыць асноўныя: «Сьвятло паэзіі і цені жыцьця» Уладзімера Конана, «Чалавек напрадвесьні» Рыгора Бярозкіна, «Загадка Багдановіча» Міхася Стральцова, «Максім Багдановіч і праблемы разьвіцьця беларускай літаратуры» Алега Лойкі, «Космас «Вянка» Тамары Чабан, «Шляхі» Ніны Ватацы, «А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю» Генадзя КахаНоўскага… Пра ўсіх названых дасьледнікаў у энцыкляпэдыі зьмешчаныя артыкулы. А вось аўтар манаграфіі «Пясьняр свабоды і красы» (Баварыя, 1947) Аўген Калубовіч (выступаў пад псэўданімам А. Верасень) на яе старонкі ня трапіў. І дзе ж тут лёгіка?

Яшчэ менш у нас буйных мастацкіх твораў пра М. Багдановіча. Калі называць, асабліва не пераТрасаючы кішэні памяці, то і ўспомніцца ўсяго пара-тройка: «Каханьне і сьмерць, або Лёс Максіма Багдановіча» (аўтар — Яўген Міклашэўскі),

паэма Эдуарда Акуліна «Шлях да радзімы», вершаваныя цыклі Дануты Бічэль і Алеся Чобата «Ты не самотны»… І тут мне тым больш незразумела, чаму з энцыкляпэдыі выпаў Уладзімер Глыбінны — аўтар аповесьці «Пад лебядзіным знакам» (Нью-Ёрк, 1983)? А хіба не заслужыў энцыкляпэдычнай нататкі пісьменьнік Леанід Зубараў — аўтар кнігі «Максім Багдановіч» (1989) і дакумэнтальнай аповесьці «Крык буравесьніка» — пра М. Горкага і сям'ю Адама Багдановіча (яны былі ў блізкім сваяцтве)?

Не знайшлося месца ў энцыкляпэдыі і мастачцы Ірэне Рагалевіч-Дутко, якая напісала цудоўны партрэт М. Багдановіча. Ён, дарэчы, да 100-годзьдзя паэта быў двойчы выдадзены ў Нью-Ёрку ў выглядзе паштоўкі агульным накладам 6 000 асобнікаў.

Можна па-рознаму ставіцца да п'есы «Дзёньнік паэта» Сяргея Кавалёва, якая была напісаная па матывах гэтак званага «Крымскага дзёньніка» М. Багдановіча. П'еса доўгі час ішла ў тэатры беларускай драматургіі, адзначалася на міжнародных тэатральных фэстывалях. Не заўважыць гэты твор увогуле немагчыма — дастаткова набраць словы «дзёньнік паэта» ў інтэрнэтаўскім пошукавіку… Але не заўважылі. У энцыкляпэдыі няма зьвестак ні пра п'есу Кавалёва, ні пра сам «Крымскі дзёньнік».

Сумнавядомаму крытыку-вульгарызатару Алесю Кучару месца ў энцыкляпэдыі знайшлося, а аўтару бліскучага эсэ «Жыта і васілёк» Алесю Разанаву — не. Паэт Уладзімер Карызна, які прысьвяціў М. Багдановічу два (!) вершы,

асобным артыкулам уганараваны, а таленавіты паэт Алесь Салавей, аўтар 15 «багдановічаўскіх» твораў, які цалкам апраўдана лічыў сябе пасьлядоўнікам Багдановіча, для нашых энцыкляпэдыстаў не існуе. Як не існуе для іх і Ларыса Геніюш, чый першы зборнік «Ад родных ніў» (Прага, 1942) названы знакамітым багдановічаўскім радком. Ды і пазьней яна ў сваіх творах і лістах шматкроць зьвярталася да постаці «песьняра чыстай красы»…

Як бачым, энцыкляпэдыя «Максім Багдановіч» далёка ня поўная. І наўрад ці тут можна ўзяць пад сур'ёзную ўвагу апраўданьні накшталт: выданьне рыхтавалася ў сьпешным парадку, амаль на грамадзкіх пачатках, самі ведаеце ў які час і г. д. Час для аўтараў і выдаўцоў энцыкляпэдыі мусіў быць адзін — Багдановічаўскі.

У савецкую эпоху на кантрольным асобніку тае ці іншае кнігі пасьля адпаведнае працэдуры ставіўся штамп: «Праверана цэнзурай». Над старонкамі энцыкляпэдыі «Максім Багдановіч» мяне ўвесь час не пакідала думка, што і яе перад адпраўкай на Менскую фабрыку каляровага друку прасеялі праз цэнзурнае сіта, бо выкінутыя з выданьня імёны (у пераважнай сваёй бальшыні) падазроныя з гледзішча сёньняшняй улады (эмігранты, антысаветчыкі і г. д.). І сіта тое было каму патрымаць — сярод сяброў рэдкалегіі выданьня значацца прозьвішчы дзяржаўных чыноўнікаў, якія да айчыннага багдановічазнаўства ніякага дачыненьня ня маюць.

*2011*

**Піша эвангеліст: «Тады зьвярнуўся да вучняў сваіх і сказаў: дабрашчасныя вочы, якія бачаць тое, што бачыце вы, бо кажу вам, што і прарокі многія, і цары бачыць жадалі, што бачыце вы, і ня ўбачылі, чуць, што вы чуеце, і ня ўчулі».**

**Францішак Скарына**

## АДКУЛЬ ПАХОДЗІЦЬ НАРОДЕЦЪ?

У абавязкі прэзыдэнтаў напісаньне прадмоваў да кніг не ўваходзіць. Яны іх і ня пішуць. Хіба толькі зрэдку, у вынятковым парадку. Скажам, у свой час прэзыдэнт Францыі Жорж Пампіду напісаў прадмову да анталёгіі францускай паэзіі. Праўда, гэта быў збор ягоных улюбёных вершаў, ім жа самім і ўкладзены. Тая паэтычная анталёгія да гэтай пары лічыцца адной з найлепшых у гісторыі францускага прыгожага пісьменства.

Прызнацца, я не чакаў, што прадмовы пачне пісаць і Аляксандар Лукашэнка. Неяк не пасуе яму гэты занятак. Кіраўніка вобласьці зьняць з пасады ў жывым эфіры — пасуе, лазьню ў сталічным мікрараёне «Малінаўка» адкрыць — за мілую душу, Папу Рымскага букваром адарыць — тут Аляксандар Рыгоравіч у сваёй талерцы. А прадмову да кнігі напісаць… Адразу паўстае пытаньне — да чаго? Дзе той новаяўлены

шэдэўр з шэдэўраў, песьня песьняў, вартыя прэзыдэнцкай прадмовы?

Самае дзіўнае, што такая песьня песьняў знайшлася. Праляжала ў архівах роўна сто гадоў — і прычакала свайго зорнага часу. Каму ж гэта так пашчасьціла, запытаеце вы. І тут, хочам мы таго ці не, безь лірычнага адступленьня не абысьціся.

Сто гадоў таму па паўднёвай Меншчыне падарожнічаў дзіўны вандроўнік. За два леты ён пераадолеў амаль дзьве тысячы вёрстаў — дзе на падводзе, дзе чыгункай, дзе на параходзе, дзе на ровары. Апошні транспартны сродак, праўда, сябе не апраўдаў — зь яго палешукі насьміхаліся, і ўрэшце з жалезным конікам вандроўніку давялося разьвітацца. З чым ён ніколі не разьвітваўся, дык гэта з грувасткай скрынкай на трыножніку, перад якой, паставіўшы ў жывую чаргу, муштраваў тых самых палешукоў. Стань вось тут, зірні туды, павярніся бокам. Адным словам, адрываў ад пільнай сялянскай работы. Падазроны тып.

Палешукі, да любой муштры ня дужа прыдатныя, некалькі разоў здавалі падарожніка ў пастарунак. Аднойчы ў Петрыкаве вандроўніка зь ягоным загадкавым рыштункам арыштавалі проста на кірмашы, дзе ён абходжваў, няйначай са зламыснымі намерамі, мясцовых ганчароў і бондараў, стэльмахаў і кашаплётаў. У вёсцы Грыцэвічы валасны пісар прыняў яго за замежнага выведніка і таксама неадкладна выклікаў стражніка. А на адной з чыгуначных станцый вандроўніку патаўклі ўвесь ягоны рыштунак, бо ведама ж — паляшук і за адну шчэпку знойдзе зачэпку. А там шчэпак было шмат.

Што праўда, кожнага разу затрыманага даводзілася адпускаць. Бо, як толькі справа даходзіла да сур'ёзнага высьвятленьня асобы, ён выцягваў з патайной кішэні пасьведчаньне на блянку «Минскій губернаторъ», зь пячаткай і подпісам, дзе чорным па белым прадпісвалася «предъявителю сего Исаакію Авраамовичу Сербову оказывать законное содействіе в составленіи этнографических коллекцій».

Такім чынам, падазроным падарожнікам быў этнограф Ісак Сербаў — пасланьнік Імпэратарскага Расейскага геаграфічнага таварыства. Аддамо яму належнае — нягледзячы на часам негасьцінны прыём, ён сваім прафэсійным кодакам зрабіў больш за 2 000 здымкаў на абшары ад Пінску да Рэчыцы, ад Барысава да Турава. 442 зь іх увайшлі ў шыкоўны альбом, выдадзены летась у Менску.

Ангельская вэрсія зьмешчаных у альбоме тэкстаў дазваляе меркаваць, што тавар ад пачатку задумваўся на экспарт. У такіх выпадках прадмова ад прэзыдэнта — бяспройгрышны маркетынгавы ход. З такой прадмовай і дзяржаўныя бібліятэкі ад набыцьця не адмовяцца, і амбасады распаўсюджваць ахвотней возьмуцца.

На якой казе выдавецтва «Беларуская энцыкляпэдыя» пад'ехала на вядомы адрас Маркса, 38, я ня ведаю. Але Аляксандар Лукашэнка да альбому «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава. 1911–1912» прадмову напісаў. Правільную прадмову. У ёй сказана і пра «каштоўную спадчыну», і пра «шанаваньне продкаў», і пра тое, як неабходна «ведаць і памятаць гісторыю сваёй Радзімы

і быць беларусам». Але я не зьбіраюся аналізаваць тэкст прадмоваў (іх у альбоме дзьве — другая, грунтоўная і куды больш цікавая, належыць мастацтвазнаўцы Вользе Лабачэўскай — аўтарцы ўсяго праекту). Я паспрабую вызначыць, чаму ўвогуле кіраўнік краіны раптам вырашыў выступіць у нехарактэрнай для яго ролі прадмовапісальніка. Што яму ў тых здымках стагадовай даўніны магло спадабацца?

«Угледзімся ў твары на фотаздымках — такія знаёмыя і родныя», — піша Аляксандар Лукашэнка. Давайце прыгледзімся да тых твараў і мы.

Вось на фота жыхар мястэчка Любяшоў Пінскага павету Гаўрыла Палікарпчук — «37 гадоў, 2 аршыны і 4 вяршкі, з каўтуном». Жывая ілюстрацыя да вядомай някрасаўскай паэмы «Чыгунка», якую шматлікія пакаленьні беларускіх школьнікаў змушаныя былі вучыць на памяць. Памятаеце? «Лица бескровные, веки упавшие… ноги опухли, колтун в волосах…» Запамінальны партрэт беларуса атрымаўся ў Някрасава. І ў Сербава — таксама.

А вось яшчэ адзін любяшовец, зафіксаваны для гісторыі кодакам Сербава. Подпіс этнографам зроблены проста паўзьверх здымка: «Конь есьць сена, а ў палукашы ляжыць Герасім Чарняк, з каўтуном». Герасім, як і яго аднавясковец Гаўрыла, выглядаюць так, быццам пражылі гадоў трыццаць на бязьлюдным востраве і дарэшты абрабінзоніліся. Яны глядзяць на фотаапарат, як папуасы на вінчэстэр у руках Міклухі-Маклая.

Трапілі ў аб'ектыў Ісака Сербава і зьнябожаныя Гітля і Шмэрка Эрэнбургі (абое па 2 аршыны

і 4 вяршкі) зь вёскі Рудня Бабруйскага павету. І Саўка Музычык зь Юравічаў, засьпеты этнографам проста ў баразьне. Двое валоў цягнуць нават не саху, а нейкае сапраўды дапатопнае рала.

Вось хата ў вёсцы Выганашчы Пінскага павету, пальцам папхні — паваліцца. Вось хлеў з плятня ў вёсцы Вуйвічы, які ўвесь сьвіціцца. Вось вуліца ў Язьвіне на Бабруйшчыне, па якой рухаюцца нейкія чалавекападобныя цені па калені ў гразі. Вось случак (сакун, паводле Сербава) Хведар Шаўкун — у разбэрсаных пасталах, на якога глядзець бяз жалю і спачуваньня немагчыма. Такое адчуваньне, быццам менавіта яго меў на ўвазе Герцэн, ствараючы яшчэ адзін абагульнены тып беларуса: «Десять поколений, замученных на барщине, образовали такого парию, его череп сузился, его рост измельчал, его рот судорожно искривлён, он отвык от слова». Герцэнаўскі «Колокол» званіў на ўсю Заходнюю Эўропу, і так тады нас у той Эўропе ўспрымалі…

Як падаецца, за нештачка ўсё ж этнограф Ісак Сербаў палешукоў не любіў — здымаў пераважна лапцюжных абдзіртусаў, ракурсы ня лепшыя выбіраў. А вось паляшучак любіў. У сьвяточных строях, яны проста заварожваюць сваёй натуральнай прыгажосьцю — усе гэтыя Праксэды, Прузыны, Куліны, Параскі, Адаркі, Агапкі і Аўхіміі (за аўтэнтычную перадачу імёнаў дзякуй дадатковы). Паляшучкі на здымках ня толькі белазуба ўсьміхаюцца, але і сьпяваюць. Ад Праксэды Стральчук зь вёскі Плотніца Пінскага павету этнограф запісаў жыцьцярадасную прыпеўку: «Як пэмэр мэй небэжчык, / Поховала

журбу ў гэршчэк, / Чэрэпочком накрыла, / Шоб по ёму не тужыла!».

На фоне гразкіх вуліцаў і змрочных мужчынскіх твараў белымі айсбэргамі плывуць па сербаўскай фотакраіне праваслаўныя храмы. З усіх астатніх архітэктурных помнікаў кодакам дасьледніка зафіксаны хіба толькі адзін — зразумела ж, імпэратару Аляксандру II. У тым жа, неаднойчы згаданым, Любяшове, дзе мужыкі каўтуны пазапускалі.

А цяпер задамося пытаньнем: ці правільна зрабіў Аляксандар Лукашэнка, напісаўшы прадмову да працы Сербава? Яшчэ як правільна. Бо і звычайны фотаальбом можа стацца чыньнікам вялікай палітыкі. Помніцца, як за савецкім часам прапагандысты ледзь ня ўсе паказчыкі параўноўвалі з 1913 годам. А чаму і ў наш час не параўнаць? Думаю, беларускія амбасадары ўжо атрымалі з дыпляматычнай поштай па асобніку сербаўскага альбому. І зь цягам часу ў замежных СМІ зьявяцца гучныя публікацыі: глядзіце, Эўропа з Амэрыкай, там, дзе паляшук з каўтуном на балотнай купіне сядзеў, сёньня лядовы палац красуецца!

Наколькі мне вядома, «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава» — першае і адзінае кніжнае выданьне, да якога прадмову напісаў кіраўнік Беларусі. А раз пісаў (ці падпісваў), то мусібыць пагартаў і сёе-тое пабачыў. Ці не адтуль у прэзыдэнцкі лексыкон лёгкай ластаўкай упырхнула слова *народецъ* (яго найлепш ужываць менавіта са старым ёрам)? Бо той люд на фотаздымках і ёсьць *народецъ* — з каўтуном на галаве, з помнікам ім-

пэратару Аляксандру ў галаве, зь перададзеным нашчадкам бязмоўем на вуснах, на якіх, нібы імпэрскі пірсінг, да сёньняшняга дня муляецца сто гадоў таму адмерлая літара Ъ.

*2013*

**Пісаньне, натхнёнае Богам, карыснае ўсякаму чалавеку: для навучаньня і разважаньня, для ачышчэньня і высьвядчэньня, для выпраўленьня і для зьдзяйсьненьня праўды.**

**Францішак Скарына**

## СКАРЫНА І ЯШЧЭ СТО ГЕРОЯЎ

Аднойчы выпала мне ў складзе нешматлікай дэлегацыі ад Беларусі ўдзельнічаць у Днях славянскага пісьменства ў расейскім Белгарадзе. Праграма была насычаная — наведваньне музэю-сядзібы актора Міхаіла Шчэпкіна ў вёсцы Аляксееўка, музэюдыярамы «Танкавая бітва пад Прохараўкай», сумесныя выступы зь пісьменьнікамі з усіх рэгіёнаў Расеі. Ішоў 1995 год, і нас, беларусаў, на той Белгарадчыне абходжвалі, як дзяўчыну на выданьні: «славянскабрацкая» рыторыка кацілася ад аднаго мерапрыемства да другога, тосты за «адзіную Русь» падгарчылі і прымусілі адставіць у бок не адну напоўненую чарку, да нас у гатэль прыходзіў нават сам вярхоўны казацкі атаман і агітаваў узначаліць «казацкі рух» у Беларусі…

А калі сьвята аціхла і схлынуў спадарожны яму ідэалягічны тлум, мне падумалася, што са-

мым зьмястоўным успамінам з паездкі ў Белгарад сталіся ўсё ж ня танкі-муляжы і не атаманы з чырвонымі сталінскімі лямпасамі на нагавіцах, а працяглая (больш за суткі) гутарка з драматургам Алесем Петрашкевічам. Мне пашчасьціла двойчы апынуцца зь ім у адным купэ, а на зваротнай дарозе нам увогуле ніхто не замінаў — пасажыраў больш не было. І цякла нясьпешная размова пра ўсё на сьвеце: пра стварэньне «Беларускай энцыкляпэдыі», пра Пятра Машэрава і працу ў ЦК КПБ, пра выданьне хронік «Памяць», якія тады акурат пачалі выходзіць — па дыхтоўным томе на кожны раён…

Паступова ручаёк маіх пытаньняў перасыхаў, і тады спакойна і ўраўнаважана плыў маналёг майго спадарожніка. Алесь Лявонавіч расказваў — нібы чытаў у асобах п’есу, гаворачы за герояў, нават голас зьмяняў, а рэплікі падкідваліся як бы збоку. Апавядальнік свабодна перамяшчаўся са стагодзьдзя ў стагодзьдзе, лёгка цытаваў па памяці, абмалёўваў, напрыклад, Кастуся Каліноўскага ці таго ж Машэрава так яскрава, што, здавалася, яны з намі ў адным купэ сядзяць.

Няблізкая дарога ў Белгарад празь дзьве мяжы (цягнік ішоў праз украінскі Харкаў) здалася мне тады дзьвюма кароткімі паездкамі ў мэтро. Помніцца, пасьля чарговай гісторыі я ня вытрымаў: «Алесь Лявонавіч, вам трэба пісаць п’есы ці аповесьці — у вас назапашана столькі матэрыялу!» — «І праўда, чаму ж мне ізноў ня сесьці на свайго драматургічнага каня і не паказаць, чаго варты стары Талаш?», — парафразай зь Якуба Коласа адказаў мой спадарожнік.

У тым жа купэ ён падзяліўся са мною сваёй грандыёзнай задумай — напісаць цыкль гістарычных п’есаў, сюжэты якіх мусілі грунтавацца на рэальных падзеях беларускай мінуўшчыны. «Цыкль — гэта колькі? Пяць-шэсьць-сем?» — запытаўся я, прыгадаўшы, што Ўладзімер Караткевіч пакінуў прыблізна столькі ж драматычных твораў, большую лічбу назваць мне не дазволіў і паважны век Алеся Лявонавіча.

«Ня пяць-шэсьць, а дваццаць шэсьць! Гэта калі залішне не размахвацца», — агаломшыў мяне мой шаноўны суразмоўца і тут жа пачаў пералічваць знакавыя падзеі, вакол якіх павінны былі б закруціцца драматургічныя сюжэты: Грунвальдзкая бітва, канцлераваньне ў Вялікім Княстве Літоўскім Льва Сапегі, залашчаньні Радзівілаў з Масковіяй і царом Аляксеем Міхайлавічам, паўстаньне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касьцюшкі і яго зьняволеньне ў Петрапаўлаўскай крэпасьці, расейска-француская вайна 1812 году і ўдзел у ёй беларусаў, паўстаньне Кастуся Каліноўскага і яго перадэшафотныя дні і ночы, Слуцкае паўстаньне, стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі, узьнікненьне БССР і датычнае да яго бальшавіцкае закулісьсе, жыцьцё Янкі Купалы ў самыя драматычныя для яго 30-я гады…

Мне ажно дых заняло. «І пра ўсё гэта вы плянуеце (я ледзь ня ляпнуў «пасьпееце») напісаць па п’есе?». — «У мяне ўсё разьмеркавана — на п’есу ня больш за паўгода. Трынаццаць гадоў працы, абы здароўе не падвяло», — пачуў я тады ад Алеся Лявонавіча.

А яшчэ праз некалькі гадоў, калі мы абодва змушаныя былі пакінуць працу ў Міністэрстве культуры і друку (якое то аб'ядноўвалася, то дзялілася, а кіраўнікі зьмяняліся двойчы на год), на сьвет пачалі зьяўляцца гістарычныя п'есы Алеся Петрашкевіча — найчасьцей у газэце «Наша слова».

П'есы друкаваліся адна за другой, але айчынныя тэатры (дзяржаўныя і самадзейныя) іх не заўважалі. Дзяржаўныя па даўняй традыцыі выжывалі на праверанай часам клясыцы, а самадзейныя ахвотней ставілі замежных драматургаў, спадзеючыся на дапамогу амбасадаў.

Факт, які застанецца ў гісторыі беларускага тэатру, — зь дзевятнаццаці гістарычных п'есаў Петрашкевіча на сцэну ня трапіла ніводная! Вынятак — драма пра Францішка Скарыну «Напісанае застаецца», якая ў тэатрах ішла і мела поспех, але адбывалася тое яшчэ за савецкім часам. Тая гісторыя, якую драматург спрабаваў вынесьці на сьвятло рампы ўжо ў гады незалежнасьці, чамусьці палохала рэжысэраў.

Алесь Лявонавіч, вядома ж, перажываў, але выгляду не паказваў. Калі мастацкі фільм пра слуцкіх паўстанцаў, зьняты паводле твораў Васіля Быкава, быў негалосна забаронены і лёг на доўгія гады на паліцу, то хто ж возьмецца ставіць п'есу на тую ж тэму? Драматург разумеў — ніхто. Але мужна сядаў за стол і пісаў новую п'есу — на яшчэ больш крамольную тэму, дзе фігуравалі кнорыны, ляндары і мясьнікяны — душыцелі Беларусі і ўсяго беларускага, каго потым савецкая ўлада гвалтам упіхнула ў пантэон беларускіх жа

герояў. Прайдзіцеся па сталічных вуліцах — яны ў тых героях лічацца да гэтай пары.

У кароткай нататцы немагчыма прааналізаваць усе дзевятнаццаць п’есаў (столькі іх і ўвайшло ў нядаўна выдадзены двухтамовік «Здрапежаная зямля»). Ня будзеш жа гаварыць пра вартасьці адной, ні словам не згадаўшы пра другія. А каб чытачы займелі хоць прыблізнае ўяўленьне, пра што і пра каго тыя п’есы, падам тут толькі імёны герояў і антыгерояў, чые партрэты (больш ці менш падрабязныя) накрэсьліў Алесь Петрашкевіч у сваіх прызначаных для будучыні творах: Рагвалод, Рагнеда, Яраполк, Ізяслаў, княгіня Вольга, князь Сьвятаслаў, Уладзімер Сьвятаслававіч, Феадосі Пячэрскі, Усяслаў Чарадзей, князь Брачыслаў, Эўфрасіньня Полацкая, Кірыла Тураўскі, Міндоўг, Войшалк, Трайнята, Таўцівіл, Даўмонт, Кейстут, Вітаўт Вялікі, Ягайла, Скіргайла, Сьвідрыгайла, Жыгімонт Стары, Міхайла Глінскі, Канстанцін Астроскі, цар Іван III, Францішак Скарына, Маргарыта Адвернік, Мікола Гусоўскі, Максім Грэк, Мікалай Капернік, Томас Мюнцар, Марцін Лютар, Пятро Мсьціславец, Бона Сфорца, канцлер Гаштольд, герцаг Альбрыхт, Якуб Бабіч, Мікалай Радзівіл Руды, Ян Хадкевіч, Астафей Валовіч, Жыгімонт Аўгуст, Ян Глябовіч, Жыгімонт Ваза, Крыштоф Радзівіл, Леў Сапега, Марына Мнішак, Барыс Гадуноў, Васіль Шуйскі, Януш Радзівіл, Багуслаў Радзівіл, Мікалай Патоцкі, цар Аляксей Міхайлавіч, патрыярх Нікан, Багдан Хмяльніцкі, Кацярына II, Тадэвуш Касьцюшка, Юльян Нямцэвіч, Якуб Ясінскі, Тамаш Ваўжэцкі, Аляксандар I, Аляк-

сандар Бэнкендорф, Адам Чартарыйскі, Барклай дэ Толі, Міхал Клеафас Агінскі, Напалеон Банапарт, Кастусь Каліноўскі, Марыся Ямант, Міхаіл Мураўёў, Уладзімер Пракулевіч, Павал Жаўрыд, Васіль Русак, Антон Сокал-Кутылоўскі, Уладзіслаў Галубок, Уладзімер Тэраўскі, Вільгельм Кнорын, Іосіф Апанскі, Антон Луцкевіч, Язэп Лёсік, Раман Скірмунт, Алесь Гарун, Аркадзь Смоліч, Канстанцін Езавітаў, Макар Краўцоў, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Язэп Варонка, Палута Бадунова, Тамаш Грыб, Фабіян Шантыр, Зоська Верас, Аляксандар Мясьнікоў, Якаў Сьвярдлоў, Ёсіф Сталін, Панцеляймон Панамарэнка, Зьміцер Жылуновіч, Язэп Дыла, Якуб Колас, Усевалад Ігнатоўскі, Янка Купала, Уладзіслава Луцэвіч, Лукаш Бэндэ…

Сто адна дзейная асоба! І гэта толькі героі першых шэрагаў. А колькі іх выконваюць у п’есах ролі другаснага пляну, складаюць рэальную ці створаную фантазіяй драматурга сьвіту каралёў, вялікіх князёў ды іншых уладатрымаўцаў! І кожнаму ў вусны ўкладзены гістарычна і сытуацыйна матываваны тэкст.

Па абсягу выкананай працы плён Петрашкевіча-драматурга няма з чым і параўнаць. Гэта насамрэч драматургічны эпас, які ўвабраў у сябе ўсе вузлавыя падзеі беларускай гісторыі.

Помніцца, як на прэзэнтацыі кнігі Алеся Петрашкевіча «Воля на крыжы» ў Купалаўскім музэі народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч ня стрымліваў сваіх эмоцый: «Якую працу ўзяў на сябе Алесь Лявонавіч! Дзевятнаццаць п’есаў, і ўсе — рэчы сур’ёзныя, усе зьвязаныя, зьнітаваныя хранал ягічна, і кожная наступная нібы выцякае з па-

пярэдняй, што дае нам уяўленьне гістарычнага працэсу, які разьвіваецца па сьпіралі, і ўсё да горшага. Аўтар нібы папярэджвае: беларусы, схамяніцеся!».

Калі згадваць п’есы, ад якіх Беларусь схамянулася, то найперш трэба назваць «Тутэйшыя» Янкі Купалы ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна. Больш за дзесяць гадоў яна ішла з аншлягам у Купалаўскім тэатры, людзі ішлі на яе тройчы і пяцёрачы, каб паглядзець на вакольны сьвет купалаўскімі вачыма — і схамянуцца.

Сёньня ўсім нам схамянуцца шмат што (і хто) перашкаджае. Чужая масавая культура (насамрэч — бескультур’е) запаланіла тэлеэкраны, інтэрнэтпрастору, дабралася і да тэатральнай сцэны. Але і яна (калі ўжо безь яе немагчыма абысьціся) мусіць узрастаць на сваім камлі, а не на чужародных галінахпрышчэпах. Дрэва айчыннай гісторыі — кроністае і карэністае, што і паказаў сваёй драматургіяй Алесь Петрашкевіч.

Калісьці паэт і стваральнік «Беларускай энцыкляпэдыі» Пятрусь Броўка сказаў яму, свайму маладому паплечніку: «Я буду, як ледакол, лёд ламаць, а вы — крыгі ззаду разводзіць, каб плынь не замярзала».

Алесь Петрашкевіч перад караблямі беларускіх тэатраў разьвёў крыгі гісторыі — можна сьмела рухацца ў гэтым кірунку. І я нават не бядую, што наклад двухтамовіка такі мізэрны — усяго 60 асобнікаў. Ён малаваты, але дастатковы — яго з запасам хопіць на ўсе тэатры, якія сёньня дзейнічаюць у Беларусі.

*2015*

**Гэтая кніга дзецям і простым людзям — навука, а мудрацам і вучоным — дык дзіваваньне. Яна, як рака цудадзейная, адначасова плыткая — можна па ёй і дзіцяці брысьці, і незвычайна глыбокая — слон плысьці мусіць.**

**Францішак Скарына**

## КНІГА-РАДЗІМА І МЕСЯЦ ГАЎПВАХТЫ

У савецкае войска праводзілі, як у космас, — са скліканьнем шматлікай радні, з застольлем, што не саступала вясельнаму, з танцамі ля ваенкамату і матчыным галашэньнем, якое заглушалася абавязковым «Разьвітаньнем славянкі». На доўгія два гады («сямсот трыццаць дзён і начэй» — як пісалі ў салдацкіх альбомах) чалавек проста зьнікаў, а лісты ад яго маглі прыходзіць адкуль-небудзь з накрайсьветнай Камчаткі ці, крый Божа, з чарговай «гарачай кропкі», дзе Крэмль дапільноўваў нейкія свае таемныя інтарэсы.

Саюзнае міністэрства абароны ў армейскім катле старанна перамешвала розныя нацыі, каб у выніку атрымаць спэцыфічнае варыва пад назвай «савецкі народ». Варыва варыцца не жадала, войска скаланалі міжнацыянальныя канфлікты, якім не маглі даць рады ні маршалы-міністры, ні

нампаліты ўсіх узроўняў. Але ўсё роўна эстонец ехаў служыць на Байкал, украінец у Казахстан, грузін у Забайкальле, а беларус у Закарпацьце — каб падалей ад радзімы.

Радзіму трэба было браць з сабой — у аб'ёме, паменшаным да памераў салдацкага заплечніка. Я ўзяў аднатомнік Генадзя Бураўкіна — «Вершы пяці кніг» з басалыгаўскімі буслямі на вокладцы. «Мы ідзём па сьцяжынках, на якія ня вернемся… / Павуцінка — уверсе, павуцінка — у верасе…» Перачытаеш спадцішка на палітзанятках, пасьпяваеш шэптам, мерзнучы ў настылай вежы баявой машыны на занятках па агнявой, — і на душы палёгка. Кніга пасялілася ў маім пляскатым дэсантным заплечніку, у маёй прыложкавай тумбачцы, яна стаяла са мной у караўуле на дваццаціградусным марозе, пеклавалася ў сьпёку падчас трыццацікілямэтровых пешых пераходаў на палігон і назад, нават скакала разам са мной з парашутам! Я звыкся зь ёю як зь нечым неад'емным, я заглядаў у яе часьцей, чым у вайсковы статут.

Але аднойчы мая радзіма пад белымі буслінымі крыламі прапала. Я апытаў ці ня ўвесь батальён, абшукаў усе капцёркі, сушылкі і ленпакоі — безвынікова. І хоць на той час амаль увесь зьмест я ўжо ведаў на памяць, мяне не пакідала пачуцьцё вялікай страты. Чатыры дзяўчыны лісты пісаць перасталі — я так не перажываў, як па сваёй згубе. А бураўкінскія вершы, што часам успаміналіся, яшчэ больш вярэдзілі душу: «Ты ж мая адзіная, / ты ж мая ніўная, / ты ж мая радзінная, / ты ж мая жніўная, / ты ж мая вясельная, / ты ж мая вясеньняя, / ты ж мая нязнаная, / ты ж

мая нязваная, / да грудзей прытуленая — / матуліна…»

Маці прыслала мне, як ыратавальны круг, «Быў. Ёсьць. Буду» Караткевіча. Там таксама была радзіма, але навюткая кніга ўспрымалася як салдацік-салага, які службы ня зьведаў. А тая, ранейшая, ужо прайшла са мною і агонь, і ваду…

Я знайшоў свайго Бураўкіна толькі перад самым дэмбелем — у брыгаднай бібліятэцы, куды на другім годзе службы наведваўся часьцей. Адзіная на ўвесь шматтысячны кнігазбор беларускамоўная кніга стаяла паміж тамамі Івана Франко і Шаўчэнкі (наша брыгада базавалася на Львоўшчыне, у старым базыльянскім кляштары, і бібліятэка на добрую трэціну была ўкамплектаваная ўкраінскай клясыкай). Хто яе туды прынёс і здаў — высьвятляць ня мела сэнсу. Сваю знаходку я радасна прад'явіў бібліятэкарцы, упэўнены, што яна дазволіць яе забраць. Але кніга ўжо была ўнесеная ў бібліятэчны фонд, на ёй стаяла пячатка нашай вайсковай часткі…

Паскандаліўшы зь бібліятэкаркай, я сваю дарагую маёмасьць сабе ўсё ж вярнуў. А бібліятэкарка аказалася жонкай нампаліта батальёну, які і так паглядаў на мяне скоса, паколькі мусіў штотыдзень праглядаць «ЛіМы», якія акуратна дасылаў мне школьны настаўнік. Газэта была на малазразумелай таварышу капітану мове, і ён неаднойчы выказваў мне сваё раздражненьне…

Вечарам таго ж дня мяне выклікалі да камбата, які, асабліва не ўваходзячы ў курс справы, абвесьціў: дзесяць сутак гаўпвахты! Потым на мяне сьпіхнулі чужыя грахі і дабавілі яшчэ, по-

тым яшчэ… На расквітнелыя травеньскія каштаны прыйшлося мне глядзець праз калючы дрот паўзьверх бэтоннай агароджы.

Выйшаў я з гаўпвахты, калі лета ўжо ўвабралася ў сілу, мой прызыў амаль цалкам звольніўся, засталіся адны злосныя парушальнікі. Зь якімі я яшчэ доўга капаў траншэі, фарбаваў парашутную вышку, бяліў велізарныя кляштарныя сутарэньні — пад асабістым наглядам таварыша капітана. Дэмабілізаваўся ледзь не апошнім.

Доўгі час неяк не выпадала расказаць гэтую гісторыю Генадзю Бураўкіну. Хоць было нямала сумесных паездак, а гады два мы працавалі на адным калідоры ў старым Доме друку — ён намесьнікам у «Вожыку», я намесьнікам у «Бярозцы». Пасадамі нібыта зраўняліся (як пажартаваў аднойчы сам Бураўкін), але ён для мяне заўсёды быў вышэй за ўсе свае высокія пасады. Ён быў паэтам, чыя кніга на два паднявольныя гады стала маёй Беларусьсю на чужыне. Пра такія лёсы сваіх кніг аўтары ўсё ж павінны ведаць.

Аднойчы падчас сустрэчы на ягонай кватэры Генадзь Бураўкін раптам загаварыў пра кнігі, прывезеныя ім зь Нью-Ёрку, пра эмігранцкі альманах «Ля чужых берагоў», дзе паведамлялася, што Ларыса Геніюш загінула ў сталінскім ГУЛАГу… Бібліяфільская тэма і разьвязала мне нарэшце язык. Бураўкін уважліва выслухаў маю вайсковую гісторыю. Было відно, што яна яго ўразіла, ён хацеў даведацца падрабязнасьці. Нават пра чатырох сяброўак удакладніў — ці хоць адна дачакалася? А пасьля дастаў з кутняй паліцы тыя самыя «Вершы пяці кніг» і надпісаў:

«Дарагому Міхасю Скоблу, пакутніку за гэтую кніжку, — з удзячнасьцю за вернасьць і надзеяй на доўгае шчырае сяброўства. Генадзь Бураўкін. 19.X.2006».

Падзякаваўшы за падарунак, я ўсё ж запярэчыў: «Ну які зь мяне пакутнік? Падумаеш — месяц гаўпвахты».

«Ня проста месяц. Быў месяц май», — прыгадаў Генадзь Мікалаевіч самы паэтычны фільм ва ўсім савецкім кінэматографе.

Нейкая злучальная нітачка завязалася тады паміж намі. «Павуцінка — уверсе, павуцінка — у верасе…» І ня рвецца тая нітка-павуцінка да гэтай пары.

І, відаць, ужо ніколі не парвецца.

*2016*

**Аб сабе ў вяках памяць пакінуць ня ў тленных агромністых царскіх скарбах, але ў навуцы — якая мацуе розум, і ў кнігах — якія ўзвышаюць душу.**

**Францішак Скарына**

## ЯК КВАРТА НЁМАНСКАЙ ВАДЫ

«Ад абразоў сьвятых біў нейкі спакой нязямскі... Мне ж хацелася высокага зразуменьня і вялікіх учынкаў». Гэтыя словы ксяндза-паэта Казімера Сваяка адразу ўспомніліся, як толькі я пераступіў парог касьцёла Яна Хрысьціцеля ў Камаях, што на Пастаўшчыне. Абразы на сьценах віселі тыя самыя (адзін напісаны знакамітым Альфрэдам Ромэрам), што і ў 1915 годзе, калі малады Кастусь Стаповіч пачынаў тут сваю сьвятарскую службу. Хіба Пагоня з новачаснай фрэскі імкліва ляцела кудысьці на захад, у бок недалёкай Вільні, мо таксама «ўспомніўшы Вострую Браму сьвятую». Тут Стаповіч-Сваяк імкнуўся да «высокага зразуменьня» з Богам і людам, таму ў камайскім храме каторы ўжо год ладзяцца Сваякоўскія паэтычныя чытаньні — пад духоўнай апекай мясцовага пробашча Яцэка Хутмана.

У старадаўнюю сьвятыню (год пабудовы — 1606-ы!) сабралася паўнютка людзей, якія сваім дыханьнем перамаглі дваццаціградусны мароз, што ўпарта шчаміўся ў раз-пораз адчыняныя дзьверы. Нават каменная падлога, ад якой спачатку веяла проста ледавіковай халадэчай, пад канец імшы адчувальна пацяплела.

А яшчэ вернікі грэліся словам — малітоўным і паэтычным, слухаючы выступы пастаўскіх і сталічных паэтаў, што перамяжоўваліся адпаведнымі нагодзе сьпевамі. Сталага веку мужчына, які нясьмела падцягваў «Магутны Божа», нахіліўся да сваёй суседкі па лаве: «Чула, Ядзя, што з амбону казалася?» І са смакам паўтарыў: «Не з чужога прымусу, / не крадком-патайком / беларус беларусу / мусіць быць сваяком!»

Проста на маіх вачах людзі раднелі душамі, як быццам у Камаях нанова ўзьнікаў той «Хаўрус сваякоў», які сто гадоў таму заснаваў у гэтых мясьцінах сьвятар-паэт, што праз сваё літаратурнае імя хацеў пасваячыцца з усімі суайчыньнікамі.

У той дзень у касьцёле шматкроць згадвалася і імя дасьледніцы Ірыны Багдановіч, якая фактычна паставіла Казімера Сваяка ў клясычны шэраг, падрыхтаваўшы для сэрыі «Беларускі кнігазбор» том ягонай спадчыны. Амаль аднachасова выдаўшы ў той самай сэрыі кнігу і другога паэтасьвятара — Вінцука Адважнага. А яшчэ ў полі яе пільнага зроку — сьвятары Адам Станкевіч і Леў Гарошка, славуты і дасьледаваны з усіх бакоў Адам Міцкевіч і таямніча-напаўлегендарная Адэля з Устроні, прадстаўнік княскага роду Міка-

лай Радзівіл Сіротка і «мужыцкі адвакат» Францішак Багушэвіч, зьбіральнік «беларускіх песьняў з-над Нёмна і Дзьвіны» Ян Чачот і амаль забытая ў Беларусі Зоф'я Манькоўская, якой Уладзіслаў Сыракомля (таксама «падапечны» Ірыны Багдановіч) са сьмяротнай лажніцы прадыктаваў наказ: «Сьпявай пасьля мяне на сіратлівай Літве».

Усе названыя — героі новай Ірынінай кнігі «Залатая горка», што выйшла ў сьвет у канцы мінулага году. Усе яны «людзі на ўзвышшы» — паводле трапнага вызначэньня аўтаркі. Дарэчы, згаданае выслоўе стала б добрай вобразнай характарыстыкай для ўсяго нашага народу, які даўно і відавочна вырас з купалаўскага «людзьмі звацца» і мележаўскага «людзі на балоце». Усіх іх (і ня толькі іх) Ірына Багдановіч далікатна пераводзіць па кладцы таго самага «высокага зразуменьня» з XX у XXI стагодзьдзе. О, як патрэбныя такія праваднікі сёньня, калі ў вірах каламутнае Леты патанаюць адзін за адным тыя, каму нашчадкі не захацелі кінуць выратавальны круг памяці. Чамусьці чытач наш у наступнае стагодзьдзе перакрочыў — нібы перасяліўся на другую плянэту, пакінуўшы як непатрэбшчыну вялізны наробак цэлых пакаленьняў.

Хто б сёньня ведаў пра віленскую паэтку-шляхцянку Габрыэлю Пузыню, якая ў сваім маёнтку арганізавала мастацкі салён, дзе бывалі Станіслаў Манюшка і Ўладзіслаў Сыракомля, калі б не пераклады і крытычныя тэксты Ірыны Багдановіч?

Хто б увядоміў для паспалітага чытача паэта зь Віленшчыны Антона Гарэцкага, які ў вершы «Бітва на Бярэзіне» кінуў нязвыклы для нашага

вуха папрок Напалеону: «Бог табе даверыў меч дзеля свабоды, / каб ты з гвалту й цемры вызваляў народы, / а не хапаў троны дзеля пыхі-славы, / паглядзі ж на вынік страшны і крывавы». У працытаваным вершы — уся трагэдыя ліцьвінаў-беларусаў на француска-расейскай вайне 1812 году, якую нашы школьныя падручнікі па савецкай інэрцыі працягваюць называць Айчыннай.

Гэй, аматары ваенных рэканструкцый, чаму вам так хочацца, надзеўшы напалеонаўскі ківэр, пастраляць з бутафорных гарматак? Ірына не страляе, але перакладзены ёю верш Гарэцкага — больш важкі за любое ядро.

А ў каго сёньня дайшлі б рукі сабраць зборы твораў згаданых ужо Казімера Сваяка і Вінцука Адважнага? Прычым з расьцярушанай пэрыёдыкі, якую самую трэба зьбіраць, бо ў беларускіх бібліятэках звычайна некамплекты. (Прынагодны дзякуй літоўскай Бібліятэцы Ўрублеўскіх, якая нядаўна аблічбавала і выставіла ў свабодны доступ больш за сотню заходнебеларускіх газэтаў і часопісаў.)

У Ірыны Багдановіч рукі даходзяць да ўсяго і да ўсіх. І калі чытаеш «Залатую горку», разумееш, якія гэта былі самаахвярныя і мэтаскіраваныя людзі — той жа Сваяк, той жа Адважны, а поплеч зь імі — і Андрэй Зязюля, і Янка Быліна, і Адам Станкевіч. Апошні меў такі аўтарытэт у народзе, што нават атрымаў прапанову ад савецкай улады ўзначаліць Каталіцкі касьцёл на тэрыторыі ўсяго СССР. Адмовіўся. Пра што агэнт *Мэфіста* (мянушка, дадзеная ксяндзом) неадкладна паведаміў у Маскву. Адам Станкевіч быў арыштаваны,

адпраўлены ў ГУЛаг, дзе і памёр. «*От ожирения сердца*», — як цынічна напісала ў сваім «*заключении*» тая самая ўлада, якая прапаноўвала ксяндзу паўнамоцтвы мітрапаліта.

Насёрбаўся лягернай баланды і ксёндз Язэп Германовіч, які цалкам апраўдана ўзяў сабе літаратурнае імя Вінцук Адважны. Трэба было сапраўды мець у душы адвагу, каб у страхотлівым 1937-м у фактычна прыгранічнай Вільні публікаваць такія іранічныя замалёўкі: «У Саветах — поўна воля, / а ў калгасах — сьвішча поле. / Мужык — пан! Ён толькі знае, / што машыну падганяе. / А машына, хай Бог крые, / аж пацее — землю рые! / Растуць дыні, як падушкі; / на вярбе — чырвоны грушкі… / Адным словам, ўсё як трэба, / не хапае толькі… хлеба». Аўтара верша саветы запомнілі, дапільнавалі ажно ў кітайскім Харбіне — і на 25 гадоў адправілі ў ГУЛаг. А чырвоныя грушы на беларускай вярбе расьлі яшчэ больш за паўстагодзьдзя…

«Залатая горка» Ірыны Багдановіч нагадвае мне «Залатую ружу» Канстанціна Паўстоўскага. Памятаеце — яе герой Жан Шамэт па майстэрнях ювэліраў вызьбірваў залатыя пясчынкі, каб выкаваць зь іх залатую ружу? Так і аўтарка «Залатой горкі» вышуквае залацінкі беларускай паэзіі там, дзе які-небудзь высакалобы крытык толькі грэбліва зморшчыцца. Даводзілася і мне неаднойчы чуць сэнтэнцыі накшталт «Ну колькі можна прыцягваць за вушы ў беларускую літаратуру польскамоўных паэтаў XIX стагодзьдзя і глядзець на іх праз павелічальнае шкло?» Маўляў, мова — радзіма паэта.

Што ж, літара — матэрыя ўпартая, але ж ёсьць яшчэ і дух — усё ж субстанцыя першасная, які, як вядома, лунае дзе захоча. Ён можа выказацца і праз чужую графічную сыстэму, як тое паказальна адбылося з Адамам Міцкевічам.

«У нас ёсьць свой Міцкевіч (Якуб Колас)», — чую я ад літаратурных пурыстаў.

Дык няхай будуць два Міцкевічы — навошта самазьбядняцца?

Канстанціну і турэмныя сьцены на радзіме дапамагалі «Новую зямлю» пісаць. А Адам у Парыжы нудзіўся, душыўся горкім выгнаньніцкім хлебам, нямеючы душой. І тады ўдзельніца паўстаньня 1830 году Габрыэля Гюнтар-Пузыня (так, тая самая) прыслала яму кварту вады зь Нёману, які фігураваў у міцкевічаўскіх санэтах як хатняя рака (domowa rzeko moja). І паэт напісаў «Дзяды».

У адной з паэмаў Ігара Шклярэўскага, чый беларускі дух таксама прасочваецца празь мярэжы чужой мовы, кожны п'е са сваёй ракі — Васіль Быкаў — зь Нёману, Віктар Казько — з Прыпяці, Віктар Астаф'еў — зь Енісею, акадэмік Дзьмітры Ліхачоў — з Ладагі…

І Ірына Багдановіч, як тая віленская шляхцянка, як магілёвец Шклярэўскі, дае напіцца нараджэнцам Беларусі зь іх родных рэк. Так мне бачыцца яе рознажанравая творчасьць, прадстаўленая на старонках «Залатой горкі».

Мушу трохі сказаць і пра тое, што мне бачыцца ў кнізе неабавязковым. Усё ж ня варта было аўтарцы вышукваць богаборніцкія матывы ў вядомым вершы Максіма Танка «Ave Maria». Гэта гімн прыгажосьці. Ну ня носяць каталіцкія (ды

і праваслаўныя) манашкі паранджу, і наўрад ці мужчынскія замілаваныя погляды іх зьневажаюць. І ўжо дакладна не абразіў нічыіх рэлігійных пачуцьцяў Анатоль Вялюгін у вершы «Сьпелы бор», параўнаўшы сасновы бор з храмам. Адзіная праблема ў гэтым вершы — тое, што ва ўсіх выданьнях у самы апошні момант разумныя карэктары абавязкова ўносілі праўку-памылку. У паэта было: «у сьпелым ле*ц*е сьпелы бор», а ў кнігах выходзіла: «у сьпелым ле*с*е сьпелы бор». Бор — у лесе, і абодва сьпелыя… На жаль, пракралася гэтая памылка і ў «Залатую горку».

Як прыкры недагляд у кнізе 2016 году выданьня чытаецца і сьцьверджаньне, што прыведзены там цалкам верш Ларысы Геніюш «Хрыстос васкрос, і сьвет прачнуўся…» «дасюль ня быў надрукаваны ў спадчыне паэтэсы». Ён даўно апублікаваны — у першым томе юбілейнага двухтамовіка (2010), у ліку 74 другіх твораў, што склалі цэлы вялікі разьдзел «З архіўнай схованні».

А каб не заканчваць гэтыя нататкі крытычнымі заўвагамі (па сутнасьці, дробязнымі), прыгадаю, як аднойчы мы зь Ірынай Багдановіч удзельнічалі ў міжнародным паэтычным фэстывалі ў Друскінінкаі (фотаздымак з таго дзейства трапіў і ў «Залатую горку»). Літоўскія, польскія і беларускія паэты чыталі вершы за столікамі ў кавярні, з чоўнаў на возеры, у старым храме… От, бубнілі сабе пад нос — асабліва такой дзіўнай манэрай чытаньня вызначаліся нашы суседзі (ня ў крыўду ім будзе сказана). І тут выйшла Ірына, сагрэла ўсіх сваёй сонечнай усьмешкай і павяла верш — як песьню над ракою, як малітоўную

фугу на нябачным аргане: «Бэз безупынны, бязьлітасны, бэз летуценны, / бэз як бязьмежжа памкненьняў, пачуцьцяў іграньня. / Бэз каралеўскі, сармацкі, бухмата-праменны, / бэз як прэлюдыя лета, фарцісіма траўня»... Закончылася чытаньне словазлучэньнем «трыумф урачысты», дык трыумф і наступіў — літоўцы з палякамі пляскалі і крычалі «бравісіма», як у тэатры.

А потым мы з Ірынай стаялі каля друскінінкайскага касьцёла ў жоўтай лістоце. А потым слухалі музыку ў музэі Чурлёніса, дзе я ўпершыню ў жыцьці проста фізычна адчуў тое, пра што ведаў даўно, не надаючы яму асаблівага значэньня. У чурлёнісаўскай гасподзе ноты ня проста прагучалі, яны нібы *пахваліліся* нам сваім высокім паходжаньнем: Do — Dominus (Бог), re — rerum (матэрыя), mi — miraculum (цуд), fa — familias planetarium (сям'я плянэтаў), sol — solis (сонца), la — lacteal via (Млечны шлях), si — siderae (нябёсы). І гэта было дзівосна. Музыка плыла, як Нёман за сьпічастым касьцёлам, і таксама наталяла-сілкавала, нібы кварта нёманскай вады — вялікага Адама...

*2016*

**Што́ знакавала няволя, якую трымалі ў Эгіпце цялесна Ізраілевы сыны? Ці ня нашу няволю душэўную?**

**Францішак Скарына**

## ТУРМА ЯК ДОМ ТВОРЧАСЬЦІ

Калі сплюсаваць усе тэрміны, адседжаныя беларускімі пісьменьнікамі ў турме, атрымаецца больш за тысячагодзьдзе.

Былі пісьменьнікі, якіх турма асабліва любіла. Я ніколі не забудуся, як мы, студэнты філфаку БДУ, прыйшлі ў госьці да паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Рухавы і ўсьмешлівы гаспадар парассаджваў нас на канапе, крэслах і зэдліках, а на заўвагу, чаму сам не прысядзе, адмахнуўся: «Ой, хлопчыкі, насядзеўся я. Пры паляках сядзеў, пры першых саветах сядзеў, пры немцах і пры другіх саветах таксама сядзеў...». Так і гутарыў з намі, успамінамі гулагаўскімі дзяліўся і свае знакамітыя «Зорачкі» сьпяваў — стоячы.

Былі творцы, якіх музы не пакідалі і за кратамі. Максім Танк неяк прызнаўся, што найлепш яму пісалася ў польскай турме.

А як тут не згадаць унука паўстанца 1863 году драматурга Каруся Каганца? Таго самага, які хадзіў па перадрэвалюцыйным Менску і даводзіў тым суайчыньнікам, хто звык жыць у «Северо-Западном крае», што «трэба Беларусь паднімаць». Дайце веры — ён сам прасіўся ў турму!

«Дарагая Ганулька! — пісаў ён жонцы Ганьне Кастравіцкай у ліпені 1910 году. — Дагэтуль яшчэ не дабіўся, каб мяне пасадзілі, але ўжо ў панядзелак абяшчалі пасадзіць». І ўжо ў наступным лісьце як пра нейкае дасягненьне: «Сеў у турму зь лёгкаю душою 26 ліпеня. Тутака і адзін паэт, што пісаў у «Нашу Ніву» і завецца Якуб. Будзь здаровенька».

Пасядзець у адной турме адначасова зь Якубам Коласам — гэта як знак лёсу. Але каб самахоць — на турэмныя нары?!

Аказваецца, Віленская судовая палата ў тым жа 1910 годзе прысудзіла Карусю Каганцу год зьняволеньня ў менскай турме. А тая стаяла перапоўненая. І мусіў пісьменьнік дамагацца ўласнай пасадкі, каб хутчэй выйсьці на свабоду і вярнуцца да гаспадаркі, у сваю шматдзетную сям'ю. Дамогся — і сеў. У турме пісаў вершы і маляваў ілюстрацыі да Коласавай чытанкі. Ператварыў вязьніцу ў дом творчасьці.

Дзіўна, чаму пры такіх задушэўных адносінах паміж пісьменьнікамі і турмой у Беларусі за доўгі час не зьявілася хоць бы сьціплага літаратурнага зборніка на турэмную тэму. Выходзілі ў сьвет паэтычныя анталёгіі пра хатынскую і чарнобыльскую трагэдыі, пра ўзьяднаньне Беларусі ў 1939-м, пра слаўных савецкіх правадыроў ды іхнюю

адзіна-кіроўную партыю, пра Новы год і старую Вільню, нават адмысловы зборнік «Верш і храм» выйшаў у Беластоку. Тэма турмы ніколі не была кнігаўтваральнай для айчынных анталягістаў.

І вось на 497-м годзе існаваньня друкарскага варштату Скарыны (дарэчы, і ён пабываў у турме!) такая кніга нарэшце зьявілася — анталёгія «Голас волі з-за кратаў». Склаў яе дыпляманы літаратуразнаўца Аляксандар Фядута, які пасьля Плошчы-2010 таксама апынуўся ў турэмнай камэры. Праўда, не забавіўся там, як і Скарына. Ня ведаю, ці навучыўся чаму-небудзь у вязьніцы наш слаўны першадрукар, а вось Фядуту турэмны досьвед відавочна дапамог у працы над анталёгіяй.

Васямнаццаць яе аўтараў — людзі розных прафэсій і жыцьцёвых зацікаўленьняў, якіх аб'яднала тое, што па волі лёсу суаўтарам кожнага стала турма. І рэдактарам ці, дакладней, цэнзарам — яна ж. Часьцей — строгім і прыдзірлівым, радзей — літасьцівым, з прыплюшчаным на імгненьне-другое вокам. Бо сачы ні сачы, усё роўна не дапільнуеш. Як пісаў клясык, «не скуеш толькі дум ланцугамі». Найбольш думаюць і марацць вязьні, вядома ж, пра свабоду, а пра што пішуць?

Спэцыяліст у электроніцы Ігар Аліневіч стварыў цэлы турэмны трактат — зь неабходнымі статыстычнымі зьвесткамі, ад якіх робіцца непамысна. Аказваецца, за дваццаць апошніх гадоў праз беларускую пэнітэнцыярную сыстэму прайшлі 1 мільён 200 000 чалавек — кожны другі працаздольны мужчына, а кожны пяты адбыў большы ці меншы турэмны тэрмін. Кожны другі і кожны

пяты! Калі гэта сапраўды так, то ёсьць усе падставы перайменаваць Рэспубліку Беларусь у якінебудзь Беларусьлаг, а па пэрымэтры дзяржаўнай мяжы паставіць вышкі з аўтаматчыкамі.

Журналістка Ірына Халіп апісвае яшчэ адзін, дагэтуль невядомы від катаваньняў, які зьявіўся ў арсэнале менскіх турэмнікаў. Да расьцяжак і «ластавак», да камэраў-халадзільнікаў, да кругласуткава запаленых лямпачак дадаліся яшчэ і пустапарожнія «дамскія» раманы, якія ў неабмежаванай колькасьці дастаўляліся ў камэры, калі іх насельнікі прасілі пачытаць клясыку. Начальнік СІЗА на пратэсты дасьціпна адказваў: «Вы ў турме, а якая ж турма без катаваньняў? Вось жанчынаў мы і вырашылі катаваць «дамскімі» раманамі».

Гісторык і паэт Алесь Кіркевіч, наадварот, даймаў турэмную адміністрацыю, выкарыстоўваючы ў зносінах зь ёю адметную беларускую лексыку. У сваіх аповедах ён з гумарам прыгадвае, як адзін прапаршчык літаральна шалеў, не знайшоўшы ў крапівоўскім слоўніку слова «шпацыр».

Праваабаронца Алесь Бяляцкі, для якога вязьніца стала сапраўдным домам творчасьці (за няпоўныя тры гады — дзьве дыхтоўныя кнігі), трапіў у анталёгію з успамінамі пра моладзевы нефармальны рух у Гомлі і Менску, пра сустрэчы з палкоўнікам КДБ Данілікам. О, гэта быў не звычайны палкоўнік! У 70-я гады ён узначальваў Ваўкавыскі аддзел дзяржбясьпекі, а сярод яго падапечных была сама Ларыса Геніюш. Відаць, добра апекаваўся таварыш палкоўнік апальнай паэткай, бо пасьля яе сьмерці быў пераведзены

па службе з райцэнтру адразу ў сталіцу. У геніюшаўскім архіве прысьвячэньняў Даніліку я пакуль не знайшоў, а вось Алесю Бяляцкаму сутнасьць тых спатканьняў у спэцпакоі Акадэміі навук удалося вызначыць проста афарыстычна: «Сустрэчу з гэбэшнікамі ў тыя часы можна параўнаць з сутыкненьнем з гадзюкай на вузкай сьцежцы пасярод дрыгвы».

Складаньне тэматычных анталёгій — справа ўвогуле рызыкоўная. Паколькі ў пэўны момант, шукаючы і знаходзячы ўсё новыя тэксты, складальнік можа страціць пільнасьць, і тады тэма пачынае дамінаваць над якасьцю тэкстаў. Тады анталёгія пухне, а яе мастацкая значнасьць мізарнее.

На шчасьце, Аляксандру Фядуту густ ня здрадзіў і яму ўдалося датрымаць плянку якасьці на належным узроўні, нягледзячы на аб'ём ягонай анталёгіі — амаль 1000 (!) старонак. І ў дынамічнай прозе Зьмітра Дашкевіча, і ў духаўздымных эсэ Паўла Севярынца, і ў шчырых да спавядальнасьці вершах Арцёма Грыбкова і Зьмітра Дразда, і ў задзірыстых польскамоўных дзёньніках Андрэя Пачобута — паўсюль адчуваецца тая адушаўлёнасьць, безь якое няма літаратуры. Гэта як у біблейскай гісторыі — была месапатамская гліна, а Бог душу ўдыхнуў — і зьявіўся на белы сьвет чалавек.

«Голас волі з-за кратаў» — радок Рыгора Барадуліна, адзінага аўтара анталёгіі, чый жыцьцёвы шлях з турмой шчасьліва разьмінуўся. Але паэт, быўшы ўжо цяжка хворым, палічыў сваім абавязкам знарок для анталёгіі напісаць верш.

Зьмешчаны на вокладцы, ён стаў своеасаблівым corona astralis (зорным вянком) гэтай унікальнай, першай у гісторыі беларускай літаратуры кнігі.

«Голас волі з-за кратаў» гучыць як неаспрэчны адказ на чарговае нэрвовае апраўданьне каго-небудзь з айчынных чыноўнікаў: «У Беларусі няма палітвязьняў!». Яны былі ўчора і ёсьць сёньня. І пішуць свае тэксты-сьведчаньні для новых анталёгій. У турме, якая для многіх зь іх неспадзявана стала домам творчасьці.

*2015*

**Словы, якія мы тут пераказваем, наразумляюць нас: што страціў непаслушэнствам першы Адам, другі вярнуў пакутай сваёю.**

**Францішак Скарына**

## ЦІ «ЭЎРАЗІЙСКІ» ПАЭТ АДАМ МІЦКЕВІЧ?

Падарункі ад палітыкаў належыць прымаць з асьцярогай. У многіх на памяці, як у 1991 годзе перад самымі Віскулямі прэзыдэнт Расеі Ельцын, выступаючы ў Вярхоўным Савеце Беларусі, падараваў Станіславу Шушкевічу «сымбаль братэрскага вызваленьня» — «Ахоўную грамату Воршы 1664 году». Помніцца і больш блізкі па часе падарунак — расейскі «Букварь», паднесены Папу Бэнэдыкту XVI малалетнім Колем Лукашэнкам пад апекай бацькі. Калі з роляй аршанскай граматы збольшага ўсё ясна, то пытаньне, навошта Папу буквар, так і засталося без уцямнага адказу. Малаверагодна, каб для яго знайшлося ганаровае месца ў славутай сваімі старадрукамі Ватыканскай бібліятэцы.

Чарговы неадназначны падарунак ад Аляксандра Лукашэнкі дастаўся расейскаму пісьменьніку,

рэдактару газэты «Завтра» Аляксандру Прахanаву. Як публічная асоба ён мае даволі скандальную рэпутацыю і ў абароне свайго палітычнага куміра — Сталіна — гатовы бесцырымонна растаптаць любога апанэнта. Чамусьці якраз Праханаў і мае даволі частыя аўдыенцыі ў кіраўніка Беларусі. Праўда, гэтым разам удзячнасьць апошняга матэрыялізавалася ў дзіўнаваты падарунак — альбом «Адам Міцкевіч на паштоўках канца XIX — пачатку XX стагодзьдзя», складзены вядомым беларускім філякартыстам Уладзімерам Ліхадзедавым. Як на маю думку, гэта ня вельмі паліткарэктны падарунак. Але ж у падараванага каня, як вядома, зубоў ня лічаць. Праханаў падзякаваў, назваўшы Міцкевіча «эўразійскім паэтам». На якой курасадні якой чубаткай выседжаная гэтая думка (цэлае літаратуразнаўчае адкрыцьцё!), маскоўскі госьць не патлумачыў.

Справа ў тым, што Адам Міцкевіч аніяк не надаецца на ролю песьняра эўразійскай прасторы. Паўднёвей за Крым (згадайма славутыя «Крымскія санэты») ён у сваёй творчасьці не апускаўся. У канцы жыцьця ўласная неўтаймоўная пасіянарнасьць прывяла яго ў Стамбул, на памежжа Эўропы і Азіі, дзе 26 лістапада 1855 году ён і памёр ад халеры. Нараджэнец Навагрудчаны і яе верны паэт, Міцкевіч і на ролю песьняра Польшчы ня вельмі надаваўся. Пісаў на нейкім «смаргонскім дыялекце» (з гледзішча варшаўскіх крытыкаў), ні дня ня жыў у абедзьвюх польскіх сталіцах — Кракаве і Варшаве, адмовіўся ў запеўным радку «Пана Тадэвуша» замяніць зваротак «Litwo» на «Polska».

Польскі паэт і прафэсар Юльян Пшыбась напісаў пра Міцкевіча цэлую манаграфію, але так і ня здолеў патлумачыць ужытае ў тым самым «Пане Тадэвушы» слова «сьвірэпа», пра што пакорліва прызнаўся ў лісьце да свайго сябра Янкі Брыля.

Тою анэкдатычнай сытуацыяй у міцкевічазнаўстве натхніўся паэт Канстанты Галчынскі, напісаўшы іранічны верш «Ахвяры сьвірэпы»: «Знайшлі ў паэме «Пан Тадэвуш» вобраз гожы: / «Сьвірэпа ў белай грэчцы бурштынам залачае…» / З-за той сьвірэпы ўсе прафэсары ў адчаі. / О, мілы Божа! / Спыталі ў пана Крыдля: / — А што гэта — сьвірэпа? / Крыдль адказаў: — Магчыма, / кабетанезачэпа? / Спыталіся ў Пігоня — / той думае і сёньня. / Шукалі ў энцыкляпэдыях, / у каталёгах і слоўніках, / у старапольскіх трагэдыях, / у статутах і гербоўніках, / гарышчы прайшлі і склепы — / нідзе не знайшлі сьвірэпы. / І ўжо прадавачкі ў краме, / кіроўцы і гаршкалепы / гаворяць: «Дзякуй, Адаме, / мы ўсе — ахвяры сьвірэпы!»*

Абвяшчаючы Адама Міцкевіча эўразійскім паэтам, расейскія дзеячы павінны спачатку добра падумаць. Ну, дальбог, на гэтую ролю больш надаецца хоць бы Алжас Суляйменаў, які спрытна падвёў азіяцкую базу нават пад такі бясспрэчны помнік усходнеславянскага пісьменства, як «Слова пра паход Ігаравы».

Што да Міцкевіча, то рэдактар газэты «Завтра», відаць, даўно яго не перачытваў. Верагодна, ягонае ўяўленьне пра паэта базуецца на звыклым расейскім стэрэатыпе: сябра Пушкіна, наведнік

* Пераклад аўтара.

салёну Зінаіды Валконскай, супрацоўнік канцылярыі маскоўскага генэрал-губэрнатара… Усё гэта так — былі і сяброўства, і бліскучыя салённыя імправізацыі, і служба. Але быў і іншы Міцкевіч — пасьля 1830 году, калі расейскія ўлады жорстка душылі Лістападаўскае паўстаньне ў Беларусі і Польшчы. Як адданы патрыёт свайго краю, паэт не спакусіўся акрайцам здрадніцкага хлеба і выступіў на баку паўстанцаў. Прызнаюся, выхаваны савецкай школай і такім жа ўнівэрсытэтам, дзе ўсё антырасейскае замоўчвалася, я яшчэ і ў 2002-м быў моцна зьдзіўлены некаторымі вершамі Міцкевіча, якія трапілі ў рэдагаваны мною кнігазбораўскі аднатамовік паэта. Вось, прыкладам, дзьве страфы з «Песьні жаўнера»: «Мне заснуць ужо няўзмогу, / рукі зброю возьмуць самі, / Кліч пачуць бы: «У дарогу! / Пойдзем біцца з маскалямі!» / І капралаў голас цьвёрды / чую як бы над палямі: / «Уставай! — ён кажа, горды. / — Пойдзем біцца з маскалямі!»*

А вось чатырохрадкоўе зь нізкі паэтычных афарызмаў «Думкі і заўвагі»: «Вясной працуюць косы, серп — восеньскай парою, / бяруцца за сякеры гаспадары зімою. / Пачаў касіць Касьцюшка, цяпер да мазалёў / малоцім, каб зь сякерай пайсьці на маскалёў».*

Ці чытаў такога Міцкевіча публіцыст зь імпэрскім сьвербам у адным месцы Аляксандар Праханаў? Прачытаў — і зьмірыўся? І прапаноўвае «песьняра Літвы» на ролю эўразійскага інтэгратара? Пабойцеся Бога, гаспадзін-таварыш, і пры-

* Пераклады К. Цьвіркі.

слухайцеся лепш да свайго паэта — Аляксандра Пушкіна, які не зьмірыўся і прысьвяціў свайму былому сябру зьедлівую водпаведзь: «Он между нами жил / средь племени ему чужого [...] / Его мы проводили. Но теперь / наш мирный гость нам стал врагом — и ядом / стихи свои, в угоду черни буйной, / он напояет. Издали / до нас доходит голос злобного поэта, знакомый голос!»

Чаму ж раптоўна мірны госьць і блізкі сябра стаў ворагам? Зразумела, найперш спрычыніліся да такой мэтамарфозы палітычныя погляды Пушкіна, якога ў сучаснай Расеі любяць называць «государственником». Але ці існавала насамрэч тое блізкае сяброўства, якое наўрад ці магчымае без раўнапраўных адносінаў?

Сучасьнік Пушкіна Восіп Працлаўскі пакінуў на гэты конт цікавыя ўспаміны — яны апублікаваныя ў нядаўна выдадзенай кнізе «Поляки в Петербурге в первой половине XIX века» (М., 2010). Міцкевіч і Пушкін пазнаёміліся ў 1828 годзе ў пецярбургскім доме сьвецкай львіцы Караліны Сабанскай. Далей — слова мэмуарысту: «Першыя прывітаньні Пушкін прыняў з даволі сухой, ледзь не пагардлівай ветлівасьцю. Міцкевіч паводле свайго звычаю быў просты і натуральны. Між імі завязаўся дыялёг пра літаратуру і мастацтва. Міцкевіч быў чалавекам рэдкай, энцыкляпэдычнай вучонасьці і агромністай начытанасьці; Пушкін жа, як вядома, быў з тых, якія, паводле яго ўласных словаў, «учились понемногу, чему-нибудь и как-нибудь». Міцкевіч пра гэта і не падазраваў і, адчуваючы, што многае ў размове падаецца Пушкіну няўцямным, спытаўся: «Вы чыталі

Гэзьліта?» — «Не.» — «А Шлегеля?» — «Не». — «А Сысмандзі?» — «Не». Тут Пушкін канчаткова разьвітаўся з пратэкцыйным тонам і неўзабаве сышоў… На трэці дзень ён першым прыехаў да Міцкевіча. І гэта быў не звычайны сьвецкі візыт. Пушкін, горды Пушкін, з усёй шчырасьцю, якае надае яму гонару, сказаў: «Вы не маглі падчас нашага спатканьня не заўважыць майго невуцтва ў тэорыі мастацтва. Не зьдзіўляйцеся гэтаму. Адчуваю, што мне трэба закончыць маё выхаваньне, — але ня ведаю, з чаго пачаць, за што ўзяцца. Дайце мне параду».

І геній Міцкевіч раіць генію Пушкіну чытаць Мільтана, Байрана, Шэксьпіра, раіць вывучыць ангельскую мову, што дазволіць пашырыць сьветагляд. Даводзілася Пушкіну прызнаваць і яшчэ адну перавагу Міцкевіча — яго імправізацыйны дар. Агульнавядомы факт: пасьля адной міцкевічаўскай імправізацыі тэмпэрамэнтны Аляксандар Сяргеевіч ускочыў і забегаў па пакоі з воклічамі: «Які геній! Які сьвятарны агонь! Што я побач зь ім?!».

І гэта прызнаньне «сонца расейскай паэзіі», паэта, які для расейцаў — «іхнае ўсё». Дык ці не пасьпяшаўся Аляксандар Праханаў з вылучэньнем кандыдатуры Міцкевіча на эўразійскі паэтычны сталец? Бо пры ягонай адпаведнай раскрутцы першае сонца можа лёгка паблякнуць, а гэта адчувальна саб’е расейскую імпэрскую пыху. А бяз пыхі гэтае Расея абыходзіцца пакуль не навучылася.

Аляксандар Праханаў прэзыдэнцкі падарунак па дарозе ў Маскву, вядома ж, пагартаў. І пабачыў

там дзясяткі паўстанцкіх паштовак з выявамі і вершамі Міцкевіча. Паштоўкі тыя расейскія карнікі знаходзілі ў кішэнях забітых беларускіх шляхціцаў, якія пад сьцягамі з Пагоняй змагаліся за незалежнасьць свайго краю. Магчыма, вярнуўшыся дамоў, Прахнаў знайшоў у сваёй бібліятэцы і перачытаў міцкевічаўскі верш «Сябрам маскалям», на які да гэтай пары так хваравіта рэагуюць расейскія інтэлектуалы, бо сябрамі ў тым вершы названыя адно павешаныя «высакародны Рылееў» і «паэт-змагар Бястужаў». Больш уважліва пазнаёміўшыся з творчасьцю Міцкевіча, наўрад ці Прахнаву альбо каму-небудзь зь ягоных аднадумцаў захочацца ўздымаць паэта на шчыт расейскай славы і ўпіхваць яго ў сумнеўныя палітычныя праекты.

Відаць, даволі няўтульна пачуваўся вялікі Адам паміж трох розных па велічыні Аляксандраў. Дык чаму ж у аднаго зь іх не знайшлося для другога іншага падарунка? Адказ на гэтае пытаньне можна пашукаць у самога Міцкевіча. Калі ў 1828 годзе ў Санкт-Пецярбургу выходзіла ў сьвет ягоная паэма «Конрад Валенрод», цэнзар выкрасьліў зь яе толькі адзін радок: «Ты раб, а адзіная зброя раба — хітрасьць». Хто хітрыць у нашым выпадку, пакажа час.

У бібліятэцы Адама Міцкевіча ў Парыжы зьберагаецца кніга, на палях якой дасьледнікі прачыталі зроблены рукой паэта надпіс па-беларуску: «На Божым судзе ўсім у с… будзе.» Па-мойму, для гэтай гісторыі лепшай кропкі мне не знайсьці.

*2012*

**Хто хаўрусуе са злом і ў ім мае спажытак сабе, — каб кары баяліся, каб трымалі сьмеласьць сваю у аброці, каб не давалі волі сваім пажадам, каб моцы нашкодзіць другім ня мелі.**

**Францішак Скарына**

## КАЛІ СВАЯ СЬВІТА, ТО ШЫТА-КРЫТА

Уявім сабе: сустрэліся на тым сьвеце Якуб Колас і Ўладзімер Жылка. Пагаварылі, паўспаміналі агульных сяброў і знаёмцаў, прыгадалі сваю першую сустрэчу на акадэмічнай канфэрэнцыі ў 1926 годзе ў Менску. А потым старэйшы клясык бярэ маладзейшага за гузік і сурова так пытаецца: «Дык хто напісаў верш «Беларускаму люду» — вы ці я?»

Зьбянтэжаны Жылка зь нездаровым румянкам на шчоках яшчэ больш чырванее: «Выбачайце, дзядзька Якуб, няма маёй віны ў тым, што верш гэты прыпісалі мне. Як сёньня памятаю, у дзень яго апублікаваньня ў газэце «Зьвязда» — 23 лістапада 1926 году — я прыходзіў у рэдакцыю на агледзіны, а неўзабаве быў прыняты туды літсупрацоўнікам. Тады ўвесь Менск гаварыў пра вашу поўху бальшавікам. Дык як я магу забыцца, хто аўтар?»

Колас моўчкі працягвае пакручваць гузік, і Жылка яшчэ больш бянтэжыцца. Зьбіваючыся, ён пасьпешліва расказвае народнаму паэту ўсё, што ведае пра верш «Беларускаму люду». Твор гэты друкаваўся ў зборніку «Водгульле» (1922) і яшчэ пасьпеў увайсьці ў першы Збор твораў Якуба Коласа ў двух тамах (1928). Затое потым ні ў сямітамовік (1952–1954), ні ў дванаццацітамовік (1961–1964), ні нават у чатырнаццацітамовік (1972–1978) верш гэты ня трапіў. Затое зь дзіўнай пасьлядоўнасьцю стаў зьяўляцца ў кнігах самога Жылкі — у «Творах» (1996) і ў зборніку «Матылі» (2009). Абедзьве кнігі выйшлі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» агульным накладам 8 000 асобнікаў і прызначаліся для школьных бібліятэк.

Уражаны эрудыцыяй маладога калегі, Колас пацяплелым позіркам зірнуў у будучыню, убачыў старшаклясьніка ля школьнай дошкі, які баявіта дэклямаваў: «Нас падзялілі — хто? Чужаніцы, / цёмных дарог махляры. / К чорту іх межы! К д'яблу граніцы! / Нашы тут гоні, бары…» Потым скіраваў зноў пасуровелы позірк на выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе ў зацішных кабінэтах сядзелі, унурыўшы галовы ў рукапісы, дыплямаваныя рэдактары і карэктары, адпусьціў гузік і працадзіў скрозь зубы сваё ўлюбёнае слоўца: «Хамуты!»…

Няўдзячная і рызыкоўная гэта справа — прыдумваць падобныя сустрэчы і гутаркі. Але я ўпэўнены: калі б два клясыкі сапраўды спаткаліся, то пра забраны ў аднаго і аддадзены другому верш загаварылі б абавязкова. Бо твор гэты знакавы для Коласа, ён быў водгукам паэта на драпеж-

ніцкі падзел Беларусі пасьля Рыскага міру ў 1921 годзе. Ды і ўвогуле, каму з паэтаў такое можа спадабацца? Вунь Янка Купала ва Ўладзімера Хадыкі за адзін пазычаны радок ганарар спаганяў, хай сабе і жартоўна. А тут цэлы верш (ды які!) аддалі іншаму аўтару.

Як жа такое магло стацца? Паспрабуем разабрацца. У падсавецкай Беларусі пабачылі сьвет дзьве кнігі Ўладзімера Жылкі — «Вершы» (1970) і «Пожні» (1986). Абедзьве былі складзеныя дасьведчаным знаўцам заходнебеларускай літаратуры прафэсарам Уладзімерам Калесьнікам. Абедзьве невялікія аб’ёмам, яны і не прэтэндавалі на ахоп усёй разнажанравай літаратурнай спадчыны паэта. Не ўзьнікала ў чытача асаблівых прэтэнзій і да нешматлікіх, але прыкметных купюраў у Жылкавых тэкстах — прыкладам, у паэме «Ўяўленьне». Што ж, «быў час, быў век, была эпоха», калі і выдаўцамі, і рэдактарамі, і аўтарамі апекавалася сумнавядомая ўстанова, званая Галоўлітам. Чытачы разумелі: раз купюра зробленая — значыць, так яно і павінна быць. Да пары да часу.

У пачатку 1990-х вершы Жылкі былі ўключаныя ў школьныя праграмы, і сама сабой паўстала праблема аднаўленьня тэкстаў. Я тады працаваў намесьнікам галоўнага рэдактара навукова-мэтадычнага часопісу «Роднае слова» і пры падрыхтоўцы твораў Жылкі да публікацыі зьвярнуўся да Калесьніка з канкрэтнай просьбай — аднавіць першапачатковы тэкст у «Вершах аб Вільні». Адказ шаноўнага прафэсара зьбянтэжыў: «А ці варта гэта рабіць?» Пасьля колькіхвіліннай тэ-

лефоннай дыскусіі Ўладзімер Андрэевіч пагадзіўся, што варта, і ў «Вершах аб Вільні» зьявілася адсутная ў ранейшых выданьнях страфа: «Ў жыдоўскім гета дробязь, клопаты / і аб Сыёне сны ў туман, / і гэткі ж сум, і тыя ж допыты / вядуць таполі базыльян».

Пасьля распаду савецкай імпэрыі і ператварэньня ўсемагутнага беларускага Галоўліту ў шараговае ўпраўленьне ва ўстанове пад назвай Дзяржкамдрук («Дзяржкумдруг», як часам называлі яе ў пісьменьніцкіх колах) насьпела новае выданьне твораў Жылкі. Калі яно ў 1996 годзе зьявілася, я найперш паглядзеў, ці на месцы тое адноўленае «жыдоўскае гета». Гета было на месцы, але ў вернутай з забыцьця страфе адзін з радкоў быў перайначаны. Мяне гэта насьцярожыла, я пагартаў кнігу і ўбачыў у ёй той самы верш Якуба Коласа «Беларускаму люду». Паўтаруся — убачыў у кнізе Ўладзімера Жылкі.

А паколькі гэтым разам усчынаць дыскусію не было з кім (Уладзімер Калесьнік, на вялікі жаль, ужо адышоў у лепшы сьвет), то я пайшоў у Акадэмічную бібліятэку і замовіў прыжыцьцёвыя выданьні Жылкі — «На ростанях» (1924) і «З палёў Заходняй Беларусі» (1927). Параўнаўшы іх тэксты з выдадзенымі ў «Мастацкай літаратуры», я быў проста шакаваны. У многіх вершах былі замененыя словы, некуды пазьнікалі асобныя радкі і цэлыя строфы, нейчаю зламыснаю рукою безь відочнай патрэбы была парушаная аўтарская пунктуацыя. Пасядзеўшы пару дзён у бібліятэцы, я налічыў 575 (!) брутальных умяшаньняў у аўтарскі тэкст. Прызнаюся, нічога падоб-

нага я раней ня бачыў. Пачаткоўцаў у рэдакцыях правяць больш ашчадна, чым гэта было зроблена з Жылкам у дзяржаўным выдавецтве!

Так, у вершы «Палімпсэст» на месцы «народнага духу» аднекуль узьнік «працоўны дух».

У вершы «Сёмуха» — «паўбітыя бярозкі» зрабіліся чамусьці «вясёлымі».

У вершы «Дарма, што значны раны…» словазлучэньне «душа Яе ў палон» загучала, як «душа ў яе палон». Гэта ў матэматыцы ад перамены месцаў складнікаў сума не зьмяняецца, а ў паэзіі зьмяняецца ня толькі сума, але і сэнс.

У вершы «Бяспынна, глуха процьма часу…» ня толькі «бяздушны» заход стаў «бясшумным», але і ўзьнік няўцямны нэалягізм «радзімей» на месцы слова «балючай».

У вершы «Летунковасьць, нерашучасьць…» словазлучэньне «юнаку было прынадна» няўзнак перакінулася ў «юнаку была прынада», а аўтарская «напеўнасьць» стала «няпэўнасьцю». (Як тут не прыгадаць пацешны выступ колішняга сакратара ЦК КПБ Гарбунова ў Саюзе пісьменьнікаў: «Броўка вершаў, напеўна, не напіша».)

У вершы «Каму жыцьцё — атруты келіх…» пяшчотныя «абдоймы» раптоўна зьмяніліся на ваяўнічыя «абоймы», а слова «капец» прадказальна ператварылася ў «канец».

У вершы «Наш лёс, бы кат, з рукой забойнай…» вой, які да гэтай пары стаяў «цьвёрдакаленна», раптам паўстаў «цьвёрдакаменна», выклікаючы ў чытацкім уяўленьні хіба выяву якога-небудзь выкапнёвага Шклоўскага ідала, а не адважнага ваяра.

У адным з найскладанейшых вершаў Жылкі, у «Альбігойцы», «авечая цнота» зрабілася «адвечнай», што дарэшты зьбівала з панталыку чытача, якому і так нялёгка было разблытваць вузлы асацыяцыяў і гістарычных аналёгіяў, якімі літаральна перанасычаны твор.

Не пашанцавала і паэме «Ўяўленьне». Яе асобныя строфы пасьля выданьня ў «Мастацкай літаратуры» ўвогуле патрабавалі расшыфроўкі. Прыкладам, як разумець наступныя радкі: «Шырокаю тропай / ў час гэты з пакус / на мапу Эўропы / ўзышоў беларус?»

Зь якіх-такіх «пакус» на эўрапейскую мапу вылез беларус, мабыць, добра-такі пакусаны? Глядзім у зборнік «З палёў Заходняй Беларусі», і ўсё становіцца зразумелым — «ў час гэты спакус», а значыць, у спакусьлівы час.

Праз колькі строфаў — новая загадка: «Мой дух не барух». Разгублены чытач гатовы лезьці ў філязофскі слоўнік, мо што падкажа той Барух — па прозьвішчы Сьпіноза. Але Сьпіноза не падкажа, бо наўрад ці што кеміць у беларускай паэзіі. Падкажа той, хто зірне ў прыжыцьцёвае выданьне, проста трэба чытаць: «Мой дух не патух».

Не абмінула ліхая доля і найвядомейшы Жылкаў твор — «Тастамэнт», поўная назва якога, дарэчы, гучыць, як «Тастамэнт, або Духоўніца, адпісаная Ўладзімерам з Адама і Тацьцяны сынам Жылкавым люду паспалітаму на карысьць і спажытак, пісьменству прыгожаму на росквіт і аздобу». Гэткі падзагаловак вымагаў бездакорнага пісьма, а чытач зь першых радкоў пачынаў

спатыкацца аб няўцямныя словазлучэньні «гуляў у бор» (замест «ганяў»), «баяй бясконца» (замест «буяй»), «спачыцьмуць спакой» (замест «сачыцьмуць»).

Ня надта давяраючы «Беларускай газэце», дзе «Тастамэнт» быў упершыню надрукаваны 6 жніўня 1942 году Яўхімам Кіпелем, я праз добрых людзей зьвярнуўся да сына публікатара Вітаўта Кіпеля, дырэктара Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. І неўзабаве атрымаў ад яго копію аўтографу. Параўнаў тэксты — аўтэнтычны нью-ёркскі і менскі — і налічыў ажно 35 памылак і недакладнасьцяў!

На гэтым мае сумныя «адкрыцьці» не спыніліся. Зь некаторых твораў па невядомай прычыне былі выкасаваныя цэлыя строфы. Так, у вершы «Ўзысьці на вогнішча натхненьня…» не ставала чатырохрадкоўя: «Перадбачаць далёкім вокам / і зь нестрыванай яснатой / над хаосам і ночы змрокам / ўладаць гармоньні глыбінёй».

Але найбольш пацярпеў верш «Антону Навіну», скарочаны напалову — зь дзесяці строфаў у кнігу трапілі толькі пяць. Абсалютна незразумела, зь якой прычыны, такое ўражаньне, быццам проста не хапіла месца на старонцы.

На фоне такога складальніцка-рэдактарскага самаўпраўства адзін радок, што прапаў у вершы «Будзь благаслаўлёна, мая маладосьць…», здавалася б, невялікая бяда. Але названы верш унікальны ў беларускай паэзіі. Яшчэ крытык Антон Адамовіч у заўвагах да нью-ёркскага выданьня Жылкавых «Твораў» (1955) выказаў думку, што страфічная схема гэтага верша вынайдзена самім аўта-

рам, і прапаноўваў назваць новы від верша ў гонар паэта *жылкай*.

І трэба сказаць, што *жылка* прыжылася-такі ў беларускай паэзіі. Прынамсі, мне вядомы адзін верш, напісаны з выкарыстаннем аналягічнай рыфмоўкі. Гэта «Прыйсьце» (1958) Міхася Кавыля. На мой пісьмовы запыт паэт паведаміў, што ён насамрэч сьвядома напісаў менавіта *жылку*. А яшчэ дадаў: выкінуць зь яе адзін радок — значыць разбурыць усю архітэктоніку. Гэта тое самае, як у клясычным санэце пакінуць толькі трынаццаць радкоў.

Скрэсьліўшы папраўкамі зьнявечаныя ў «Мастацкай літаратуры» тэксты Ўладзімера Жылкі, я цьвёрда пастанавіў выдаць іх у аўтэнтычным выглядзе. І ў 1998 годзе Жылкаў том выйшаў у клясычнай сэрыі «Беларускі кнігазбор».

Здавалася б, усе наступныя выдаўцы, складальнікі і рэдактары не паленуюцца пры патрэбе ў яго зазірнуць. Паленаваліся. Праз пэўны час тая ж «Мастацкая літаратура» выдала чарговае выбранае шматпакутнага Жылкі пад назвай «Матылі». І што там убачыў чытач? Той жа верш Якуба Коласа «Беларускаму люду», той жа зьнявечаны «Тастамэнт», таго ж невядома кім «пакусанага» беларуса, таго ж «цьвёрдакаменнага» воя і дзясяткі іншых згаданых і не згаданых раней памылак. Плюс да ўсяго Жылку прыпісалі яшчэ адзін чужы верш — «Пры Roentgen» чэскага паэта Іржы Волькера…

Пры гэтым складальнік-інкогніта (імя ў выходных дадзеных не пазначана) не пасаромеўся напісаць, што кніга друкуецца паводле «кніга-

збораўскіх» «Выбраных твораў». Як складальнік і аўтар прадмовы да таго выданьня я мушу канстатаваць: гэта хлусьня. Скажу болей: выдавецтва «Мастацкая літаратура», так свавольна (тройчы!) абышоўшыся са спадчынай Жылкі, зьняважыла ягоную памяць і засьведчыла прафнепрыгоднасьць сваіх супрацоўнікаў.

Рэдактар, які ня можа адрозьніць Коласа ад Жылкі (паэтаў абсалютна непадобных), і карэктар, які пакутуе на моўную глухату, адназначна заслугоўваюць прафэсійнай дыскваліфікацыі. Такіх на гарматны стрэл нельга дапускаць да выдавецтва. Але ў «Мастацкай літаратуры» лічаць іначай. У выдавецтве аніхто аніякага спагнаньня за ўчыненае не атрымаў. Атрымалася, як у той прыказцы: калі свая сьвіта, то шыта-крыта. А калі камусьці сьвярбіць, то няхай ён і чухаецца...

Уладзімер Жылка, якога крытыка 20-х гадоў называла другім Багдановічам, не вярнуўся са сталінскага ГУЛАГу. Ён памёр ад тубэркулёзу 1 сакавіка 1933 году ў горадзе Уржум Кіраўскай вобласьці. Праз трыццаць гадоў — у красавіку 1961-га — Вярхоўны Суд БССР рэабілітаваў паэта. Але рэпрэсіі супраць яго, як выглядае, працягваюцца і ў нашыя дні. У сумнавядомыя 30-я паэтаву далікатную лірыку нявечыла бальшавіцкая цэнзура, нацдэмаўскую крамолу вышуквалі ў ёй крытыкі Тодар Глыбоцкі і Лукаш Бэндэ. Сёньня іх ролю, як бачым, выконвае дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура».

*2012*

**Як золата пералітоўваецца агнём, каб стаць яшчэ залацейшым і каб ня мець ніякай заганы ў сабе і ніякай ва́ды, — гэтак і Божыя людзі, каб стаць сьвятымі, пералітоўваюцца агнём вялікай пакуты.**

**Францішак Скарына**

## УКРАІНСКІ ФРОНТ БЫКАВА

«Вайна Васіля Быкава так і не пакінула ў спакоі, ён да апошніх дзён заставаўся ваяром», — гаворыць Юры Мушкетык. З адным са старэйшых ва Ўкраіне пісьменьнікаў мы сядзім у гатэлі «Дніпро» ў Чаркасах, дзе праходзіць міжнародны паэтычны фэстываль, прысьвечаны 200-м угодкам Тараса Шаўчэнкі. Толькі што госьці сьвята на двух аўтобусах вярнуліся з Халоднага Яру, дзе Юры Міхайлавіч у свае восемдзесят пяць пад сьпякотным сонцам з паўгадзіны расказваў пра антыбальшавіцкую Халоднаярскую рэспубліку, якая за кароткі час змагла паставіць «пад ружжо» 15 тысячаў змагароў. Пасьля яркіх сонечна-сланечнікавых краявідаў хочацца пабыць у паўзмроку, у нумары не гарыць сьвятло. Прыцьмела і зорка Героя Ўкраіны на грудзях майго суразмоўцы.

Быкава мы прыгадалі з тае прычыны, што праз нейкую сотню кілямэтраў на поўдзень — Кіравaградчына, дзе ён ваяваў і адкуль у вёску Бычкі на Віцебшчыне ў 1944 годзе прыйшла «пахаронка». У пасёлку Вялікая Севярынка да гэтай пары стаіць помнік загінулым, на якім сярод іншых пазначана і прозьвішча Быкава, а ў мясцовай школе створаны невялікі быкаўскі музэй, якім апякуецца былая настаўніца Лізавета Сергіенка.

Раней я думаў, што ў выпадку з «пахаронкай» штабісты нешта наблыталі ў ваеннай неразьбярысе. Але нядаўна дасьледнік Сяргей Шапран апублікаваў архіўны дакумэнт — сьпіс загінулых у тым жорсткім баі пад Вялікай Севярынкай. Дык там усё па-ваеннаму коратка і ясна: камандзер стралковага ўзводу лейтэнант Васіль Уладзімеравіч Быкаў загінуў 10 студзеня 1944 году, паведаміць бацьку… І пячатка з подпісамі камандзера і начштабу палка — капітана Перапёлкіна і маёра Марозава.

Сам Быкаў у «Доўгай дарозе дадому» прыводзіў дзьве вэрсіі свае «гібелі». Цікаўных адсылаю да гэтай кнігі, безь якое шмат што ў быкаўскім жыцьцяпісе зразумець складана. Зрэшты, у лёсе геніяў выпадковасьцяў не бывае. Нейкі знак звыш быў і ёсьць і ў той даўняй «пахаронцы», і ў тым помніку на Кіравaградчыне, на якім так і засталося прозьвішча пісьменьніка. Здаецца, ён і не прасіў нікога, каб сьпіс той падкарэктавалі, ня бачыў у тым праблемы. Можа, верыў у народную прыкмету, паводле якой пахаваны пры жыцьці мусіць жыць доўга.

Раптоўна, як нейкая палёгка, да нас з Мушкетыкам прыходзіць выснова, што Быкаў загінуў за Ўкраіну. Хай сабе і сымбалічна. Не за неабсяжную «родину», а менавіта за Ўкраіну. Бо за сьпінай лейтэнанта Быкава быў украінскі стэп, была Вялікая Севярынка, якую штурмавалі нямецкія танкі. Канкрэтна ён абараняў лапік менавіта ўкраінскай зямлі, а не прасторы і хімэры савецкай імпэрыі. Самы галоўны ваенны фронт Быкава быў усё ж украінскім.

Мушкетык са шкадаваньнем прызнае́цца, што ня ведае новай прозы Быкава, ягоных прыпавесьцяў. А яны, тыя прыпавесьці, ляжаць у маім нумары на стале! Ды яшчэ па-ўкраінску. У перакладзе Дзьмітра Шчарбіны з Крывога Рогу. Кніжку я прыхапіў з сабой са спадзевам, што ў чарадзе сьвяточных імпрэзаў знойдзецца акно, знойдуцца яшчэ ахвотнікі, і мы зьезьдзім у тую Вялікую Севярынку. Нейкая сотня кілямэтраў… На жаль, не знайшлося ні акна, ні ахвотнікаў.

Але кніжка ўсё ж нездарма прыехала ва Ўкраіну. Неўзабаве мой суразмоўца ўжо разглядае, узважвае яе на далоні. «Василь Биков. Байки світові. Передне слово — Ігор Ольшевський, перекладач Дмитро Щербина, видавництво «Янтар», книжку надруковано в кількісті 60 нумерованих примірників…»

Мушкетыку ажно ня верыцца, што Быкава зусім нядаўна выдалі ў Луганску, які стаў адным з цэнтраў сэпаратызму, вакол якога ідуць поўнамаштабныя ваенныя дзеяньні з выкарыстаньнем баявых самалётаў і танкаў.

Атрымалася, Быкаў нібы ізноў змабілізаваны на ўкраінскі фронт. У Другую ўсясьветную ў ягоным распараджэньні быў узвод. На гэтай вайне ягоныя салдаты, ягоная нацыянальная гвардыя — 60 кніжак. Дзе яны служаць сёньня? У бібліяфільскіх калекцыях, на якія праз патрушчанае шкло стэляжоў вогненна дыхнула вайна? Ці ў вайсковых заплечніках тых луганцаў, якія змагаюцца за адзіную і непадзельную Ўкраіну? А можа, «Байки світові» гартае цяпер, прысеўшы ў акопе, які-небудзь маладзён, які ўпершыню знаёміцца з творчасьцю Васіля Быкава. На вайне чытачы таксама трапляюцца. Памятаеце радавога Фішара з «Жураўлінага крыку»?

Юры Мушкетык шматкроць сустракаўся з Быкавым, калі быў старшынём украінскага Саюзу пісьменьнікаў. Добра ведае ранейшую творчасьць свайго амаль раўналетка, лічыць яе актуальнай да сканчэньня веку («Сотнікаў» — твор на вечную тэму»). А ці актуальныя быкаўскія прыпавесьці? Я раю прачытаць «Насарогі ідуць» — пра тое, як адно племя трапіла пад прыгнёт другога, больш магутнага, якое адбірала ў сваіх суседзяў зямлю, брала ў палон людзей. Прычым зямлю захоплівала паступова, па частках. І паланіла таксама ня ўсіх адразу — спачатку забірала, як выкуп, самых прыгожых дзяўчат. Племя насарогаў дзейнічала нахабна, парушаючы ўсе дамовы, аж пакуль не наткнулася на адчайны, самаахвярны адпор…

Юры Міхайлавіч чытае «Насарогаў» уголас, хваліць майстэрства перакладніка. А я пра яго што магу сказаць? Ведаю, што Дзьмітро Шчарбіна — карэнны крыварожац, які ніколі ня быў

у Беларусі. Мову беларускую вывучыў, чытаючы «Слова пра паход Ігаравы» і «Вожык» ды слухаючы Радыё Свабода. Перакладаць зь беларускай мовы на ўкраінскую і наадварот пачаў гадоў сем таму — пунктам адліку тут прыпавесьць Быкава «Тры словы нямых», надрукаваная ў кіеўскім часопісе «Всесвіт».

Свае пераклады з Рыгора Барадуліна, Ліны Кастэнкі, Анатоля Вярцінскага, Рыгора Крушыны, Уладзімера Някляева Дзьмітро публікуе на сваёй старонцы ў сеціве: http://dmytrosherbyna.blogspot.com. Пазнаёміліся мы зь ім завочна, праз «Фэйсбук», год таму. І з тае пары я не перастаю захапляцца яго перакладніцкім талентам, яго літаратурным густам, яго адчуваньнем нашай мовы (калі браць пад увагу адсутнасьць спэцыяльнай адукацыі).

Дзьмітро з маленства мае сур’ёзныя праблемы са зрокам, лекары забараняюць яму праседжваць за кнігай ці кампутарам, а ён усё роўна чытае, перакладае і папулярызуе ва Ўкраіне беларускую літаратуру, увядомлівае ў байнэце ўкраінскую. Самаахвярнік, якія цяпер сустракаюцца надзвычай рэдка.

Адны перакладнікі пільнуюцца літары, другія — стараюцца захаваць дух твору. Дзьмітро Шчарбіна ў сваіх перакладах з Быкава здолеў дапільнаваць і літару, і дух — быкаўска-беларускі. У працэсе перакладу да кожнага сумнеўнага слова ён падбірае цэлы ружанец сынонімаў, і гэта так нязвыкла ў нашым пасьпешлівым сьвеце.

Разьвітаўшыся з Мушкетыкам, я выходжу на балькон сьцішэлага ўжо гатэлю і думаю пра

ўкраінскі складнік у лёсе Быкава. Украіна прызвала яго, учарашняга навучэнца Віцебскай мастацкай вучэльні, на Другую ўсясьветную. Украіна яго «пахавала» як героя, ушанавала помнікам. Ва Ўкраіне быў створаны першы музэй Быкава. Украінка Ларыса Шапіцька зьняла самы вядомы ў сьвеце фільм паводле Быкава — «Узыходжаньне». Восем з шаснаццаці быкаўскіх аповесьцяў перакладзеныя на ўкраінскую мову. І сёньня Ўкраіна выдае Быкава, прычым не ў зацішным Львове, а ў прыфрантавым зрусіфікаваным Луганску, на перадавой новай вайны. А значыць, «баец Быкаў» зноў атрымаў позву на ўкраінскі фронт, як некалі ў сорак першым. Бо — насарогі ідуць…

*2014*

**Паклаў цар Пталямэй Філядэльф тыя кнігі, якія яны пераклалі, у сваю кнігоўню між іншых шматлікіх кніг — якіх мелася там сорак тысяч і нават больш.**

**Францішак Скарына**

## ЗЬ БІБЛІЯТЭКАЙ НА ГАРОДЗЕ

Сустрэчы ён любіў прызначаць «на сваім гародзе» — у Нацыянальнай бібліятэцы. Спачатку я думаў, што гарод ужываўся як мэтафара, як вобраз уробленага палетка, зь якога дбайны гаспадар заўжды чакае багатых ураджаяў. Але аказалася, што гарбузападобны гмах бібліятэкі сапраўды вырас на колішнім гародзе Ўладзімера Содаля, і там, дзе сёньня ў зацішных чытальнях шалясьцяць кніжныя старонкі, шаноўны Ўладзімер Ільліч, чый дом узвышаецца праз дарогу, садзіў у свой час памідоры і агуркі.

Ён гэтым фактам нібы трошкі і ганарыўся. А і папраўдзе, ня кожнаму ўдаецца на ўласных сотках вырасьціць гэткі незвычайны «ўраджай». Падпісваючы мне кнігу «Жупранская старонка», аўтар нават зрыфмаваў: «Як я рады, як я рады

/ сёньня і давеку, / што іду ў бібліятэку, / як на свае грады».

Але сустракацца з Уладзімерам Содалем было цікава ў любым месцы. Напрыклад, у рэдакцыі часопіса «Роднае слова», дзе я працаваў намесьнікам галоўнага рэдактара і куды Ўладзімер Ільліч прыносіў свае дасьледніцкія артыкулы пра Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янку Купалу, Ядвігіна Ш. Вялікія, падрабязныя, яны звычайна друкаваліся з працягам.

Увогуле, каб прыйшлося адным словам вызначыць сутнасьць Содаля-дасьледніка, то словам гэтым мне бачыцца *падрабязнасьць*. Ён быў надзвычай падрабязны, у дасьледаванай тэме яго цікавіла ўсё — буйніцы і драбніцы. Калі Ўладзімер Ільліч пісаў пра Багушэвіча, то наводзіў сваё дасьледчыцкае павелічальнае шкло на ўсіх яго сямейнікаў, сяброў, знаёмых, калегаў па працы, суседзяў… Ён мусіў сваімі рукамі абмацаць кожны камень у падмурках багушэвіцкіх сядзібаў. Ён мусіў ведаць усе легенды і быліцы з усіх сьвіранска-кушлянска-жупранскіх ваколіцаў. Ён мусіў запісаць тыя песьні, якія мог чуць аўтар «Дудкі беларускай».

Помніцца, я прыгадаў у размове сон, які прысьніўся мне ў Кушлянах. Неяк засьпела нас зь сябрамі ноч у дарозе, і дырэктар Багушэвічавай сядзібы Алесь Жамойцін пусьціў нас у музэйную прыбудоўку. Перад начлегам мы тады за поўнач прагаварылі пра Багушэвіча, пра яго ўдзел у паўстаньні 1863 году. Ён мне і прысьніўся: схіліўся нада мной, варухнуў вусамі-крыламі і сурова запытаўся: «Чаго ляжыш?».

Уладзімер Ільліч прымусіў запісаць сон самым падрабязным чынам і нечакана для мяне зьмясьціў яго ў адной са сваіх кніг. Прызнацца, пабыць суаўтарам Содаля (хоць на паўстаронцы) для мяне — вялікі гонар.

Ведаю, што ня толькі я мусіў занатоўваць нешта на ласкавую каманду Ўладзімера Ільліча. Даймаў ён і клясыкаў. Неяк па запрашэньні Ірыны Міхайлаўны Быкавай быў я на кватэры Васіля Ўладзімеравіча, з дазволу гаспадыні агледзеў кабінэт пісьменьніка, дзе ўсё засталося ў нязьменным выглядзе. На пісьмовым стале зьверху ляжаў кароценькі ліст ад Содаля, які Ірына Міхайлаўна дазволіла мне сфатаграфаваць.

Ліст быў, вядома ж, пра Багушэвіча. Думаю, ён прыйдзецца да месца ў гэтых нататках: «Шаноўны Васіль Уладзімеравіч! Часта лаўлю сябе на думцы: я жыву з Вамі ў адным часе, у адной эпосе. Але да гэтае пары ні разу з Вамі блізка не размаўляў. Гэта ж калі-небудзь будзе недаравальна для мяне. Карыстаючыся нагодаю, хацеў бы спытацца ў Вас пра самае для мяне сакрамэнтальнае: што для Вас значыць Багушэвічава постаць? Уладзімер Содаль, дасьледнік Багушэвічавай спадчыны. 24. 09. 2002 г.».

Невядома, што адказаў свайму карэспандэнту народны пісьменьнік (мо ў чыімсьці архіве і знойдзецца той адказ). Маю ўвагу ў тым лісьце-просьбе прыцягнулі словы «самае для мяне сакрамэнтальнае». Каб жа кожны дасьледнік з такім пачуцьцём вывучаў свой пэрыяд! А то часам і чытаць агідна, як сёй-той пачынае адчыняць «цёмныя каморы белліту», выцягваючы на сьвет

белы… Ды Бог зь імі, з тымі каморамі, не пра іх тут гаворка.

Раздаючы свае дасьледніцкія заданьні, Уладзімер Содаль умеў быць тактоўна-настойлівым. Ён напісаў безьліч лістоў-запытаньняў Зосьцы Верас, якая сапраўды «помніла ўсё» (нездарма такую назву атрымала адна зь яе кніг) і была для дасьледніка невычэрпнай першакрыніцай. На схіле веку Людвіка Антонаўна недабачвала і прасіла зяця Лявона Луцкевіча перапісваць лісты Содаля вялікімі літарамі, называючы іх «уколамі падбадзёрваючага леку».

З усіх сваіх шматлікіх карэспандэнтаў Зоська Верас ці не найбольш шанавала менавіта Ўладзімера Содаля, цікаўнага да гісторыі і чуйнага да мовы (ён жа яшчэ і тэлеперадачай «Роднае слова» апекаваўся), а таму ўсе яго заданьні старалася выканаць у любым выпадку.

Быў сярод віленскіх знаёмцаў Багушэвіча нейкі Крагельскі — вось і ўзялася Людвіка Антонаўна на просьбу свайго маладзейшага сябра высьветліць яго асобу. Колькі намаганьняў ёй гэта каштавала, відаць па зборніку яе мэмуарна-эпісталярнай спадчыны «Пакуль рука пяро трымае» (2015). Вось некалькі цытатаў адтуль: «Што тычыцца Крагельскага, то гэтае прозьвішча мне круціцца, круціцца, круціцца ў памяці… але нічога не выходзіць. Калі Крагельскага ведаў Багушэвіч, ведаў Ян Карловіч, то напэўна ведала яго і Ажэшка. У Варшаве ёсьць таварыства milosników Orzeszkowej. Па гэтай дарозе, можа, куды і зайдзем» (ліст ад 5 лістапада 1977 г.). Праз пэўны час — вяртаньне да тэмы: «Што да Крагель-

скага, то з Варшавы абяцаюць. Але яшчэ нічога няма. Мне ўсё здаецца, што гэта быў адвакат. Пачакаем — пабачым». Гэты ліст напісаны раніцай 4 сьнежня 1977 году, а ўжо вечарам у Менск пішацца другі ліст з тым жа клопатам: «Мой знаёмы студэнт меў каляжанку Крагельскую, але ня ведае, дзе яна дзелася. Я і мая прыяцелька ў Варшаве ламаем сабе галовы: абедзьвюм прозьвішча Крагельскі здаецца знаёмым. Але скуль?». Праходзіць год, але клопат не сыходзіць з парадку дня: «Аб Крагельскім дагэтуль нічога ніхто не даведаўся. Я на ўсялякі выпадак напісала ў гэтай справе гісторыку Аляксандры Бэргман…»

Мне здаецца, што і там, у абавязковай для ўсіх нас тагасьветнай Беларусі, Уладзімер Ільліч і Людвіка Антонаўна шукаюць таго таямнічага Крагельскага. А як знойдуць — абавязкова паведамяць сучасным багушэвічазнаўцам.

І гэта толькі адзін эпізод гісторыка-літаратурных пошукаў Уладзімера Содаля. А колькі іх, такіх эпізодаў, датычных цьмяных месцаў у біяграфіях нашых Пачынальнікаў, было за цэлае жыцьцё! Нават сябруючы з чалавекам-архівам Зоськай Верас, а пазьней займеўшы найбагацейшую бібліятэку на ўласным гародзе, дасьледнік нярэдка мусіў дашуквацца патрэбных зьвестак гадáмі.

Заўжды прыемна было бачыць Уладзімера Ільліча на розных беларускіх імпрэзах — у Ганцавічах на Дні беларускага пісьменства, у Ракуцёўшчыне і Вязынцы, на менскіх літаратурных вечарынах. Ён прымошчваўся навідавоку, раскладаў свае кніжачкі. З зацікаўленымі вёў нетаропкія

размовы, мог пра нейкае адно слоўца цэлую лекцыю прачытаць. Часам — трымаў абарону, калі да імправізаванага прылаўка падыходзіў які-небудзь прыхільнік «русского мира». А аднойчы нават у пастарунак трапіў, бо ня меў ліцэнзіі на кнігагандаль (як ня меў яе і Багушэвіч, але ў яго быў сябра Зыгмунт Нагродзкі, які прадаваў «Смык беларускі» ў сваіх крамах разам зь сячкарнямі).

«Жупранская старонка», «Сьвіранскія крэскі», «Кушлянскі кут», «Сьцежкамі Мацея Бурачка»… Я люблю перачытваць напісаныя зь любоўю *падрабязныя* кнігі Ўладзімера Содаля, яны і для мяне — «укол падбадзёрваючага леку». Ён сеяў сваё зерне зь цьвёрдай перакананасьцю — узыдзе. І яно абавязкова ўзыдзе, і ўжо ўзышло, як той бібліятэчны гмах на ўробленай нястомнымі рукамі дзялянцы-гародзе.

*2016*

**Адзін многіх цароў перамог, а другі — усё сатанінскае царства.**

**Францішак Скарына**

## ВІЦЕБСКІ ДЫСКАМФОРТ КНЯЗЯ АЛЬГЕРДА

Помніка князю Альгерду віцябляне чакалі чатыры гады. І чакалі б яшчэ сорак чатыры, каб ня «новая палітычная сытуацыя», як выказваўся самы хамэлеоністы герой беларускай сцэны Мікіта Зносак. Вось жа ўмеў чалавек прыстасавацца — і да палякаў, і да немцаў, і да бальшавікоў, і да БНР. Праўда, трапляў часам у вартыя жалю становішчы, і гледачы ў зале ня ведалі, плакаць ім ці сьмяяцца. Што ж, на тое яна і трагікамэдыя, як вызначыў жанр сваіх «Тутэйшых» Янка Купала.

«Новую палітычную сытуацыю» для кіраўніцтва Беларусі гэтым разам вызначылі падзеі ва Ўкраіне. Азірнуўшыся вакол, яно неспадзявана пабачыла «русский мир», на абарону якога ў любы момант можа прыляцець расейскі дэсант. Гэта ж трэба — дваццаць гадоў будаваць «сильную и процветающую» Беларусь, якая па ўсіх прыкме-

тах (найперш моўных) падыходзіць пад гэтае прыдуманае ў Крамлі азначэньне. Ніякі Даль вам не растлумачыць, што такое гэты «русский мир». А на абывательскім узроўні ўсё выглядае прасьцей простага: гаворыш па-расейску — значыць, ты і ёсьць «русский мир». Што тут галаву ламаць.

Быць часткай «русского мира», хай сабе і шасьцігубэрневай, кіраўніцтву Беларусі відавочна ня хочацца. Як там наш мудры народ гаварыў у падобных выпадках? Калі топісься, то і за саломінку ўхопісься. Вось і пачало кіраўніцтва хапацца за ўсё, што адрозьнівацьме яго ад «русского мира». Мову беларускую раптам успомніла. На Дзень Перамогі георгіеўскія стужачкі забараніла, замест іх чыноўнікі чырвона-зялёныя банцікі пачапілі — маўляў, мы адрозныя ад «русского мира». Думаецца, што і новы пампэзны Палац Незалежнасьці ў ляндшафт ускраіны «русского мира» абсалютна ня ўпісваецца. Беларускага там усё ж нямала — «на камні, жалезе і золаце». Ад слуцкага пояса ў зіхотным ад раскошы фае да Пагоні на прылеглай плошчы.

З тае самае опэры і новапаўсталы ў Віцебску конны помнік вялікаму князю Альгерду. Міндоўг у Наваградку пачакае, Гедымін у Лідзе пачакае, сёньняшняя «палітычная сытуацыя» вымагае ўзьняць на пастамэнт Альгерда! На Маскву трыма паходамі хадзіў? Хадзіў. Да Крамлёўскай брамы дзіду прысланяў? Прысланяў. Ад маскоўскіх баяраў выкуп на Паклоннай гары браў? Браў. Ах ты, князь наш геройскі, такі, як трэба, сядай на бронзавага каня і пільна аглядай усходнюю мяжу, ці не паўзе падступны вораг абвяшчаць «Віцеб-

скую народную рэспубліку». Мы табе і відушчага сокала на руку пасадзім — толькі ж не праваронь захопнікаў...

Урэшце, ліха зь ёю, з «палітычнай сытуацыяй». Сытуацыя пераменіцца — помнік застанецца. І ў Віцебску застанецца, і ў Полацку, дзе князь Усяслаў Чарадзей з пастамэнту таксама ня дужа міралюбна на ўсход пазірае. Думаецца, і Міндоўг з Гедымінам свой час падгадаюць і асядлаюць бронзавых коней адпаведна ў Навагрудку і Лідзе. А раз пайшла ў нас такая тэндэнцыя — вялікіх князёў ушаноўваць, то трэба паклапаціцца, каб прыжыліся яны ня толькі на нашых вуліцах і плошчах, але і ў школьных падручніках, у сьвядомасьці людзей. Умоўна кажучы, каб пстрыкнуў я тэлекнопкай, а на экране — гістарычная рэканструкцыя, скажам, міцкевічаўскай балады «Тры Будрысы»: «Маю клопат я пільны — наказалі мне зь Вільні, / што ідуць ваяваць неўзабаве / Кейстут-князь з крыжакамі, а Альгерд — з маскалямі, / а Скіргайла на ляхаў зуб мае. / Я наказ вам цяпер дам: ты ідзі за Альгердам, / ён на Ноўгарад сілу абрыне…»*. Пстрыкнуў яшчэ раз, а на другім канале — мастацкая экранізацыя гістарычных раманаў Вольгі Іпатавай «Вяшчун Гедыміна» і «Альгердава дзіда».

«Прыйдзе час — будзе і квас, ня ўсё зараз», — чую я галасы нацыянальных аптымістаў. Пагаджаюся. Каб уся Польшча прыйшла ў захапленьне ад «Пана Тадэвуша» і «Пана Валадыеўскага», мусілі прамінуць дзесяцігодзьдзі і нарадзіцца

* Пераклад аўтара.

Анджэй Вайда і Ежы Гофман. Здаецца, пакуль кінастудыя «Беларусьфільм» на маштабныя гістарычныя праекты і не замахваецца. Зрэшты, аднойчы замахнулася — на «Каласы пад сярпом тваім». Ды нешта недзе нехта чамусьці прыпыніў.

Прызнаюся, блукаць доўгімі і змрочнымі калідорамі «Беларусьфільму» ў мяне вялікай ахвоты няма. Школьныя падручнікі па гісторыі з гледзішча прысутнасьці там вялікіх князёў пагартаем таксама хіба іншым разам. А тут і цяпер давайце зазірнем у гісторыю Віцебску. Без сумневу, жыцьцяпіс князя Альгерда — адна зь яе яскравых старонак.

Мяркуючы па тым, як доўга і далікатна князя ўсаджвалі верхам, як нешта там шліфавалі і падкручвалі, сядзець яму на кані камфортна. Але ці камфортна князю ў горадзе Віцебску? Ці не абражае што яго княжацкую годнасьць? Як жа не абражае? Вялікага князя, абаронцу і зьбіральніка беларускіх земляў, гарадзкія ўлады прапісалі на вуліцы… Суворава. Абаронцу — на вуліцы захопніка! Касінераў Касьцюшкі з гарматаў расстрэльваць — вось і ўсе ягоныя ратныя подзьвігі ў Беларусі. Як жа тут не абразіцца князю?

Падазраю, што па начах ён цішком зьяжджае з пастамэнту і ў пошуках больш адпаведнага месца вандруе па Віцебску. Як той Медны коньнік з аднайменнай пушкінскай паэмы. І тут я князю спачуваю. Бо вялікі князь Альгерд абавязкова заблукае ў хітрасьпляценьнях гарадзкіх вуліц з самай недарэчнай у Беларусі тапанімікай.

Мяркуйце самі — у Віцебску дзесяць вуліц (!) носяць імя Надзеі Крупскай, пяць названыя

ў гонар Якава Сьвярдлова (прычым ёсьць вуліцы з парадкавымі нумарамі 10 і 11), чатыры вуліцы маюць імя Валерыя Чкалава, столькі ж дасталася Канстанціну Заслонаву, тром нададзена імя Мікалая Чарнышэўскага, яшчэ тром — Аўгуста Бэбэля, дзьвюм — Міхаіла Фрунзэ…

А заверне князь каня ў другі бок — натрапіць на пяць вуліц Сацыялістычных, тры Кастрычніцкія, чатыры Саўгасныя, тры Першамайскія, дзьве Пралетарскія і рызыкуе закончыць свой шлях аж на васьмі (!) Клінічных.

Ці ж не вар'ятня? Тут не толькі ў князя, але і ў звычайнага таксіста галава закружыцца.

Назва вуліцы павінна хоць нешта гаварыць тым, хто на ёй жыве. Віцябляне з вуліц Мопраўскіх (іх у горадзе дзьве) наўрад ці ведаюць, што МОПР — даўно канулая ў лету *Международная организация помощи революционерам.*

А як вам такая раскладка — у Віцебску ажно чатырнаццаць (!) вуліц Лучосных, але толькі адна вуліца на двух актораў Яроменкаў (дарэчы, не чужых Віцебску, як пералічаныя вышэй дзеячы).

Прызнаюся, такога бязладзьдзя ў гарадзкой тапаніміцы я больш нідзе не сустракаў. У Віцебску дзясяткі вулічных найменьняў шматкроць (па тры, чатыры, пяць, шэсьць, сем разоў!) паўтараюцца. Гэта нейкі віцебскі фэномэн чыноўніцкай дурноты, ад якой старажытнаму гораду трэба патроху пазбаўляцца. Ну каму патрэбныя тры вуліцы Шавардзінаўскія, чатыры Азіна, пяць Лужасьнянскіх, шэсьць Палярных, сем Стадыённых, дзевяць Задарожных і дзесяць Лугавых?

Ня ведаю, як называліся віцебскія вуліцы ў часы Альгерда, але думаю, што нават у XIV стагодзьдзі ў горадзе над Дзьвіной з гэтым быў большы парадак.

Толькі ўдумайцеся: у Віцебску ажно дзесяць вуліцаў імя Крупскай — і няма вуліцы імя Васіля Быкава. За што такі гонар Крупскай, якая ў 20-я гады апантана чысьціла бібліятэкі ад кніг Плятона, Канта, Ляскова, Аксакава і Чукоўскага ды іншай «буржуазнай каламуці»? У горадзе пяць вуліцаў Сьвярдлова — і ніяк не ўшанаваны Рыгор Барадулін. Затое ўшанаваны Сьвярдлоў, які прымаў рашэньне аб расстрэле царскай сям'і, дзе былі непаўналетнія дзеці, і зьяўляўся адным з ініцыятараў чырвонага тэрору. Навошта віцяблянам дзьве вуліцы Фрунзэ, які тапіў у крыві масавыя сялянскія паўстаньні ва Украіне і Самарскай губэрні? Пераназавіце адну зь іх у гонар паэта Генадзя Бураўкіна.

І Быкаў, і Барадулін, і Бураўкін — нараджэнцы віцебскай зямлі, яе гонар і слава. Пра быкаўскія Бычкі на Віцебшчыне ведае ўвесь сьвет. Апошнім жаданьнем Барадуліна было легчы ў віцебскую (вушацкую) зямлю. Песьні Бураўкіна штолета лунаюць над Віцебскам падчас «Славянскіх базараў»… Дык чаму мясцовая ўлада і пальцам не паварушыць, каб хоць на паўадсотка выправіць тую тапанімічную бязглузьдзіцу, якая сёньня існуе ў горадзе? Некаму ж трэба пачынаць.

А можа, зьмены да лепшага прынясе ў Віцебск вялікі князь Альгерд? Няўжо ён не адолее Суворава? Не такі ўжо непераможны гэты расейскі генэралісімус. Вунь у вёсцы Малыя Кругавічы

на Ганцаўшчыне сабраліся жыхары і пераназвалі вуліцу Суворава імем свайго земляка, паэта Віктара Гардзея. Прыжыцьцёва. А старыя вулічныя шыльды сабралі і спалілі. Каб і духу сувораўскага на ганцавіцкай зямлі не было.

Учынак мірных сялянаў варты перайманьня па ўсёй Беларусі. А для ваяўнічага князя Альгерда прагнаць са сваёй зямлі акупанта — справа гонару.

*2014*

**Сам, чытаючы — убачыш, убачыўшы — зразумееш.**

**Францішак Скарына**

## ГЛЁБУС ЗА СЬПІНАЙ

Як паведаміла нядаўна пільнавокае БТ, у менскіх кнігарнях у продажы зьявіліся няправільныя глёбусы. На іх, выробленых недзе ў Польшчы, наша гордая і незалежная краіна Беларусь абазваная *Белоруссией*. Тэлежурналістка падліла алею ў агонь, падаўшы гісторыю з глёбусамі як замежную дывэрсію. Яе проста расьпірала ад праведнага гневу: Беларусь — гэта вам, проша пана, не Белоруссия.

Глёбусы тыя з крамаў прыбралі. Небагаты айчынны кнігагандаль панёс страты. Хто не асабліва перажываў, дык гэта таямнічы вытворца. Ён сабраў свой тавар па ўсёй Беларусі і цішком пераправіў у Расею. Бо там, наадварот, форма «Беларусь» лічыцца няправільнай, і ўсе — ад Крамля да самых да ўскраінаў — ужываюць звыклы яшчэ з савецкіх часоў назоў «Белоруссия». І нешта не чу-

ваць было, каб расейскага амбасадара ў сувязі з гэтым выклікалі ў беларускае МЗС ды ўручалі ноту пратэсту.

Дык чаму ўвага БТ сфакусавала сваю ўвагу на «няправільных» глёбусах, хоць у зрусіфікаванай Беларусі, якая наскрозь прастрэльваецца з Астанкінскай тэлевежы, ніхто тае памылкі і не заўважыў бы. Якія там заканадаўчыя акты? «Молодость моя, Белоруссия» — вось што, дзякуючы «Песьнярам», жыве ў памяці народнай.

Усё так, але спадзявацца на памяць народную ў дачыненьні гістарычных падзеяў усё ж ня варта. Нядаўна белсатаўскія журналісты правялі апытанку на менскіх вуліцах: хто напісаў палянэз Агінскага? Кожны другі задумваўся.

Ва ўсенародную амнэзію мне верыць чамусьці ня хочацца. А хочацца запытацца ў выпадковых мінакоў, ці памятаюць яны, *што* ў цывілізаваных краінах прынята лічыць атрыбутамі дзяржаўнасьці? Я разумею, што кемлівыя суайчыньнікі абавязкова прыгадаюць трактар, Нацыянальную бібліятэку ці прозьвішча аднаго палітыка, які жыве ў тэлевізары. І ўсё ж кожны пяты альбо дзясяты рэспандэнт абавязкова адкажа: гімн, герб і сьцяг. І я пацісну яму руку.

Але падобна на тое, што ў нашай краіне зьявіўся чацьвёрты атрыбут дзяржаўнай улады. Яго мы бачым амаль штодня ў тэлерэпартажах пра кадравыя прызначэньні на самым высокім узроўні, альбо калі той самы высокапастаўлены кадравік прымае падначаленых з дакладам. Гэты чацьвёрты атрыбут — глёбус.

Гаспадар прасторнага кабінэту любіць здымацца на ягоным жоўта-сіне-зялёным фоне. Напэўна, з плянэтай за сьпінай хочацца прымаць нейкія плянэтарныя рашэньні, удзельнічаць у геапалітычных працэсах. Але сур'ёзная геапалітыка ў той кабінэт амаль не заглядае і глёбус часьцяком адчувае сябе не на сваім месцы, быццам ён не паменшаны ў мільёны разоў зямны шар, а звычайны гарбуз з чарговых дажынак.

Глядзіш на той вялізны прэзыдэнцкі глёбус і міжволі задаесься пытаньнем — для чаго ён там? Каб Кітай выглядаў бліжэйшым? Памятаеце, у фільме «Той самы Мюнхаўзэн» герцаг шавецкім мэтрам на глёбусе мерае адлегласьць да Англіі, зь якой вось-вось распачнецца вайна, і ўстрывожана ўсклікае: «Гэта ж побач!».

У прэзыдэнцкім кабінэце нічога лішняга ў аб'ектыў тэлекамэры не трапляе — пра гэта ёсьць каму клапаціцца. Безумоўна, глёбус, эксклюзіўна выкананы ў сумаштабных з прасторай кабінэту памерах, мае ўяўляць зь сябе не звычайны наглядны дапаможнік па палітычнай геаграфіі. Несумненна, у той пазыцыі, у якой яго бачаць мільёны тэлегледачоў, ён мае атаясамлівацца з пэўным атрыбутам дзяржаўнасьці. Вось чаму ў нашай краіне такое пільнае стаўленьне да глёбусаў. Яны проста павінны адпавядаць стандарту. Як сьцяг, герб і гімн.

Сьцяг і герб у нас маўклівыя. А гімн гучыць па-беларуску. І тут само па сабе напрошваецца пытаньне: а якая мова прысутнічае на тым чацьвёртым атрыбуце — на глёбусе за сьпінай? Гатовы паспрачацца — той глёбус расейскамоўны. Для

пэўнасьці я патэлефанаваў знаёмым географам, нават аднаму дэкану геафаку ў абласным унівэрсытэце. І пачуў прадказальнае: беларускамоўных глёбусаў не існуе ў прыродзе. Маўляў, вельмі складаная тэхналёгія іх вытворчасьці.

Наконт вытворчасьці дазвольце пасумнявацца. У век кампутараў з праграмамі на ўсе выпадкі жыцьця, у век касьмічных спадарожнікаў на ваколземнай арбіце, абсталяваных найноўшай оптыкай, — якія могуць быць праблемы? Дайце каманду Парку высокіх тэхналёгій, і назаўтра будзеце мець адпаведную праграму. Патэлефануйце нараджэнцу Меншчыны Алегу Навіцкаму проста на тую ж арбіту, і ён сфатаграфуе вам зямны шарык зь любых патрэбных ракурсаў.

А самае галоўнае — беларускамоўныя глёбусы ў прыродзе ёсьць! Адзін такі экзэмпляр знаходзіцца ў сталай экспазыцыі Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музэю. Ён выраблены ў 1939 годзе на Ленінградзкай карданажнай фабрыцы накладам 3 000 асобнікаў*. Пазначаная нават дакладная дата вырабу — 30 ліпеня. Саветы рыхтаваліся ісьці вызваленчым паходам у Заходнюю Беларусь і вырашылі зрабіць падарунак беларускім школьнікам.Ператвораны ў музэйны экспанат глёбус належаў Віленскай беларускай гімназіі і быў перададзены ў Гудзевічы віленчуком Янкам Багдановічам.

Зразумела, што пасьпешлівая вытворчасьць беларускамоўных глёбусаў у тагачасных умовах

* Пазначаны наклад выклікае сумневы: з 3 000 мусіла б захавацца больш асобнікаў.

была, як сёньня сказалі б, палітычна матываванай. Вызваліцелі мусілі прыходзіць не з пустымі рукамі. Потым, праўда, тыя глёбусы некуды зьніклі. Застаўся адзіны, ды і той пагрызены галоднымі музэйнымі мышамі.

Паўстае пытаньне: калі беларускамоўны глёбус было магчыма зрабіць у даваенным Ленінградзе, то чаму яго складана запусьціць у вытворчасьць у сучасным Менску? На радасьць усім настаўнікам геаграфіі, якія выкладаюць свой прадмет па-беларуску. Тым больш палітычная матывацыя, як і ў далёкім 1939 годзе, у наяўнасьці. Дастаткова ўключыць навіны па БТ і пабачыць той яўна дэманстрацыйны глёбус у дзяржаўным кабінэце.

Здаецца, гэта так элемэнтарна — родная плянэта ад полюсу да полюсу, ад Антарктыды да мысу Горн, павінна гучаць на роднай мове. Прынамсі, для вучняў беларускамоўных школаў, якіх у нашай краіне ўсё ж нямала. Магэлянава пратока, Апэнінскі паўвостраў, Мыс Добрай Надзеі… Сусьветная тапаніміка нагадвае барочную паэму, якую кожны чалавек павінен прачытаць на сваёй роднай мове. Толькі тады ён зразумее сьвет і сябе ў сьвеце.

А пакуль Міністэрства адукацыі не зразумела падказкі з кабінэту Аляксандра Лукашэнкі, настаўнікам геаграфіі нічога не застаецца, як на практычныя заняткі па геаграфіі вазіць школьнікаў у Гудзевічы. Ад сталіцы 250 кілямэтраў. Калі мераць па тым глёбусе за прэзыдэнцкай сьпінай.

*2012*

**Тут — неўміручае спадзяваньне на перамогу над сьмерцю і на паўстаньне зь мёртвых; тут — прадчуваньне жыцьця, што ня мае скону, тут — адмыканьне замкнёнага, водшук схаванага і патаемнага выяўленьне.**

**Францішак Скарына**

## ЗАЛАТАЯ БЛЕШНЯ І КАРАЛІ З СУШАНЫХ ГРЫБОЎ

**Vis-à-viS: Ігар Шклярэўскі**

***Усе ведаюць, як пачынаецца Кніга Кніг: «А зямля была нябачная і пустая, і цемра над безданьню, і Дух Божы лунаў над вадою»* (Быцьцё; 1:2). А значыць, вада існавала і да першатварэньня, у выніку якога зьявіліся і сьвятло, і цьвердзь зямная. Ці не таму вада і вабіць нас так настойліва, бо была заўжды. Паэтам вады можна назваць Ігара Шклярэўскага — нараджэнца Магілёўшчыны і масквіча паводле месцажыхарства. Паэта, чыя расейская мова натуральна і ненавязьліва перагукаецца зь беларускай: «Руки болять! Ноги болять! Жито поспело. Бульбу копать»… Не зьлічыць рэк, якія цякуць у яго паэзіі і прозе:***

---

* Пераклад Васіля Сёмухі.

***Дняпро і Сож, Прыпяць і Дзьвіна, Саяна і Умба, Енісей і Бярэзіна… Ён аўтар паэмы «Летапісец ракі», якую можна лічыць маніфэстам у абарону рэк і рачулак, якія атручваюцца, высыхаюць і зьнікаюць на нашых вачах. Нездарма і дакумэнтальны фільм пра паэта, які мы паглядзелі перад нашай гутаркай, атрымаў назву «Вочы вады».***

*— Ігар Іванавіч, у фільме, зьнятым вашым братам Алегам Шклярэўскім, вы ўвесь час пры вадзе. А якая вада вам бліжэй — рачная плынь, азёрнае люстэрка ці, можа быць, марская бязьмеж?*

— Ну вядома ж, бліжэй за ўсё рака, таму што гэта — жывы час. На беразе ракі ты сустракаеш і праводзіш адначасова кожнае імгненьне. І вось гэты амаль невыяўны стан і дорыць мне самае вытанчанае шчасьце. Разумееце, ёсьць стан, які не паддаецца слоўнаму выяўленьню, і ёсьць пачуцьці, у якіх няма назваў. Рака — жывая плынь, якая ня ведае болю. І вось я нічога не разумею, быццам я празрысты бог бязьлюдзьдзя, пранізаны шчымлівай сьвежасьцю няведаньня.

Калі гаварыць пра ваду агульнымі словамі, то кожны можа сказаць пра яе лепш ці горш, паспрабаваць выказаць сваю далучанасьць да яе. Як наш адбітак ня бачыць нас (мы бачым, а ён нас — не), таксама і вада — яна нас ня бачыць, але яна ёсьць у нас, яна прыцягвае нас, хвалюе, яна не паддаецца апісаньню. Я памятаю, што ў ціхія пахмурныя дні вада была бяздоннай, і мяне цягнула да яе з гораду, і я ня ведаў, што гэта прыцягвае мяне памяць пра той час, калі мяне не было на зямлі,

калі я быў вадой. І гэты ўспамін пра сваю адсутнасьць, і гэтае хваляваньне, абсалютна невытлумачальнае хваляваньне, зь якім я падыходзіў да ракі, і гэтыя водбліскі пад драўлянымі хвалярэзамі, сполахі язёў, галаўнёў — яны мяне хвалявалі мацней, чым водбліскі нейкіх залатых вырабаў і каштоўнасьцяў на чорным аксаміце ў вітрыне.

Гэтая памяць вады захавалася ўва мне з хлапечых гадоў. На шчасьце, яна ня зьнікла на працягу пакаленьняў, яна не перасечаная рыдлёўкамі, як здарылася ў многіх вяскоўцаў. І тут — альбо так, альбо гэтак. Але я заўважыў, што на фатаздымках я рэдка ўсьміхаюся, а ў возеры, у люстэрку вады, нават у вядры з вадой я бачу свой шчасьлівы твар. Гэта невытлумачальна. А як толькі на мяне наводзяць фотаапарат, у мяне робіцца сканы твар — быццам ня мой.

*— У вашай паэме «Летапісец ракі» кожны мае адкуль напіцца вады: Васіль Быкаў — зь Нёману, Віктар Казько — з Прыпяці, Віктар Астаф'еў — зь Енісею, акадэмік Дзьмітрый Ліхачоў — з Ладагі. У кожным выпадку мае месца геаграфічная прывязка. А зь якой ракі хацелася б напіцца Ігару Шклярэўскаму?*

— У мяне няма геаграфічнага патрыятызму. Я перажыў некалькі рэк. На жаль… Але мае рэкі, напэўна, зьядналіся, быццам гэта адна рака: Дняпро, Сож, Саяна (у Архангельскай вобласьці), Керацць (у Карэліі), Умба (на Кольскім паўвостраве)… Мае рэкі злучаюцца ў душы, у маёй памяці ў адну раку. А рака, зь якой мне хочацца напіцца… Напэўна, усё ж Дняпро — зь яго абрывамі, зь ніцым вербалозам, зь пяскамі. Гэты

наддняпроўскія вербалоз, срэбны спадыспаду, пад якімі паблісквае млечны шлях малькоў... Так — Дняпро, бо гэта мая першая рака.

— *Гэта як першае каханьне, так?*

— Не, што вы! Рака — гэта больш, чым першае каханьне!

## «Каб заснуць шчасьлівым, мне трэба ўбачыць берагі Дняпра і Сажа»

— *Алесь Адамовіч у сваёй апошняй прыжыцьцёвай кнізе прыгадвае словы адной чэхаўскай гераіні, яе трохразовае: «В Москву! В Москву! В Москву!». А потым дадае ад сябе і для сябе: «А для вечнасьці — Беларусь». А для вас ці стала Масква родным домам, ці яна і для вас як часовы прытулак?*

— Я скажу вам так: для мяне радзіма — гэта мова. Я расейскі паэт. Па бацьку я беларус, па маці — і беларус, і расеец, там дзьве крыві. Але для мяне не было, няма і ня будзе ніякіх шлягбаўмаў, ніякіх межаў паміж Беларусьсю і Расеяй. Я ж пераклаў «Слова пра паход Ігара». Ягоны аўтар, як неаднойчы і аргумэнтавана тлумачылася, паходзіў зь беларускіх земляў, з Полацкага ці Тураўскага княстваў — цяпер гэта Беларусь. У тэксьце «Слова...» ёсьць нямала падказак наконт гэтага. Напрыклад, слова «цьвяліць» і сёньня ёсьць у слоўніках беларускай мовы. Ні ў расейскай, ні ва ўкраінскай мовах вы гэтага слова ня знойдзеце. «Рано начали вы Половецкую землю цвелить...». Само імя аўтара «Слова...» — Хадына (гэта адкрыцьцё Андрэя Чарнова): «Рек Боян і Ходына...». А раней слова «Хадына» падзялялі на два словы: «ходы» і «на». Быццам Баян

кудысьці там хадзіў. Не — «гаварылі Баян і Хадына». Гэта фантастычнае адкрыцьцё Андрэя Чарнова. Ён шчасьліва злучыў у адно два словы. А Хадына — гэта беларускае імя, яно мела распаўсюджаньне толькі ў Беларусі. І яшчэ адзін момант трэба ўлічыць. У «Слове…» гаворыцца пра падзеі вельмі даўнія. Чаму аўтар успамінае Усяслава Полацкага, бітву на Нямізе? Ён жа, прыкладам, мог прыгадаць асьляпленьне Васілька Сьвятаполкам Акаянным. Але ён успамінае Усяслава Чарадзея — князя, празорцу, вешчуна, які «рыскаў ад Кіева да Тмутаракані» і (гэта геніяльнае месца!) у Кіеве чуў, як у Полацку на Сьвятой Сафіі зьвіняць званы. Таму аўтар «Слова…» адназначна з гэтых мясьцінаў. Я памятаю, як гэтую вэрсію выслухаў акадэмік Дзьмітрый Сяргеевіч Ліхачоў — з маўклівай згодай. І толькі дадаў, што і Салаўёў пра тое самае гаварыў.

Што ж датычыць канкрэтнага адказу на вашае пытаньне… У мяне яшчэ не «шкляроз», я памятаю, адкуль я і хто я, і што такое для мяне Масква і што такое Беларусь. Ведаеце, ёсьць зьява такая, я называю яе падвойным зрокам. Вось мы з вамі гаворым, а ў мяне перад вачыма можа раптам узьнікнуць вельмі рэальна дняпроўскі бераг, лодкапласкадонка пад вербалозамі, залітая вадою, бляшанка з-пад кансэрваў, якою вычэрпваюць ваду... І вось падобныя відзежы ў мяне ўзьнікаюць абсалютна без прычыны ў любым месцы — у Доме літаратара, у сяброўскай кампаніі. Хоць я жыву ў Маскве ўжо амаль паўстагодзьдзя — з 1965 году. Але колькі я пражыў там насамрэч, я ня ведаю, таму што ў сваіх мроях я пражыў свае самыя

шчасьлівыя хвіліны на берагах Дняпра і Сажа. І для таго, каб заснуць шчасьлівым, мне трэба абавязкова тыя берагі ўбачыць. І я іх бачу. Таму я ня ведаю, колькі часу і дзе я знаходжуся. Разумееце, маё месцазнаходжаньне не супадае з геаграфіяй майго ўяўленьня. Я ня ведаю, колькі гадоў я жыву ў Маскве. Прапісаны я там, але насамрэч я прапісаны ў Баркалабаве, я прапісаны на Сажы... Там я шчасьлівы, а я хачу быць там, дзе я шчасьлівы.

*— Вы ня толькі пераклалі «Слова пра паход Ігара» на сучасную расейскую мову, але і дасьледуеце яго, удзельнічаеце ў самых розных яго выданьнях. «Слова…» на сучасную беларускую мову перакладалася, здаецца, чатыры разы: Янкам Купалам, Рыгорам Барадуліным, Яўгенам Крупенькам і Іванам Чыгрынавым. Які з гэтых перакладаў вы лічыце найлепшым?*

— Пераклад Чыгрынава я, прызнаюся, не чытаў. На жаль. Але прачытаю абавязкова. Што да Барадуліна, то ён проста ня ўмее рабіць сваю работу кепска, няякасна. Яму талент не дазваляе перакладаць пасрэдна. Як пасрэдны паэт ня можа напісаць шэдэўр, так і Барадулін ня здольны на нешта сярэдняе, яму проста гэтага ня дадзена. Але для кожнага перакладу ёсьць свой час. Вы, дарэчы, забыліся назваць яшчэ аднаго беларускага перакладніка «Слова…». Гэта Віктар Дарашкевіч. Я нічога пра яго ня ведаю. Дык вось, пераклад Дарашкевіча, на маю думку, самы дакладны. Хоць у ім няма той паэтычнай вытанчанасьці, якая, несумненна, ёсьць у перакладзе Барадуліна. Дарашкевіч адчуў рытмы «Слова…»

і пайшоў усьлед за імі. А гэта вельмі важна, таму што сіла «Слова…» у ягоных рытмах. Як яны зьмяняюцца, як іх цяжка часам злучыць, захоўваючы дакладнасьць! Вы сабе нават не ўяўляеце...

Вось я вам прывяду такі прыклад: «Славу поют Святославу, кают князя Игоря». Вось як перакласьці гэтае «кают» на сучасную расейскую мову? А ў «Слове…» ўсе літары — галосныя і зычныя — пераклікаюцца між сабою. Пры дакладным перакладзе просіцца: «Корят князя Игоря». «Кают» — «корят», я ня ведаю, якое музычнае вуха можа адчуць тут сугучча. Але спачатку я так і пераклаў: «Корят князя Игоря». І яшчэ заўважу, што я нідзе не падрыфмоўваў, «Слова…» пад завязку поўнае ўнутраных асанансных рыфмаў, у ім безьліч рухомых сугуччаў, яны рухаюцца па радку — у сярэдзіне, у пачатку, у канцы.

Прыкладна з год не давала спакою мне гэтае месца, і толькі потым я знайшоў адну-адзіную літару «и»: «И корят князя Игоря». І радок адразу стаў на крыло! Вось якой каштоўнай аказалася адна літара! У той жа час злучнік «і» вельмі тыповы і часта ўжываны ў «Слове…». Я нічога не зьмяніў. Я страціў сугучча «Каял — кают», але я знайшоў сугучча ўнутры радка.

Калі вы падыходзіце да ракі і бачыце на яе паверхні некалькі ўсплёскаў, то неістотна, дзе, у якім месцы вы іх паўторыце, — істотна, каб яны былі ў вашым перакладзе. Гэта пацьвярджэньне таго, што рака жывая, у ёй плёскаецца рыба. І няважна, дзе яна плёскаецца — пасярод плыні ці на водмелі, гэта ня мае значэньня. Проста павінны быць усплёскі, каб адтварыць жывую паэтычную

мову. Вось праз якія пакуты здабываецца адзінадзіны радок.

Пераклад Віктара Дарашкевіча дакладны, бо ён паўтарыў фігуры мовы, ён захаваў зьменную рытміку. Гэты пераклад, я думаю, у Беларусі яшчэ належна не ацэнены. А калі «Слова пра паход Ігара» выходзіла ў Маскве на трох мовах — па-расейску, па-ўкраінску і па-беларуску, — я выбраў сярод украінскіх пераклад Максіма Рыльскага, а сярод беларускіх — якраз пераклад Дарашкевіча.

*— У найноўшай «Беларускай энцыкляпэдыі» гаворыцца, што Ігар Шклярэўскі «піша на рус. і бел. мовах». Вы сапраўды пішаце па-беларуску?*

— Не, у энцыкляпэдыі няпраўда. Я ніколі не пісаў на беларускай мове. «Я всё еще живу, храня / звучанье чистой русской речи» — гэта з маіх даўніх вершаў. І тут няма нічога дзіўнага. Вось жа вядомы паэт савецкага часу Яраслаў Сьмелякоў таксама беларус. Аднойчы мы зь ім сустрэліся ў маскоўскім Доме літаратара, і ён пытаецца: «Шклярэўскі, ты адкуль?» Я кажу: «З Магілёўшчыны». — «А я зь Віцебшчыны». Сьмелякоў рэдагаваў альманах «Дзень паэзіі», куды прабіцца складана было. А я малады паэт, прыехаў у Маскву і аддаў цэлую кнігу вершаў у альманах у спадзяваньні, што некалькі вершаў надрукуюць. Сьмелякоў прачытаў і сказаў: «Мы надрукуем цэлую кнігу Шклярэўскага!». Гэта была падзея — надрукавацца цэлай кнігай у «Дні паэзіі», дзе аўтары прадстаўляліся, як правіла, адным-двума вершамі.

Тады ж, у Доме літаратара, Сьмелякоў зьвярнуўся да мяне: «Пакажы свой пашпарт». Мой па-

глядзеў і свой паказаў, дзе ў графе «нацыянальнасьць» значылася: беларус. Так было. Мы сядзелі зь Сьмеляковым у пісьменьніцкім рэстаране ўдвух, потым падбег адзін паэт з забаўным прозьвішчам Заяц і папрасіўся за наш столік. А Сьмелякоў кажа: «Ну, калі Шклярэўскі дазволіць». Я кажу таму Зайцу: «Сядай, але спачатку прынясі нам на закусь капусты і морквы, раз ты Заяц…» І ён прынёс — поўную талерку! Помню, тады яшчэ Сьмелякоў спытаўся, ці праўда, што я ўваходжу ў більярдную Дома літаратара і вітаюся зь пісьменьнікамі: «Прывітаньне, графаманы!». Я пацьвердзіў.

## «Ёсьць беларускія словы незвычайнай сілы»

*— Я не зусім згодны наконт захаваньня вамі «чысьціні расейскай мовы». Вось адзін з вашых вершаў: «Мой брат учительствовал в Дрисе, / там далегляды, а не выси. / Из студни воду там берут, / от стомы ноги там гудут»… Гэта неяк зусім не па-расейску. Вам падабаецца само гучаньне беларускай мовы?*

— Разумееце, ёсьць беларускія словы незвычайнай сілы. Напрыклад, слова «далягляд» больш значнае, чым «горизонт», чым «мироколица». У «даляглядзе» ёсьць усё — і прастора, і фізычнае ўспрыманьне гэтай прасторы. Усё ў адным слове, і я шкадую, што яго няма ў расейскай мове. Мова валодае незвычайнай жывучасьцю, яна можа падпольна існаваць вельмі доўгі час, а потым расьцьвісьці ў нечаканым месцы ў нечаканы час. І я ўпэўнены — беларуская мова ніколі ня зьнікне. І чым болей будзе моцных вершаў, моцнай прозы,

тым мацней будзе адчуваць сябе мова. Літаратура трымаецца за слова, але яна ж і ратуе мову. Роля літаратуры велізарная. Мову нельга выратаваць аніякімі ўказамі, яе нельга адгарадзіць ад іншых агрэсіўных моваў аніякімі шлягбаўмамі, яе можна выратаваць толькі знутры — прыгажосьцю слова, радка, гучаньня. Калі на мове пішуцца шэдэўры, яна набірае сілу. Толькі так.

*— Шэдэўры шэдэўрамі, але і законы патрэбныя. І скрозь у сьвеце нацыянальныя мовы ахоўваюцца спэцыяльнымі законамі. І ў Беларусі далукашэнкаўскай адпаведныя заканадаўчыя акты дзейнічалі.*

— А вы думаеце, што расейскую мову ня трэба ахоўваць? Госпадзе, я ў Маскве стараюся як мага радзей уключаць тэлевізар… Часам глядзіш які-небудзь выдатны фільм, а ён раптам перарываецца рэклямай. Для мяне слова «рэкляма» гучыць, як лаянка. «Ваша сьпіна будзе вам удзячная». Гэта ж жах! Расейскую мову так засьмецілі цяпер! Я ня памятаю, хто гэта сказаў: калі гучаць гарматы — музы маўчаць. Гэта няпраўда. Бывала, гарматы грымелі — і музы гучалі, гарматы не маглі заглушыць паэзію. А вось калі гавораць грошы, музы сапраўды замаўкаюць. А грошы так загаварылі паўсюль, што музы прымоўклі. Як у «Слове пра паход Ігара»: «Бояре приуныша». І музы сёньня «приуныша».

А ўвогуле, я вам хачу сказаць, што духоўныя каштоўнасьці маюць магічную ўласьцівасьць — аддаляючыся, яны павялічваюцца. І тое, што сёньня быццам аддалілася, яно ўсё роўна будзе набліжацца, будзе вяртацца, будзе павялічвацца.

Гэта магічная ўласьцівасьць духоўных каштоўнасьцяў.

— *Калі вы на менскіх вуліцах ня чуеце беларускую мову, гэта вас засмучае?*

— А я яе чую, прычым вельмі часта! Скажам, усе гэтыя фрыкатыўныя «г», дзеканьне ваша, эмацыйныя словы «нешта», «няхай» — паўсюль і на кожным кроку. Вы іх проста не заўважаеце, а ў мяне больш сьвежы слых, і я іх чую. Так у Беларусі гаварылі і так будуць гаварыць. Гэта ў храмасомах, гэта на генэтычным узроўні.

А ўвогуле я вам вось што скажу. У беларускай і расейскай моваў ёсьць адна падобная таямніца. У чым яна? Выжываньне мовы, ратаваньне мовы немагчымае асобна ад літаратуры, асобна ад паэзіі. Выжывае мова толькі разам зь літаратурай. Толькі разам з паэзіяй як самым высокім і вытанчаным відам літаратуры. Калі літаратуру адзяліць ад мовы, атрымаецца мова спажыўцоў, мова прадпрымальнікаў, гэта — верхні пласт мовы. А прадпрымальнікам і спажыўцам усё роўна, якая мова ў краіне, у іх адна мова — грошы. А літаратура і паэзія захоўваюць у сабе ўсё самае патаемнае, жывое, напоўненае хлярафілам, які ад каранёў ідзе ў лісьце.

І калі дзяржава апякуецца літаратурай, дапамагае літаратуры, прычым не навязваючы ёй сваёй ідэалёгіі, проста бескарысна дапамагае, — тады дзяржава дапамагае сабе. Таму што мова — гэта радзіма, мова — гэта краіна, мова — гэта дзяржава, гэта яе самастойнасьць. Захоўваючы сваю літаратуру, сваю паэзію, зьберагаючы яе, дзяржава і краіна захоўваюць сябе. Асобна ад

літаратуры працэс выжываньня, аздараўленьня, умацаваньня мовы, проста жыцьцё мовы — немагчымыя.

Сёньня прастора літаратуры звужаецца, сьціскаецца, як шчыгрынавая скура, ганарары пісьменьнікаў сьмехатворныя. І само па сабе ўзьнікае пытаньне — навошта тады на вуліцах нашых гарадоў стаяць на пастамэнтах вялікія паэты? Навошта ў Маскве стаяць Пушкін і Лермантаў, а ў Менску — Купала і Багдановіч? Дэмантуйце іх і пастаўце на іхнае месца якіх-небудзь папулярных эстрадных выканаўцаў.

Разумееце, у чым справа… Жывы слоўнік расейскай ці беларускай мовы — гэта вулей. І калі пчолы ня могуць лётаць на лугавыя, лясныя, палявыя кветкі, то яны будуць лётаць на цукровыя склады. І што ж яны адтуль прынясуць у вулей? Яны будуць прыносіць мову супэрмаркетаў, хімчыстак, банкаў і г.д. Так, літаратуры патрэбна, каб ёю апекаваліся. Мове супэрмаркетаў падтрымка не патрэбная, а ўсяму тонкаму і патаемнаму патрэбная апека, патрэбная падтрымка. І патрачаныя на гэтую справу сродкі — гэта жыцьцёва неабходныя затраты, жыцьцёва неабходныя і для мовы, і для народу, і для дзяржавы.

### «Барадулін — гэта цэлая энцыкляпэдыя лесу, лугу, поля, зямлі, дому»

*— Вы перакладалі Рыгора Барадуліна, Максіма Танка, Уладзімера Някляева, перастварылі па-расейску «Песьню пра зубра» Міколы Гусоўскага… На вашым творчым рахунку цэлая кніга перакладаў — «Паром из Беларуси в Россию». А хто*

*зь беларускіх паэтаў вам найбольш блізкі сваім сьветаадчуваньнем?*

— Напэўна, Барадулін. Хоць перакладаць яго мне было вельмі няпроста. Вы ведаеце, што мне дапамагала? У Барадуліна вельмі гнуткая мова, а я свае першыя вершы напісаў на вуліцы. У юнацтве я ня меў асобнага пакою, у нас была бедная, аскетычная настаўніцкая сям'я, на вокнах нават фіранак не было, я ўжо не кажу пра шторы. І лямпачка гарэла без абажура, ва ўсім адчуваўся пурытанскі дух. Усё маё адзеньне было на мне. І я выходзіў на вуліцы. Я сачыняў вершы ў цёмных завулках, на стромым беразе Дняпра. Гэта былі імправізацыі. І яны былі рознарытмічныя, што і дапамагло мне пазьней перакладаць і Рыгора Барадуліна, і «Слова пра паход Ігара».

Разумееце, «Слова…» — гэта рака, якая ўвесь час кружляе, выкручваецца. І пераклады яго, зробленыя клясычным памерам, — гэта гідратэхніка і мэліярацыя. Хоць пераклад, скажам, Мікалая Забалоцкага і бліскучы, але ён аднапамерны, і ў гэтым ягоны вялікі недахоп.

А сучасная беларуская паэзія вельмі магутная. Узяць таго ж Рыгора Барадуліна. Гэта ж цэлая энцыкляпэдыя лесу, лугу, поля, зямлі, агароду, дому! Творчасьць Барадуліна — гэта жывы беларускі слоўнік! Мае першыя пераклады былі менавіта з Барадуліна. Над ягонымі вершамі я вучыўся перакладаць, і гэта мне не адразу і ня лёгка давалася, але я быў шчасьлівы, калі ў мяне атрымлівалася. Барадуліна я перакладаў з натхненьнем, і аўтар мае пераклады ўхваліў.

З падобнай асалодай я перакладаў «Песьню пра зубра» Гусоўскага: «Зверь налетел на берёзу — и лопнуло древо, как от мороза. / И дальше умчалась погоня, бешеный рёв долетал до соседней державы…». Я нават дазваляў сабе пэўныя вольнасьці ў гэтым перакладзе. Ну, няма там гэтага: «Бешеный рёв долетал до соседней державы», там сваіх вобразаў больш чым дастаткова. «Песьня пра зубра» — геніяльная, дзівосная паэма. Памятаю, калі яе прачытаў акадэмік Дзьмітрый Сяргеевіч Ліхачоў, у яго ажно вочы засьвяціліся ад радасьці.

— *У маім кнігазборы ёсьць двухтамовік Лермантава, наклад якога — 14 мільёнаў асобнікаў. Для нашага часу гэта фантастычная лічба. Сёньняшнія наклады паэтычных зборнікаў — 500, 1000, 2000 асобнікаў, ды і тыя разыходзяцца не адразу. Куды дзеліся чытачы паэзіі? «Бессильны любимые книги, / бессильны великие мысли. / Бессилен Тургенев и Блок, / и Пушкин почти одинок», — напісалі вы ў адным з вершаў. Што ж адбылося?*

— Мне складана даць просты адказ на гэтае пытаньне. На маю думку, адбылося пэўнае спрашчэньне мастацтва. Тонкі сьвет саступіў. У культуры на першае месца выйшлі спрошчанасьць і павярхоўнасьць. Так часам бывае ў гісторыі, калі ўсё тонкае гіне або заціскаецца, а спрошчанае перамагае. І чалавек, які яшчэ ўчора саромеўся, што ня ведае, хто такія Бадлер, Рэмбо, Ляроўшфуко, Мантэнь або Авідый, сёньня ўжо не саромеецца свайго няведаньня. Скарачаюцца школьныя праграмы па літаратуры, па гісторыі.

Гэта для чаго робіцца? Каб вырасталі пустадомкі з завушніцамі ў вушах? Сёньня мы іх паўсюль назіраем. Але я суцяшаю сябе вельмі простым фактам. Калі, пачынаючы ад Гамэра (а гэта VIII стагодзьдзе да Нараджэньня Хрыста), паэзія ня зьнікла, ня вычарпалася, не загінула, то і яшчэ доўга не загіне, ня вычарпаецца, ня зьнікне. Зразумейце: ставала часу на тое, каб паэзія сышла, як вада ў пясок. Але гэтага не адбылося.

Для чаго ўвогуле патрэбная паэзія? Яна перадае найтанчэйшыя станы душы, якія ні проза, ні драматургія перадаць ня могуць. Гэта нават не перавага, гэта яе сутнасьць — перадача самых тонкіх перажываньняў, якія магчыма перадаць толькі ў вершах. Адмовіцца ад паэзіі — азначае адмовіцца ад самых вытанчаных чалавечых эмоцый. Гэта магчыма? Ні ў якім разе!

Прывяду вам такі прыклад. На поўначы Карэліі ёсьць пасёлак Чупа. 4 кілямэтры ад чыгункі, маленькі завод, на якім вэндзяць рыбу, лясгас. Цягнікі там стаяць адну хвіліну. Ведаеце, што там на плоце напісана? Белай фарбай, якую, відаць, забылі маляры, нейкі школьнік, які прагульваў альгебру ці хімію, напісаў на плоце: «Чупа — сталіца белай ночы». Разумееце, колькі душы ён уклаў у свой надпіс? Кожнаму ж трэба ж нечым ганарыцца. Можна і белымі начамі, калі нічога іншага няма пад рукой. І надпіс гэты — «Чупа — сталіца белай ночы» — выдатны. Ён сьведчаньне таго, што з паэзіяй нічога кепскага не адбудзецца, калі што — яна на плоце выжыве. Чупа — пасёлак гарадзкога тыпу, дзе вокны завешваюць коўдрамі

і ў поўнач сонца сьвеціць праз кроны бярозаў... Той школьнік падараваў Чупе славу.

Паэзія выжыве. Што з таго, што наклады ўпалі? Мае кнігі цяпер таксама малымі накладамі выходзяць. А калісьці «Слова пра паход Ігара» ў маім перакладзе выйшла накладам 1 мільён асобнікаў! А згаданая вамі паэма «Летапісец ракі» выйшла ў «Роман-газете», вы не паверыце, накладам дванаццаць мільёнаў!

*— «И как нашёл я друга в поколенье, / читателя найду в потомстве я», — вядомае прызнаньне Яўгенія Баратынскага. Ваш чытач таксама павінен любіць ваду, іначай ён вас проста не зразумее. Такога чытача вы маеце, ці, як і Баратынскі, разьлічваеце на будучыню?*

— Я нядаўна атрымаў ліст з расейскага манастыра ў Баўгарыі, з-пад Сафіі, ад манахіні Касініі. Яна былая настаўніца, пайшла ў манастыр. Княгіня Лівен была ігуменьняй таго манастыра. Такі розум нежаночы пабліскваў у яе зялёных вачах, калі я прыйшоў туды, каб выказаць сваю ўдзячнасьць. Гэта быў адказ на ліст манахіні Касініі. На жаль, яе ўжо не было ў жывых. Яна разам з пропаведзямі, з малітвамі распаўсюджвала сярод сваіх прыхаджанаў некалькі маіх вершаў. Вядома, я быў крануты, я быў ёй вельмі ўдзячны. Гэта адна з маіх каштоўных чытачак, таму што чытач паэзіі — гэта таксама талент.

*— Ці робіце вы што-небудзь, каб прапагандаваць сваю творчасьць з дапамогай сучасных тэхналёгій?*

— Не, нічога не раблю. Вершы ў кампутары — гэта пацалунак праз шкло. Хай вершы самі вы-

жываюць, без маёй дапамогі. Чытачы ж ня вымерлі ўсе і адразу. Часам абсалютна выпадкова ў непрадказальных месцах я зь імі сустракаюся. І гэта дае мне столькі сілы і радасьці! Сустрэчы адбываюцца на вуліцах, у цягніках — дзе заўгодна. Некалькі разоў людзі падвозілі мяне на аўтамабілі і пазнавалі: «Вы Шклярэўскі? Я з вас грошай не вазьму!». Аднойчы на спадарожнай машыне я даехаў з Магілёва ў Менск, і кіроўца адмовіўся ўзяць грошы. І падобнае здаралася шмат разоў.

## «У Аўстрыі мой «Чарнобыльскі анёл» і цяпер выконваецца ў храмах пад музыку Моцарта і Бэтховэна»

*— Наколькі мне помніцца, у свой час вы стварылі спэцыяльны фонд, дзе зьбіраліся грошы пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы. Наколькі сур'ёзныя вам удалося сабраць сродкі, і ці ўдалося патраціць іх так, як вам хацелася?*

— У 1989 годзе я проста абвясьціў рахунак у сваіх публікацыях «Дзеці ў зоне радыяцыі», «Чарнобыльскі анёл», «Адвакат чарнобыльскіх жабаў», «Яблык з Чарнобылю». Яны выходзілі велізарнымі накладамі. Дастаткова прыгадаць, што тады «Литературная газета» выходзіла накладам 4,5 мільёна асобнікаў. Да таго ж мае творы перакладаліся на эўрапейскія мовы, у Аўстрыі цэлы чарнобыльскі рух узьнік пасьля тых публікацый. Там жа, у Аўстрыі, да гэтай пары 26 красавіка паэма «Чарнобыльскі анёл» у храмах выконваецца пад музыку Моцарта і Бэтховэна.

Водгук быў надзвычайны, ён перавысіў усе мае чаканьні. І праз год на абвешчаны мной рахунак прыйшло 26 мільёнаў рублёў! Па сёньняшніх мерках — гэта больш чым 26 мільёнаў даляраў! Грошы вялізныя. Я давяраў людзям, зь якімі супрацоўнічаў. Адзінае, што я сказаў: трэба, каб гэтыя грошы прыйшлі да людзей, каб яны маглі самі пабудаваць сабе хату і г.д. І ўмова мая была выкананая. Я сам езьдзіў і выбіраў прыгожыя месцы, дзе потым будаваліся дамы для перасяленцаў. Вялікай сваёй заслугі я тут ня бачу. Я проста зазваніў у звон, вось і ўсё.

*— Апрача дапамогі перасяленцам, была і яшчэ адна канкрэтная акцыя. Я маю на ўвазе Лес Ігара Шклярэўскага, які ўжо таксама стаў фактам вашай біяграфіі. Вы сваю Дзяржаўную прэмію СССР не паклалі ў кішэнь, а аддалі яе на пасадку дрэваў. Вы цікавіцеся лёсам свайго лесу?*

— Былі пасаджаныя два лясы — на Прыпяці і на ўкраінскай Дзісьне, каля Чарнігава. Я выбраў чыстае месца на Прыпяці, кілямэтраў 5–7 ад Петрыкава. Там, на голым беразе, мала лесу, і там, як сказаў адзін лясьнік, «у хаатычным парадку» (выдатны выраз!) пасадзілі лес — 9 гектараў. Гэта былі гатовыя купленыя саджанцы. Цяпер лес вырас, ён цудоўны, жывы, вясёлы, там вавёркі, зайцы — усё ёсьць, і яго палюбілі жыхары Петрыкава, цяпер гэта іхны парк.

*— Сёньня ў Беларусі на калісьці дарэшты мэліяраваным Палесьсі самі па сабе (састарэлі дрэнажныя сыстэмы) аднаўляюцца балоты. Неўзабаве мы ізноў, паводле азначэньня Івана Мележа, станем «людзьмі на балоце». Прырода вяртае сваё?*

— Пра аднаўленьне балотаў я ведаю і радуюся гэтаму. Гэта ўсеплянэтная падзея, якая мае агульначалавечае значэньне! Таму што балоты — гэта «мокры нос» Зямлі. У здаровага сабакі заўсёды халодны мокры нос. І ў Зямлі таксама ён павінен быць вільготным і халаднаватым. Я не сумняваюся, што на Палесьсе вернецца тая вільготнасьць, якая так хвалявала мяне ў маленстве. Я ж яе добра памятаю, памятаю сырасьць і пах тарфянікаў, якія стваралі асаблівы стан душы, таму што вільгаць і душа чалавека ўвесьчасна ўзаемадатыкаюцца і ствараюць дзівосны настрой і стан.

Я вам скажу: ёсьць таямніца доўгажыхарства. Чалавек, каб доўга жыць, павінен засынаць з усьмешкай, засынаць шчасьлівым і дзесьці на сятчатцы вока трымаць тое, што ён больш за ўсё любіць. І тады ў сьне (а чалавек, калі сьпіць, безабаронны) да яго не падкрадуцца ні хваробы, ні старасьць, вельмі доўга не асьмеляцца падысьці. Нас усё гэта ахоўвае, калі мы ў самым безабаронным стане. Чалавек павінен засынаць шчасьлівым!

І я так узрадаваўся, калі даведаўся, што ў Беларусі адраджаюцца балоты! Болоты — гэта цэлы сьвет. Там ёсьць падземныя азёры…

У старажытным Рыме, калі плянавалі нейкія гідрамэліярацыйныя работы, то абмяркоўвалі ў Сэнаце, што адбудзецца на месцы пабудаванага каналу праз 200 гадоў. Вось дзе была адказнасьць перад нашчадкамі!

## «Ордэн Дружбы народаў я прыняў, а Кастрычніцкай рэвалюцыі — не»

*— Доўгі час дзяржава была і заказчыкам, і кантралёрам, і мэцэнатам літаратуры. Якія стасункі паміж пісьменьнікам і дзяржаўнай уладай вы лічыце ідэальнымі?*

— Стасункі гэтыя не абавязкова павінны быць антаганістычнымі. У гісторыі ёсьць нямала яскравых пацьверджаньняў гэтаму, калі чалавек, які ўвасабляе ўладу, і паэт існавалі не ў супрацьстаяньні, а як бы ў промнях дзяржаўнасьці. Дарэчы, Пушкін таксама быў дзяржаўнікам. Але ў гэтым выпадку я маю на ўвазе імпэратара Аўгуста і Гарацыя, якога імператар любіў і апекаваўся ім. Альбо прыгадайце Гая Цыльнія Мэцэната.

І вось што цікава ў сувязі з гэтым. Што такое мэцэнат? Мэцэнат — гэта чалавек, які разумее, што пах скошанай канюшыны даражэйшы за сена. Кароў не накорміш гэтым пахам, але і бяз гэтага вытанчанага паху, калі душа твая зьнемагае ад невытлумачальнага шчасьця, бяз гэтага водару мы прыйдзем да мычаньня. Нельга чалавеку жыць бяз паху скошанай канюшыны! І тыя мэцэнаты, якія гэта разумелі, назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю ўсясьветнай культуры. І мэцэнат Гай Цыній, і мэцэнат граф Мусін-Пушкін — обэр-пракурор Сьвяшчэннага Сыноду, які адкрыў «Слова пра паход Ігара», і шмат іншых.

Іншая справа — залежаць ад таго, зь якой нагі ўстаў твой мэцэнат. Вось гэтага я не хачу. Я адмоўлюся ад любога мэцэната, калі выданьне маіх вершаў будзе залежаць ад яго настрою!

Вось ёсьць у Беларусі выдатны чалавек — Уладзімер Эдуардавіч Двоскін. Гамяльчук, дзяцінства яго прайшло на вуліцы, абсалютна бясстрашны чалавек з тонкім розумам. Выпадкова мы пазнаёмілся зь ім. Ён патэлефанаваў, калі мне прысудзілі Пушкінскую прэмію. Патэлефанаваў і прыслаў па мяне аўтамабіль. Мы зь ім пасябравалі. Ён падтрымаў выданьне кнігі «Зорка Віфлеему: сьвятло праваслаўя ў расейскай паэзіі».

Ён зрабіў нямала добрых справаў. Вось якую гісторыю расказаў мне адзін зь сяброў Двоскіна. Яго школьная настаўніца жыла ў беднасьці, ледзьледзь канцы з канцамі зводзіла. Ён прыехаў да яе і непрыкметна пад падушкай пакінуў столькі, што ёй на ўсё жыцьцё хопіць. Пакінуў і ціхенька выйшаў. Вось такі чалавек Уладзімер Двоскін. А вазьміце вы Людовіка XIV і Мальера, Кацярыну II і Дзяржавіна. Што — іхняя творчасьць пагоршала ад таго, што імі апекаваліся аўгусьцейшыя асобы?

*— Калі вы такі перакананы дзяржаўнік, то чаму ў свой час адмовіліся ад дзяржаўнай узнагароды? Здаецца, гэта быў ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі?*

— Калі я адмовіўся ад таго ордэна, я ня ўкладваў у сваё рашэньне нейкага падвойнага сэнсу і не хацеў зарабляць на гэтым крамольную славу. Я прымераў той ордэн да Блока, да Лермантава… Разумееце, я ніколі ня быў чальцом камуністычнай партыі, не хадзіў на агульныя сходы…

*— Але ж з Маўзалею вершы чыталі?*

— Чытаў. Гэта было пры Гарбачове. Я выступаў на мітынгу, прысьвечаным Першамаю, але

ж я гаварыў пра неабходнасьць мірна жыць на плянэце. У мяне верш быў на тэму партсходаў: «Собраниям предпочитая ивы, / я в руки брал червей, но я брезгливый / в таких местах, где голосуют — «за!». / У них глаза, как в ночь Варфоломея, / но у меня обычно в это время / на поплавке сидела стрекоза».

Вось ордэн Дружбы народаў я прыняў. А Кастрычніцкай рэвалюцыі — не. Як я мог яго прыняць? Ведаеце, калі мяне ня стане, у маёй ганаровай варце будуць стаяць лясы і азёры. А пры чым тут ордэн? Тыя знакі, у тым ліку і ад дзяржавы, якія адпавядаюць ладу майго жыцьця і майму ўяўленьню пра тое, як трэба жыць на гэтай зямлі, я прымаў зь вялікай удзячнасьцю, са сьлязамі радасьці, гордасьці і ўдзячнасьці.

— *Вы маеце на ўвазе Пушкінскую прэмію, Дзяржпрэмію СССР, акадэмічную прэмію «Болдзінская восень», Царскасельскую прэмію?*

— Так, менавіта. Яны адпавядалі ладу майго жыцьця, а ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі не адпавядаў. Вось і ўсё.

## «З залатой талеркі ў мяне атрымалася ажно 8 рыбалоўных блешняў»

— *Гэтым разам вы прыяжджалі ў Менск з сумнай нагоды — на пахаваньне Валерыя Раеўскага. Мы яго ведалі як таленавітага рэжысэра, які шмат гадоў вызначаў, якім быць Нацыянальнаму тэатру імя Янкі Купалы. А што для вас было вызначальным у гэтым чалавеку?*

— Ведаеце, як бывае: часам які-небудзь мастак, паэт, рэжысэр, артыст робяць усё для таго, каб

стаць вядомым, здабыць славу. Яны правільна жывуць, правільна ўсё робяць, а слава праходзіць міма. А іншыя… Калі выносілі Валерыя Раеўскага, майго сябра, майго школьнага, вулічнага, рачнога, баркалабаўскага, ляснога, магілёўскага сябра, я зьняў капялюш і прыгадаў, як калісьці на галоўнай вуліцы Магілёва Першамайскай мы зь ім падлеткамі зрывалі капелюшы зь мінакоў. Там шпацыравалі кавалеры з дамамі, а ўздоўж ходніку стаяў высокі плот, а за тым плотам — яр, глухі, цёмны, зарослы яр над рэчкай Дубровенкай. І вось ідзе кавалер з дамай, на ім вэлюравы капялюш, і раптам капялюш прыпадымаецца і зьнікае, як НЛА. А кавалер нават залезьці на той плот ня можа і толькі чуе дзесьці за ім далёкі шум…

— *І куды вы потым дзявалі тыя капелюшы?*

— Гэта ўжо другая гісторыя. Я цяпер проста прызнаўся, як мы з Раеўскім свавольнічалі. Потым я прачытаў у Дзюма, у рамане «Дваццаць гадоў пасьля», што падобнымі свавольствамі займаліся яшчэ ў часы Людовіка XIV. Сьвецкая моладзь на чале зь нейкім прынцам на мосьце ў Парыжы зрывала з мінакоў плашчы. Мы з Валерыем тады ня ведалі пра падобныя забавы. І мы зрывалі капелюшы... І неяк вельмі значна пасьля такога ўспаміну зьядналіся ружы Мэльпамэны і ганаровая варта каля труны, у якой ляжаў мой школьны, мой баркалабаўскі сябра, і ўсё гэта набыло нейкае асаблівае значэньне. Фартуна сама выбірае, каго любіць і каго ўганароўваць. А Валеры быў выдатным сябрам, зь ім было цікава заўсёды. Праўда, на рыбалцы ён мне саступаў.

— *Вы зь ім спаборнічалі, хто больш рыбы зловіць?*

— Так, і на Дняпры, і на Сажы я яго аблоўліваў. Але грыбніком ён быў — роўных я ня ведаю. Як ён адчуваў лес! І колькі ён мне падараваў грыбных мясьцінаў у ваколіцах Магілёва! Скажам, на дзевятнаццатым кілямэтры каля Сьвяцілавічаў — на першы погляд звычайны ельнік справа, а ежджаная дарога вядзе ў вялікі лес, куды ўсе грыбнікі і беглі. А Валеры ў тым ельніку набіраў грыбоў — Божа мой!.. Ён падараваў мне тое месца.

Раеўскі самаахвярна служыў тэатру. Ён любіў навізну, але ён ніколі, абнаўляючы, не разбураў. Ён не разбураў асноў драматургіі і сцэнічнага майстэрства. Ён ведаў і адчуваў, што законы мастацтва ў тэатры і літаратуры не зьмяняюцца, як сьляза. Ён ніколі не разбураў клясыку дзеля таго, каб дагадзіць гледачу або стварыць нейкую эпатажнасьць. І ён застаўся ў гісторыі беларускага тэатру. Гэта словы банальныя, але часам банальныя словы таксама вельмі істотныя.

— *Калісьці Гэмінгуэй казаў, што пры падсечцы рыбіны ён адчувае мускулятуру ўсяго сьвету. А што адчуваеце вы, махаючы сьпінінгам дзе-небудзь на Дняпры ці Бярэзіне?*

— Што я адчуваю? Сьпінінгавая катушка круціцца супраць гадзіньнікавай стрэлкі. Дык вось, круцячы катушку супраць стрэлкі, я адкручваю жыцьцё ў зваротным кірунку — ад старасьці да юнацтва. Гэта па-першае. А па-другое, гэта вялікае захапленьне. Вось мне аднойчы падаравалі залатую лыжку. Я адпілаваў непатрэбны тронак і зрабіў зь яе выдатную блешню для рыбалкі ў

ямах, над перакатамі, у глыбокіх месцах. І вага, і форма проста ідэальныя атрымаліся.

А вялікі баўгарскі паэт Любамір Леўчаў падараваў мне срэбную талерку, упрыгожаную дробнымі карункамі, падобнымі на луску. Я і талерку пусьціў на рыбалоўныя прылады — зь яе атрымалася ажно 8 блешняў! Мой сябра рэжысэр Юры Марухін і мой брат Алег, калі пачулі пра гэта, жартавалі: «Мы ў захапленьні ад тваёй пераацэнкі каштоўнасьцяў!».

Памятаю, мы якраз ехалі на рыбалку ў Карэлію. Я ім кажу: «Пачакайце, мы яшчэ недалёка ад дому ад'ехалі». — «Як недалёка? Вунь ужо Сядзежа, паўдарогі ззаду засталося».

Белая ноч, перастук колаў і такая размова — колькі са срэбнай талеркі атрымалася блешняў, непатрэбны тронак...

І тут я Марухіну кажу: «А вось цяпер я цябе зьдзіўлю». — «А чаму толькі мяне? А Алега?» — «Алег не ацаніў. Вось глядзі — гумовыя боты холад прапускаюць, а вада ў карэльскіх рэках ледзяная нават улетку. І вось што я прыдумаў — адрэзаць рукавы ад кажуха і ўставіць іх у боты. Можна цэлы дзень у рацэ стаяць».

Марухін гаворыць брату: «Алег, ён геній!». А Алег: «Ён геній, але толькі да першых маразоў». А я ім даводжу, што інтэлігентны чалавек павінен хадзіць у паліто…

Гэты тамбур, гэты дымок ад цыгарэты, гэты шчасьлівы дзіцячы сьмех, гэты непатрэбны тронак… Не, усё ж рыбалка — гэта вялікае захапленьне.

*— Што ж, хай на вашу залатую блешню ловіцца сапраўдная рыба!*

— Дзякуй, Міхась, але ўсе тыя блешні — і залатая, і срэбныя — засталіся на дне рэк, у карчоўі, у траве, паміж камянёў. Іх жа губляеш, яны ўсе на дне ракі… І абліччы дарагіх людзей таксама паглынае рака забыцьця. Але напісанае застаецца, штосьці застаецца. Нам трэба адваёўваць прастору радасьці і шчасьця, не даваць шэрасьці і смутку паглынаць прастору чалавечага існаваньня. Чамусьці ва ўсясьветнай літаратуры вельмі мала кніг, якія выпраменьваюць фантомы шчасьця і радасьці. Нядаўна я такую кнігу паспрабаваў напісаць, яна так і называецца — «Залатая блешня», спадзяюся, будучым чытачам яна прынясе радасьць. Такую кнігу напісаць намнога цяжэй, чым змрочны твор. Пра шчасьце пісаць нашмат складаней.

## «Калі чытаеш прозу Быкава, працуюць усе пачуцьці — нюх, зрок, слых, дотык»

*— Я застаў вас за працай — вы закончылі ўкладаць кнігу пра Беларусь пад назвай «Каралі з сушаных грыбоў». Што яна зь сябе ўяўляе?*

— У кнізе некалькі разьдзелаў. Першы — гэта найлепшыя вершы расейскіх паэтаў пра Беларусь. Гадоў трыццаць таму падобная анталёгія ўжо выходзіла. Там было шмат вядомых аўтараў, але яшчэ больш рытарычных радкоў на зададзеную тэму. А ў паэзіі важна не «пра што», а «як». Паэтычнай кнігі пра Беларусь, ад якой патрабавальны чытач атрымаў бы асалоду, да гэтай пары не было. І я яе склаў. Туды вельмі шмат вядомых

паэтаў не ўвайшло, бо іх вершы былі проста данінай часу. А вось некаторыя малавядомыя ці зусім забытыя аўтары там ёсьць. Скажам, Уладзімер Варна, які жыў у Менску. У яго ёсьць выдатныя вершы. Напрыклад, адзін зь іх пачынаецца: «Здорово, леса!» А ў адказ: «Мы лясы!» Дзівосны верш! У кнігу таксама ўвайшлі вершы Аляксандра Твардоўскага, Ярослава Сьмелякова, Яўгенія Еўтушэнкі, Андрэя Вазьнясенскага, Аляксандра Межырава, Юліі Друнінай, Яўгенія Вінакурава, Анатоля Вялюгіна, Навума Кісьліка, Пятра Кошаля… Адбор быў вельмі строгі, я выбраў усё найлепшае. Але калі я заўважыў, што ў выніку кніга атрымліваецца танкаватай, то вырашыў адкінуць убок празьмерную сьціпласьць, дадаўшы сваіх вершаў і эсэ — з таго, што прайшло выпрабаваньне часам. Думаю, знойдзецца добры чалавек, як Уладзімер Двоскін, і мая анталёгія пабачыць сьвет.

*— Ведаю, што ў яе ўвайшлі і ўрыўкі «Слова пра паход Ігара». Чым вы кіраваліся, зьвяртаючы ўвагу чытача і на гэты шэдэўр старажытнага пісьменства?*

— Мне хацелася даць у анталёгіі беларускую геаграфію «Слова пра паход Ігара». Паўтаруся, я зусім упэўнены, што яго аўтар родам зь Беларусі. Хоць тады гэта былі проста княствы — Полацкае, Гарадзенскае, Тураўскае, Менскае. У анталёгіі я падаю тры фрагмэнты паэмы. Першы — пра полацкага князя Ўсяслава Чарадзея: «Усяслаў-князь людзям чыніў суды, радзіў князям гарады. Яму ў Полацку пазвоняць ютрань рана званы сьвятое Сафіі, а ён той звон

чуе ў Кіеве». Другі фрагмэнт — пра Нямігу, што і сёньня цячэ ў Менску: «На Нямізе галовы сьцелюць снапамі, харалужнымі малоцяць цапамі, жыцьцё кладуць на таку зьлюцела, веюць душу ад цела». І трэці фрагмэнт — пра князя Ізяслава, дзе «трубы трубяць гарадзенскія». Незразумела, што маецца на ўвазе — сучасная Горадня ці Гарадня на верхняй Бярэзіне. Але як геніяльна сказана: «І Дзьвіна ўчарнела цячэ, толькі Ізяслаў, сын Васількаў, сваім вострым мечам пазваніў аб шаломы літоўскія. Прыбіў ён славу дзеда свайго Ўсяслава, а сам пад шчытамі чырвонымі лёг на траве крывавай і ўчуў голас вешчы: «Дружыну тваю, княжа, птушкі крыламі апранулі…» Гэта значыць, птушкі на забітых воях сядзяць — які вобраз! А сярод адабраных для кнігі эсэ — «Каралі з сушаных грыбоў», пра тое, як акадэміку Дзьмітрыю Ліхачову я ўручыў грыбныя каралі і да званьняў ганаровага доктара Оксфарду і Кэмбрыджу дадаў званьне «Ганаровы грыбнік беларускага лесу». Дзьмітрый Сяргеевіч з паклонам прыняў мой дар.

— *Нядаўна ў вашай кнізе «Паэзія — ільвіца з грывай» я вычытаў нечаканае для мяне прызнаньне, што ваш улюбёны празаік — Васіль Быкаў. Здавалася б, ягоная аскетычная мова і ваш паэтычны сьвет — дзьве розныя зьявы.*

— Што вы! У Быкава дзівосная мова! Ён надзвычай дакладна ўмеў расказаць пра чалавека, які, паранены і адзінокі, ідзе па полі, закопваецца ў сьцірту з саломай, дрыжыць, саграваецца. Суровыя рэаліі яго аповесьцяў пранізаныя такім пачуцьцём, гэта так пераканальна, адчувальна!

Калі чытаеш прозу Быкава, працуюць усе пачуцьці — нюх, зрок, слых, дотык. Там няма ніводнага лішняга слова, усе словы намертва прыляпіліся да прадметаў і зьяваў. Што вы! А быкаўскі зімні ці асеньні лес, праз якi праходзіць нейкі яго герой... Ці ён над ракой на абрыве жыве адзін. Сьпякота, і ён паставіў намёт. Гэта так моцна напісана, што проста фізычна ўсё адчуваеш.

*— Я ня ведаю, як у Расеі, у Маскве, але ў Беларусі ўлада проста не заўважае выдатных пісьменьнікаў, якія ёй не слугуюць. Чыноўнікі — ад сталіцы да раёну — іх проста ігнаруюць, як быццам тых на сьвеце няма.*

— Тое самае і ў Расеі, і Маскве. Адбылося адчужэньне маладых чыноўнікаў ад культуры ўвогуле. Прычым у пачатку 1990-х такога не назіралася. Магчыма, у іх іншая культурная прастора ў сьвядомасьці? Хто ведае. Вось у майго брата Алега Шкляраэўскага быў нядаўна юбілей. А ён, між іншым, ляўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, узнагароджаны «Бронзавым віцязем» за свае цудоўныя фільмы («Пранясі, Божа, хмару» і інш.). Мог бы міністар культуры проста даслаць яму фармальнае віншаваньне з 70-годзьдзем? Мог бы. Алег па статусе сваім павінен быў атрымаць такое віншаваньне! Але — ніякай увагі. А чаму? Ці то памяць у міністра такая кароткая, ці ён не разумее, як важна захоўваць традыцыі. Таму што на традыцыях усё трымаецца! Разбурэньне традыцый — гэта разбурэньне ўсяго: і культуры, і маралі. Традыцыі трэба берагчы. А хутчэй за ўсё, міністар проста ня бачыў Алегавых фільмаў, ён ня ведае, якое гэта выдатнае беларускае кіно.

Значыць, ён ня ведае таго багацьця, якое яму належыць. Ці другі выпадак. Пахаваньне Валерыя Раеўскага, пра якое вы ўжо згадалі. Прысутны там міністар культуры не падышоў да мяне і не запытаўся: «Ігар Іванавіч, можа, вы слова скажаце — тут або на могілках? Можа, у вас ёсьць нейкія думкі ці пажаданьні?». Што, я павінен да міністра падыходзіць? Ня я, а ён павінен! Я ўсё ж сёе-тое зрабіў для Беларусі.

*— Дырэктар нашага радыё Аляксандар Лукашук нядаўна знайшоў у архіве данясеньне Галоўліту ў ЦК КПБ пра вашу першую кнігу «Я іду!». Цэнзар знайшоў у ёй антысавеччыну і запатрабаваў вярнуць рукапіс на дапрацоўку. Гэта 1961 год. Вы помніце той выпадак?*

— Вядома ж, памятаю. Цэнзар проста ня змог зразумець мае вершы. Верш, дзе былі радкі «зарадка пачалася, фальшывяць маршы» быў навеяны няшчырасьцю каханай, і гэтая яе няшчырасьць так мяне ўзрушыла, што мне ўсё навокал здалося фальшывым. Але рукапіс мне не вярнулі. Навум Кісьлік занёс яго Петрусю Броўку, які на той час быў вельмі ўплывовым. Броўка пайшоў у выдавецтва і сказаў: Шклярэўскага — выдаць, а адказным рэдактарам будзе Пімен Панчанка. І кнігу выдалі, і яна імгненна зьнікла з кнігарняў. Каштавала, па-мойму, 12 капеек, а ў двары за крамай яе прадавалі па 3 рублі.

*— Вы неяк расказвалі, што свае антысавецкія вершы хавалі ў тэлескапічнае вудзільна. Вы баяліся перасьледу?*

— Я не баяўся. Проста асьцерагаўся, што тыя вершы недзе ня ў час вынырнуць. Справа ў тым,

што я належу да катэгорыі людзей, якія ня могуць жыць на чужыне. Мне Аляксандар Межыраў неяк сказаў: «Ігар, калі б вы надрукавалі сваю кнігу «Чартапалох», да вас прыйшла б усясьветная слава». Гэта былі 1970-я гады. Я спытаўся: «Ну добра, я надрукую. І што далей — выгнаньне?» — «А вы яго баіцеся?» — «Ды я проста яго ня вынесу». Нічога не паробіш, я так выхаваны.

## «Я вельмі хачу вярнуцца на родную Магілёўшчыну ці ў Менск»

— *Вы ўжо больш за паўстагодзьдзя ў Маскве. А на радзіму не цягне? Ня толькі ў госьці…*

— Я хачу перабрацца ў Беларусь назаўжды і завершыць так, як у Лермантава ў паэме «Баярын Орша»: «Дай возвратиться мне к Днепру — здесь я родился, здесь умру». Гэтыя радкі таксама ёсьць у маёй анталёгіі. Вяртаньне — гэта закон круга. Птушкі з далёкага выраю вяртаюцца, ласосі касякамі, агінаючы Кольскі паўвостраў, вяртаюцца. Ласосі зь невялікай рэчкі Умбы вернуцца толькі ў Умбу! Проста дзіву даесься, як яны за тысячы кілямэтраў вызначаюць пах і смак роднай вады.

— *Вы за ўласныя грошы пасадзілі лес на Прыпяці, вы сабралі грошы і пабудавалі для чарнобыльскіх перасяленцаў цэлую вёску. Было б справядліва, калі б беларускія ўлады на знак удзячнасьці падаравалі вам дом у Беларусі.*

— Гэта было б нават занадта… У мяне няма амбіцый наконт гэтага, і я рабіў дабро для Беларусі без разьліку на чыюсьці ўдзячнасьць. Усё, што мы робім, мы робім шчыра, а ня дзеля чагосьці. Вядома ж, калі б мне дапамаглі, я быў бы

дужа ўдзячны. А калі няма такой магчымасьці, то буду старацца сам, прадаўшы сваю маскоўскую кватэру. Але я ўсё роўна вярнуся туды, дзе зьядноўваюцца пачатак і канец, — на родную Магілёўшчыну ці ў Менск. Я вельмі хачу вярнуцца.

*— Зь Менску вы папрасілі прывезьці сала з Камароўкі. Яно вам так падабаецца?*

— «Ем сырую зайчыну і люблю Айчыну», — напісаў Рыгор Барадулін. Калі я пісаў кнігу «Залатая блешня», то ў мяне там неаднойчы ўзьнікала падталае сала, падсохлы чорны хлеб і памідоры — чым жа яшчэ сілкуецца рыбак? Помню, пішу, а ў вачах — тураўскія памідоры, у іх такі моцны, такі цудоўны пах! Пісаў, і самому есьці хацелася. Такое са мной ужо было — над старонкамі паэмы «Пір», дзе князь Ігар прымае хана Гзу. Яны балююць, і далей я пішу: «І мяне ўжо самога голад даймае». Так і ў выпадку з камароўскім салам.

*— Вы падкрэсьлена вымаўляеце «Беларусь», а вось расейскія СМІ ўпарта, як за савецкім часам, — «Белоруссия». Вас гэта не раздражняе?*

— Як ні скажы, Беларусь цудоўная. «Белоруссия» — ну, так раней гаварылі і пісалі, гэта інэрцыя, звычка. Але калі зацьверджаная назва дзяржавы, трэба яе паважаць: Беларусь — значыць Беларусь. Нават калі ў цябе ў памяці ёсьць нейкая матрыца, штамп, павага павінна ўзяць верх.

*— У адной маскоўскай рэдакцыі мне расказалі, як Ігар Шклярэўскі дорыць на дні народзінаў сябрам свае савецкія ордэны. Гэта праўда?*

— Гэта адбылося толькі аднойчы. Адзін чалавек (ня буду называць яго імя) у пэўны пэрыяд свайго жыцьця быў настолькі высакародны,

што я сапраўды ўзнагародзіў яго сваім ордэнам Дружбы народаў. Тады я перачытваў улюбёнага Дзюма, Віктора Гюго. У іх часы гэта было прынята. Помніце, у рамане Гюго «Дзевяноста трэці год» маркіз дэ Лянтэнак на караблі зьняў з грудзей капітана ордэн і ўзнагародзіў ім кананіра. І я дазволіў сабе такі ўчынак. Ён быў шчыры і чыстасардэчны, навеяны ўлюбёнымі кнігамі.

— *Калі я чытаў вашу «Залатую блешню», то мне здавалася, што вам яе дапамагалі пісаць рэкі, што цякуць на Магілёўшчыне, у Карэліі, у Архангельскай вобласьці. А якія канкрэтна рэкі можна лічыць вашымі суаўтарамі?*

— Перш за ўсё гэта Дняпро каля Баркалабава. Потым маленькія рэкі — Лахва, Вабіч, Раста, Проня. Сож — дзівосная рака, вясёлая, сьветлая, чыстая, зь мелавымі абрывамі. Потым — Прыпяць недалёка ад Турава. Там гарэлі мае вогнішчы, ад якіх і цяпер засталіся «радзімкі» на зямлі. Я там быў такі шчасьлівы, што адмовіўся ад некалькіх замежных паездак. На «ракеце» даплыў да Турава, прыдумаў нейкую прычыну і не паехаў за мяжу. І яшчэ — Бярэзіна, дзе я апошнім часам бываю ў доме брата: там я таксама шчасьлівы.

І вось жа, паслухайце, я зрабіў адкрыцьцё. У думках я заўсёды хаджу берагамі рэк, дзе калісьці пабываў. Даўно вядома, што ў рэк, якія цякуць на поўдзень, правы бераг высокі, а левы — нізкі; а ў тых, якія цякуць на поўнач, — наадварот. Саяна, якая ўпадае ў Кулой (Кулой — у Белае мора); Мягра, якая цячэ па Архангельскай вобласьці і ўпадае ў Белае мора; Залоціца, якая таксама ўпадае ў Белае мора, — у іх ва ўсіх высокі бераг

левы. Далей я злучыў іх — Саяну і Сож, Мягру зь Бярэзінай і зразумеў, што ў іх адзін высокі бераг — заходні, а ўсходні — нізкі. Дзіўна, як гэта атрымалася? Можа быць, у старадаўнія часы гэта былі рэкі аднаго напрамку? Я расказаў пра сваё адкрыцьцё спэцыялістам, і яны таксама былі ўражаныя, абяцалі разабрацца.

*— Некаторыя расейскія дзеячы культуры (рэжысэр Аляксандар Сакураў) дапускаюць усталяваньне ў Расеі дыктатуры. Маўляў, сам народ патрабуе цьвёрдага кулака. А вы такое жаданьне народу адчуваеце?*

— Барані Бог! Кулак нам яшчэ патрэбен?! Мала нам было кулакоў? Пра што вы кажаце? Гэтая тэма для мяне настолькі абсурдная, што і гаварыць ня хочацца. Мяне больш трывожыць іншае — у сучаснай Расеі бедны стаў яшчэ бяднейшым, а багаты — яшчэ багацейшым. І з кожным годам гэтая розьніца ўсё ўзрастае. Так што калі і трэба нешта неадкладна рабіць, то памяншаць гэтую розьніцу. А дыктатура ці патрэбная... Крый Божа! Я не ўяўляю, што ўсё гэта можа вярнуцца.

*— Сёньня Беларусь — незалежная дзяржава, нягледзячы на ўсю інтэграцыйную ліхаманку, якая час ад часу ўзьнікае паміж Менскам і Масквой. Як вам бачыцца далейшае суіснаваньне Беларусі і Расеі?*

— Паўтаруся, у маёй душы аніякіх падзелаў не існуе. Гэта ня значыць, што я выступаю за той лад жыцьця, які існаваў у СССР. Мне здаецца, сёньня ў нас нармальная сытуацыя, калі існуюць дзьве незалежныя дзяржавы. Незалежныя, але вельмі блізкія мовамі, духоўнасьцю сваёй, «Словам пра

паход Ігара»! Правы бераг Дняпра — беларускі, левы — расейскі. Дняпро не падзеліш, ваду ягоную не падзеліш. Дарэчы, слова «вада» і па-расейску, і па-беларуску гучыць аднолькава. Трэба плаваць адзін да аднаго ў госьці, сябраваць. Але ніхто нікому не павінен дыктаваць сваю волю. Беларусь сёньня сама вызначае сваё месцазнаходжаньне на эўрапейскай мапе, і так мае быць заўсёды. Хай у беларускай зямлі няма срэбных ці залатых радовішчаў, але ў вас столькі душэўнага золата! Стагодзьдзямі Беларусь намывала «залацінкі дабрыні», як сказана ў Барадуліна. Гісторыя сама ўсё вызначыць, яна як рака, якая цячэ і ня проста так кружляе. Яна кружляе, каб цячы далей, а каб цячы далей, рака, бывае, паварочвае і нават вяртаецца, але потым выбірае сабе рэчышча і плыве далей. Таксама ўсё вызначыцца і ў жыцьці Беларусі.

*23 лістапада 2011 г.*
*23 лістапада 2016 г.*

**Даў міласьцівы Бог нам таксама іншыя пісьмы, якія апавядаюць пра колішнія падзеі і летапісныя справы.**

**Францішак Скарына**

## ВКЛ ЯК ПРЫШЧЭПКА АД АПАТЫІ

**Vis-à-viS: Алесь Краўцэвіч**

***Паводле «Энцыкляпэдыі Вялікага Княства Літоўскага», вялікі князь валодаў надзвычай шырокімі паўнамоцтвамі. Ён абвяшчаў вайну і заключаў мір, распараджаўся войскам, дзяржаўнай маёмасьцю і казной, даваў тытулы і званьні, дарыў маёнткі, чыніў суд і мілаваў асуджаных. У дадатак да ўсяго гэтага Статут ВКЛ падкрэсьліваў, што ўлада вялікага князя — ад Бога... Такім умовам працы любы сучасны прэзыдэнт пазайздросьціць. Чаго не хапала ўладарам ВКЛ, дык гэта прыжыцьцёвых біяграфій, хай сабе і хвалебных. Не давялося б сучасным гісторыкам зьбіраць зьвесткі па розных летапісах. Як тое робіць доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч, які задумаў стварыць кніжную сэрыю «Жыцьцяпісы***

***вялікіх князёў літоўскіх». Кніга пра заснавальніка велікакняскай дынастыі Гедыміна атрымалася ўзорнай сваім паліграфічным выкананьнем, за што і была адзначаная ганаровымі дыплёмамі на выставах у Менску і Астане.***

*— Алесь, зразумела, што заснавальнік дынастыі варты падрабязнага жыцьцяпісу. А чым яшчэ цікавая і вызначальная для нас постаць Гедыміна?*

— Ён самым непасрэдным чынам прычыніўся да стварэньня беларускага народу. Гедымін упершыню ў гісторыі абʼяднаў у адной дзяржаве ўсе галоўныя гістарычныя землі Беларусі: Літву, Палесьсе, Полаччыну, Віцебшчыну, Тураўшчыну, Магілёўшчыну, Берасьцейшчыну і Гарадзеншчыну. Гэта адбылося прыкладна ў 40-я гады XIV стагодзьдзя. І менавіта гэтае абʼяднаньне забясьпечыла пасьпяховы этнагенэз беларусаў. Таму ў Беларусі павінны быць плошчы Гедыміна, помнікі Гедыміну, павінна быць дзяржаўная прэмія імя Гедыміна, ордэн Гедыміна. Вось як у грузінаў ёсьць Давыд-Будаўнік, так і Гедымін у нас заслугоўвае гэтага прыдомка — Гедымін-Будаўнік, Гедымін Вялікі. Ён быў будаўніком як у прамым сэнсе, так і ў пераносным. Ён будаваў магутныя замкі для абароны ад крыжакоў, і ён будаваў дзяржаву. На маю думку, Гедымін у Беларусі заслугоўвае культу.

*— Існуе гэткая агульнапрынятая думка, пацьверджаная афіцыйным гімнам: мы, беларусы, — мірныя людзі, мы ніколі не нападалі, мы толькі абараняліся. А як Гедымін будаваў дзяржаву?*

*У той час гэта наўрад ці было магчыма рабіць мірным шляхам.*

— Не выпадае гаварыць пра выключна мірны шлях, але ж пераважна без ужываньня зброі. Галоўная адметнасьць Гедыміна як палітыка і дзяржаўнага дзеяча ў тым, што ён, у адрозьненьне ад сярэднявечных манархаў, аддаваў перавагу дыпляматыі перад вайсковай сілай. Калі можна было выкарыстаць дыпляматыю, ён яе выкарыстоўваў. Як і іншыя выдатныя тагачасныя дзяржаўныя дзеячы — Душан у Сэрбіі, Казімір Вялікі ў Польшчы, Іван Каліта ў Масковіі. Гедымін зьяднаў беларускія землі вакол Літвы (якая знаходзілася ў цэнтры) непрыкметна для летапісцаў, а гэта сьведчаньне таго, што працэс адбываўся мірна. Гісторыкі ня могуць знайсьці ў крыніцах зьвестак наконт гэтага. Толькі з Гедымінавага тэстамэнту вынікае, што Піншчына была ў складзе дзяржавы, Полаччына была ў складзе дзяржавы і г.д. Але, ізноў жа, калі ён далучаў землі мірна, за гэтым стаяла вайсковая моц ягонай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага. Са слабым ніхто б не аб’ядноўваўся, да слабога з уласнай ахвоты ніхто ў Сярэднявеччы не далучаўся. Як, дарэчы, і сёньня.

— *У тваёй кнізе падрабязна расказваецца, як Гедымін намерваўся прыняць каталіцтва. Прыехалі пасланьнікі папскіх легатаў, а ён іх нават не прыняў… Чаму вялікі князь адмовіўся ад свайго намеру?*

— Калі дынамічная заходнеэўрапейская цывілізацыя распачала сваю экспансію, перад праблемай палітычнага выбару стаяў ужо Міндоўг. Як ведаем, ён спачатку прыняў каталіцтва, а по-

тым ад яго адмовіўся. Адначасова мелі месца і аб’ектыўныя працэсы: прыходзіла эўрапейская матэрыяльная культура (Камянецкая вежа — як узор), пераймаліся эўрапейскія ўзоры ўзбраеньня, пераважна ад немцаў. А ў Сярэднявеччы далучэньне да нейкай цывілізацыі азначала і прыняцьце яе рэлігіі. І мусілі выбіраць і Міндоўг, і Віцень, і Гедымін. Мы ведаем, што гэты палітычны выбар урэшце зрабіў Ягайла. Ён прыняў рашэньне адносна арыентацыі на Захад у канцы XIV стагодзьдзя.

— *Але ці не было гэта запозна?*

— Гэта адбылося тады, калі насьпелі прычыны. Гедымін хацеў гэта зрабіць раней, але не далі абставіны. Ён разважаў як тактык і палітык, ён ня быў рэлігійным фанатыкам. Гедымін трактаваў веру як палітычную катэгорыю — якую гэта выгаду прынясе яму і яго краіне. Дзякуючы гістарычным крыніцам, мы маем вельмі дэталёвую справаздачу пасланьнікаў папскіх легатаў і ведаем, як усё было. Гедымін прыняў рашэньне, напісаў да Папы Рымскага ліст пра свае намеры. Дарэчы, не адзін ліст ён выслаў і да заходнегерманскіх гарадоў, каб прысылалі да яго каляністаў, каб купцы прыяжджалі ў яго краіну, дзе дзейнічаюць прапаведнікі — манахі-мінарыты, францысканцы і дамініканцы. Калі ласка, чакаем. Легаты прыехалі ў Рыгу, адтуль паслалі сваіх давернікаў да Гедыміна, каб атрымаць пацьверджаньне, ці прымае ён каталіцтва. Але сытуацыя памянялася. Існавала і апазыцыя жамойтаў-язычнікаў унутры краіны, і аказалася, што прыняцьце хрысьціянства ня вырашыць галоўнай палітычнай задачы

Гедыміна — нэўтралізацыі Тэўтонскага ордэну. Галоўная задума Гедыміна была якая? Я станаўлюся каталіком, і крыжакі на мяне ня змогуць нападаць, бо гэта супярэчыць сэнсу іхнага існаваньня — яны ж змагаюцца толькі з язычнікамі. Аказалася — нічога падобнага. Крыжакі ваююць і з польскім каралём-каталіком! Каталіцтва іх не спыняе. Таму Гедымін прыкінуў так: апазыцыя моцная, ад крыжакоў зьмена веры не ўратуе — прыняцьце каталіцтва ня мае сэнсу.

*— Кнігу «Гедымін: каралеўства Літвы і Русі» прыемна ўзяць у рукі, гэта паліграфічны шэдэўр. Скажы колькі словаў пра свайго суаўтара, мастака-ілюстратара.*

— Мой суаўтар — таленавіты графік, выкладчык Акадэміі мастацтваў Ігар Гардзіёнак. Ілюстрацыі зробленыя на вельмі высокім узроўні, мастак працаваў з добрым веданьнем матэрыяльнай атрыбутыкі Сярэднявечча. Кансультаваў яго прафэсар Юрась Бохан. На жаль, у наш час цікавасьць да кнігі страчваецца. Як некалі паэты пачалі сьпяваць свае тэксты, сталі бардамі — і ўзьнялі сваю папулярнасьць, так і я стараюся свае кнігі даваць на аздабленьне выдатным ілюстратарам. І гэта якраз той выпадак, калі, дзякуючы гістарычна дакладнаму аздабленьню Ігара Гардзіёнка, кніга пра Гедыміна мецьме попыт. Гэтаму павінна паспрыяць і тое, што кніга двумоўная — на беларускай і ангельскай мовах. І вось жа дзіўна — выдаць ілюстраваную кнігу ў Польшчы, пры ўвозе заплаціўшы мытны падатак, атрымліваецца таньней, чым у роднай краіне.

*— Таму ў цябе і не атрымалася супрацоўніцтва з «Мастацкай літаратурай», дзе раней выйшла кніга «Міндоўг»?*

— Ну так. Да таго ж гэтае найбуйнейшае ў краіне дзяржаўнае выдавецтва аказалася несур’ёзным партнэрам. Па-першае, калі выйшаў «Міндоўг», яно зацягвала выплаты ганарараў аўтару і мастаку. Гады тры ілюстратар ня мог атрымаць грошы за сваю працу. А ён з гэтага жыў. Я ўжо не кажу пра свой ганарар, выдадзены кніжкамі. І то добра. Далей меўся быць працяг сэрыі, і я здаў у выдавецтва кнігу «Выпрабаваньне на трываласьць: ад Войшалка да Віценя». Але яна праляжала там бяз руху некалькі гадоў. Таму я прыйшоў да высновы, што з «Мастацкай літаратурай» больш супрацоўнічаць ня буду. Пачалі шукаць іншыя магчымасьці, знайшлі маладое прыватнае «Выдавецтва С. Татарнікавай». Яго заснавальніца — сястра вядомага мастака-графіка, таксама майго ілюстратара Паўла Татарнікава. І праца пайшла, і кніга пра Гедыміна выйшла раней, чым пра Войшалка і Віценя.

## «Суседзі ўжо з нашага падворку выцягнулі ўсё, што магчыма»

*— У аматараў айчыннай гісторыі няма сумненьня ў тым, што Алесь Краўцэвіч — беларусацэнтрычны гісторык. А ці лёгка сумяшчаць у сабе як дасьледніку патрыятызм і аб’ектыўны погляд на гістарычныя падзеі?*

— Мушу ўдакладніць: я не беларусацэнтрычны, а суб’ектны гісторык. Беларусацэнтрычнасьць — гэта калі цэнтар бачыцца ў сваёй краіне,

якая лічыцца найважнейшай у рэгіёне, Эўропе і г. д. А суб'ектны гісторык глядзіць на гісторыю сваю і іншых краінаў з гледзішча рацыі стану свайго народу. У гэтым розьніца. Я не ўзвышаю гісторыю сваёй краіны над гісторыяй іншых краінаў. Калі гаварыць, як карэгуюцца патрыятызм і навуковая аб'ектыўнасьць, то прызнаюся: я шчасьлівы, бо мае навуковыя высновы супадаюць з маім патрыятызмам. Калі б падчас напісаньня кнігі пра стварэньне ВКЛ я прыйшоў да высновы, што Горадню, Наваградак і Ваўкавыск заваявалі літоўцы — я, прызнаюся, так бы і напісаў. І шукаў бы іншых сьлядоў беларускасьці ў гэтай дзяржаве. А так я маю чыстае сумленьне, бо маё аб'ектыўнае адчуваньне гісторыі не супярэчыць майму суб'ектыўнаму патрыятызму.

— *Няўжо не было такіх момантаў, якія табе хацелася прыхаваць ці ператлумачыць?*

— Такіх момантаў нямала знаходзіцца ў гісторыі любога народу, ня толькі ў беларусаў. Гэта нармальна, калі ёсьць нейкія недагаворанасьці ў гісторыі і магчымае іх дваякае трактаваньне. Зразумела, тады іх трэба трактаваць на карысьць свайго народу, сваёй краіны. У гэтым я не згаджаюся з калегамі, якія баяцца пакрыўдзіць суседзяў. Суседзі ўжо з нашага падворку выцягнулі ўсё, што магчыма. І тым ня менш: «Хоць бы яны што кепскае пра мяне не падумалі, таму ня буду іх называць летувісамі, бо яны пратэстуюць супраць гэтага»… Возьмем канкрэтны прыклад — Пагоню. Толькі ў Густынскім летапісе XVII стагодзьдзя напісана, што Віцень прыняў герб Пагоня: «Измысли себе герб и всему княззству Ли-

товскому: рыцар збройный на коне з мечем, еже ныне наричут погоня». Ранейшых згадак нібы і няма, у XIII, у пачатку XIV стагодзьдзяў. Але ж, напрыклад, Дусбург, ордэнскі храніст, піша, што ў пэўны год «Вітаўт у пагоню за нашым войскам сабраў усіх мужчынаў, якія былі здольныя да бітвы». Другі прыклад. Віцень праводзіць нараду з баярамі, нападае ордэнскі атрад, ён нараду зварочвае, і ўсе сабраныя баяры ідуць у пагоню на ворага. Яшчэ адзін варыянт. На сьцягу Пагоня глядзіць на захад, на Ордэн, і атрымліваецца, што ёсьць ускосныя дадзеныя, якія пацьвярджаюць вэрсію тэксту, напісанага ў XVII стагодзьдзі. Няма фактаў, якія гэтаму рэзка супярэчаць. Таму я і пішу ў манаграфіі, што, па ўсёй верагоднасьці, Пагоню прыняў Віцень. Вось гэта прыклад патрыятызму. Дзе тут навуковая неаб'ектыўнасьць? Калі знойдзем дакумэнт, што гэта ня Віцень зрабіў, што Пагоня была прынятая пазьней, так і напішам.

— *Твае кнігі апошнім часам выходзяць у недзяржаўных выдавецтвах. І гэта сумна, калі дзяржавай не запатрабаваны такі адмысловец. Ці няма ў цябе адчуваньня, што за сьпінай пуста, няма дзяржаўнага апірышча?*

— Я б не сказаў, што дзяржавай не запатрабаваныя мае працы. Тая ж кніга «Гедымін», дзякуючы найперш ілюстрацыям Ігара Гардзіёнка, прадстаўляла Беларусь у Астане на кніжнай выставе Садружнасьці незалежных дзяржаваў. Яна выйграла конкурс «Мастацтва кнігі-2013» у namінацыі «арт-фармат». Галоўны прыз выдаўцу ўручыў міністар інфармацыі Беларусі.

*— Але ж дзяржава ня выдаткавала на выданьне гэтай кнігі ні рубля.*

— З аднаго боку, гэта прыкра, а з другога — дае надзею. Мы выйграём канкурэнцыю ў дзяржаўных выдавецтваў. Мы навучыліся выжываць у камэрцыйных умовах без падтрымкі дзяржавы. А ўяўляеш, што будзе, калі дзяржава нам стане дапамагаць?! Мы тады ня толькі выжывем, але і пусьцім шматлікія парасткі. У мяне на фоне ўсеагульнага пэсымізму ніякай апатыі няма, бо я бачу шмат людзей, зацікаўленых гісторыяй, у тым ліку і маімі працамі. Для мяне гісторыя — і крыніца натхненьня, і прышчэпка ад апатыі. Сумна, што нас не дапускаюць у сыстэму адукацыі. Не даюць настаўнікам выхоўваць дзяцей па нашых кнігах, кантралююць выкладчыкаў ва ўнівэрсытэтах. Але мы выйграем у акадэмічнай навуцы, у папулярызацыі гісторыі. Так што бой ідзе, і мы не адступаем. Перамога будзе за намі.

## «Паходы на Маскву — дэманстрацыя моцы Вялікага Княства»

*— Мы з табой неаднаразова гаварылі пра тое, што сёньняшняя беларуская ўлада адмаўляецца ад гістарычнай спадчыны ВКЛ. Ці было для цябе нечаканасьцю ўсталяваньне коннага помніка князю Альгерду ў Віцебску?*

— Так, было нечаканасьцю, хоць усё ж нельга сказаць, што ўся беларуская ўлада адмовілася ад спадчыны ВКЛ. Усё ж ёсьць патрыёты Беларусі і сярод чыноўніцтва, яны ўсьведамляюць каштоўнасьць беларускай гісторыі. Прыкладам, былы міністар культуры, а цяперашні амбасадар

у Францыі Павал Латушка. Праўда, прарасейскіх чыноўнікаў у нас залішне, хоць яны не афішуюцца. Іхны прынцып узьдзеяньня на людзей выпрацаваны практыкай камуністычнай партыі — адсякаецца ўсё, што мае ўплыў на масавую сьвядомасьць. Нельга мець мастацкіх фільмаў па-беларуску, нельга мець беларускай гісторыі, нельга мець беларускай архітэктуры. І ў Віцебску вагаліся — ставіць помнік Альгерду ці не. Перамог здаровы сэнс — паставілі. Нельга гісторыю пачынаць ад 1917-га ці 1944 году. Гэта нонсэнс. Людзі шукаюць свае карані. І такая асоба, як Альгерд, можа стаць для Віцебску сапраўды брэндавай фігурай.

*— Ужо шмат гадоў гаворыцца пра тое, што ў Лідзе варта паставіць помнік Гедыміну, а ў Наваградку — Міндоўгу. Што лягічна — там больш-менш захаваліся замкі. Але помнікі князям паўстаюць найперш на ўсходзе — Альгерду ў Віцебску, Усяславу Чарадзею — у Полацку. Чаму так?*

— Мне здаецца, гэта зьвязана з электаральнымі асаблівасьцямі рэгіёнаў. Ліда і Наваградак — гэта Гарадзеншчына, дзе найменш галасуюць за Лукашэнку. І таму гэты рэгіён найбольш пільнуецца ідэалягічна.

*— А мне здаецца, што помнікі старажытным князям на ўсходзе — гэта спроба неяк засьцерагчыся ад беларускай «Навaросіі».*

— Гэта спрэчная думка, бо «Наваросія» (калі мець на ўвазе данецкі і луганскі сэпаратызм) узьнікла параўнальна нядаўна. А помнікі ў нас на ўсходзе ставяцца ўжо каля дзесяцігодзьдзя. Гэта па-першае. Па-другое, я ня веру ў тое, што наша

палітычная эліта выстройвае такую доўгатэрміновую стратэгію. Беларуская ўлада рэагуе на бягучую сытуацыю, яе клопат — абы ўтрымацца.

*— Ты гаварыў пра ўплыў на масавую сьвядомасьць. А хіба помнікі выконваюць такую функцыю? Вунь Леніны паўсюль стаяць, на іх ужо даўно ніхто не зважае.*

— Не, помнікі ўсё ж уплываюць на масавую сьвядомасьць, бо яны прысутнічаюць візуальна ў ключавых пунктах гарадоў. Людзі ходзяць, бачаць, цікавяцца. У любы момант гэтыя помнікі можна ўключыць у актыўны культурны зварот — сабраць там сьвята, правесьці ўшанаваньне гэтай асобы. Таму супраць помнікаў і ідзе такая барацьба беларускага прарасейскага лягеру.

*— Альгерд тройчы хадзіў на Маскву, і гэтыя паходы па-рознаму ацэньваюцца. Скажам, Мікола Ермаловіч лічыў іх няўдалымі, а Вольга Іпатава, аўтарка раману «Альгердава дзіда», — наадварот, пасьпяховымі. Дзе тут рацыя?*

— Вядома ж, гэта былі пасьпяховыя паходы. Яны мелі на мэце стрымаць Маскву, трохі абнізіць яе гонар. Альгерд выкарыстаў спрыяльны момант, калі быў непаўналетнім князь Дзьмітрый Данскі. Паходы на Маскву — праява вялікадзяржаўніцкай палітыкі Альгерда. Гэта была дэманстрацыя моцы ВКЛ, якое магло стрымліваць такога саперніка, як Масква. Не было гаворкі, каб зьнішчыць Маскоўскае княства, мэта была — аслабіць. Нішчылася тэрыторыя, прыніжаўся князь маскоўскі, які ня мог выступіць у поле біцца, вымушаны быў сядзець у аблозе. Ніякім чынам мы ня можам лічыць гэтыя паходы няўдалымі. Наад-

варот, яны былі вельмі ўдалымі. І Альгерд, першы сярод Гедымінавічаў, выступіў з праграмай наконт земляў усходнеславянскіх. У 1358 годзе ў перапісцы з германскім імпэратарам ён заявіў, што ўся Русь павінна належаць Літве.

*— Альгерд у Віцебску паўстаў на вуліцы Суворава. Ці помнікі такога кшталту вымагаюць нейкага асяродзьдзя пад сябе?*

— Абавязкова. Увогуле я лічу так: Беларусь стане самастойнай дзяржавай, калі ў нас зьнікнуць помнікі Леніну, вуліцы Суворава, Савецкія і г.д. Гэта будзе знак, што мы становімся нармальнай краінай. Глядзі — ва Ўкраіне амаль зьніклі помнікі Леніну — за такі кароткі час! Гэта паварот, шлях да нармальнай эўрапейскай краіны. Гэта абсурд, што ў Віцебску дзесяць вуліц імя Крупскай. Я прыхільнік таго, што мы павінны вяртацца і да спрадвечных назваў гарадоў. І назву Менск трэба вярнуць найперш. Гэта таксама будзе знакавая праява, калі спрадвечныя назвы, якія фармаваліся стагодзьдзямі, будуць вернутыя. Толькі тады Беларусь пазбавіцца асыміляцыйных уплываў з усходу.

*— Усяслаў Чарадзей і Альгерд ужо стаяць. Дапусьцім, зьявяцца Гедымін і Міндаўг. Ці павінна быць ім нейкае падмацаваньне — у той жа адукацыі?*

— Так, усё павінна быць абавязкова ўзаемазьвязана. Ёсьць асоба ў падручніку — вучняў прыводзяць да помніка гэтай асобе. Прыгадаю 1990-я гады, тады ўсе дзеці ў Наваградку ведалі гісторыю Міндоўга. Гэта называецца сыстэмнасьцю гістарычнай асьветы грамадзтва, якая

мусіць складацца зь некалькіх ступеняў. Самі па сабе помнікі будуць мець пасіўны эфэкт, слаба ўплываць на масавую сьвядомасьць. Але гаворка пра тое, што іх можна актывізаваць. Напрыклад, зладзіць сьвята гарадзкіх муроў у Віцебску. Бо ўпершыню хай ня сам Альгерд, але Альгердава жонка княгіня Ульляна ў 1351 годзе абнесла Віцебск мураванымі сьценамі, і горад стаў абаронены.

### «Для Напалеона Касьцюшка быў дробным мясцовым дзеячом, а інтарэсы ВКЛ — дробнымі рэгіянальнымі інтарэсамі»

*— Карту Вялікага Княства Літоўскага разыгрывалі многія эўрапейскія палітыкі, той жа Напалеон. Захапіўшы палову Эўропы, якія ён меў пляны наконт ВКЛ?*

— Напалеон у дачыненьні ВКЛ быў цынічным палітыкам. Ён холадна выкарыстоўваў гарачыя патрыятычныя парывы нядаўніх грамадзянаў ВКЛ, Каралеўства Польскага. Ён стварыў Варшаўскае герцагства, як аказалася, толькі дзеля таго, каб сабраць польскіх жаўнераў у сваю армію. Пасьля акупацыі Гарадзеншчыны, Меншчыны, Віленшчыны і Беласточчыны ім было створана ВКЛ, быў створаны часовы ўрад на чале з Аляксандрам Сапегам, што выклікала эйфарыю ў вялікай часткі насельніцтва, найперш у шляхты. Урад Сапегі правёў мабілізацыю ў францускае войска — сабраў 20 000 пяхотнікаў і кавалерыі (Напалеон патрабаваў 100 000). Аказалася, што ВКЛ было патрэбна Напалеону, па-першае, для папаўненьня войска, а па-другое, для забесьпя-

чэньня францускай арміі харчаваньнем і фуражом. Скажам, зь беларускіх губэрняў толькі ў першыя месяцы вайны трэба было сабраць 628 000 тон збожжа, толькі ад Меншчыны патрабавалі 10 000 кароваў, ад Віленшчыны — 27 000. Гэтыя патрабаваньні проста немагчыма было выканаць.

*— Чаму ж Напалеон пры такім стаўленьні на чале сваёй гвардыі паставіў ліцьвіна? Ці гэта проста выпадковасьць?*

— Напалеон цаніў адданасьць. І ягонай гвардыяй сапраўды камандаваў наш ліцьвін, генэрал Ян Канопка са Слонімшчыны. Напалеон выбраў яго таму, што ўбачыў у ім чалавека адданага і вернага. А прыгадай, хто ахоўваў Сталіна? Генэрал Уласік з тае самае Слонімшчыны. Беларусы і ў савецкім войску былі найлепшымі жаўнерамі.

*— А што спадзяваліся атрымаць ад Напалеона яшчэ нядаўнія грамадзяне ВКЛ?*

— Найперш яны спадзяваліся на аднаўленьне дзяржаўнасьці Рэчы Паспалітай, ВКЛ, яны хацелі з дапамогай Напалеона пазбавіцца ад расейскага панаваньня і дэспатызму. Трэба ўявіць тагачасную сытуацыю — ад ліквідацыі Рэчы Паспалітай і ВКЛ прайшло мала часу, усяго 17 гадоў. Гэта менш, чым жыцьцё аднаго пакаленьня. Усе памяталі сваю дзяржаву, шляхецкія вольнасьці, памяталі, што яны былі гаспадарамі сваёй краіны. А ў Расейскай імпэрыі яны мусілі даказваць сваё шляхецтва. Былі вызначаныя іншыя формы прыгону для сялянаў, замест падымнага — ад гаспадаркі — расейцы ўвялі індывідуальны прыгон. На беларускіх землях былі ўведзеныя падаткі, якія ў 5 разоў перавышалі падаткі ў расейскіх губэр-

нях. Усе хацелі ад гэтага пазбавіцца. Напалеона віталі кветкамі і шампанскім!

*— Напалеон перад расейскай кампаніяй сустракаўся з Тадэвушам Касьцюшкам. Здавалася, у іх маглі быць пэўныя супольныя мэты. Чаму ўсё ж аніякага супрацоўніцтва ў іх не атрымалася?*

— І не магло атрымацца, бо гэта былі розныя людзі. Касьцюшка — патрыёт сваёй айчыны, дэмакрат паводле перакананьняў. А Напалеон быў перакананы ў сваёй вялікасьці, ён верыў у сваю надзвычайнасьць, ён кіраваў лёсам Эўропы, лёсам сьвету. Для Напалеона Касьцюшка быў дробным мясцовым дзеячом, а інтарэсы шляхты ВКЛ — дробнымі рэгіянальнымі інтарэсамі. Ён думаў катэгорыямі ўсясьветнымі, імпэрскімі. Напалеон з паручніка стаў генэралам у 21 год, потым — першым консулам, потым — імпэратарам, заваяваў палову Эўропы, усё было адкрыта перад ім. Вядома ж, ён ня мог паразумецца з праўдзівым дэмакратам Касьцюшкам, які стаяў на зямлі. Таму Касьцюшка і адышоў. Ён бачыў, што Напалеон апантаны маніяй велічы, што ён для Айчыны Касьцюшкі нічога добрага ня зробіць і скончыць вельмі дрэнна.

*— Калі б Напалеон застаўся ў Вільні (як плянаваў) і не пайшоў на злом галавы ўглыб Расеі, што магло б стацца? Наколькі Напалеону залежала на тым, каб пакарыць усю Расею?*

— Калі гаварыць пра пачатак вайны, то яе плянавала Расея, якая ўжо з 1810 году рыхтавалася да вайны. І першым крокам да канфрантацыі было прыбыцьцё імпэратара Аляксандра да войскаў у Заходняй губэрні. Расея тут канцэнтравала вой-

скі, зьбіралася атакаваць Варшаўскае герцагства і першай распачаць вайну супраць Напалеона. Напалеон апярэдзіў. Трэба мець на ўвазе, што на тэрыторыі Беларусі некалькі гадоў стаяла шматлікае расейскае войска. А гэта — бясконцыя наборы рэкрутаў, канфіскацыя жыўнасьці, фуражу, харчаваньня. Людзі былі незадаволеныя. І калі б Напалеон затрымаўся ў Вільні і даў сялянам волю зь зямлёй, хай сабе і за выкуп, то гісторыя зусім інакш магла павярнуцца. Расея ніколі б нашы землі не заваявала б. Але Напалеон захаваў прыгон. Таксама вельмі красамоўны факт — часовы ўрад ВКЛ праводзіў набор у войска для Напалеона паводле расейскай рэкруцкай сыстэмы, і гэта было ўспрынята вельмі нэгатыўна. Гэта зноў жа пацьвярджае тое, што Напалеону ад ВКЛ было патрэбна гарматнае мяса для дасягненьня сваіх імпэрскіх мэтаў.

*— Як хутка ў шляхты адкрыліся вочы на сапраўдныя мэты Напалеона?*

— Паўтаруся, шляхта і мяшчане віталі Напалеона зь вялікім патрыятызмам. Ёсьць дакумэнт пра тое, як гэта адбывалася ў Горадні. Збудавалі трыюмфальную браму. Брат імпэратара Джэром Банапарт затрымаўся ў горадзе, у шампанскім купаўся, з паненкамі танчыў. І выпусьціў з-пад увагі расейскую армію, якая здолела ад яго адарвацца. Кіраўніцтва Гарадзенскага павету выдала адозву, якая пачыналася з словаў: «Час збаўленьня прыйшоў! Прыйшлі нашыя збаўцы». Адразу пачаўся запіс добраахвотнікаў у напалеонаўскае войска. І сяляне спадзяваліся, што прыйдуць французы і дадуць свабоду. І іх спадзяваньні не апраўдаліся.

Селяніну ж усё роўна, хто ў яго забірае апошнюю карову — расейскі ці францускі афіцэр. Заўсёды так бывае — калі прыгон, калі страшная эксплюатацыя, спадзяюцца на вонкавага вызвольніка. Нехта прыйдзе і вызваліць, і нам будзе вальней. Потым аказваецца, што стары прыгон зьмяняецца новым. Таму сяляне хутка расчараваліся. Але сярод беларускага сялянства не было такога масавага патрыятызму, як расейцы любяць паказваць у фільмах, апісваць у літаратуры. Як у Льва Талстога, маўляў, «дубіна сялянскай вайны паднялася і пачала глушыць усіх французаў». У нас такога не было. У нас часьцей абараняліся ад фуражыраў. Беларускія сяляне не хацелі ваяваць і ў расейскай арміі. Вядомы цыркуляр Кутузава цару Аляксандру, дзе той скардзіцца, што сьвежанабраныя беларускія рэкруты пры адступленьні расейскай арміі паразьбягаліся яшчэ да Смаленску. Яны паўцякалі ў свае гаспадаркі, бо адчувалі, што ідзе нехта мацнейшы за расейскага цара, і трэба быць дома — можа, дасьць зямлю і волю.

— *Калі зірнуць на гісторыю ВКЛ, то самыя згубныя варожыя навалы прыходзілі на нашыя землі з-за ўсходняй мяжы. І сёньня Рэспубліка Беларусь фактычна адкрытая на ўсход. Якою, на тваю думку, мае быць беларуска-расейская мяжа?*

— Для мяне найлепшы прыклад дачыненьняў зь вялікім суседам паказвае Фінляндыя. Сябраваць, але мець шчыльна закрытую мяжу. Выказваць прыязнасьць, дэкляраваць нэўтральнасьць, але — з-за плоту. Калі Беларусь хоча ацалець як незалежная краіна, яна павінна стаць сябрам Эўразьвязу і мець на ўсходзе такую мяжу, якую

мы сёньня маем з Польшчай і Літвой. І трэба, каб нашую паветраную прастору ахоўвалі самалёты NATO. Вось тады Расея ніколі не асьмеліцца на нас напасьці. А так… Расейцы ў большасьці сваёй перакананыя, што беларусы — частка «русского мира». І яны будуць сюды лезьці, упэўненыя, што мы іх тут чакаем з абдымкамі. І пераканаць расейцаў у адваротным можа толькі калючы дрот на мяжы.

*25 красавіка 2012 г.*

**Сьвяты апостал Якаў піша ў сваім саборным пасланьні: «Бярыце, браты, за прыклад цярплівасьці моцнай, нястомнай працы і мудрага вытрываньня прарокаў».**

**Францішак Скарына**

## ХРАМ ЛІТАРАТУРЫ — З БЫКАВЫМ І КАРАТКЕВІЧАМ

**Vis-à-viS: Валерыя Навадворская**

***Масквіч родам зь менскіх ваколіцаў Аляксей Каўка аднойчы з горыччу прызнаўся, што за паўстагодзьдзя жыцьця ў расейскай сталіцы ні разу не пачуў беларускага слова ад маскоўскіх пісьменьнікаў. І прыгадаў — дзеля параўнаньня — учынак польскага паэта Ежы Путраманта, які на літаратурнай вечарыне ў Варшаве чытаў у арыгінале вершы Максіма Танка. Гэта агульнапрынятая праява сяброўства і павагі — сказаць хоць пару словаў на мове сябра ці суседа. Дык вось — ні разу. За пяцьдзясят гадоў. Мне ў гэтым сэнсе пашанцавала больш, і мову я ў Маскве пачуў. Прычым ня проста мову — «Пагоню» Багдановіча. У гутарцы са знакамітай расейскай дысыдэнткай Валерыяй Навадворскай.***

*— Валерыя Ільлінічна, вы лічыце расейскую літаратуру галоўным прадметам экспарту Расеі. Ня нафту, ня газ, а менавіта літаратуру. І нібы пачуўшы вас, адно з маскоўскіх выдавецтваў заснавала кніжную сэрыю «Расейскі раман для Эўропы». Але хіба можна пісаць на экспарт, як некалі рабілі на экспарт «жыгулі»?*

— З аўтапрамам нам ніколі не шанцавала. Мы ня ўмеем рабіць ужытковыя рэчы. Апошні раз мы рабілі нешта вартаснае яшчэ да падзеньня Вялікага Ноўгараду ў XV стагодзьдзі. З той пары мы развучыліся рабіць што-небудзь якаснае. Потым, у часы вэстэрнізацыі Аляксандра II, навучыліся зноў. Але наўрад ці для экспарту. Для экспарту мы больш не рабілі нічога і ніколі. А зь літаратурай у нас усё ў парадку. Літаратура — вялікая, усе з задавальненьнем карыстаюцца. Чэхава і ў Вялікай Брытаніі ставяць, і ў Злучаных Штатах. Але літаратура не ствараецца ў дэпартамэнтах, на заданьне партыі ці выдавецтва ня пішацца. У нас ёсьць некалькі экспартных аўтараў: празаікі Людміла Ўліцкая, Людміла Петрушэўская, Уладзімер Сарокін, Уладзімер Маканін, паэты Вольга Седакова і Дзьмітрый Быкаў. У XX стагодзьдзі было даволі шмат выдатных пісьменьнікаў, як вы памятаеце: і Цендракоў, і Трыфанаў, і Булгакаў — тых, хто пісаў паводле лякалаў Срэбнага веку. Вось пісаць мы можам, але гэта робіцца без заданьня партыі і кіраўніцтва, не пры іх удзеле і насуперак іх волі.

*— Мы з вамі гутарым у будынку, які суседнічае з агенцтвам ІТАР-ТАСС. І мне прыгадаліся радкі вашага паэта Мікалая Глазкова: «Мне говорят,*

*что «Окна ТАСС» / моих стихов полезнее. / Полезен также унитаз, / но это не поэзия». А літаратура ўвогуле павінна быць карыснай для грамадзтва, ці ў яе нейкая іншая роля?*

— Літаратура — гэта не тавары масавага ўжытку. Яна элітарная, яна ні на кога не працуе, яна разьлічаная не на абываталя, а на інтэлектула. Улада імкнецца прыручыць пісьменьнікаў, каб яны пасьвіліся на яе траўцы і давалі ёй малачко. А пісьменьнікі часам і ня супраць папасьвіцца, прэмію-другую зжаваць, апраўдваючыся: мы вось пасядзім трошкі побач з уладай, і за гэта нам будзе шчасьце — каму грошай на экранізацыю дадуць, каму кніжку дапамогуць надрукаваць, хоць сёньня гэта можна рабіць самастойна. Ня трэба. Улада — штука небясьпечная, яна заўсёды сьлізкая. Нават найлепшая ўлада. У Расеі прыстойнай магла лічыцца спачатку ўлада Аляксандра II. А чым справа закончылася? Задушэньнем паўстаньня 1863 году. Чым закончыў Аляксандар I, такі лібэрал? Аракчэеўшчынай. Кацярына II — такі сабе Гарбачоў XVIII стагодзьдзя — з Радзішчавым таксама не паладзіла, саслала.

Так, Ельцын быў дабрэйшы за астатніх, і ён нас не чапаў. З намі ён быў добры, а з чачэнцамі? А хто распачаў гэтую мярзотную гісторыю з саюзам паміж Расеяй і Беларусьсю? Зноў жа, трэба было трымацца ад улады далей і нічога ня браць. Мне, напрыклад, Ордэн мужнасьці давалі ў 1993 годзе, а чальцам нашай партыі — мэдалі. Мы не ўзялі, як не ўзялі і кватэраў, якія прапаноўваліся. Ельцын быў шчодрым, але тым, хто браў, гэта пазьней выходзіла бокам. Як, прыкладам,

тэлекампаніі НТВ. Прыйшоў Пуцін і запатрабаваў: «Пазыка за вамі, сябры»... Улада і літаратура не павінны сябраваць. Так, літаратура, калі гэта патрэбна для краіны, можа дапамагчы ўладзе. Як мы дапамагалі Ельцыну ў 1991, 1993, 1996 гадах, але прыжывацца пры ўладзе нельга, нельга спаць з уладай у адным ложку.

*— Пра дачыненьні пісьменьніка з уладай вы напісалі бліскучую кнігу «Паэты і цары». Прачытаўшы яе, я зразумеў, што вы любіце творчасьць Васіля Быкава і Ўладзімера Караткевіча. А хто яшчэ зь беларускіх аўтараў вам знаёмы і блізкі?*

— Справа ў тым, што гэтая кніга — працяг сэрыі, якую можна ўмоўна назваць «Храм расейскай літаратуры». Дабудоўваючы гэты храм, я маленькую каплічку выдзелю Васілю Быкаву, Уладзімеру Караткевічу, Сьвятлане Алексіевіч. Чаму я гэта зраблю? Зусім не таму, што я падтрымліваю ідэі Савецкага Саюзу. Наадварот — названыя аўтары належаць беларускай літаратуры. Але мы столькі гадоў прывыклі чытаць іх па-расейску. Таго ж Быкава, які, магчыма, пісаў па-расейску, а потым перакладаў на беларускую мову. У раньнія гады, на пачатку 60-х.

*— Не, Васіль Быкаў свае мастацкія рэчы пісаў толькі па-беларуску.*

— Значыць, да нас яго творы проста своечасова трапкялі. І з Караткевічам мы пазнаёміліся своечасова. Да таго, як мы даведаліся, што гэта «Зброя», мы прачыталі «Оружие». І «Ладзьдзю роспачы» Караткевіча, і творы Алексіевіч мы прачыталі па-расейску — у часопісах «Дружба народов» і «Юность».

Быкава мы прачыталі ўсяго, да самых апошніх твораў, якія пісаліся ўжо не ў Савецкім Саюзе, напрыклад аповесьць «Сьцюжа» ці апавяданьне «Труба». Справа ў тым, што ў свой час была вялікая блытаніна і мы разглядалі вашых пісьменьнікаў як сваіх. Вось з Грузіяй такога не было. Такога і з Украінай не было — Васіля Стуса ніхто з нашых паэтаў не паспрабаваў перакласьці, я яго чытаю па-ўкраінску. А тут мы ўсё атрымлівалі без спазьненьняў. Васіля Быкава — пачынаючы з самых раньніх твораў, зь «Мёртвым не баліць». Памятаеце, у яго было апавяданьне пра лейтэнанта, які трапіў да немцаў у палон, і эсэсавец, які яго дапытваў, сказаў: ты ня ўзрадуесься вяртаньню да сваіх... Спадзяюся, беларускі народ на мяне не пакрыўдзіцца, калі я ў сваім храме выдзелю каплічку для беларускай літаратуры — для Быкава, Караткевіча, Алеся Адамовіча, бо гэтых аўтараў мы ўспрымалі як родных, як сваіх, яшчэ да таго, як да нас дайшло, што гэта аўтэнтычная беларуская літаратура.

*— У Беларусі афіцыйна дзейнічае мэмарыяльны комплекс «Лінія Сталіна», там помнік правадыру, да яго прынагодна ўскладаюцца кветкі. І гэта пасьля ўсёй праўды пра тырана! Чаму мы ніяк ня можам канчаткова разьвітацца са Сталіным?*

— Таму што Сталін і «бацька» Лукашэнка вельмі добра каапэруюцца. І Пуцін са Сталіным таксама някепска глядзяцца, хоць Пуцін больш падобны да Берыі, чым да Сталіна. А ваш вусаты косіць пад вусатага Джугашвілі. І гэта выглядае натуральна. Ва Ўкраіне ніхто не ўскладае да

помнікаў Сталіну кветак — помнікаў няма, і ў іншых былых савецкіх рэспубліках таксама няма.

*— Але ж, паводле сацыялягічных апытаньняў, Сталін даволі папулярны і ў Расеі — пра гэта сьведчыць грамадзкая думка.*

— Гэта не грамадзкая і не народная думка. Сталін папулярны ў сьвядомасьці рабоў, якія мараць, каб ім заехалі чаравікам па твары, якія сумуюць па лягерным бараку і па «бацьку родным». Яны мне не суайчыньнікі, і я за іх не адказваю.

*— Давайце ад помнікаў Сталіну пяройдзем да іншага помніка. У Маскве яшчэ ў 2006 годзе на Кутузаўскім праспэкце паставілі помнік Янку Купалу — гэта ў сваім родзе сымбаль Беларусі. Але ён да гэтай пары афіцыйна не адкрыты. Гэта неяк зусім не па-братэрску.*

— Для мяне Беларусь сымбалізуе Кастусь Каліноўскі — адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863 году. Ён для мяне сымбаль сапраўднай Беларусі. Янка Купала мне, скажам шчыра, няблізкі. А тое, што Пуцін патрабуе шмат грошай за газ, дык жа драпежнікі кожны сваю тэрыторыю ахоўвае. Яны рэдка цалуюцца і мілуюцца. Пуцін хацеў бы падмяць пад сябе і Беларусь. Ясная справа, што Лукашэнка на гэта не ідзе, ён не зьбіраецца быць старшынёй «райсавету» і адстойвае сваю тэрыторыю. Тут сышліся два тыраны. Вас жа не зьдзіўляе, што Мао быў у кепскіх стасунках з усім астатнім камуністычным сьветам, што Гітлер са Сталіным не паладзілі. Таму і тут тое самае.

*— Утварэньне саюзу Беларусі і Расеі вы назвалі мярзотнай гісторыяй. Як вы лічыце, ці ёсьць у гэтага саюзу палітычная будучыня?*

— А гэта як вы самі вырашыце. Гэта «Малады Фронт» павінен вырашаць, Мілінкевіч, Саньнікаў, Ірына Халіп. Казулін вартасны чалавек. Шушкевіч — ідэальны прэзыдэнт для незалежнай дзяржавы. Былі ў вас некалі нейкія вайскоўцы... Як вы захочаце. Хто каго зможа, той таго і згложа. Вось Малдова не захацела — і сышла, Грузія не захацела — і сышла. Украіна амаль сышла — дагналі і солі на хвост насыпалі. За гэта ўкраінцы будуць расплочвацца. Пакуль беларускі народ церпіць Лукашэнку, плаціць давядзецца шмат. І тут я нічым не магу дапамагчы. Што ж нам, абвяшчаць крыжовы паход за вызваленьне Беларусі, калі мы Расею ня можам вызваліць?

*— Вас як палітыка паважае нават Зянон Пазьняк, які апошнім часам рэзка крытыкуе ўсю беларускую апазыцыю. Прызнайцеся, чым вы так заваявалі ягонае сэрца?*

— Пазьняк не павінен быў пакідаць краіну. Палітыку нельга так баяцца за сваё жыцьцё. Мне таксама яшчэ пры савецкай уладзе перадавалі «любоўныя цыдулкі» з КДБ: «Зьяжджайце, калі ласка, грошай на дарогу дамо і ўладкуем вас на працу ў італьянскай кампартыі». Уяўляеце сабе, што гэта была за кампартыя, калі працоўнымі месцамі там распараджаўся КДБ? Я ня зьехала, хоць разумела, што тут маё жыцьцё будзе вельмі нядоўгім. Я гарбачоўскую перабудову застала ў Лефортаўскай турме. І нават другую перабудову, ельцынскую, сустрэла таксама ў Лефортава.

У мяне абсалютна жорсткая пазыцыя што да Лукашэнкі, але хай бы Зянон Пазьняк, у якога былі вартасныя нацыянальныя погляды, вярнуўся б у Беларусь. Пакуль Пазьняк ня вернецца, ён ня зможа ніякай карысьці прынесьці свайму народу, бо нельга ратаваць радзіму з-за мяжы — гэта сьмешна. У свой час у нас таксама многія зьехалі. І гэты крок можна даравацьтым, хто выйшаў зь лягеру. А хто зьехаў замест лягеру? Э, не. Як казаў паэт Барыс Чычыбабін: «Уходящему — Синай, остающимся — Голгофа». Нельга ўцякаць, нельга зьяжджаць. Тым больш палітычнаму лідару.

— *А калі пагражае фізычнае зьнішчэньне?*

— Значыць, трэба паміраць. За свабоду трэба плаціць дарагую цану. Калі ў Зянона Пазьняка ёсьць нейкія сумненьні, хай чытае гімн «Пагоня». Там усё сказана: «Толькі ў сэрцы трывожным пачую / за краіну радзімую жах, / бачу Вострую Браму сьвятую / і ваякаў на грозных канях». І асабліва там далей: «Маці родная, Маці-краіна, / не усьцішыцца гэтакі боль, / Ты прабач, Ты прымі свайго сына, / за Цябе яму ўмерці дазволь». Гэтыя словы ніхто не адмяняў. Патрыёт павінен марыць памерці за айчыну. Я, напрыклад, не хачу паміраць сваёй сьмерцю і, па-мойму, падстаўлялася, дзе толькі магла.

— *Тут я з вамі ня згодны. Вярнуцца, каб загінуць, ня варта. Вярнуцца, каб перамагчы, — так.*

— Яшчэ раз паўтару — чытайце свой уласны гімн: «Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, / не давайце чужынцамі быць, / хай пачуюць, як сэрца начамі / аб радзімай старонцы баліць». Там усё сказана:

«Мо яны, Беларусь, панясьліся / за тваімі дзяцьмі наўздагон, / што забылі Цябе, адракліся, / прадалі і аддалі ў палон». Не аддавайце Беларусь. Слухайце свайго Багдановіча, ён выклаў нацыянальную праграму беларусаў у адным вершы.

*— Лукашэнка кіруе ў Беларусі ўжо шмат гадоў. А наколькі разьлічаны расейскі тандэм Пуцін — Мядзьведзеў?*

— Пуцін здаровенькі, ён яшчэ прастудзіцца на нашым пахаваньні. Пуцін — гэта вам ня Брэжнеў, ён спортам займаецца. Ён ня супраць пакіраваць яшчэ столькі, і яшчэ паўстолькі, і яшчэ чвэрць столькі. Баюся, што ён нас усіх перажыве. У Расеі я ня бачу вольнага народу і здаровай апазыцыі. Бо апазыцыя, якая складаецца зь лібэралаў, фашыстаў і камуністаў, — гэта не альтэрнатыва, а бедлам. За такой апазыцыяй ніхто ня пойдзе, і правільна зробіць. Народу трэба паказаць шлях. І мне тут вельмі падабаецца лёзунг вашага «Маладога Фронту»: «Беларусь — у Эўропу, Л... — у ж...». Дык вось, калі Расея захоча ў Эўропу, а не ў Азію, калі гэтага захоча большасьць, тады і зьявіцца пэрспэктыва.

*29 лістапада 2012 г.*

**Калі прыйдзе мудрасьць да чалавека — уздасца яму хвала, і пашана яго акружыць, і слава яму ўслугуе.**

**Францішак Скарына**

## МАСТАЦТВА ДЗЯЛІЦЦА ТАЯМНІЦАЙ

**Vis-à-viS: Кшыштаф Занусі**

***Кшыштаф Занусі — жыцьцялюб, якіх пашукаць. У жыцьці і творчасьці. Пагаварыўшы зь ім, адчуваеш, што і твая мэлянхолія разьвейваецца, як ранішні туманок над росным поплавам. Шчыра кажучы, мне доўга не хацелася пакідаць утульную варшаўскую кінастудыю TOR на вуліцы Пулаўскай, дзе ў чарзе на прыём да пана Кшыштафа сядзелі сцэнарысты, акторы і аматары аўтографаў. Пагутарыўшы пра кіно польскае і беларускае, пра суперніцтва культураў і прагу жыцьця, уласьцівую ня толькі асобным людзям, але і народам, мне ўжо ў менскім цягніку захацелася паглядзець (ці пераглядзець яшчэ раз) усе фільмы славутага рэжысэра, якія знайшліся ў сеціве, стаўшы ўсясьветнаю клясыкаю.***

*— Пане Кшыштаф, у Менску сёлета мы перажылі пяць месяцаў зімы, а ў Варшаве і ў лютым, і ў сакавіку былі бясьсьнежныя вуліцы. І мне падумалася, што гэта вельмі добра для кінавытворчасьці. Нейкія 500 кілямэтраў праехаць — і можна здымаць зусім іншую натуру. Ня трэба чакаць. А чым яшчэ беларусы і палякі маглі б узаемна дапамагаць адны другім, апрача клімату?*

— Сказанае вамі больш мэтафара, бо клімат у нас толькі трошкі цяплейшы, розьніца невялікая. Чым мы можам дапамагаць узаемна? У вас на Палесьсі такія прасторы, якія зьдзіўляюць любога турыста. А ў нас ёсьць горы і мора, якіх у Беларусі няма. Так што ў геаграфічным сэнсе мы можам адны адных выдатна дапаўняць. А вось культуры заўсёды жывуць як супернікі, заўсёды больш дынамічныя культуры перамагаюць менш дынамічныя. Таму прыемныя на слых словы пра супрацу культураў няпраўдзівыя. Мы супернічаем, і той, хто слабейшы, прайграе. Культуры бываюць моцныя і слабыя, бываюць моманты, калі адна культура падымаецца, а потым занепадае. Паглядзіце на гісторыю Эўропы, напрыклад, на кельтаў. Ірляндыя калісьці была ці ня самай разьвітай часткай Эўропы. А сёньня Ірляндыя такой ролі не выконвае, яна практычна страціла сваю мову. Але гэта не азначае, што ейны заняпад — назаўсёды. Можа быць, ірляндцы яшчэ вернуцца ў першы шэраг, але гэта залежыць ад многіх рэчаў, найперш ад жаданьня. Паглядзіце на літоўцаў — яны на некалькі стагодзьдзяў былі страцілі сваю мову, а цяпер вярнуліся да яе. Чэская мова пасьля бітвы пад Белай Гарой зьнікла таксама, але праз

два стагодзьдзі вярнулася. Так бывае. Культуры квітнеюць і занепадаюць, але яны супернічаюць паміж сабой.

— *Вы здымаеце фільмы на розных мовах. Наколькі для вас моўны чыньнік істотны?*

— Для мяне мова — вельмі істотная рэч, бо я толькі польскай мовай валодаю дасканала і цалкам адказваю за ўсе словы. Але вельмі часта мне даводзілася працаваць і на іншых мовах. Я зьняў карціны па-ангельску, па-француску, па-італьянску, па-нямецку, па-расейску. Гэтымі мовамі я таксама валодаю, але не ў дастатковай ступені. А калі ты залежыш ад перакладніка, гэта абмяжоўвае. Але глябалізацыя сёньня зайшла так далёка... Ну вось, калі б я здымаў карціну ў Брусэлі, то на якой мове? На флямандзкай, на францускай, на ангельскай — ніхто ня зьдзівіцца. Аб'яднаная Эўропа мае сваю сталіцу — Брусэль. І такіх месцаў на зямлі вельмі шмат. Мой новы фільм — пра вялікую міжнародную карпарацыю — будзе зьняты часткова на ангельскай, часткова на італьянскай, часткова на польскай, часткова на расейскай мовах. Там героі будуць размаўляць кожны на сваёй роднай мове, і гэта натуральна. Так сёньня даводзіцца працаваць.

— *Беларускае кіно амаль заўсёды здымалася па-расейску. Вось і нядаўні фільм Сяргея Лазьніцы, зьняты паводле аповесьці Васіля Быкава «Ў тумане», — расейскамоўны. Дарэчы, як вы яго ацэньваеце?*

— Я лічу, што гэта вельмі вартасная карціна высокага гатунку для публікі першай клясы. «У тумане» — велізарнае дасягненьне Сяргея

Лазьніцы, але ці беларускае гэта кіно? Цяжка сказаць. Зьняты фільм усё ж па-расейску, і з гледзішча культурнага коду належыць да расейскае культуры, нацыянальна беларускага там нічога не адчуваецца. Нацыянальнае кіно павінна адлюстроўваць беларускі мэнталітэт, беларускую гісторыю, беларускую сучаснасьць. Яно павінна выяўляць той гістарычны досьвед, які мае беларуская нацыя. Я чакаю такую карціну і буду глядзець яе зь цікавасьцю.

*— У эпоху глябалізацыі ці павінен мастак трымацца сваёй нацыянальнай культуры?*

— Тут немагчыма даваць унівэрсальныя парады. Прыгадайма Набокава ці Бродзкага, якія пачыналі на адной мове, а заканчвалі на іншай. Прыгадайма Джозэфа Конрада, які лічыцца клясыкам ангельскай літаратуры, але ён быў палякам і да канца жыцьця гаварыў па-ангельску з памылкамі. Проста існуюць агульначалавечыя каштоўнасьці, і пра іх можна сказаць нават у вельмі лякальнай карціне. Памятаю, у юнацтве я глядзеў японскую карціну пра тое, як на востраве бракавала вады, і людзі штодзень хадзілі на гару па ваду. І гэта кранала ўсіх ва ўсім сьвеце, хоць больш лякальнай карціны нельга сабе ўявіць. Я магу сабе ўявіць лякальную карціну зь Беларусі, падобную на тыя, якія нядаўна бачыў у Румыніі. Яны цікавяць усіх, бо закранаюць агульначалавечыя праблемы.

*— А што мастак мае рабіць, калі ў ягонай краіне — дыктатура? Зьяжджаць ці заставацца? Вось два прыклады: Томас Ман і Ганна Ахматава. Ман пакінуў гітлераўскую Нямеччыну, Ахматава*

*засталася ў сталінскім Савецкім Саюзе. За кім рацыя?*

— І тут таксама няма адной, карыснай для ўсіх, парады. Так, Томас Ман эміграваў у Амэрыку і там працаваў у кантэксьце чужой мовы, але потым ён ужо ніколі не вярнуўся ў Нямеччыну, жыў у Швайцарыі. Ён меў гэтае шчасьце — іншую нямецкамоўную краіну. Бо атрымалася так, што ён як бы разышоўся палітычна са сваёй нацыяй. Нямеччына дэмакратычным шляхам абрала Гітлера. І той, хто хацеў застацца немцам, павінен быў зразумець, што большасьць нацыі — супраць яго, калі ён — супраць Гітлера. Гэта што да Нямеччыны. Расея такіх магчымасьцяў не дае, бо па-расейску нідзе, апрача Расеі, не гавораць. Я не магу Ганну Ахматаву ўявіць на эміграцыі. Хоць Бунін пісаў і жывучы ў Францыі. Набокаў знайшоў сябе на ангельскай мове, як і Бродзкі. Андрэй Таркоўскі эміграваў, бо ведаў, што Бандарчук і іншыя савецкія кінамэтры не дадуць яму працаваць у Расеі. І ён застаўся на Захадзе, каб выратаваць свой талент. І ён яго выратаваў, і зьняў свае найлепшыя карціны ў Італіі, у Швэцыі. Значыць, у гэтым была неабходнасьць.

*— Ёсьць такі выраз — «ён знаходзіцца на вяршыні ўлады». Але не гаворыцца пра чыёсьці знаходжаньне на вяршыні мастацтва. Якая вяршыня ўсё ж вышэйшая?*

— Я ніколі не глядзеў на ўладу зьнізу ўверх, такі погляд характэрны хіба для XIX стагодзьдзя. Зьдзіўляюся, калі чую, як расейцы дзякуюць нейкаму там губэрнатару, што ён дарогу пабудаваў. Для нас, людзей заходніх, гэта гучыць проста як

жарт: якая тут заслуга губэрнатара? Ён атрымлівае грошы з маіх падаткаў і працуе, каб пабудаваць за мае грошы мне дарогу. У гэтым сэнсе я ня бачу ніякай розьніцы паміж прэзыдэнтам і прыбіральніцай — я ім плачу і патрабую ад іх добрай працы. І таксама выбіраю, каго хачу мець у якасьці прыбіральніцы, а каго ў якасьці прэзыдэнта. Улада — гэта служба, а калі служба кепская, трэба рабіць усё, каб гэтую службу прагнаць. А мастацтва — зусім іншая ўлада. Мастак дзеліцца зь людзьмі сабой, сваёй душой, сваімі думкамі, ён дапамагае людзям знайсьці сябе, навесьці парадак у іхным сьветапоглядзе. У мастацтва зусім іншая роля, і з палітычнай уладай яно аніяк не перасякаецца.

*— Ваш першы фільм датуецца 1969 годам. Вы шмат пасьпелі зьняць яшчэ ў Польскай Народнай Рэспубліцы. Ці перашкаджала вам цэнзура?*

— Яшчэ як перашкаджала! Але гэта былі пэўныя правілы гульні, і я загадзя ведаў, што могуць выразаць з карціны. І калі вырэзвалі, я радаваўся, што дайшоў да мяжы. Калі нічога не вырэзвалі, я перажываў. А калі вырэзвалі самае галоўнае, значыць — ня трэба было рабіць такую карціну. Фільм «Галёп» я хацеў зьняць у камуністычныя часы, але своечасова зразумеў, што палову яго не прапусьцяць. І тады я сказаў сабе — трэба чакаць. Пачакаў 20 гадоў і зьняў, калі камуністычная сыстэма рухнула. І сёньня я не заўсёды магу здымаць тое, што хачу. Некаторыя прывабныя для мяне праекты ва ўмовах свабоднага рынку проста ня маюць аніякіх шанцаў. Трэба быць рэалістам. Хоць часам хочацца і памарыць. У Сярэдня-

веччы марыць было вялікім грэхам для каталіка. І сёньня мастак павінен глядзець праўдзе ў вочы, глядзець на бруд жыцьця, а не сыходзіць ад яго, не паварочвацца да яго сьпінай і гаварыць, што гэта мяне не датычыцца. Не, гэта наш лёс — жыць у гэтай бруднай рэальнасьці і спрабаваць выратаваць тое, што яшчэ магчыма выратаваць.

— *Існуе меркаваньне, што цэнзура спрыяе мастаку ў вобразатворчасьці. Ён стараецца абысьці забароны і тым самым паглыбляе свой твор у мастацкім пляне. Вы згодныя?*

— Не. Ёсьць падобная думка, што сабака добра вас бароніць, калі ён галодны. Гэта таксама няпраўда. І цэнзура аніякай станоўчай ролі ў гісторыі ніколі не адыграла. Калі цэнзура ў чымсьці дапамагае, то гэта датычыць публікі, а не мастака. Публіка, якая жыве ў цэнзураваным сьвеце, вельмі ўважліва глядзіць на творы мастацтва. Гэта фантазія публікі дапамагае ёй зразумець тую ці іншую мэтафару. Вольнае і сытае грамадзтва маёй мэтафары можа і не заўважыць. Пры заможным жыцьці людзі няшмат патрабуюць ад мастацтва. А несвабодная публіка шукае ў мастацтве жаданае. Але гэта не заслуга цэнзуры. Мастаку яна заўсёды перашкаджае. Што мы робім? Мы дзелімся таямніцай, бо мастацтва — гэта таямніца. І нам у выяўленьні гэтай таямніцы могуць дапамагчы толькі вобразы, мэтафары. Мы наўпрост нічога ня можам сказаць пра таямніцу, бо яна ня будзе таямніцай, калі яе можна проста растлумачыць.

— *Сучаснае кіно — гэта пераважна гвалт, забойствы, крымінал. Можа быць, усё ж патрэбная*

*разумная цэнзура? Бо іначай як спыніць тое, што сёньня творыцца на экране?*

— Ведаеце, гэта таксама не датычыць цэнзуры. Гэта датычыць чалавека. У яго свабодны выбар. Ніхто нікога гвалтам не прымушае глядзець дрэнныя карціны ці чытаць дрэнныя кнігі. Калі людзі самі гэтага хочуць, нішто іх ня выратуе. Гэта як наркотыкі. Можна забараніць наркотыкі, але найлепш, каб людзі самыя ад іх адмовіліся. Калі я сам адмоўлюся, наркотык ня мецьме нада мной улады. Але калі я сам хачу глядзець на гвалт і забойствы, ніякая цэнзура не дапаможа. Я бачыў, як у многіх краінах спрабавалі пры дапамозе цэнзуры нечага дамагчыся, прыкладам, у Іране, дзе я часта бываю. Там вельмі моцная цэнзура, але яна не дапамагае. Хто хоча, той усё ўбачыць, прыхавае той жа парабалічны дыск і будзе глядзець забароненае.

*— Часта дыктатары прыкрываюцца дружбай зь вядомымі творцамі. Апошні прыклад — Дэпардзьё і Пуцін. А мне прыгадваецца, як Эмір Кустурыца спэцыяльна прылятаў у Беларусь, каб атрымаць нейкі прыз з рук Аляксандра Лукашэнкі.*

— Я добра ведаю Кустурыцу і лічу яго чалавекам, у якога вялікія праблемы са сваёй ідэнтыфікацыяй. Ягоная радзіма зьнікла падчас яго жыцьця. Я падазраю, што ён крышку заблытаўся і ня вельмі добра разумее, у якім кірунку ісьці і як сябе паводзіць. Ужо некалькі разоў гэтаму былі яскравыя прыклады. Што да ўзнагародаў, то і я маю сумненьні, ад каго іх прымаць і ў якіх умовах. Гэта проста праблема густу. На маю думку,

мастаку трэба ад усякай улады трымацца на дыстанцыі — гэта тыпова заходні падыход. З таго часу, як сьвецкая і рэлігійная ўлады на гэтай зямлі падзяліліся і сталі аўтаномнымі, у нас у заходнім мэнталітэце заўсёды прысутнічае гэтая дыстанцыя. Ня трэба быць на паслугах ва ўлады, трэба быць яе крытыкам, трэба быць ад яе незалежным. Вядома, можна і супрацоўнічаць з уладай, але толькі там, дзе мы лічым, што ўлада робіць нешта правільна. Але ніякім чынам ня трэба аддаваць сябе ёй на службу. Нават у часы Францускай рэвалюцыі Мальер, хоць і працаваў для францускага караля і за ягоныя грошы, але ён таксама і разбураў каралеўскую ўладу, бо знаходзіў у яе дзейнасьці слабыя бакі.

— *У фільме «Сэрца на далоні» ў галоўнай ролі вы зьнялі ўкраінскага актора Багдана Ступку. Чым звычайна абумоўлены для вас выбар замежных актораў?*

— Усё залежыць ад сцэнару. У «Сэрцы на далоні» было неабходна паказаць алігарха. У нас у Польшчы няма сапраўдных алігархаў, і мы сьмяемся, што нам не пашанцавала. Бо для драматургаў гэта кепска. Калі б не было каралёў-злачынцаў, Шэксьпір застаўся б беспрацоўным! У Польшчы няма кантрастаў, няма напругі ў грамадзтве. Сытуацыя падобная да нармальнай дэмакратыі, але для драматурга гэта нязручна. Для чалавека, для грамадзяніна гэта вельмі добра, што наша палітыка такая нецікавая — ніхто нікога не забівае, ніхто нікога ня садзіць. Ну паспрачаюцца ў парлямэнце. І таму алігарх у «Сэрцы на далоні» меў быць з акцэнтам. А Багдан Ступка, сьветлая

яму памяць, нарадзіўся ў Львове і выдатна гаварыў і па-польску, і па-ўкраінску, і па-расейску. Гэта трохмоўны актор. І ён выдатна граў алігарха, які з усходу прылятае самалётам. Я не канкрэтызую, адкуль ён прыляцеў, але ёсьць такі міжнародны ўсход, там усе казачна багатыя. І тым багацеям здаецца, што ім усё дазволена. Але насамрэч — ня ўсё.

*— Вы маеце вельмі шмат самых розных узнагародаў. Наколькі важныя для вас ня толькі ўвага і любоў гледачоў, але і знакі дзяржаўнай увагі?*

— Я б не сказаў, што яны вельмі для мяне важныя, але прыемныя. Я толькі што атрымаў, ужо другім разам, францускі ордэн. Мяне ўзнагароджвалі і літоўцы, і вугорцы, і французы, і італьянцы — узнагародаў у мяне сапраўды даволі шмат. Мая жонка заўсёды жартуе, што іх можна будзе пабачыць толькі падчас пахаваньня — бо іх тады нясуць на падушачках. Але ў жыцьці што зь імі рабіць? Ніхто, акрамя расейцаў, штодня ўзнагароды ня носіць. Узнагароды розныя, прэміі — гэта радасьць, але гэта адначасова пустата. Вядома ж, яны часам могуць спатрэбіцца. Скажам, калі нехта захоча адправіць мяне ў адстаўку, маю моцны аргумэнт супраць — мяне ўзнагароджваюць, так што дайце мне яшчэ папрацаваць.

*— Чаму вы прынцыпова не экранізуеце клясыку? Польская літаратура такая багатая на гістарычныя сюжэты.*

— Вядома ж, багатая. Але калі літаратурны твор ёсьць шэдэўрам, навошта мне яго пераводзіць у кінамастацтва? У XIX стагодзьдзі з удалай

п’есы рабілі опэру. Сёньня гэта вялікага сэнсу ня мае. Хай клясыка літаратурная застаецца літаратурай, а я спрабую дасягнуць клясыкі ў кіно. Мае калегі робяць выдатныя экранізацыі! Я вельмі паважаю Гофмана і Вайду, якія рабілі найвыдатнейшыя экранізацыі польскай літаратуры, і мяне гэта радуе. Яны гэта зрабілі за мяне. Як глядач я застаўся задаволены. А сам не хачу гэтага рабіць.

— *Беларуская і польская мова вельмі блізкія, мы можам паразумецца безь перакладніка. Апошнія гадоў пятнаццаць у Беларусі ідзе актыўная русіфікацыя. Як можна абараніць мову?*

— Гэта залежыць ад волі народу. Больш за сотню гадоў расейцы забаранялі польскую мову. Нельга было нават у школе гаварыць па-польску, але польская мова аніяк ад гэтага не пацярпела. Наадварот, мы моцна трымаемся нашай мовы. Калі народ мае жаданьне абараніць мову, ён яе абароніць. Але часам чалавеку ня хочацца жыць. І ў нацыі, як і ў чалавека, бываюць такія часы, калі ёй ня хочацца жыць, і тады нацыя памірае. А ёсьць у людзей такі ўнутраны рух, калі яны хочуць быць нацыяй. І я бачу, як гэта адбываецца, напрыклад, у Казахстане, дзе казахі — меншасьць. Але як магутна там адраджаецца нацыянальная самасьвядомасьць казахаў, якія былі заўсёды прыніжаныя і цярпелі ад русіфікацыі, як і беларусы. А вазьміце Канаду, дзе быў велізарны ціск на францускую мову, а як яна квітнее цяпер! Яе не ўдалося зьнішчыць, хоць уплыў ангельскай мовы там велізарны. Усё залежыць ад таго, ці мае нацыя жаданьне жыць. Гэтак і сярод людзей: хто

стаміўся і лічыць, што яму ня варта жыць, той памрэ, а хто хоча жыць, той выжыве.

*— Вы часта бываеце ў Беларусі. З вашых назіраньняў і адчуваньняў — беларусы стаміліся жыць?*

— На першы погляд, так. Але ў глыбіні вашага народу, калі пакапацца, даўжэй пагаварыць зь людзьмі, я бачу велізарнае жаданьне выжыць, здольнасьць вытрымаць усе ўціскі. Вы, беларусы, вядомыя тым, што ўмееце вытрымаць велізарны ўціск. Сіла беларусаў праяўляецца ў супраціве вонкавым уціскам.

*— Беларусь знаходзіцца на памежжы заходняй і ўсходняй цывілізацый. У сувязі з гэтым Беларусь бачыцца вам якой? Бачыцца вам дзе? І ці бачыцца ўвогуле?*

— Бачыцца, безумоўна. І я вельмі хачу, каб мой усходні сусед быў самастойным у мысьленьні, у сваім палітычным выбары, у мове. Гэта ня толькі мой асабісты інтарэс. Гэта інтарэс Эўропы, каб Беларусь існавала і адрозьнівалася і ад палякаў, і ад расейцаў, і ад літоўцаў, і ад украінцаў. Незалежная Беларусь — агульнаэўрапейскі інтарэс. Калі б Беларусь зьнікла і ператварылася проста ў банальную расейскую правінцыю, гэта было б вялікай стратай для нас усіх. Але я перакананы — гэтага не адбудзецца.

*10 студзеня 2013 г.*

**Відма выявілася пры цары Балтазары,
калі ён праўляў гасьціну вялікую:
на сьцяне рукою вогненнай словы
накрэсьліліся — знакавалі яны, што меў
страціць царства сваё Балтазар.**

**Францішак Скарына**

## МАСТАК, НАТХНЁНЫ ДЫКТАТУРАЙ

**Vis-à-viS: Аляксей Марачкін**

***«Любіце жывапіс, паэты!» — заклікáў Мікалай Забалоцкі, аддаючы першынство пэндзьлю перад пяром у спасьціжэньні чалавечай душы. Але бывае, што і жывапісцы любяць паэзію і, адклаўшы ўбок пэндзаль, бяруцца за пяро. Усе ведаюць росьпісы Мікеляндджэлё ў Сыкстынскай капэле, але і вершы ягоныя вартыя ўвагі. Мастак Аляксей Марачкін спачатку падпісваў вершамі свае некаторыя карціны («Звычайны натурморт», «Мірон» ды інш.), пазьней чаргаваў вершаваныя творы з творамі жывапіснымі ў сваіх мастацкіх каталёгах, а ўрэшце выдаў і свой першы паэтычны зборнік «Калодзеж у жыце» (сям-там «разбаўлены» ўласнай графікай).***

*— Спадар Аляксей, у прадмове да вашай кнігі Анатоль Вярцінскі даволі рызыкоўна тлумачыць, чаму мастак Марачкін падаўся ў паэты. На ягоную думку, пэндзаль просіць падмогі ў пяра. Але, як мне бачыцца, пэндзаль ваш ці ня ўсёмагутны, прычым ва ўсіх жанрах — ад пэйзажаў і партрэтаў да палітычнай карыкатуры. Дык хто ў каго тут просіць падмогі?*

— Цяжка сказаць. Я сын вясковага інтэлігента — бацька быў вясковым бібліятэкарам і прыносіў дадому багата кніг. А мяне ў маленстве цікавілі толькі кнігі з малюнкамі. Без малюнкаў мне ўсе кніжкі былі нецікавымі. А кіно — бяз стрэлаў. Хлопцы перамаўляліся: «Як кіно?» — «Ай, нецікавае, толькі двух немцаў застрэлілі». Страляніны мусіла быць многа. А ілюстраваная кніга заўсёды была ў асалоду. Так што слова і малюнак з маленства жылі побач. Слова кніжнае і слова гутарковае, нават песеннае. Памятаю, халодная восень, я сяджу на печы, а па хатах ходзіць стары Захар. У яго была лера, ён круціў яе і сьпяваў: «Хрыстос выйшаў з храму і казані кажа пра Ўскрэшаньне зь сьмерці Свае». Сьпевы тыя вельмі ўражвалі. А яшчэ мяне заўсёды цікавілі замёрзлыя вокны з узорамі, і я алоўкам ці чымсьці вострым, скажам, голкай, паўтараў тыя ўзоры.

*— Дык суаўтарам вашых першых малюнкаў быў Дзед Мароз?*

— Фактычна так, ты гэта трапна заўважыў. А пасьля вокны адтайвалі і ўсё зьнікала. І я пачынаў крэмзаць на газэтах і кнігах, за што бацька на мяне дужа сварыўся.

*— У ваш зборнік увайшла і паэма «Акрэсьціна», напісаная ў турме ў сакавіку 2008 году. Вы, паводле ўласнага прызнаньня, «ахрышчаны Акрэсьціна». Хрост турмой з псыхалягічнага гледзішча — гэта што?*

— Для мастака гэта неабходна. Увогуле, для творцы, для чалавека, які мусіць спазнаць жыцьцё ва ўсіх фарбах. Нездарма я іранічна напісаў: «Жыцьцё ня дужа мяне песьціла. / Ах, гэта мілае Акрэсьціна». Хоць гэта і дзіка гучыць, але я ўдзячны тым, хто мяне пасадзіў на тыя суткі. Я паглядзеў на турму зь сярэдзіны. Да сваіх сутак я неба ў клетачку ня бачыў. Гэта па-першае. Па-другое, сярод таварышаў па няшчасьці можна сустрэць цікавых людзей. Прыкладам, са мной сядзеў алькаголік, хворы чалавек. Сутак трое ўсё было нармальна, а на чацьвёртыя ён раптам пачаў хадзіць па камэры і размаўляць сам з сабою. А другі, больш дасьведчаны, кажа: «Пачаліся белыя коні». Ніколі раней я тых коней ня бачыў! А неяк мяне запрасіў да сябе ў кабінэт начальнік турмы: «Аляксей Антонавіч, вы ж ведаеце, вас не за расейскі мат пасадзілі». І мне раптам здалося, што ён мне амаль сябра, я ажно прыўстаў. А начальнік як крыкне: «Сидеть!». Я хацеў павярнуць табурэтку, а яна прыкручаная да падлогі. І тут я адразу схамянуўся і ўспомніў, дзе я...

*— Праз два гады пасьля «Акрэсьціна» зьявілася яшчэ адна напісаная ў вязьніцы паэма — «Турма» Ўладзімера Някляева. Яны ў нечым блізкія, у абедзьвюх апісваецца турма знутры.*

— У Някляева — турма-жанчына. Я вельмі высока ацэньваю ягоную паэму. Гэта паэзія высо-

кага кшталту. У мяне — як бы замалёўкі з натуры, нейкія свае рэфлексіі. Турма ў жыцьці чалавека як злая мачыха. Але вось што дзіўна. Я ведаў некаторых былых вязьняў ГУЛАГу. Скажам, Станіслава Пятровіча Шушкевіча ці Сяргея Новіка-Пеюна. Яны мяне заўсёды ўражвалі сваім аптымізмам. Так іх навучыла няволя — любіць вольнае жыцьцё. Але ня будзем ідэалізаваць турму, яна нясе з сабой няшчасьце.

*— Пра гэта я пытаўся ў Някляева, спытаюся і ў вас. У Вільні турма НКВД стала Музэем генацыду. А якая беларуская турма надаецца для такой ролі — быць музэем?*

— Гэткі музэй у Беларусі абсалютна неабходны. Каб там можна было паказаць катаваньні, каб нашы наступнікі ведалі, пры якой сыстэме мы жылі. Музэй варта было б зрабіць у так званай Валадарцы. Там Якуб Колас пісаў «Новую зямлю», там шмат выдатных людзей сядзела! Але трэба спалучыць турэмны музэй і карцінную галерэю, дзе паказаць, як мастакі ўслаўлялі рэжым. Я на свае вочы бачыў у Нацыянальным мастацкім музэі падвалы, заваленыя такімі творамі. Там сацрэалізм аж пішчыць!

*— Працытую радкі з «Акрэсьціна»: «Зачыстка, арышты, разгон... / Маё тут топчуць далакопы. / Замоўк, зьнямеў Свабоды звон. / Мы заляглі ў свае акопы. / Такое нам не навіна. / Я ў эпіцэнтры калатнечы. / Ідзе сапраўдная вайна. / Не адсядзісься, дзед, на печы». Акопы і вайна мастака і паэта Марачкіна — што стаіць за гэтым вобразам?*

— У мяне і сёньня такое адчуваньне, быццам я знаходжуся ў акопе. Тут ніякага гераізму няма,

але ў нас калі чалавек хоць крышачку мысьліць іначай, чым яму дыктуюць зьверху, ён заўсёды пад прыцэлам. Каб я ня быў пад прыцэлам, то сёньня глядач убачыў бы мае творы ў сталай экспазыцыі ў Нацыянальным музэі. Мая карціна «Вераніка і Максім» была ў экспазыцыі, але, калі музэй наведваў начальнік краіны, яе тут жа зьнялі. І назад не вярнулі. Вось такія парадкі ў нашых музэях. Нездарма ў мяне нарадзіліся радкі: «Ідзем няведама куды. / Вусаты цмок наш паганяты. / Туды-сюды, сюды-туды — / пакорлівыя, як ягняты». Калі глядзіш расейскае тэлебачаньне, то там шмат перадачаў пра іхных артыстаў, мастакоў, паказваюцца фільмы пра іх трагічны лёс. У нас жа на БТ — пустата.

— *А ці мае права мастак быць абсалютна апалітычным?*

— Мастакоў і наогул творцаў ня трэба дзяліць на тых, хто адгукаецца на сацыяльныя ці палітычныя праблемы, і на тых, хто не адгукаецца. Творца — свабодны чалавек. Ён мае права нават у часе катаклізмаў ці вайны пісаць прыгажосьць, даваць асалоду душы чалавека. Але мастак мае права адгукацца і на праявы зла і паказваць яго. Як гэта рабіў, прыкладам, Францыска Гоя ў сваім цыкле «Сон розуму спараджае пачвараў». У яго ёсьць таксама цэлая сэрыя — «Інквізыцыя». І ў нас ёсьць такія мастакі, якія ня ў лоб, а мэтафарычна выказваюць сваё стаўленьне да зла. Я мог бы назваць іхныя прозьвішчы, але тады і яны апынуцца пад прыцэлам. А хтосьці зь іх хоча атрымаць мэдаль ці прэмію... Я назіраю людзей, мастакоў, якія героі вайны, вэтэ-

раны. І падазраю, што там для іх было прасьцей, бо яны бачылі ворага, а тут, аказваецца, зрабіць выбар больш складана. Гэта страшней за вайну. Там было проста — сказалі ісьці наперад і страляць... А тут столькі апраўданьняў знойдзецца, каб не пайсьці на ўчынак!

*— Знакамітаму Мірону, які вывешвае бела-чырвона-белыя сьцягі ў маладаступных месцах, вы прысьвяцілі і верш, і карціну. Як вы лічыце, міронаў у нас большае?*

— Большае. Тут я ўспамінаю нашага слыннага сьпевака Віктара Скорабагатава, зь якім мы аднойчы на тую ж тэму гаварылі — больш ці менш нас робіцца. Дык ён: «Вядома ж, больш! Вазьмі 1910–1914 гады. Што ў Менску было і чым Менск быў? Правінцыйным горадам імпэрыі. Хіба ў нас тады была Акадэмія мастацтваў, унівэрсытэт, філярмонія?». І я зь ім пагадзіўся. Мяне нядаўна парадавала дзяржаўнае сацыялягічнае дасьледаваньне, якое праводзілася сярод моладзі і чыноўнікаў. Пытаньне гучала прыблізна так: «Ці адчуваеце вы сябе беларусам, грамадзянінам Беларусі?». Дык больш за 90% маладых адказалі, што адчуваюць. А сярод чынавенства — усяго каля 10%. Так што супраціву ёсьць на каго абаперціся. На маю думку, апазыцыя — гэта шматварыянтнае існаваньне дзяржавы. Калі нейкая галіна адсохла і яе адрэзалі, то ёсьць у запасе другая. А калі ты думаеш, што толькі ты правільна гаворыш, ты адзіны мудры і непагрэшны — гэта шлях у нікуды.

*— Днямі мы з вамі былі на выставе вашага сябра Алеся Шатэрніка, дзе гаварылася пра*

*творы, якія арыштоўваліся. Сярод іншых згадвалася Шатэрнікава мэмарыяльная дошка Ларысе Геніюш, якая знаходзілася ў зэльвенскім пастарунку цэлы год. А якія вашы творы зазналі падобны лёс?*

— Мне да гэтага часу не вярнулі карціну «Беларускія лялькі». Я спрабаваў вярнуць, пісаў у розныя інстанцыі — цішыня. Праўда, адзін з тых, хто яе ў мяне забіраў, паляпаў мяне па-сяброўску па плячы і сказаў: «Не хвалюйцеся, гэты твор будзе захоўвацца ў мяне на лецішчы». Я кажу: «Толькі ж не зьнішчайце». Да гэтай пары арыштаваныя мае малюнкі, прысьвечаныя Алесю Пушкіну, там, дзе ён з тачкай гною ля рэзыдэнцыі.

У мяне ўжо няма сілаў з гэтымі арыштамі змагацца. Лепш я нешта новае напішу, чым буду абіваць парогі пастарункаў. Калі я сустракаўся з мастакамі ў Нямеччыне і Польшчы і расказваў ім пра тое, як у Беларусі здымаюцца з экспазыцыяў і арыштоўваюцца карціны, у іх вочы гарэлі: «Ух ты! Каб жа ў нас такое было! Гэта ж такая рэклама!». Так што забароненыя творы праходзяць з плюсам на мастацкім рынку, але колькі нам гэта каштуе нэрваў... Мне падабаецца выказваньне аднаго мастака: «Я размнажаюся ў адзіноце». Такі стан мне цяпер больш блізкі, бо мастацтва ж ня цырк.

*— Вы шчасьлівы чалавек, у вас два дні нараджэньня — 10 і 30 сакавіка. Прынамсі, у розных энцыклапэдыях і даведніках называюцца дзьве розныя даты. Адкуль узьнікла гэтая блытаніна?*

— Так ужо атрымалася, што мэтрыка мая не захавалася. Калі я пайшоў у школу, то мяне папрасілі запоўніць анкету. Я ведаў, зь якога я году,

і месяц сакавік памятаў, ён для мяне быў заўсёды зьвязаны з гуканьнем вясны, а дату я назваў прыблізную. Потым ужо маці сказала, што я нарадзіўся ў дзень сьвятога Аляксея, Божага чалавека. І тады я вылічыў, што дзень гэты прыпадае на 30 сакавіка. Так што я сьвяткую цэлых дваццаць дзён — ад 10 да 30 сакавіка!

*— А ў якім узросьце вы канчаткова зразумелі сваё прызваньне? Скажам, калі вы выкладалі маляваньне ў сярэдняй школе вёскі Рубель на Століншчыне, вы ўсьведамлялі, што вам трэба ехаць і заваёўваць сталіцу?*

— Я гэта абсалютна дакладна ўсьведамляў і ведаў, што сталіца ад мяне нікуды не ўцячэ. І мне было абыякава, куды мяне разьмяркуюць пасьля Віцебскага пэдагагічнага інстытуту. Калі я прыйшоў у дэканат і мне там сказалі, што мяне накіроўваюць на Палесьсе, у Рубель, я з радасьцю пагадзіўся. Там такая калярытная мова! І калі я прыехаў у той Рубель (а гэта адна з самых вялікіх вёсак у Беларусі), то нават ня ўсё разумеў. Скажам, паказваю дзецям свае малюнкі, а яны кажуць: «Як хвайно!». Едучы ў Рубель, я ўжо ведаў, што пайду ў войска. Служыў я ў знакамітых Пячах, дзе спаліў танк, — ненаўмысна, вядома. І той танк яшчэ доўга стаяў, абгарэлы. А афіцэры ўвесь час паказвалі: «Вось глядзіце, што натварыў курсант Марачкін!».

*— Дык вы яшчэ тады паставілі пад пагрозу абараназдольнасьць Савецкага Саюзу?*

— Яшчэ тады, у 1963 годзе. Я часта выдурняўся ў войску, паколькі быў ня толькі танкістам, але і мастаком. Я павінен быў афармляць усякія

«ленінскія пакоі», пісаць на плякатах маральны кодэкс будаўніка камунізму. А гэта была такая нудота! Каб павесяліцца, я часам спэцыяльна рабіў памылкі. Напрыклад, на адным плякаце замест «Воин, будь бдителен» я напісаў «Воин, будь спокоен». І ніхто гэтага не заўважыў, бо ніхто тых плякатаў не чытаў. Пакуль я сам не паказаў нампаліту. За «дывэрсію» мяне адправілі на сьвінафэрму, дзе я дзяжурыў, узброены штыком. Пасьля таго мне аўтамат не давяралі, толькі штык-нож.

— *Кажуць, што першую частку жыцьця мастак працуе на сваё імя, а другую частку — імя на мастака. Ці дасягнулі вы таго парогу, за якім можна і расслабіцца, бо на вас і за вас працуе вашае імя?*

— Пра імя — гэта занадта гучна сказана. У сёньняшняй Беларусі мастак калі і вядомы, то пераважна сярод сяброў і аднадумцаў. Ня буду ўтойваць, у мастакоўскім асяродзьдзі ёсьць і такія, якія люта мяне ненавідзяць, стараюцца са мной не вітацца, абыходзяць. Зразумела, што прыўладныя арганізацыі мяне таксама стараюцца не заўважаць. Гэта сьмешна, але бываюць проста недарэчныя выпадкі. Напрыклад, колькі гадоў таму выйшла кніга памяці Міколы Селешчука, і там зьмешчаны групавы фотаздымак, на якім Селяшчук, Гаўрыла Вашчанка, Леанід Шчамялёў. А мяне з таго здымку... выцерлі! І нікога гэта не абурыла, было спакойна ўспрынята ў нашым Саюзе мастакоў. Што ж, час ва ўсім разьбярэцца. Бо, акрамя дыктатуры палітычнай, ёсьць яшчэ і дыктатура часу, яна ўрэшце будзе расстаўляць усё па сваіх месцах.

Мікалай Халезін, кіраўнік Свабоднага тэатру, вельмі хораша сказаў, што «сёньняшняя ўлада не нараджае геніяў». І гэта сапраўды так. Мне часам закідваюць: «Аляксей, ты нармальны мастак, маляваў бы кветачкі, краявіды, ня лез бы ў палітыку». Я гэтага не прымаю. Відаць, некаму вельмі хочацца, каб нашыя людзі думалі пра што заўгодна, толькі не пра палітыку. Думалі-гадалі, напрыклад, адкуль узяўся хлопчык Міколка ў нашага правадыра? А дзе яго маці? Вось пра што думайце, а пра лёс Бацькаўшчыны — нельга, бо гэта палітыка.

Мне ўспамінаюцца словы Казімера Малевіча: «Форма — гэта і ёсьць зьмест». Калі я бачу ў «Нашай ніве» здымак амапаўца ў чорнай масцы, то адчуваю, што чорная форма дыктуе яму і ягоны «зьмест». Апраніце ў такую форму вас, мяне, надзеньце маску, прыдушыце нашую вольнасьць, і, хочаш ня хочаш, нешта нялюдзкае ўчыніць захочацца. Прыйшоў амапавец у масцы ў маю майстэрню і глуміўся з маіх твораў. Адкрывайце свой твар, гаварыце. Лепш весьці дыялёг, чым спадзявацца на свае біцэпсы і кулакі.

— *Свой славуты верш «Начная песьня вандроўніка» Гётэ напісаў на дзьвярах паляўнічай хаткі. Вы таксама часам малюеце на дзьвярах, на прасьніцах...*

— На гэта мяне натхніў Язэп Драздовіч. Я доўгія гады зьбіраў ягоную спадчыну, і калі знаходзіў новы твор, то глядзеў на другі бок палатна — што *там* напісана? А ён запісваў безьліч усякай інфармацыі: чый партрэт, пры якіх абставінах маляваў і г. д. І вось я таксама спа-

кусіўся і на некаторых творах нібы дзёньнік пісаў, часам нават вершаваныя радкі. Неяк мой сябра і вучань Мікола Ісаёнак папракнуў: «Ты малюеш нонканфармісцскія творы, а ўлада ж гэтага ня любіць. А я вось пішу краявіды, балотцы, бярозкі». Я пра Міколу склаў такія радкі: «Штодня малюю хмызьнякі / і застаюся на вякі». А калі я сядзеў на Акрэсьціна, то хадзіў туды-сюды па камэры і раптам бачу — дзьверы як твор мастацтва! На іх былі выдрапаныя імёны, нейкія словы. Дзьверы тыя, вядома, фарбаваліся, але рэльефы заставаліся. І мне было цікава іх расчытваць. Так што, паўтаруся, для творцы нават карысна пабыць у турэмных сьценах. Мастацтва — гэта мая споведзь, бо ня кожны дзень будзеш хадзіць да сьвятара спавядацца. Мы з вамі, Міхась, шчасьлівыя людзі — спавядаемся на паперы, на палатне.

*— Як ні дзіўна, але ў гісторыі застаюцца і тыя, хто чыніў і памнажаў зло. Той жа Сталін. Як вы лічыце, чаму гісторыя паблажлівая да зла?*

— Я думаю, гісторыя да зла не паблажлівая. Яна проста высьвятляе мінулыя зацемненыя старонкі. І высьвятляе праўдзіва, хоць часам і тэндэнцыйна. У кожнай краіны свая гісторыя: у Беларусі свая, у Расеі свая. Што да Сталіна, то тут я падтрымліваю Расейскую праваслаўную царкву, якая закляйміла сталінізм як страшэннае зло. Сталін — гэта людаед, ён столькі бязьвінных людзей загубіў! Самае гнюснае, праз што мы прыйшлі, — гэта пабудова камунізму. «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» Каб гэтыя пралетарыі займелі ўсясьветную ўладу, гэта быў бы хаос,

страшнейшы за атамную вайну. Дзякуй Богу, што ўсё гэта ляснулася.

*— Ваш сябар Аляксандар Родзін жыве ў Нямеччыне, той жа Алесь Шатэрнік усё даўжэй затрымліваецца ў ЗША. Пры якіх умовах вы таксама змаглі б пакінуць Беларусь?*

— Толькі тады, калі мяне выціснуць сілком. Але пакуль я трымаюся, мне тут камфортна, тут мае сябры. Я нават жартую: «Ну, калі нас усіх пасадзяць — добрая кампанія будзе!» Што з таго, што я буду пісаць у Амэрыцы ці ў Нямеччыне свае нонканфармісцскія творы? Каму яны там патрэбныя? Там гэта можна рабіць. А вось у Беларусі гэта вымагае і мужнасьці, і адказнасьці за тое, што ты робіш. Я не мазахіст, але дыктатура мяне натхняе.

*— Вы згадалі «Свабодны тэатар», які вымушаны быў зьехаць зь Беларусі. Так, ён ставіў сьмелыя спэктаклі, але ж ад аплядысмэнтаў сотні-другой гледачоў трон не пахісьнецца. Гэта я да таго, што ўладу, за якую аберуч трымаецца кожны дыктатар, мастацтва ў яго не адбярэ.*

— Гэта так здаецца, а насамрэч — трон пахісьнецца. Возьмем, напрыклад, гісторыю эўрапейскіх каралёў ці цара расейскага. Заўсёды побач быў блазан, які мог гаварыць праўду. А ў нас у Беларусі дыктатар нават блазну не дазваляе гаварыць праўду, спрабуе не дазволіць і мастаку, таму што ён адчувае: трон пахісьнецца, бо сьмех, іронія — гэта магутная зброя. Калі я напісаў карціну «Расейская частушка», то яе не прымалі на выставы, я меў непрыемнасьці з боку чыноўнікаў. Я скажу так: калі чалавек баіцца іроніі, баіцца

сьмеху, то відавочна, што ён хоча пры жыцьці быць кананізаваным. Вось калі ідзе абрад кананізацыі, а нехта сьмяецца, то гэта вельмі небясьпечна — трон тады якраз і хістаецца.

*24 траўня 2013 г.*

**І зразумееш яшчэ, што Бог, калі не дарэшты гневаецца на чалавека, каго паніжае — узносіць, і цешыць, каго карае.**

**Францішак Скарына**

## АДЫСЬЦІСЯ АД БЕЗДАНІ

**Vis-à-viS: Раіса Баравікова**

***З 2005 году ў Беларусі існуюць два саюзы пісьменьнікаў — прыўладны (кіраўнік Мікалай Чаргінец) і незалежны (старшыня Барыс Пятровіч). Начальнік новастворанага ў інтэрвію любіць пахваліцца, што ў ягонай арганізацыі чальцоў больш, чым у канкурэнтаў. Але ў літаратуры колькасьць ніколі не пераходзіць у якасьць. А зь якасьцю ў суполцы былога міліцэйскага генэрала праблема. Яна яшчэ больш увідавочнілася, калі нядаўна з СПБ выйшла паэтка, ляўрэатка Дзяржаўнай прэміі Янкі Купалы Раіса Баравікова.***

*— Спадарыня Раіса, вы ў прыўладным саюзе былі з дня яго заснаваньня, з 2005 году. Што здарылася, чаму вы вырашылі пакінуць гэтую арганізацыю?*

— У заяве аб выхадзе я напісала вельмі коратка: я беларуска, я ўсё жыцьцё змагалася за беларускую літаратуру, усімі магчымымі сродкамі яе рэклямавала. І таму з прычыны непаважлівага стаўленьня да беларускай мовы і літаратуры пэўных асобаў з СПБ я проста не магу заставацца ў такой арганізацыі. Нават Пушкіна працытавала: «На вялікі жаль, я не магу сказаць: «Друзья, прекрасен наш союз». Усё ж калі людзі зьбіраюцца ў адной арганізацыі, гэта, як правіла, аднадумцы, аб'яднаныя адной ідэяй. У адным саюзе ня можа быць, як у крылоўскай байцы: рак цягне назад, лебедзь — у неба, а нехта — яшчэ некуды. А тут…

Я ніколі з такім не сутыкалася. Здаецца, у расейскага пісьменьніка Ўладзіміра Максімава ёсьць твор, які называецца «Зазірнуць у бездань». Дык вось, у 2010 годзе я ўпершыню зазірнула ў бездань. А пачалося ўсё з таго, што ў часопісе «Маладосьць», які я тады рэдагавала, было надрукавана цудоўнае апавяданьне Андрэя Федарэнкі «Ўночы». І вось у Адміністрацыю прэзыдэнта з Чашнікаў прыходзіць ананімка, якую перасласлі ў холдынг «Літаратура і мастацтва». І там я прачытала жахлівыя словы: «Просим вас, кто причастен к вопросам идеологии, прочесть этот «шедевр» Федоренки. Как и где в нашей стране могут быть такие герои? Они могут быть только в бредовом сознании больного писателя, скорее — врага нашей страны, нашего народа. А если ты

враг, то почему тебя печатают в государственном журнале?». Для мяне гэта быў шок, я адчула сябе ў 1937 годзе.

Потым мы надрукавалі выдатны гістарычны раман Леаніда Дайнекі «Назаві сына Канстанцінам». Адзін зь ягоных герояў — Канстанцін Астроскі, там апісаная Аршанская бітва. Пасьля публікацыі ў Саюзе пісьменьнікаў Беларусі было наладжанае абмеркаваньне «Маладосьці». Запрасілі мяне на прэзыдыюм і гавораць, што гэта антырасейскі раман, што Баравікова ледзь не нацыяналістка! Потым мяне абвінавацілі, што надрукавала раман Алены Брава «Менада і яе сатыры». А той раман быў перакладзены на расейскую мову, надрукаваны ў Расеі і атрымаў нейкую прэмію. І ў ЗША быў адзначаны прэміяй «Залатая куля». І вось гэтыя кроплі капалі-капалі-капалі… А калі быў зьезд незалежнага Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, мы сустрэліся зь Верай Вярбой, зь якой доўгі час сябравалі. І яна мяне папракнула: «Як ты магла ўвогуле ўступіць у той саюз? Як ты можаш там знаходзіцца?». Я пабажылася ёй, што выйду. І цяпер я адчуваю сваю віну перад Верай, бо мінулым летам яна памерла.

— *Вы вядомая паэтка, ляўрэатка Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы. Ваш выхад павінен быў засмуціць кіраўніцтва СПБ. Ці былі нейкія спробы ўгаварыць вас застацца?*

— Асаблівых спробаў не было.

— *Дык можа, старшыня СПБ Чаргінец узрадаваўся?*

— Я ня ведаю, наколькі ён узрадаваўся, але мне самой размова ў ягоным кабінэце была непрыем-

най. Я проста аддала заяву. Чаму я павінна нешта тлумачыць, нібыта я ў нечым вінаватая? Я прыняла такое рашэньне. Я ж не дзяўчынка, я пражыла вялікае жыцьцё.

*— Ад сваіх знаёмых літаратараў, якія працягваюць заставацца ў прыўладным саюзе, мне ня раз даводзілася чуць: вось вы, маўляў, нас крытыкуеце, а мы знаходзімся на пярэднім краі змаганьня за беларушчыну, бо мы працуем ледзь не ў варожым стане… Вы таксама так лічылі?*

— Лічыла. Пакуль не пачытала, што пішуць на сваіх сайтах расейскамоўныя сябры СПБ. Там беларускіх пісьменьнікаў называюць «мовафіламі» і «сваямоўнымі», там можна напаткаць і такія сьцьвярджэньні: «Никакая тварь не должна указывать, на каком языке мне писать». Я беларуская пісьменьніца, мова маіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў — беларуская. Як я магла знаходзіцца ў адной арганізацыі з аўтарамі такіх выказваньняў?

*— Часам я ў Нацыянальнай бібліятэцы гартаю цяперашнія часопіс «Полымя», тыднёвік «Літаратура і мастацтва» — органы СПБ. Уражаньне сумнае… А як вы ацэньваеце гэтую пэрыёдыку, на выданьне якой трацяцца немалыя грошы зь дзяржбюджэту?*

— Чаму ж, былі цікавыя публікацыі ў Леаніда Галубовіча, які ўзначальваў у «ЛіМе» аддзел крытыкі. Але ён мусіў пайсьці з газэты. На маіх вачах вырас вельмі таленавіты празаік Анатоль Казлоў. У свой час кіраўніцтва холдынгу ледзь не на каленях умольвала Казлова, каб ён пагадзіўся ўзначаліць «ЛіМ». Ён пагадзіўся і вельмі сумленна працаваў. Потым кіраўніцтва СПБ абвінаваціла

Казлова ледзь не ў нацыяналізьме, траха не ў распальваньні міжнацыянальнай варожасьці, і ён таксама пакінуў пасаду. Так што сёньняшняя сытуацыя — вынік тае кадравай палітыкі, якая праводзіцца кіраўніцтвам СПБ.

## «Чаму зь мяне зрабілі ворага народу, ды такога, што трэба саджаць у турму?»

*— СПБ існуе ўжо восьмы год. Каля 70% яго чальцоў расейскамоўныя. Прычым яны даволі агрэсіўныя — як, прыкладам, старшыня Віцебскага аддзяленьня Тамара Краснова-Гусачэнка. Ды і сам кіраўнік арганізацыі Мікалай Чаргінец прынцыпова не гаворыць па-беларуску. Ці не здаецца вам, што саюз, зь якога вы выйшлі, і ствараўся з мэтай узьняць на катурны расейскамоўную літаратуру ў Беларусі, а беларускую — прынізіць і ўтаптаць у гразь?*

— У мяне часам узьнікае такое адчуваньне. Але мне здаецца, тут усё нашмат прасьцей — некаторым людзям проста хацелася стварыць сваё літаратурнае аб’яднаньне. Магчыма, задумваўся саюз расейскамоўных пісьменьнікаў, якія жывуць у Беларусі. Але што тады рабіць зь беларускімі пісьменьнікамі? І тады іх проста далучылі. Узьнікла канкурэнцыя — вы прыгадайце, як спачатку адсочвалася, каб не выступалі ў школах і ВНУ пісьменьнікі са старога саюзу. Так самасьцьвярджаўся новы саюз. А што атрымалася ў выніку? У нас ніколі не было такой калатнечы. Які вораг народу Федарэнка?! Чаму зь мяне зрабілі ворага народу, ды такога, што мяне ўвогуле трэба саджаць у турму?

*— Якой вам бачыцца будучыня двух саюзаў? Ці абодва яны не патрэбныя? Можа, ім трэба зьяднацца ў адзін?*

— Думаю, што зьяднацца — не зусім добрая ідэя. У некаторых былых савецкіх рэспубліках па два пісьменьніцкія саюзы, але гэта расейскамоўныя і нацыянальныя літаратары, якія пішуць на роднай мове. На маю думку, так мусіць быць і ў нас.

*— Але і ў незалежным саюзе нямала літаратараў, якія пішуць па-расейску.*

— Ну тады я памыляюся, тады я не стратэг. І ўсё ж у адным саюзе людзі павінны быць аб'яднаныя адной справай, адной літаратурай, адной мовай. Хоць у нашым старым саюзе былі выдатныя расейскамоўныя паэты. Скажам, Навум Кісьлік. Ён жа пераклаў на расейскую цэлую кнігу Янкі Купалы, перакладáў нас, маладзейшых, стараўся надрукаваць у Маскве. Тое самае рабілі Ігар Шклярэўскі, Пятро Кошаль, Браніслаў Спрынчан, Любоў Турбіна… Я больш за сорак гадоў сябрую з драматургам Аленай Паповай, якая жыве ў Менску і піша па-расейску. Я пераклала каля дзесяці яе п'есаў на беларускую мову, і яны ішлі ў нашых тэатрах. І ніхто нікога не супрацьпастаўляў, як гэта адбываецца цяпер. І ўсё ж я перакананая, што беларуская літаратура была, ёсьць і будзе, яна застанецца і праз 200, і праз 300 гадоў. Мы ўсе дзеля гэтага працуем. Думаецца, што і маіх вершаў дваццаць застануцца ў гісторыі нашага пісьменства. Беларусь — нашая дзяржава, беларуская мова дзяржаўная, і ніхто ня мае права яе зьняважаць і зьняважаць тых, хто на гэтай мове піша.

*— Калі вы былі галоўным рэдактарам «Маладосьці», то ў адным зь інтэрвію прызналіся, што вельмі жадаеце трапіць на прыём да прэзыдэнта краіны. Здаецца, вашае жаданьне так і не спраўдзілася. А каб спраўдзілася, што вы сказалі б кіраўніку краіны?*

— Я расказала б яму пра сытуацыю, якая склалася з нацыянальнай літаратурай. Дарэчы, гэта было традыцыяй, першыя асобы Беларусі заўсёды цікавіліся літаратурай, кантактавалі зь пісьменьнікамі. Згадайце Машэрава. Калісьці я бачыла здымак: Яўгеній Еўтушэнка з Джонам Кенэдзі падчас паездкі ў ЗША, прычым на кватэры ў Кенэдзі. Еўтушэнку тады было 32 гады. Улады заўсёды зь пісьменьнікамі лічыліся, да іх думкі прыслухоўваліся.

*— Вы закончылі маскоўскі Літаратурны інстытут. Паколькі там вучыліся прадстаўнікі розных народаў, то яго выпускнікі звычайна мелі сяброў у многіх рэспубліках, што спрыяла міжнародным сувязям, перакладам і г.д. Ці засталіся ў вас нейкія літінстытуцкія кантакты і пазьней, ці з развалам СССР усё абарвалася?*

— З развалам СССР усё абарвалася. Ня ведаю, чаму так атрымалася, але сёньня, па маіх адчуваньнях, беларуская літаратура існуе ў нейкай абмежаванай прасторы. Вось я сябе бяру. Усе ранейшыя сяброўскія адносіны, у тым ліку літінстытуцкія, неяк аціхлі. Ёсьць у мяне ў Маскве аднакурсьніца паэтка Раіса Раманава, яна пераклала шмат маіх вершаў, мы зрэдку стэлефаноўваемся, але нагоды мне паехаць у Маскву ці ёй у Менск няма. Сябравалі мы зь Янам Кросам з Таліну,

вельмі вядомым драматургам. А сёньня? Дзе той Талін, дзе той Менск, адпаведна і стасункаў няма.

*— У Літінстытуце вы закончылі перакладніцкае аддзяленьне. Чаму ж не перакладалі? Гэта ня ваш жанр?*

— Відаць, ня мой. Хоць сёе-тое пераклала. Скажам, апавяданьні польскага пісьменьніка Станіслава Дыгата. Ёсьць у мяне пераклады і з Ганны Ахматавай. Яшчэ са студэнцкіх часоў у мяне заставаўся «Рэквіем» Ахматавай. Ён быў забаронены і ў Маскве распаўсюджваўся ў самвыдаце. Я яго пераклала, занесла ў «ЛіМ», дзе галоўным рэдактарам быў Анатоль Вярцінскі, і ён надрукаваў. Потым я падумала, што сама пішу любоўную лірыку, а ці не паспрабаваць мне перакласьці нешта падобнае з Ахматавай? Я пераклала невялічкую нізку вершаў, яна была надрукаваная ў кнізе «Люстэрка для самотнай».

*— Эпіграфам да яе — словы Эклезіяста: «Дваім лепей, чым аднаму, бо ёсьць ім добрая дзяка за іхную працу. Бо як адзін упадзе, падыме другі свайго сябра». А хто вас падтрымліваў на пачатку вашага шляху ў літаратуру?*

— Найперш я павінна згадаць Аляксея Пысіна. Менавіта ён дапамог мне знайсьці свой шлях. Так атрымалася, што адразу пасьля школы я трапіла на працу ў быхаўскую раённую газэту. Аднойчы ў Быхаў прыехалі Аляксей Пысін і Васіль Матэвушаў з Магілёва і запрасілі мяне разам зь імі пачытаць вершы ў доме культуры. Гэта быў мой першы выступ перад публікай. Мяне ў рэдакцыі ўгаворвалі завочна паступаць на журфак, і, калі б ня Пысін, я на тыя ўгаворы паддалася б. І вершы

пісаць перастала б, працавала б журналісткай і жыла ў Быхаве... Пысін мяне і ў Літінстытут накіраваў. Я яго і як паэта вельмі цаню. «Ведайце, калі мяне ня стане, / я ў сваю дывізію пайшоў…». Калі ўзяць ваенную лірыку, то два паэты для мяне раўназначныя — Канстанцін Сіманаў і наш Аляксей Пысін.

## «Чытачы беларускай літаратуры і ёсьць мой народ»

— *Крытыка раней любіла цытаваць вашыя радкі: «Тады ў народу ёсьць паэты, калі ў паэтаў ёсьць народ». А вы за сабою народ адчуваеце?*

— Сапраўды, гэтыя радкі шмат хто цытаваў. Я літаральна некалькі дзён таму ў сваім архіве натрапіла на ліст ад Сяргея Грахоўскага, у якім ён якраз цытаваў гэты верш і запэўніваў: «Ёсьць, Раечка, народ у нас, ёсьць!». Бывае, прыяжджаеш на сустрэчу, а там транспарант вісіць з гэтымі радкамі. Чытачы беларускай літаратуры, якія мяне любяць, чытаюць, і ёсьць мой народ. Паэт увогуле можа сам стварыць свой народ і сваю айчыну. У гісторыі нярэдка так і адбывалася. Асабліва калі мова апыналася ў небясьпечнай сытуацыі. Я лічу, што толькі літаратура можа ўратаваць мову і пранесьці яе ў наступныя стагодзьдзі.

— *Сёньня нікога ня зьдзівіш эротыкай у паэзіі, празьмерным інтымам у прозе. А як вам у 70-я ўдавалася друкаваць інтымную лірыку, абсалютна ігнаруючы грамадзянскія тэмы?*

— Даводзілася адстойваць сваё права. Памятаю, я тройчы прыносіла свае вершы ў «Маладосьць», дзе за паэзію адказваў Мікола Аўрамчык.

Ён мае творы не адкідаў, але прасіў напісаць 2–3 грамадзянскія вершы, у тыя часы яны зваліся «паравозікі». Ставіліся наперадзе — і выцягвалі нізку ці нават кнігу. Але грамадзянскія вершы ў мяне не атрымліваліся. Што рабіць? І я адважылася на містыфікацыю — вырашыла паслаць вершы ў рэдакцыю пад псэўданімам Зося Гоман. Мы зь сяброўкай Аленай Паповай дамовіліся, што, калі іх прымуць да друку, я пашлю яе фота. А потым прыйду ў рэдакцыю і прадстаўлюся: «Я аўтарка Зося Гоман». Паслала вершы. Праз некалькі дзён званок у дзьверы: «Адчыняйце, з рэдакцыі!». Я адчыняю — на парозе зьдзіўлены Мікола Якаўлевіч Аўрамчык: «А што ты тут робіш? Дык,можа, ты і вершы нам прыслала?». Давялося прызнацца.

А рэдактарам «Маладосьці» тады быў Генадзь Мікалаевіч Бураўкін — ён адразу даў мае вершы ў нумар, усе дванаццаць! І тут жа па Менску чутка пра Зосю Гоман разьляцелася. Быў, памятаю, нейкі пленум Саюзу пісьменьнікаў, на якім Барыс Сачанка з трыбуны кінуў папрок: «На жаль, у беларускай літаратуры няма такіх твораў, як некалі ў Дастаеўскага, калі Бялінскі праз увесь Пецярбург ішоў ноччу да Фёдара Міхайлавіча, каб сказаць, якую аповесьць той напісаў!» А нехта з задніх шэрагаў выгукнуў: «Чаму ж няма? Вунь Аўрамчык езьдзіў да Баравіковай!» І неяк такім чынам я адстаяла права на сваю любоўную лірыку.

— *Усё чалавецтва ўжо чатырыста гадоў зьдзіўляецца, як Шэксьпір змог не паўтарыцца ў сваіх лірычных 154 санэтах. А я дзіву даюся, як*

*не паўтараецеся ў сваёй лірыцы вы. Гэта ж якая пачуцьцёвая палітра павінна быць...*

— Думаю, у кожнай жанчыны багатая пачуцьцёвая палітра. Мне яшчэ вельмі дапамагае ўяўленьне. Памятаю, выйшаў альбом Напалеона Орды — фантастычна прыгожае XIX стагодзьдзе! Я прачытала яго біяграфію, паглядзела на яго партрэт — які прыгожы мужчына, шлюб з француженкай…. Але на ягоных малюнках няма людзей — адны сядзібы, маёнткі. І я пачала засяляць іх людзьмі, іх пачуцьцямі, напісала цэлы лірычны цыкль. Ён узьнік з уяўленьня і майго пачуцьця да Напалеона Орды. Ці другі выпадак. Неяк ансамбль «Верасы» пасябраваў з амэрыканскім сьпеваком Дынам Рыдам. І раптам ён прыяжджае ў Менск! Неверагодна прыгожы мужчына! Калі б гэта адбывалася сёньня, то сучасная моладзь сказала б: Баравікова запала на Дына Рыда. Мне так хацелася пабачыць яго жывога! Дастаткова было патэлефанаваць Васілю Раінчыку і папрасіцца на рэпэтыцыю. Але я не асьмелілася… Ад таго пачуцьця застаўся толькі верш «Купіць білет і слухаць Дына Рыда».

— *Разам з вамі ў Літінстытуце вучыўся беларус Іван Ласкоў, які, жывучы ў Якуціі, адчуў патрэбу вярнуцца да беларускай мовы. Мяне калісьці ўразілі ягоныя радкі: «Я не магу пра Беларусь / пісаць на іншай мове. / Нібы ня вершы я пляту, / а без гармат і танкаў / на мову родную вяду / шарэнгі акупантаў». Расейская мова для яго — акупант. Ці згодныя вы тут са сваім аднакурсьнікам?*

— Я добра памятаю Івана Ласкова, у нашы літінстытуцкія часы ён ужо быў аўтарам вядомай паэмы пра Тамэрлана «Хромец». Не, я не магу сказаць, што расейская мова ў Беларусі — акупант. У нашай краіне жыве шмат людзей, для якіх расейская — родная. Гэтыя людзі ці прыехалі да нас працаваць, ці засталіся жыць пасьля вайны, адных вайскоўцаў колькі ў нас асела. У Савецкім Саюзе Беларусь лічылася адной з самых заможных і прыдатных для жыцьця рэспублік. І калі афіцэры выходзілі на пэнсію, яны выбіралі Беларусь. Іншая справа — павага некарэннага насельніцтва да беларускай нацыі. Цяпер у сьвеце вялікая міграцыя. Калі хтосьці прыяжджае ў Нямеччыну, Італію ці ЗША, ён жа не пачынае самасьцьвярджацца на сваёй мове. Ён вучыць мову — нямецкую, італьянскую, ангельскую, наймае рэпэтытараў, плаціць ім вялікія грошы, іначай ён ня ўпішацца ў новае грамадзтва.

На жаль, гэтага няма ў Беларусі. Хоць бываюць, зразумела, выняткі. Гадоў пяць таму ў Менску мяне запрасілі выступіць у адной зь бібліятэк і папрасілі ўзяць з сабой кнігі — на продаж. Я ўзяла толькі адну, каб падпісаць самаму актыўнаму ўдзельніку сустрэчы. Ім аказаўся чарнявенькі хлопчык з грузінскай сям'і, якая пераехала жыць у Менск. Ён з такой радасьцю падбег па тую кнігу, прыціснуў яе да грудзей! Падлетак-грузін, які жыве ў Беларусі, разумее, што ён павінен паважаць і ведаць беларускую мову. Павінен! Каб жа такое разуменьне было ва ўсіх, для каго Беларусь стала роднай краінай.

*9 жніўня 2013 г.*

**Пра ўсё гэта піша эвангеліст, і мы даём яму слова: «І ваяры ў яго пыталіся гэтаксама: а нам што рабіць? І казаў ім: нікому не прычыняйце крыўды і на нікога паклёпаў ня ўзводзьце».**

**Францішак Скарына**

## ЖЫЦЬ У ЧАСЫ НАВУХАДАНОСАРА

**Vis-à-viS: Андрэй Федарэнка**

***Сяргей Даўлатаў неяк усіх зьбянтэжыў: «Мы бясконца лаем таварыша Сталіна, і, зразумела, ёсьць за што. І ўсё ж мне хочацца спытацца — хто напісаў чатыры мільёны даносаў?». Адкуль узятая лічба і наколькі яна дакладная, невядома. Ды і наўрад ці магчыма падлічыць усе «творы» ў гэтым жанры, якія ў некаторых постсавецкіх рэспубліках да гэтай пары знаходзяцца ў закрытых архівах. І Беларусь тут антыпрыкладам. Зрэшты, тыя засакрэчаныя спэцфонды ў нашай краіне не перасталі папаўняцца і ў нашыя дні. Кніга Андрэя Федарэнкі «Сечка» дэманстратыўна заканчваецца даносам на аўтара.***

*— Андрэй, ты пішаш, што камусьці не спадабалася тваё апавяданьне «Уночы», надрукаванае ў часопісе «Маладосьць». І ён напісаў у Адміністрацыю прэзыдэнта такі ліст: «Это преднамеренное очернение и оскорбление всего народа, государства и Президента в том числе. Если автор враг, то почему он печатается в государственном журнале?» Якая гісторыя гэтага даносу?*

— Я пісаў «Сечку» роўна 10 гадоў. Пачынаў пісаць вясёлым гуманістам, які любіць людзей, а вымушаны быў спэцыяльна скончыць гэтым даносам. Справа ў тым, што ў 2009 годзе ўзьнікла сытуацыя зь Дзяржаўнай прэміяй, на якую мяне вылучылі за кнігу «Нічые» — пра Слуцкае паўстаньне. І калі вакол майго імя закруціліся словы «Дзяржаўная прэмія», то адразу папаўзьлі наверх даносы. Спачатку гэта было сьмешна, як пісаў Булгакаў, а потым не зусім сьмешна. Даносы ішлі ў Адміністрацыю прэзыдэнта. А хто іх пісаў? Імёны мне нічога не гаварылі. Адкуль пісалі? Зь Віцебшчыны. Тых людзей я ніколі не шукаў, ды і навошта? А калі б знайшоў, дык што? Яны сказалі б: мы напісалі тое, што думаем.

*— Але ад працытаванага тэксту адчувальна патыхае 37-м годам. Як да даносаў на цябе паставіліся твае калегі?*

— Я тады працаваў у рэдакцыі «Маладосьці». Некаторыя перажывалі, а хто і сьмяяўся. Усе схіліліся да думкі: паколькі цяпер літаратуры няма, а тое, што называецца літаратурай, ёсьць пляцоўка барацьбы за выжываньне, то ўсё, што ні напішаш, можна як заўгодна інтэрпрэтаваць. Тут патыхае ня толькі 37-м годам. Тут яўная не-

адпаведнасьць. Апавяданьне «Ўночы» (там звычайны сюжэт — чалавек паехаў на рыбалку) не адпавядае той кары, якая патрабуецца для аўтара. Увогуле, як у цяперашні час можна ўявіць сабе нейкае апавяданьне, за якое аўтара трэба судзіць, бо ён зьняважыў народ і прэзыдэнта?! Я зьдзіўляюся, што не напісалі — расстраляць.

*— І якія вынікі таго даносу?*

— Усё маё жыцьцё пакацілася пад адхон. Са стаўкі мяне перавялі на паўстаўкі, з паўстаўкі — на 0,25. Урэшце звольнілі без усялякіх прычынаў. Няўжо я такі кепскі рэдактар? Я працаваў рэдактарам з 1990-га — 23 гады. І, як мне здаецца, няблага працаваў. Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец у інтэрвію Радыё Свабода казаў, што я да яго не падышоў, не пагаварыў... Але я некалькі разоў, праўда, не пэрсанальна ў Чаргінца, а ў яго акружэньня, прасіў знайсьці мне хоць якую працу, хоць якую шчыліну.

*— Ты хацеў там застацца?*

— Тады, можа, і застаўся б. А сёньня скажу адназначна: я сышоў бы нават тады, калі б мне знайшлі ня толькі працу, але і залатую карону.

*— «Цар бабілёнскі Навуходаносар / заўсёды чакаў на вуха даносаў», — жартаваў, здаецца, Васіль Вітка. Выходзіць, што і ў сёньняшняй сыстэме данос (нават ананімны) — дзейсны сродак для змаганьня зь непатрэбнымі супрацоўнікамі?*

— Даносы сёньня заахвочваюцца. Можна сказаць, што гэта самы запатрабаваны жанр у Беларусі. Іх аўтарам, можа быць, нават плацяць. Гэта, вядома ж, дзіўна. Мне Сяргей Законнікаў і Алесь Жук расказвалі, што раней ананімныя даносы

ніхто не ўспрымаў усур'ёз. Іх, не чытаючы, выкідалі ў сьметніцу. Гэта ў лепшым выпадку, а то маглі аўтара вылічыць і па шапцы даць. А цяпер... Пасьля звальненьня я год быў бяз працы, і ніхто з Саюзу пісьменьнікаў Беларусі не пацікавіўся маім лёсам. І калі б я сто гадоў быў беспрацоўным, то і сто гадоў ніхто не пацікавіўся б, як я жыву, за што я хлеб купляю. Ён жа зь неба ня падае.

*— Таму ты і выйшаў з прыўладнага саюзу і аднавіўся ў старым? Прычына — даносы і беспрацоўе?*

— Ня толькі, хоць галоўнай маёй праблемай было беспрацоўе. Падкрэсьлю, беспрацоўе сьвядома арганізаванае, так бы мовіць, каб жыцьцё малінай не здавалася. Год яшчэ я быў у тым саюзе, хоць нічога мяне зь ім ня зьвязвала з аднае простае прычыны. Ёсьць такі сайт *litkritika.by* — адзін з рупараў СПБ. Чым жа літаратары там займаюцца? Яны па-дылетанцку разважаюць, што такое літаратура, ці варта ўвогуле пісьменьніку пісаць, ці патрэбен рэдактар, калі ёсьць кампутарныя рэдактары... Гэта дзіцячыя, ясельныя, школьныя праблемы. Калісьці Набокаў гаварыў: «Пісьменьнік загінуў, калі яго пачынаюць займаць пытаньні: у чым сэнс пісьменьніцкай дзейнасьці?». Пісьменьнік піша — як з душы льецца. А справа дзяржавы — пагладзіць пісьменьніка па галаве, падзякаваць яму, пакланіцца ў ногі нізка-нізка... Калі мы ўжо згадалі Набокава, то прывяду яшчэ адну цытату зь ягонага малавядомага інтэрвію. У яго запыталіся — якое ваша крэда? І Набокаў адказаў: «Хачу, каб партрэт кіраўніка дзяржавы ніколі не перавышаў памераў паш-

товай маркі». Кіраўнікі дзяржавы, нават самыя лепшыя, застаюцца на ўзроўні паштовай маркі! І многія прэзыдэнты гэта разумеюць. Калі Віктар Астаф'еў паміраў у сваёй Аўсянцы, Пуцін двойчы да яго зьездзіў. Двойчы! А прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь віншуе з 40-годзьдзем нейкага расейскага актора — удзельніка тэлесэрыялу...

*— Днямі я перачытваў Юрыя Нагібіна — яго бліскучыя эсэ пра Хлебнікава, Мандэльштама, Зошчанку — і напаткаў у адным з эсэ такую фразу: «Паэт Н. займае першаступеннае месца ў расейскай, а значыць, і ва ўсясьветнай літаратуры». І мне падумалася, што гэта неблагі крытэр. Чаму ў нас на сваіх клясыкаў многія глядзяць, як на трэці гатунак?*

— Расейская літаратура — вялікая літаратура. Але яе роскві застаўся ў мінулым — у XIX, у XX стагодзьдзях. Беларуская літаратура — маладая, у яе яшчэ ўсё наперадзе. Яна нагадвае маладую дзяўчыну, якая квітнее. Расейская літаратура падмазвае румянамі шчокі і робіць плястычныя апэрацыі, а беларуская па-маладому квітнее. У яе столькі дыялектаў, столькі магчымасьцяў, такія кваяцістыя мэтафары! Ёй ёсьць адкуль чэрпаць і браць. Увогуле, як паглядзець, малыя літаратуры цяпер на ўздыме, і за імі будучыня. Што да нашых клясыкаў... Калі б мяне ізалявалі, як Маўглі, ці проста ў камэру-адзіночку пасадзілі і дзесяць гадоў не давалі ніякай іншай літаратуры, акрамя беларускай, то я змог бы стаць паўнавартасным чалавекам і ў літаратурным, і ў жыццёвым пляне. Я ўзяў бы зь беларускіх клясыкаў

і няклясыкаў усё тое, што звычайна бярэцца з усясьветнай літаратуры.

— *У сваіх міні-эсэ (я зноў маю на ўвазе кнігу «Сечка») ты шмат увагі ўдзяляеш культуры мовы. На жаль, інтэрнэт сёньня нівэлюе і спрашчае мову. «На гэта рады няма» (як сказаў бы ў такім выпадку Ян Скрыган), ці ўсё ж нейкая рада ёсьць?*

— Няма рады. Гэтага нівэляваньня і спрашчэньня ўжо ня спыніш. У XXI стагодзьдзі мова будзе іншай. Яна будзе ня коласаўскай, не скрыганаўскай, не федарэнкаўскай. Будзе нейкі канглямэрат, нейкае эспэранта. Добра гэта ці кепска, ня ведаю. Ведаю толькі, што піць прыемней крыштальную, крынічную ваду, а ня брудную, каламутную. Самому ж пісаць прыемней, калі мова чыстая, ня мешанка, сам як пісьменьнік атрымліваеш асалоду ад сваёй працы. А гэта ўжо маленькая зарука таго, што і чытачу перадасца часьцінка гэтага.

— *Калі ты параўнаў мову з чыстай крынічнай вадой, мне прыгадаўся Іван Бунін. У свой час ён падараваў сьпеваку Фёдару Шаляпіну фота з надпісам (падам у арыгінале): «Милый Ваня, мой Бог свободен от цензуры, и я ликую!». Афіцыйна ў Беларусі цэнзуры няма, але як зьява яна мае месца. Хто сёньня зьяўляецца цэнзарам — галоўны рэдактар дзяржаўнага выдавецтва, дзяржчасопісу ці сам пісьменьнік?*

— Цэнзуры як такой сапраўды няма. Але яна ёсьць, і яшчэ больш вычварная, чым савецкая. Маўляў, пішыце, як хочаце, што хочаце, а мы будзем зьверху хіхікаць. Мы даём вам волю пі-

саць з матамі, пісаць па-беларуску агідна, пісаць мешанкай. У такі спосаб мы вам пакажам вашу «мову». Я б назваў гэта «базарнай» цэнзурай. Але засталася і звыклая цэнзура. Скажам, у дзяржвыданьне прыходзіць на працу малады рэдактар. Спачатку ён ходзіць гогалем, а пасьля сама атмасфэра пачынае так на яго ўплываць, што ён сам пачынае цэнзураваць тэксты, без усялякай каманды зьверху. Выкрэсьлівае на ўсякі выпадак, каб чаго ня выйшла: «А навошта я буду з гэтым зьвязвацца? Я пакіну, а нехта напіша на мяне ананімку, мяне звольняць з працы». Вось так і працуе гэтая сыстэма — не на абуджэньне творчых пачаткаў, а на абуджэньне пачаткаў рабскіх.

— *Якое тваё стаўленьне да электроннай кнігі?*

— Мы ўсе разумеем, што папяровая кніга адыходзіць у шчасьлівае добрае мінулае. Будучыня за электроннымі кнігамі. Праўда, я сам іх не чытаю. Для мяне дотык да паперы, пах кнігі ўжо ствараюць атмасфэру ўспрыняцьця. Я гляджу ў мэтро, на вуліцах, як маладыя людзі перагортваюць старонкі ў электронных пляншэтах, — я так не магу. Мне трэба выпісаць зносачку, зрабіць пазнаку на палях... На мой век і папяровых кніг хопіць. Але рух наперад ня спыніш. Электронная кніга ўсё роўна з часам выцісьне папяровую. Будуць кніжныя аматары-эстэты, як ёсьць, напрыклад, аматары цыгараў, якія зьбіраюцца ў сваіх клюбах. Вось так і кнігалюбы будуць зьбірацца, каб пагартаць папяровыя кніжкі, будуць плаціць за іх вялікія грошы. Але масавая кніга будзе, вядома ж, электроннай.

*6 лістапада 2013 г.*

**Калі ж вабіць душу тваю музыка, альбо, інакш, пеўніца ці гудзьба — знойдзеш усьцяж у гэтай кнізе вялікае мноства вершаў натхнёных і песьняў, якімі ўсьцешаны будзеш.**

**Францішак Скарына**

## КАЗАЧНІК БАЙ ДЛЯ МІЛЬЁНАЎ

**Vis-à-viS: Генадзь Бураўкін**

***Залатое пшанічнае поле, на ім — шчодры бог урадлівасьці Жыцень, так падобны да Анатоля Вярцінскага. У горне шугае полымя, а пры кавадле — бог кавальскай справы Жыжаль — проста копія Ўладзімера Арлова. У хатнім зацішку прымасьціўся за сталом лагодны Дамавік, загрымаваны пад Рыгора Барадуліна... Так здаецца, але грым тут, прызнацца, не пры чым. Проста клясыкі беларускай літаратуры без усякіх грымаў пераўвасобіліся ў розных міталягічных істотаў — для насьценнага календара «Першапачатак». Каму быць казачнікам Баем, пытаньня не ўзьнікала. Ім стаў аўтар любімай мільёнамі беларускіх дзяцей «Калыханкі» Генадзь Бураўкін.***

*— Генадзь Мікалаевіч, казачнік Бай — гэта сапраўды ваш вобраз, аўтары праекту не памыліліся. Ведаю, што некалькі вядомых пісьменьнікаў адмовіліся ўдзельнічаць у гэтай, на іх думку, «гульні». А чаму згадзіліся вы?*

— Усё, што зьвязана зь беларускай гісторыяй, з нашымі паданьнямі, з нашай даўнінай, я гатовы заўсёды падтрымаць. І калі да мяне зьвярнулася ініцыятарка праекту «Першапачатак» Ірына Хадарэнка, я пагадзіўся. Мне ж не прапаноўвалі роляў нейкіх блазнаў, а пабыць казачнікам Баем — мой абавязак. Думаецца, што мы апошнім часам зрабіліся ці не занадта строгімі да такіх рэчаў, як фотаздымкі, пэрформансы. Прыйшлі новыя часы, новыя чытачы, у якіх трошкі іншы погляд на тое, што дарага нам. Хай іхны погляд будзе іншым, але я вельмі хачу, каб тое, што было дарага нам, было дарагім і для іх.

*— «Бег Бай па сьцяне ў чырвоным каптане»... Ці лёгка вам далося пераўвасабленьне ў таго Бая?*

— Прызнаюся, нялёгка. Калі мы з фотамастаком Валерыем Дубоўскім прыехалі ў Строчыцы, у музэй, зайшлі ў хату і пачаліся здымкі — павярніся так, зрабі гэтак, — я сьпярша на ўсё згаджаўся, а потым проста пачаў злавацца. Бог ты мой, хіба я нейкая лялька?! Дзякуй Богу, па сьцяне бегаць не прымушалі. Для мяне было адкрыцьцём, што, аказваецца, роля мадэлі — вельмі нялёгкая справа. І маладыя дзяўчаты, якія мараць пра лёгкі хлеб у мадэльных агенцтвах, памыляюцца. Хлеб там зарабляць вельмі няпроста.

## «Пісьменьнікі павінны гаварыць уладзе праўду ў вочы»

*— Уладзімер Някляеў у адным са сваіх «Знакаў прыпынку» напісаў, што меў гутарку з вамі наконт дачыненьняў пісьменьнікаў з уладай. І нібыта вы разам прыйшлі да думкі, што «зацятая канфрантацыя з уладай — ня самае лепшае, а самае горшае з таго, што літаратары маглі зрабіць і зрабілі на шкоду Беларусі і беларушчыне». Вы сапраўды лічыце, што з уладай можна было дамовіцца?*

— Я на гэта спадзяваўся. У мяне ўсё ж быў досьвед працы ва ўладзе — і ў Беларусі, і за мяжой, у Нью-Ёрку. І разам з досьведам была вера, што калі рабіць нешта разумнае, агульнакарыснае, то заўсёды можна дамовіцца. Але я і падумаць ня мог, што ў галовах многіх высокапастаўленых чыноўнікаў — поўная адсутнасьць культуры і неадукаванасьць. З такімі як будзеш шукаць кампраміс? Кампраміс можна знаходзіць тады, калі ёсьць жаданьне абодвух бакоў. А калі такога жаданьня з боку ўлады няма? Між іншым, я аб гэтым шкадую, бо ва ўлады, нават у дурной улады, ёсьць такая сіла, якой няма ні ў грамадзкіх арганізацый, ні ў палітычных партый.

*— А калі вы зразумелі, што з уладай кампраміс немагчымы?*

— Гэтае разуменьне прыйшло да мяне тады, калі я пачуў жахлівае выказваньне, што на беларускай мове немагчыма выказаць разумных думак, бо гэтая мова бедная... І я ўсё чакаў тых разумных думак, для якіх нібыта не падыходзіць беларуская мова. Я іх да гэтай пары не дачакаўся.

А потым — я пабачыў, што гэтыя людзі, якія так зьняважліва гаварылі пра беларускую мову, ня ведаюць ніякай іншай мовы, у тым ліку і расейскай. Хоць лічаць, што ведаюць. Але ў іхных вуснах гэта не расейская мова, а нейкі канцылярыт. Гэта ня мова Пушкіна, Талстога, Ясеніна, Шолахава ці Віктара Астаф'ева. Потым мне стала зразумела, што ўлада ня проста не разумее сваю памылку, яна ня хоча яе разумець! Вось тады мне стала па-сапраўднаму горка. Я зразумеў, што з такімі людзьмі ісьці на кампраміс не магу.

*— Неяк у «Вольнай студыі» Андрэй Федарэнка выказаўся ў тым сэнсе, што дзяржава павінна пісьменьніка гладзіць па галаве і кланяцца яму ў ногі. А на вашу думку, ці ёсьць у пісьменьніка і дзяржавы нейкія ўзаемныя абавязкі?*

— Ну, Андрэй залішне многага ад дзяржавы чакае, было б наіўна верыць у такія адносіны. Я ня веру і не хачу гладжаньня па галаве. Хоць, бясспрэчна, лепш, калі гладзяць па галаве, чым калі па галаве б'юць. Мне думаецца, што і ў дзяржаўнай улады, і ў пісьменьнікаў ёсьць агульны абавязак перад народам і перад гісторыяй. Калі ўлада хоча застацца ў гісторыі сьветлай, а ня чорнай старонкай, то яна павінна думаць ня толькі пра тое, каб накарміць людзей, пра што нам вельмі часта нагадваюць. Улада павінна думаць і пра тое, як яна ўвойдзе ў гісторыю свайго народу. А таленавітыя пісьменьнікі таксама нясуць адказнасьць за той час, у якім жывуць, а ня толькі за тыя словы, якія пішуць. І калі ўлада, на іх погляд, робіць тое, што шкодзіць гісторыі і на-

роду, пісьменьнікі павінны гаварыць ёй праўду ў вочы, ня ўтойваючы.

*— Нядаўна ў адным зь дзяржвыдавецтваў выйшла кніга ўспамінаў пра часопіс «Маладосьць» (яму сёлета 60 гадоў), дзе вы працавалі галоўным рэдактарам. Але вашых успамінаў там чамусьці няма. Вас падобныя выпадкі засмучаюць, ці вы ўжо звыкліся з такімі адносінамі?*

— Мяне гэта засмучае. Скажу шчыра: я прывык азірацца на былое. Тым больш калі гэтага былога няма чаго саромецца, наадварот, ім можна ганарыцца. У тыя часы, калі я быў галоўным рэдактарам «Маладосьці», там друкаваліся творы, аднесеныя да залатога фонду беларускай літаратуры. Я маю на ўвазе кнігі Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Івана Навуменкі, Івана Мележа, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, унікальную кнігу «Я з вогненнай вёскі». І калі гэты пэрыяд сьвядома «забываецца», мне, вядома ж, крыўдна. Тым больш мяне прасілі, прычым вельмі настойліва, напісаць успаміны да юбілею дарагой, роднай для мяне «Маладосьці». І я іх напісаў, але ў кнізе іх не аказалася.

## «Прызнаюся шчыра: сядзеў ва мне ўнутраны цэнзар»

*— Апошнім часам шмат дыскусій на інтэрнэт-форумах было зьвязана зь імем Сьвятланы Алексіевіч, зь яе стаўленьнем да беларускай мовы. Мне запомніліся яе словы: «Я не прыгонная беларускай мовы». А вы прыгонны?*

— Я? Вядома ж. Гэта вызначана ня толькі лёсам, гэта выбрана мною сьвядома, і як мне падаецца,

асьвечана Богам. Я добра ведаю Сьвятлану і хачу сказаць, што яна ніколі не была ворагам беларускай мовы. Іншая справа, што мне было б намнога прыемней, каб яна карысталася беларускай мовай у сваёй творчасьці — цікавай і таленавітай. Але гэта вельмі тонкія рэчы. Прыкладам, Алесь Адамовіч бліскуча гаварыў па-беларуску, па-беларуску пісаў і свае літаратуразнаўчыя працы. А вось прозу сваю пісаў па-расейску. І калі я пытаўся ў яго, у чым справа, ён адказваў: «Ня ведаю. Вось саджуся за пісьмовы стол, і, каб выказацца, мне патрэбна расейская мова». Магчыма, нешта падобнае і ў Сьвятланы. Я быў бы вельмі рады, калі б яна стала ляўрэатам Нобэлеўскай прэміі. Гэта, я думаю, паслужыла б на карысьць Беларусі.

*— Ці на карысьць расейскамоўнай літаратуры ў Беларусі?*

— Не, Міхась, я так ня думаю. Творчасьць Сьвятланы Алексіевіч ніколі не была падтрымкай Чаргінцу і яго паплечнікам. Наадварот, яны на дух не пераносяць і ненавідзяць яе творчасьць. Таму, паўтаруся, яе Нобэль быў бы падтрымкай ня так званым «беларускім расейскамоўным пісьменьнікам», а дэмакратычнай Беларусі.

*— Аднойчы мы з вамі выступалі ў Полацку, гасьцявалі ў вашай мамы. І мяне тады ўразіла, як яна ўжо ў вельмі паважным веку чытала на памяць вершы Якуба Коласа. Паэзія ў вашым жыцьці — ад маці?*

— Думаю, што паэтычнае бачаньне сьвету ў мяне сапраўды найбольш ад мамы, але яшчэ і ад прыроды, сярод якой я ў маленстве жыў. Маляўнічая, вельмі беларуская рэчка Дрыса і бары

на яе берагах, і туманы, якія плылі над лугам, — я ўсё да гэтага часу помню. У мамы памяць проста выключная. Ёй сёньня ўжо за 100, але яна да гэтага часу памятае вершы, якія вучыла ў школе, і ня толькі Якуба Коласа, але і Кандрата Крапівы, яна памятае песьні той пары. Больш-менш сур'ёзна ставіцца да літаратурнай творчасьці я стаў ва ўнівэрсытэце. Там побач былі сябры, якіх сёньня мы ведаем як выдатных паэтаў: Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Міхась Стральцоў. Я на іх азіраўся, мы разам нешта шукалі. А потым прыйшлі радасныя сустрэчы з клясыкамі, якіх мы вучылі ў школе, я маю на ўвазе Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанку. Можна было зь імі сустрэцца, яны былі не забранзавелыя, але мы дыстанцыю трымалі, глядзелі на іх, як на жывыя помнікі. А яны паводзілі сябе вельмі дэмакратычна, ня ўмелі і не хацелі быць помнікамі.

— *Ці часта вам даводзілася пісаць з аглядкай на зьнешняга ці ўнутранага рэдактара?*

— Была ў мяне аглядка і «зьнешняя», і «ўнутраная». Прызнаюся шчыра: сядзеў ва мне ўнутраны цэнзар, таму што кожнаму творчаму чалавеку хочацца, каб творчасьць яго дайшла да людзей. У маёй кніжцы «Ўзмах крыла» ёсьць цэлы разьдзельчык вершаў, якія за савецкім часам не друкаваліся. Але я не сказаў бы, што ўнутраны цэнзар так ужо стаяў над маёй душой. Я стараўся, хоць і з аглядкай, выказваць тое, што мне дорага, і ў вершах, і ў паэме «Ленін думае пра Беларусь». За тую паэму мяне сьпярша хвалілі, потым даволі жорстка лаялі, ледзь не зрабіўшы зь мяне трубадура марксізму-ленінізму. Тады мяне падтры-

маў Масей Сяднёў, дзякуй яму. Калі мяне пачалі тут лаяць, я працаваў у Нью-Ёрку, і ён мне сказаў: «Генадзь, ты асабліва не хвалюйся. Людзі разумныя ведаюць, што твая паэма не пра Леніна, а пра Беларусь. Я вельмі крытычна стаўлюся да камуністычнай ідэалёгіі і да Леніна, але ў гэтым творы аніякага твайго граху ня бачу». Мне тады гэта было важна пачуць.

— *А хто зь беларускіх пісьменьнікаў зьяўляецца для вас прыкладам творчай свабоды?*

— Прыкладамі такой свабоды для мяне — Васіль Быкаў і Пімен Панчанка. Быкаў, нягледзячы на жорсткую цэнзуру, усё ж сказаў сваё праўдзівае слова пра вайну. І Панчанка, нягледзячы на жорсткія рамкі, якія для яго ставілі, усё ж час ад часу з тых рамак выломліваўся і ў сваёй паэзіі быў гранічна шчырым і гранічна сьмелым.

— *Аднойчы Янка Брыль паказаў мне сваю «шафу найлепшых», дзе стаяла каля паўсотні кніг, самых для яго дарагіх. А ці была ў вас свая «валізка найлепшых», якую вы бралі з сабой у Нью-Ёрк?*

— У Нью-Ёрк я браў няшмат кніг: творы Багдановіча, Купалы, Коласа, Быкава і Брыля. З расейскай клясыкі — Гогаля і Ясеніна, яшчэ публіцыстыку Буніна. Праўда, у Нью-Ёрку ў мяне была магчымасьць пазнаёміцца з кнігамі нашых суайчыньнікаў за мяжой: Натальлі Арсеньневай, Алеся Салаўя, Уладзімера Дудзіцкага, Масея Сяднёва. Тады для мяне іх творчасьць сталася сапраўдным адкрыцьцём.

— *Мне нядаўна трапіліся на вочы вашыя радкі: «Ня бойцеся начальнікаў, / яны — зусім ня геніі. /*

*Яны ва ўсім звычайныя, / ня Гётэ, не Тургеневы, / ня Рузвэльты, ня Сталіны, / ня Вітаўты, ня Скірмунты. / Як лёгка ўверх пастаўлены, / так хутка будуць скінуты». Але, як паказвае практыка, начальніка зь вяршыні ўладнай піраміды скінуць складана. Што змушае чалавека рукамі і зубамі трымацца за ўладу?*

— Улада дае незвычайныя магчымасьці чалавеку, ён да іх прывыкае, а калі сыходзіць з улады — усё зьнікае. Вазьміце аднаго беларускага палітыка, які ўчэпіста трымаецца за ўладу. Якім было ягонае ранейшае жыцьцё, калі ён ня быў кіраўніком? Скажам шчыра — вельмі бедным. Яго тузалі, яму было няпроста і нялёгка. А цяпер ён жыве, робячы ўсё, што захоча. І калі гэтую пасаду ў яго забяруць, куды яму вяртацца? Назад у ранейшае жыцьцё ня хочацца. А куды яшчэ? У дыктатараў, як правіла, няма прафэсіі. Пасада робіцца для іх прафэсіяй. Дыктатар трымаецца за ўладу да канца, да вялікай крыві, бо пасада абараняе яго ад лавы падсудных. Толькі зрынутых дыктатараў прыцягваюць да адказнасьці. А пераходзіць з палаца за краты ніхто ня хоча.

*— Нядаўна былі апублікаваныя дзьве вашы паэмы — пра Францішка Багушэвіча і Якуба Коласа. Абодва яны пад канец жыцьця перажывалі пэўнае расчараваньне ў сваім народзе. А вы?*

— Я не цярплю палітыкаў, ліслівых у адносінах з народам: «Наш народ самы мудры! Наш народ самы цярплівы! Наш народ самы працавіты!» І іншыя народы не дурныя і не гультаі. Беларускі народ — такі, які ёсьць, другога ў нас ня будзе. Але як мы можам даравацць свайму народу вялікія

гістарычныя памылкі, за якія расплачвацца будуць нашы дзеці і ўнукі? Чаму народ дазваляе зь сябе зьдзекавацца, колькі ж цярпець можна? Народу нашаму бракуе рашучасьці. У свой час я напісаў верш «Такі народ», дзе гаворыцца: «Чужым і ўласным дармаедам / глядзіць у рот / і паслухмяна крочыць сьледам — / такі народ». Што мы сёньня маем? Адзін чалавек, атрымаўшы абсалютную ўладу, выстраіў цэлы дзяржаўны мэханізм, які абдурвае людзей, маніпулюе імі як хоча. У нас да таго дайшло, што многія людзі кажуць: «Ай, які наш кіраўнік малайчына, ён столькі гадоў абдурваў Расею і браў газ па той цане, якой больш ні ў кога не было». Так, ад гэтага дзяржаве было лепей. Але хіба гэта маральна — атрымліваць нешта за кошт абдурваньня? Адна справа, калі гэтую мяжу пераходзіць адзін чалавек, і зусім іншая справа, калі яе пераходзіць большая частка народу. А мы гэта бачым: «Хай абдурвае некага, абы нам было добра!». Гэта для мяне страшна.

## «Сучасныя песенькі адна адну выпіхваюць з эфіру, і праз тры хвіліны іх немагчыма ўспомніць»

*— Наклады беларускіх кніг з кожным годам меншаюць, БТ пра літаратуру фактычна забылася. А вось жа адзін ваш твор прагучаў па тэлебачаньні прыблізна 7 300 разоў! Я маю на ўвазе вашу «Калыханку», якую ведае кожны мінак на вуліцы. Так што тыражаваньне твораў таксама мае вялікае значэньне. А якія вашы творы друкаваліся самым вялікім накладам?*

— У свой час мяне друкавала «Правда», у якой былі проста захмарныя наклады — больш за дзесяць мільёнаў асобнікаў. Я даволі актыўна друкаваў вершы ў маскоўскай «Литературной газете» ў перакладзе Якава Хялемскага, Рыгора Куранёва, Ігара Шклярэўскага. Мяне ахвотна друкаваў папулярны часопіс «Юность», у яго наклад быў за пяць мільёнаў. І я праз усё жыцьцё нясу, як узнагароду, той факт, што маю паэму «Хатынскі сьнег» у «Новом мире» падпісаў у друк Аляксандар Твардоўскі. Яму, калі сыходзіў з пасады галоўнага рэдактара, было дадзена права падпісаць у друк апошні нумар. І там сярод іншых матэрыялаў аказалася мая паэма. Але, скажам шчыра, песенная аўдыторыя шматкроць перакрывае ўсе друкаваныя наклады. Бо тыя ж «Калыханка», «Конь незацугляны», «Зачарованая мая», «Завіруха» давалі маім вершам такую вядомасьць, якую ніякі Дом друку ня мог даць.

*— У супрацоўніцтве са Зьмітром Вайцюшкевічам вы запісалі сёлета альбом турэмнага шансону. Што вас натхніла на такую творчасьць?*

— Мы са Зьмітром ставілі дзьве задачы. Папершае, шансон вельмі папулярны і ў Расеі, і ў Беларусі, і ва Ўкраіне. А вось беларускамоўнага шансону практычна не існуе. А празь яго таксама можна прапагандаваць беларускую мову. Па-другое, мне хацелася, каб у беларускім шансоне не было бандыцтва. Наш шансон мусіў быць лірычны. Мы хацелі расказаць пра тое, што адчувае чалавек ва ўмовах турмы, ва ўмовах зьняволеньня, чым ён жыве. Я разумею, што нехта абавязкова скажа: «Вось да чаго дакаціўся Бу-

раўкін! То пісаў «Ленін думае пра Беларусь», то цяпер піша турэмны шансон». Такім людзям я падрыхтаваў адказ. Помніце, адзін з нашых высокіх кіраўнікоў сказаў, што ў беларускіх турмах сядзяць дастойныя людзі? Дык вось і для гэтых дастойных людзей трэба пісаць песьні.

*— Шансон сапраўды атрымаўся лірычны. Асабліва песьня «Дачакайся, матуля»: «Ты мне родная самая / па душы, па крыві. / Ты жыві, мая мама, / доўга-доўга жыві». Вашай маме пайшоў 101-ы год. Як сын напісаў — так яна і жыве. Ці можаце вы прыгадаць выпадкі, калі паэтычнае слова спраўджвалася падобным чынам?*

— Я рады, што мама мяне падтрымала і такім чынам дадала мне плюсоў. Я вельмі хачу, каб спраўдзіліся мае вершы, прысьвечаныя маёй роднай Беларусі, беларускай мове. На жаль, пакуль толькі мама дапамагла спраўдзіць мае вершы. Дзякуй ёй за гэта.

*— Сёньня ў Беларусі безьліч выканаўцаў, якіх БТ называе «зоркамі беларускай эстрады». Як вы ацэньваеце іх песьні, найперш тэксты песень?*

— У кожнага чалавека павінна быць адказнасьць перад людзьмі, перад радзімай, перад прафэсіяй. І павінна быць адказнасьць перад словам. Сёньняшнія сьпевакі і сьпявачкі дэманструюць абсалютную безадказнасьць і перад словам, і перад гледачом, і перад культурай. Тое, што я часам чую ў радыёэфіры ці са сцэны, — гэта жахліва. «Нравится мне, когда ты голая по квартире ходишь и несомненно заводишь. Нравится мне, когда ты громко хохочешь, не важно, днём или ночью — это нравится мне. Плевать, если я за-

болею, я сам себе банки поставить сумею. И мне никого, блин, не надо, лишь бы ты ходила голая рядом»… Вось такі ўзровень. Як такое можна пускаць у эфір? Гэта проста непрыстойна.

*— А ці лёгка напісаць шлягер? Што для гэтага трэба?*

— Для таго, каб зьявіўся шлягер, патрэбны таленты трох чалавек — кампазытара, паэта і выканаўцы. Калі яны свае таленты злучаюць, то тады атрымліваецца песьня, якая можа стаць шлягерам. Як паказвае практыка, шлягер атрымліваецца тады, калі супадаюць добрая паэзія і добрая музыка. Успомніце «Песьняроў». Выдатныя мулявінскія песьні на чые вершы? Багдановіча, Купалы, Коласа. А самыя лепшыя песьні Лучанка? Таксама — на вершы Багдановіча, Купалы, Куляшова. Беларуская паэзія вельмі мілагучная. Там, дзе сама паэзія абуджае музыку, дзе гэтая музыка яркая, нацыянальная і самабытная, там і атрымліваецца радасьць ад праслуханай песьні. І такія песьні жывуць доўга.

*— Як мне сказаў адзін паэт-песеньнік, уся бяда сучаснай эстраднай песьні ў тым, што нашы маладыя выканаўцы выступаюць адразу ў трох іпастасях — яны адначасова і сьпевакі, і кампазытары, і паэты. У прынцыпе, тры таленты можа мець адзін чалавек.*

— Можа, але гэта надзвычай рэдка бывае. У гэтым «трыадзінстве» мне бачыцца элемэнтарная хітрасьць. Сапраўдныя таленты не баяцца дзяліцца сваім дарам з тымі, з кім супрацоўнічаюць. А вось сёньняшнія маладыя выканаўцы хочуць мець як мага больш грошай. Яны ня хочуць дзя-

ліцца ня талентам — яны ня хочуць дзяліцца грашыма. У свой час песьня не давала вялікіх грошай, і не пра грошы мы тады думалі, а пра тое, каб выказаць нейкія пачуцьці. Цяпер грошы засланілі ўсё. Вы паглядзіце, якая маса нейкага песеннага матэрыялу абрынаецца на людзей з тэлебачаньня, з радыё. Але прадукцыя цяперашніх FM-станцый не гучыць у бяседзе, у сябрыне, каля вогнішча. Людзі там сьпяваюць старыя песьні. А сучасныя песенькі адна адну выпіхваюць з эфіру, і праз тры хвіліны іх немагчыма ўспомніць.

*29 лістапада 2013 г.*

**Хто спаў у праху зямлі — прачнецца, хто праведны быў — зазьзяе, хто быў справядлівы — зазіхацее.**

**Францішак Скарына**

## ПАРТРЭТЫ З-ПАД ШЫБЕНІЦЫ

### Vis-à-viS: Язэп Янушкевіч

***У гэтыя аблічча хочацца ўглядацца падоўгу. Вось белабароды, з праніклівым позіркам Тамаш Булгак — двойчы паўстанец (у 1830-м і 1863-м) і двойчы катаржнік. Вось каржакаваты і ў паважным веку Юрась Краскоўскі, на пагонах якога замест вайсковых адзнак вышытая лічба «1863». Вось зьняты ў хатнім інтэр'еры Зыгмунт Чаховіч, які пасьля адбыцьця катаргі і высылкі стаў Янку Купалу духоўным бацькам. Вось з валявым тварам паўстанец Бацян усьпёрся на шаблю, а праваруч ад яго — два сыны зь пістолямі за паясамі. Вось падперазаны слуцкім пасам Павал Барэйша — праўнук славутага Тадэвуша Рэйтана… Да 150-х угодкаў з дня сьмерці Кастуся Каліноўскага дасьледнік Язэп Янушкевіч сабраў і выдаў (разам з дачкой Камілай) унікальны фотаальбом «Партрэты паўстаньня».***

*— Язэп, найлепшым знаўцам паўстаньня 1863 году ў нас лічыўся сьветлай памяці Генадзь Кісялёў, дзякуючы якому мы сёньня маем поўны збор твораў і дакумэнтаў Кастуся Каліноўскага і жыцьцяпісы найбольш актыўных удзельнікаў паўстаньня 1863 году. А ці складана было сабраць фотагалерэю паўстанцаў?*

— Да зьбіраньня фотагалерэі мяне падштурхнуў прафэсар Джым Дынглі, калі запрасіў паўдзельнічаць у навуковай канфэрэнцыі, прысьвечанай 150-м угодкам з дня страты Кастуся Каліноўскага. Дзякуй таксама і Вользе Гарбачовай, якая гадоў пяць таму апублікавала здымкі паўстанцаў, якія захоўваюцца ў архівах Вільні і Парыжу. І я, будучы абазнаным у гэтай тэме яшчэ раней, патрымаўшы ў руках дзясяткі паўстанцкіх здымкаў, падумаў: а чаму б не зрабіць фоталетапіс нашага змаганьня? Здымкі адшукваліся ў беларускіх архівах, у Польшчы і Літве, ва ўспамінах удзельнікаў паўстаньня з Украіны, зь Інфлянтаў і Прыбалтыкі. У альбоме мне хацелася паказаць як мага больш шырокі абсяг паўстаньня, паколькі нашымі паплечнікамі ў супольным змаганьні з расейскім царызмам выступалі і іншыя паняволеныя народы.

*— Мне здавалася, Кісялёў ведаў усіх паўстанцаў з твару. Ці ёсьць у вашым альбоме асобы, пра якіх і ён не падазраваў?*

— Відаць, вучні для таго і існуюць, каб пайсьці трошкі далей за настаўніка. Усё ж у XXI стагодзьдзі мы маем нашмат большыя тэхнічныя магчымасьці. Раскрываюцца архівы, там знаходзяцца новыя матэрыялы. Што да невядомых асобаў...

Вось выява маладзенькага паўстанца Паўлюка Барэйшы, які загінуў пад Малагошчай у Польшчы 24 лютага 1863 году. Загінуў дзевятнаццацігадовым. Прозьвішча Барэйша нам нічога не гаворыць, а гэта быў праўнук славутага Тадэвуша Рэйтана! Так гінуў цьвет нашай нацыі. На здымку мы бачым, што юнак падперазаны слуцкім пасам. Пасы кармазынавага колеру насілі падчас вайны, а чорнага — на знак жалобы. А на суседнім здымку на руках у паўстанца Бацяна — ягоны сынок. Так і прыгадваецца тагачасная дражнілка, якою дзеці даймалі расейскіх казакоў: «Пачакайце, сена пакасілі — атава нарасьце». А вось Багуслаў Семірадзкі, менскі шляхціч, лекар, які ўзначальваў Менскую паўстанцкую арганізацыю пасьля таго, як быў арыштаваны Пятро Чакатоўскі. Дарэчы, менская арганізацыя не была выкрытая цалкам, нягледзячы на намаганьні Мураўёва і дасьведчанага палкоўніка Лосева. Зь Семірадзкім здарылася трагедыя. Калі праз год нехта з паўстанцаў на допытах усё ж назваў ягонае прозьвішча, ён быў выкліканы на новае дазнаньне ў Вільню. І на зваротным шляху, баючыся катаваньняў, ня быўшы ўпэўненым, што іх вытрымае, ён атруціўся... І зусім сэнсацыйным мне бачыцца здымак шляхцянкі Ванды Беліковіч. На адвароце можна прачытаць: «Помещица Ванда Беликович Витебской губернии. Карточка найдена в гробу ея мужа. Заплатила штраф 300 рублей». Дзе вы, нашы айчынныя Караткевічы і Сянкевічы, дзе вы, нашы драматургі — Шэксьпіры і Аляхновічы? Такія сюжэты расказваюць нам звычайныя фотаздымкі! Нават па іх відаць,

якая палітыка задушэньня праводзілася на нашых землях, калі за фота, пакладзенае роднаму чалавеку ў труну, трэба было заплаціць штраф, роўны гадавому заробку турэмнага наглядчыка!

*— Дзякуючы вядомай балядзе Адама Міцкевіча «Сьмерць палкоўніка», мы ведаем пра гераіню паўстаньня 1830 году — Эмілію Плятэр. А вось жанчыны ў паўстаньні 1863 году — тэма, як мне здаецца, нечапаная. У альбоме я бачу здымкі цэлых сем'яў — хто яны?*

— Беларускія жанчыны ў тыя часы былі куды больш патрыятычна настроеныя за мужчынскую палову. Скажам, на адным з фота ёсьць сям'я Далеўскіх. Мураўёўскі тэрор закрануў зь дзясятак прадстаўнікоў гэтай сям'і, найвядомейшым сярод якіх быў Цітус Далеўскі — паплечнік Каліноўскага, пазьней расстраляны. Ягоныя браты — Францішак і Алесь — двойчы зьведалі выгнаньне ў Сыбір... Двойчы ссылалася і сям'я Булгакаў. У альбоме ёсьць і рарытэтныя здымкі жанчын Сьвентарэцкіх — Алімпіі і яе дачкі Юзэфы. Іхныя фотаадбіткі, набытыя нядаўна польскай Нацыянальнай бібліятэкай у Варшаве, зьяўляюцца самымі раньнімі фота ў Польшчы, гэта значыць, паходзяць недзе з 1851 году. І яшчэ шэраг жаночых аблічча ў у жалобных строях можна знайсьці ў гэтым фотаальбоме.

*— Да нядаўняга часу былі вядомыя два фатаздымкі Кастуся Каліноўскага. Найвядомейшы зь іх належыць Ахілесу Банольдзі. Нядаўна згаданая ўжо Вольга Гарбачова апублікавала трэці здымак. Але яго чамусьці няма ў тваім альбоме.*

— Здымак, пра які ты гаворыш, не атрыбутаваны. Я не хацеў падаваць яго як выяву безыменнага паўстанца, у мяне хапала атрыбутаваных адбіткаў касінераў-інсургентаў. Я пакінуў высьвятленьне гэтага пытаньня да другога выданьня. Згаданы здымак разам з двума іншымі дакладна вядомымі адбіткамі правадыра паўстаньня здадзены мною ў Цэнтар крыміналягічнай экспэртызы на вуліцы Валадарскага. Так што неўзабаве даведаемся, Каліноўскі на здымку, ці не.

*— Ведаю, што капіяваньне дакумэнтаў (і фота) у літоўскіх архівах ня ўсім дасьледнікам па кішэні. Колькі мае заплаціць беларус у Вільні за адну копію?*

— Да трох літаў — у залежнасьці ад стану захаваньня і каштоўнасьці дакумэнту. Я не шкадую пра аплату, паколькі гэта дазволіла зрабіць выданьне альбому больш якасным.

*— У свой час ты прычыніўся да поўнага выданьня «Мужыцкай праўды». Вось словы Каліноўскага, апублікаваныя на яе старонках 150 гадоў таму: «Ад маскаля няма чаго дабра спадзявацца; маскаль хітры, урад маскоўскі нас дурманіць; бясьпечнасьці пад маскалём ніякай няма; жыцьцё пад маскалём — горкая доля; паспрыяеш маскалю — саграшыш перад Богам; з усіх старон маскалі цяпер талкуюць нам без устанку аб сваім брацтве з намі, але брацтва там нямнога знойдзеш». Як выглядае, і сёньня гэтыя выказваньні ня страцілі сваёй актуальнасьці.*

— Словы Каліноўскага заўсёды былі для нас актуальныя, асабліва цягам апошніх двух стагодзьдзяў. Праўда, расейскі імпэрскі шавінізм за

савецкім часам быў закамуфляваны, апрануты ў авечую скуру «інтэрнацыяналізму». Каліноўскі, апрача ўсяго, быў таленавіты публіцыст, і да яго шмат хто з сучасьнікаў прыслухоўваўся. Гэта відаць, скажам, з успамінаў Якуба Гейштара, Апалінара Сьвентарэцкага, Вандаліна Чэрніка. Паплечнікі Каліноўскага адназначна бачылі ў імпэрскай Расеі ворага. Яны нават акрэсьлілі, што ў найбліжэйшае стагодзьдзе яна ня зможа стаць нам памочніцай ці апякункай. Бо вельмі шмат крыві ўжо тады пралілося. Ды і сёньня з боку Расеі не відаць разуменьня і жаданьня жыць у раўнапраўным добрасуседзтве. Так што «Мужыцкую праўду» хоць сёньня на менскай плошчы раздавай.

*— 128 удзельнікаў паўстаньня былі пакараныя сьмерцю. Больш за 12 000 саслана ў Сыбір. А дастаткова было напісаць прашэньне бацюхну-цару... Што ўсё ж змушала паўстанцаў ісьці з высока ўзьнятай галавой да канца?*

— Так, паўстанцам часта прапаноўвалася: падпішы вернападданьніцкі адрас цару Аляксандру II, і ты будзеш ахінуты ягонай ласкай. Аднак паўстанцы ішлі на эшафот і на катаргу, на канфіскацыю маёмасьці, але не падпісвалі. Яны разумелі, што духоўная здрада Радзіме ляжа грахом на наступныя пакаленьні. Уся былая веліч ВКЛ, усё змаганьне цягам стагодзьдзяў, уся вялікая культура, якая здолела паўстаць тут ад Дняпра да Буга, усе кніжныя выданьні, азораныя сьвятлом Скарыны, сьведчылі пра тое, што ў канцы XVIII і ў XIX стагодзьдзі на нашы землі прыйшла цемра. Паўстаньне 1863 году было апошнім моцным

узброеным супрацівам. І мы павінны памятаць тых, хто змагаўся зь цемрай. Калі я працаваў у архівах, кожны здымак грукаў мне ў сэрца з адзінай просьбай: не пакідай мяне ў архіўнай немаце! Відаць, з гэтага пачуцьця выніклі і словы вялікага Адама Міцкевіча, якія я паставіў эпіграфам да фотаальбому: «Калі я забудуся пра іх на зямлі, ты, Божа, забудзься пра мяне на небе».

*— Летась выйшла ўкладзеная табой анталёгія «Тварам да шыбеніцы» — паўстаньне 1863 году ў беларускай паэзіі. Здаецца, гэта была адна з тваіх даўніх задумак?*

— Так, яшчэ ў канцы 1980-х гадоў мне давялося дапамагаць мастаку Пятру Драчову складаць дзіцячую міні-энцыкляпэдыю «Кастусь Каліноўскі» для часопіса «Бярозка». Было тое ў дакампутарную эру. З таго часу ў мяне застаўся стос машынапісных старонак з творамі Ўладзіміра Караткевіча, Дануты Бічэль, Сержука Сокалава-Воюша, Алеся Чобата... Прызнаюся, тады не хапіла часу і цярпеньня. Цяпер тую ж складальніцкую працу зрабіць было лягчэй. Балазе, існуе нават адмысловы сайт «Сьвіслацкія аркушы» з разнастайнымі тэкстамі, прысьвечанымі Кастусю Каліноўскаму (заснавальнік — Зьміцер Кузьменка). Варта згадаць і зборнік «Жыві ў свабодзе», выдадзены Сяргеем Панізьнікам у 1996 годзе (праўда, там вобраз Каліноўскага пададзены пераважна ў прозе). Наогул, калі табе пераваліла за пяцьдзясят, самы час дарабляць недаробленае. Анталёгія «Тварам да шыбеніцы» нарэшце дарobленая, і мяне гэта цешыць.

*— Што ў ёй для чытача стала неспадзеўным?*

— Найперш, відаць, шматмоўнасьць выданьня. Тое, што пад адной вокладкай Каліноўскі загучаў па-польску, па-ўкраінску і па-ангельску. Пакуль што толькі ягоныя «Лісты з-пад шыбеніцы». Яны дазваляць іншаземцам зразумець памкненьні сучаснай Беларусі, якая ідзе па шляху, накрэсьленым маладым прарокам-апосталам, што дзейнічаў у сярэдзіне XIX стагодзьдзя і гэтак рана скончыў сваё жыцьцё. Неспадзяванымі будуць і некаторыя творы. Скажам, верш Ларысы Геніюш, які трапіўся мне на аўдыё-дыску «Пасланьне сябрам» (запісы Валянціны Трыгубовіч). А таксама вершы, знарок напісаныя для анталёгіі народным паэтам Рыгорам Барадуліным і Алесем Чобатам. А ўсіх аўтараў там 55.

*— Якім паўстае на старонках анталёгіі Кастусь Каліноўскі?*

— Як і належыць — непахісным барацьбітом за людзкое і народнае права. Айчынныя паэты маюць надзіва цэльны погляд на аднаго з пачынальнікаў нашага нацыянальнага адраджэньня. У Натальлі Арсеньневай Каліноўскі паўстае змагаром, што «аддаў жыцьцё, каб жыць магла Радзіма»; у Дануты Бічэль — апосталам, за якім «вясны дыханьне» і наш абуджаны народ; у Ніла Гілевіча — «чэсьці й гонару узорам»; ва Ўладзімера Караткевіча — пакутнікам, сынам «той зямлі, што несла крыж пакуты»; у Віктара Стрыжака Каліноўскі — Гарыбальдзі нашага краю… Згодна са слушным выказваньнем Генадзя Кісялёва, які склаў падрабязны летапіс жыцьця Каліноўскага, ён — «адзін з самых любімых нацыянальных герояў беларускага народу». На жаль, у нас неяк зарана пачалі

забываць зробленае гэтым дасьледнікам — найлепшым у Эўропе знаўцам Калінаўскіяны. Калі ў навуковых артыкулах сустракаю пасажы: «Вялікі ўнёсак у каліноўсказнаўства зрабілі Вячаслаў Шалькевіч, Генадзь Кісялёў, Анатоль Сьмірноў», мне выразна бачыцца неадэкватнасьць пераліку, бо на першым месцы, бясспрэчна, павінна стаяць прозьвішча Кісялёва. Добра, калі нехта імкнецца адшукаць новае пра Каліноўскага, але памятайма пра папярэднікаў!

*— Ад якога часу Каліноўскі стаў героем літаратуры? Калі распачалася, скажам так, яго літаратурная гераізацыя? Бо існуе погляд, што культ ягоны ствараўся пад дыктоўку савецкай улады, якой быў патрэбен змагар з царызмам.*

— Гераізацыя правадыра паўстаньня распачалася адначасова з самім паўстаньнем. Калі сьпяваліся песьні касінераў, напісаныя тагачаснымі паэтамі. Імя аднаго зь іх — Фэлікс Ражанскі, які так і ня ўведзены ў аналы гісторыі нашай літаратуры. Яшчэ студэнтам на старонках польскага часопіса «Тыгоднік ілюстраваны» я адшукаў «Паўстанцкую песьню», запісаную на Пружаншчыне ці Ваўкавышчыне: «Гэй жа, хлопцы, досыць спаць! / Пара косы прыбіраць! / Косы, косы і сякеры — / бараніці сваю веру. / Пара! / Вы за печкаю на полу, / мы — у лесе зямлю голу / прытулілі б, як пярынку, / каб заснуці хоць гадзінку. / Пара!»

Нагадаю таксама, што яшчэ ў 1867–1871 гадах Агатон Гілер выдаў у Парыжы чатыры тамы сваёй «Гісторыі паўстаньня» і ў дадатку да першага тома (1867) надрукаваў «Лісты з-пад шыбеніцы» з наступным камэнтаром-характары-

стыкай Каліноўскага: «Паўстаньне ў Літве было падрыхтаванае ў нямногіх пунктах, сярод якіх Беласток займаў першараднае месца. Тут абсталявалі патаемную беларускую друкарню, у якой друкаваліся такія газэты для народа, як «Апавяданьні Янкі — гаспадара з-пад Вільні» (па-беларуску), і шмат беларускіх адозваў, якія моладзь разносіла па правінцыі, чытала па хатах і корчмах. Дух свабоды рос у беларускіх сялянах, і патрэбен быў толькі час, каб вырас да гатоўнасьці самастойна выступіць. Гэтая патаемная друкарня была першай беларускай друкарняй, а тайныя газэты — першымі пэрыядычнымі выданьнямі беларускай літаратуры. Рэдактарам гэтых газэтаў быў Канстанцін Каліноўскі — адзін з самых высакародных мужоў Літвы, чалавек, поўны самаахвярнасьці, высакароднасьці, розуму і энэргіі».

Што да савецкіх дыктовак... Хіба Міхась Машара сваю паэму «Сьмерць Кастуся Каліноўскага» ў 1934 годзе ў Заходняй Беларусі пісаў пад дыктоўку савецкай улады? «Паўстаньне згашана, зламана, / надзея згублена ізноў. / Па Краі ўсім крывавяць раны / пад дзікі рогат казакоў. / І трупаў, трупаў — Божа слаўны! / Хто не расстрэлены — вісіць, / хто не павешаны — сасланы / або за кратамі сядзіць».

*— Пасьля 150-х угодкаў паўстаньня ў дзяржаўных СМІ зьяўляліся розныя матэрыялы, якія мелі на мэце пазбавіць Каліноўкага арэолу нацыянальнага героя. Скажам, вядоўца прапагандысцкіх тэлешоў і галоўны рэдактар часопісу «Беларуская думка» Вадзім Гігін называў яго тэрарыстам, за-*

*клікаў «пакончыць з каліноўшчынай». Чым Каліноўскі так замінае ўладзе?*

— Адразу скажу, што не зьбіраюся ўступаць у палеміку з самазванцамі на навуковай ніве. Аўтарытэт належыць зарабіць навуковымі, а не публіцыстычнымі матэрыяламі, як гэта назіралася ў нас за савецкім часам, калі навуковымі тэмамі лічыліся «вобраз Леніна ў беларускай драматургіі», «роля партыі ў выкананьні 9-й пяцігодкі»… Такія гігікаючыя псэўдавучоныя заўжды патрэбныя ўладзе ў табуне вернападданых. А чым ім замінае Каліноўскі? Ён замінае ім сваёй сапраўднасцю і справядлівасьцю, тым, што ўся ягоная дзейнасьць насамрэч скіраваная на дасягненьне самастойнасьці і незалежнасьці Беларусі. Праўдзівай незалежнасьці, а не дэклараванай на паперы.

*— Больш за паўстагодзьдзя таму ў Сьвіслачы на Гарадзеншчыне быў устаноўлены ці не адзіны ў Беларусі помнік Каліноўскаму, што лягічна: будучы кіраўнік паўстаньня вучыўся ў Сьвіслацкай гімназіі. Але прайшоў час і за нейкіх сто мэтраў ад Каліноўскага паўстаў помнік… Сталіну. Так яны і сёньня там стаяць — Каліноўскі і Сталін. Што вам за гэтым бачыцца?*

— Тое, што на беларускай зямлі ставяць помнікі катам нашага народу. Яшчэ не хапае, каб пачалі ставіць помнікі расейскім царам ды іхным памагатым. Такім, як Мураўёў-вешальнік, якога названы табою псэўданавуковец гатовы назваць дабрадзеем нашай зямлі, які эканамічна дапамог спарадкаваць разбураную гаспадарку забранага краю... Беларусь толькі тады стане па-сапраўд-

наму незалежнай, калі на нашай зямлі паўстануць помнікі нацыянальным геніям — ад Скарыны да Караткевіча, калі будуць пазначаныя бронзавымі барэльефамі мясьціны, адкуль паходзяць продкі Дастаеўскага, Цыялкоўскага, Шастаковіча, калі ў кожным мястэчку будуць вуліцы Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Людвіка Нарбута і Рамуальда Траўгута.

*— Кастусь Каліноўскі нарадзіўся ў 1838 годзе. Тэарэтычна ён мог дажыць да новай хвалі нацыянальнага адраджэньня. Ці магчыма ўявіць яго, скажам, на 1-м Усебеларускім кангрэсе (1917), які быў разагнаны бальшавікамі?*

— Калі б сотні паплечнікаў Каліноўскага не былі забітыя і павешаныя, а тысячы ягоных касінераў не пайшлі на катаргу ў Сыбір, — павер, наш народ прычакаў бы вызваленьня з-пад расейскага царызму раней. Магчыма, у 1917 годзе, як гэта адбылося зь фінамі. Каліноўскі мне бачыцца ў ганаровым прэзыдыюме Ўсебеларускага кангрэсу поруч з постацьцю першага айчыннага акадэміка Яўхіма Карскага, які без паўстанцкіх атрадаў і вайсковых дывізій сам-адзін узнавіў на мапах межы этнаграфічнай Беларусі. Думаю, што Кастусь і ягоныя каліноўцы ніякім чынам не дазволілі б п’яным расейскім матросам разагнаць кангрэс, які фактычна ня меў ніякай абароны.

*28 сакавіка 2014 г.*

**Калі ж маеш ахвоту ўведаць пра справы ваярскія і волатаўскія ўчынкі — чытай Макавейскія кнігі і кнігу Судзьдзяў: у іх адшукаеш выдатнейшае ваярства і справядлівейшае валатоўства, чым нават у «Троі», чым нават у «Александрыі».**

**Францішак Скарына**

## БІТВА ПРАЦЯГЛАСЬЦЮ Ў ПАЎТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯ

**Vis-à-viS: Леанід Дайнека**

***Беларускія ўлады вырашылі не заўважыць 500-я ўгодкі Аршанскай бітвы. Не паўстаў на Крапівенскім полі велічны мэмарыял, не зьявілася помнікаў героям той бітвы, найперш вялікаму гетману ВКЛ Канстанціну Астроскаму, чыю пераможную стратэгію і тактыку вывучалі ў вайсковых акадэміях па ўсёй Заходняй Эўропе. Наадварот, Аршанскі райвыканкам загадаў заараць поле беларускай вайсковай славы, дзе 8 верасьня 1514 году нашыя продкі разграмілі маскоўскае войска. Але заараць памяць народу немагчыма — лічыць пісьменьнік, ляўрэат Дзяржаўнай прэміі Кастуся Каліноўскага Леанід Дайнека.***

*— Спадар Леанід, ці спадзяваліся вы, што 500-годзьдзе бітвы пад Воршай усё ж будзе неяк афіцыйна адзначана?*

— Шчыра кажучы, не спадзяваўся. Я нават дапускаю, што некаторыя нашыя чыноўнікі ў той бітве былі б не пад сьцягам Канстанціна Астроскага, а на баку маскоўскага ваяводы Івана Чалядніна. Рэч у тым, што беларуская дзяржава і яе палітыка, у тым ліку і культурная, знаходзяцца ў магнітным полі Расеі. Дык як жа яны будуць адзначаць гадавіну бітвы, у якой былі разьбітыя продкі іхных гаспадароў? Я быў упэўнены, што ўлада ўгодкаў не заўважыць, але думаў, што купку людзей на Крапівенскае поле ўсё ж прапусьцяць. Хай бы там паэты пачыталі вершы, а гурт «Стары Ольса» пасьпяваў ваярскія песьні. Было б цудоўна. Каму гэта магло перашкодзіць? Каму было б выклікам? Мы ж ня ворагі расейскаму народу. Мы ворагі захопнікам, якія прыходзілі на нашую зямлю.

У свой час Гітлер бамбіў Лёндан. Дык што, англічане ворагі немцам? Не. Так і мы — разьбілі прышлых ворагаў. І правільна зрабілі, бо баранілі свой дом, сваю зямлю, сваю дзяржаву. А дзяржавай нашай на той час было Вялікае Княства Літоўскае, мы былі грамадзянамі і воінамі гэтай дзяржавы. Для мяне прыемнай неспадзяванкай было тое, што да ўгодкаў Аршанскай бітвы Нацбанк Беларусі выпусьціў памятную манэту. Значыць, там працуюць прагрэсіўныя людзі, трэба іх пахваліць. Хай і надалей выпускаюць такія гістарычныя манэты, якія зь вялікай ахвотай раскупляюць нашыя нумізматы і тыя, хто цікавіцца

гісторыяй Беларусі. Дарэчы, мой сярэдні сын Зьміцер любіць іх набываць.

## «Гром бітвы, крыкі вояў, шыпеньне стралы, звон мячоў, груканьне ядраў аб муры для мяне — як музыка»

*— Бітва пад Воршай апісваецца ў вашым рамане «Назаві сына Канстанцінам». Войска ВКЛ было колькасна меншым, але мела артылерыю. Чаму маскоўцы прыйшлі на Крапівенскае поле без гарматаў?*

— Праз самаўпэўненасьць сваю. Яны пакінулі артылерыю ў Смаленску і рушылі на безабароннае, як яны думалі, ВКЛ. Маскоўцам хацелася як мага хутчэй рабаваць, забіраць у палон цяглых мужыкоў, маёмасьць. Вядома ж, брак артылерыі адыграў сваю ролю. У вырашальны момант якраз артылерыя Канстанціна Астроскага ўшчэнт зрэзала маскоўскую коньніцу. Тут праявіўся ваенны талент Астроскага, які спачатку зрабіў выгляд, што адступае, і маскоўцы, ашалеўшы ад нечаканай перамогі, парушылі свае баявыя парадкі і рынуліся ў наступ. А войска ВКЛ расступілася, і баярская коньніца Масквы апынулася проста перад жараламі гарматаў, перад мушкетамі. І пачалі дагэтуль непераможныя маскоўцы ўцякаць — хто як мог ратаваўся. Усё поле было заваленае трупамі, вада ў рэчцы стала чырвонай. Загінула каля 40 000 маскоўцаў, 5 000 трапіла ў палон, у тым ліку галоўны ваявода Чаляднін, яшчэ 8 ваяводаў, 17 вайскаводаў высокага рангу, 2 000 дзяцей баярскіх. А пераможцам, ваярам Канстанціна

Астроскага, раздалі 20 000 трафэйных маскоўскіх коней. І яны горда паехалі дадому на тых конях.

*— Ваш раман выразна падзяляецца на дзьве часткі: адна — пра Канстанціна Палеалога, які загінуў пры абароне Канстантынопалю ад турак, і другая — пра Астроскага. Чаму вы зрабілі іх героямі адной кнігі?*

— Калі быць дакладным, то ў рамане ёсьць яшчэ адзін Канстанцін, які ўвайшоў ў гісторыю як Канстанцін Вялікі — рымскі імпэратар, які зрабіў хрысьціянства дзяржаўнай рэлігіяй Рымскай імпэрыі. Ён, вобразна кажучы, вывеў хрысьціянаў з катакомбаў на белы сьвет. Спачатку я хацеў назваць свой раман «Тры Канстанціны», але спыніўся на назьве «Назаві сына Канстанцінам», бо яна скіраваная ў будучыню, дзе народзяцца новыя Канстанціны. Я ў канцы раману так і пішу: народзяцца яшчэ і Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас), і Канстанцін Каліноўскі. Дадамо сюды яшчэ і Канстанціна Езавітава — змагара за беларускую дзяржаўнасьць. Мне вельмі падабаюцца яркія, гераічныя асобы, якія змагаюцца за сваю ідэю. Той жа Канстанцін Палеалог, імпэратар, гіне на сьценах Канстантынопалю, абараняючы рамейскую сталіцу ад туркаў-асманаў. Той жа Канстанцін Іванавіч Астроскі, вялікі гетман ВКЛ, вядзе сваё войска да Воршы, да ракі Крапіўны, каб спыніць там навалу маскоўскіх рацяў, якія ішлі ды ішлі з усходу, каб захапіць нашыя землі, якія яны лічылі сваёй «вотчынай».

*— Мяне ў вашым рамане асабліва захапілі дзьве батальныя сцэны — абарона Канстантынопалю і сама бітва на Крапівенскім полі. «8 верасьня*

*1514 году сонца ўзышло над Крапівенскім полем у 7 гадзінаў 4 хвіліны...». Паводле якога календара вы гэта вылічылі?*

— Ёсьць так званы «вечны каляндар», паводле якога ўсё можна вылічыць. Мне як аўтару заўсёды хочацца быць звышдакладным, каб чытач паверыў у апісаныя падзеі, каб убачыў *тое* сонца, якое ўзышло і зайшло, як я пішу, шмат для каго назаўсёды. Але ваяры, што не вярнуліся з Крапівенскага поля, загінулі недарэмна. Калі б яны не загінулі тады, у верасьні 1514-га, цяпер тут была б якая-небудзь Смаленская губэрня сёньняшняй Расеі. У сваім рамане я хацеў паказаць канкрэтных людзей, ня выдуманых, не мітычных герояў. Прыйшлі рэальныя людзі, узялі ў рукі зброю і спынілі ўсходняга агрэсара, які заўсёды хацеў, каб мы танцавалі толькі пад крамлёўскую дудку.

*— Вам дзіўным чынам удалося перадаць атмасфэру тых далёкіх часоў. Калі чытаеш пра штурм Канстантынопалю, уражаньне — нібы чуеш крыкі янычараў. Перагорнеш старонкі — і нібы на Крапівенскім полі пабываў. Як вам гэта ўдаецца?*

— Па-першае, я пранікся духам бітвы. Я наагул люблю бітвы, гром, сечу, як раней пісалася, крыкі вояў, шыпеньне стралы, звон мячоў, груканьне ядраў аб цьвёрдыя муры фартэцыі. Для мяне гэта, прабачце, гучыць як музыка. Магчыма, гэта музыка пакуты, але ж — і змаганьня, яраснай веры ў сваю перамогу. Згаданыя янычары мелі сваю рацыю. Іх вёў султан Мэхмэд на заваяваньне Эўропы. Яны памяталі, што некалькі стагодзьдзяў таму Аляксандар Македон-

скі з Эўропы ішоў на Азію, зьнішчыў Пэрсыдзкае царства і ўзяў у палон цара Дарыя. Наагул я стараюся пісаць у такой кінэматаграфічнай, галівудзкай манеры. Мне цікава, як Галівуд здымае гістарычныя кінафільмы. Я захапляюся «Спартаком», «Клеапатрай», я не магу забыць, як ішлі на бітву глядыятары. Мне даспадобы такая пабудова сюжэту — ляканічная, вострая. Я рады, што вам спадабаліся некаторыя сцэны ў рамане. Значыць, павінны спадабацца і іншым чытачам.

— *«Назаві сына Канстанцінам» — выразна антымаскоўскі раман. Вось толькі дзьве цытаты: «Масква і Арда — адна бяда», «Калупні любога маскоўца і знойдзеш татарына». А чаго вартае вашае цьверджаньне, што шапка Манамаха перашытая зь цюбецейкі бухарскай работы... Як вам удалося выдаць свой твор у дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура»?*

— Я сам зьдзіўляюся. А перад гэтым раман быў надрукаваны ў дзяржаўным часопісе «Маладосьць», які тады рэдагавала Раіса Баравікова. Я і тады зьдзівіўся. Відаць, было нейкае пагаршэньне стасункаў паміж Менскам і Масквой. Я думаю, сёньня раман ужо не надрукавалі б, а тады ён праскочыў. Паўтаруся, не расейскі народ паказаны там ворагам, а тыя вялікадзяржаўнікішавіністы, якія хацелі прыбраць да рук усё, што лічылі сваёй спадчынай яшчэ з часоў Кіеўскай Русі. Але пра якую спадчыну яны гавораць? Мы ведаем, што маскоўскія правіцелі былі чорнымі рабамі-даньнікамі Залатой Арды, а наш народ у той час жыў у Эўропе, меў праз Польшчу, праз

Балтыйскае мора сувязь зь Нямеччынай, Ангельшчынай, Францыяй.

*— Часам які-небудзь ваш герой прысутнічае на дзьвюх-трох старонках раману, а — запамінаецца. Такі, напрыклад, шляхціч з-пад Шклова Парфён Сініца — віж і навушнік, які запрадаўся Маскве… Янычар Гасан Нечапай — вобраз таксама запамінальны. Успомніць радзіму яго прымушаюць усяго два словы. А беларуса да Беларусі што можа вярнуць?*

— Беларуса да Беларусі можа найперш вярнуць тая літаратура, якую мы ствараем. Я — сябра незалежнага Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і ганаруся гэтым. У нашым саюзе працавалі і працуюць шмат таленавітых пісьменьнікаў, якія пішуць на гістарычную тэму, сярод якіх Уладзімер Арлоў, Канстанцін Тарасаў, Вольга Іпатава, Вітаўт Чаропка. А ў свой час усе мы пачаліся з Караткевіча. Як расейская літаратура выйшла з гогалеўскага «Шыняля», так мы выйшлі з караткевічаўскага бэрэта. Але і да Караткевіча нябедная была нашая гістарычная літаратура. Успомнім імёны Язэпа Дылы, Барыса Мікуліча, Зьмітрака Бядулі, нават малавядомага сёньня Ільлі Клаза. Таму я ўпэўнены, што Беларусь ёсьць, была і будзе, як пісаў Караткевіч.

*— Давайце пагаворым пра Астроскага. Ён фігура ня простая: быў у маскоўскім палоне (пасьля бітвы на Вядрошы ў 1500 годзе), прысягнуў на вернасьць маскоўскаму цару… Ці ў гісторыі бліскучая перамога сьпісвае ўсе грахі?*

— Так, аршанская перамога сьпісала ўсе яго грахі. Астроскі сапраўды прыняў прысягу на вер-

насьць цару — у царкве, у прысутнасьці патрыярха. Але гэта адбылося пад прымусам. А калі яму загадалі раць падымаць, каб ісьці на паўночную Ўкраіну, ён уцёк, вярнуўся ў Вільню і пачаў зьбіраць войска, каб весьці яго на ўсход. Ніякага клятваадступніцтва я тут ня бачу. У гісторыі так часта бывала.

## «8 верасьня будзе ў будучыні абвешчана дзяржаўным сьвятам Беларусі»

*— Расея аб'явіла нацыянальным сьвятам дзень 4 лістапада, калі ў 1612 годзе Масква здолела адбіцца ад войска Рэчы Паспалітай, у якую ўваходзілі і беларускія землі. Беларусь магла б зрабіць сымэтрычны адказ — абвесьціць нацыянальным сьвятам 8 верасьня. Быў бы выйгрышны ход — нават для сёньняшніх уладаў.*

— Ход быў бы выйгрышны, але, на жаль, беларускім уладам ён не патрэбен. Пакуль што Дзень беларускай вайсковай славы дзяржаву не цікавіць. А мы памятаем, як у 1990-я гады Згуртаваньне беларускіх вайскоўцаў яго адзначала. Як на плошчы прымалі прысягу на вернасьць Беларусі пад бел-чырвона-белым сьцягам 3 000 шарагоўцаў і 600 афіцэраў. Думаю, што рэха Аршанскай бітвы будзе гучаць у сэрцах маладых людзей. Пішучы свае гістарычныя раманы, я хачу, каб мы не забывалі пра тыя далёкія часы, калі наш народ сяліўся, станавіўся на ногі каля Дняпра-Барысфэна, Рубона-Дзьвіны, Нёмана-Кронана — у цэнтры Эўропы. Нам трэба ведаць сваё гераічнае мінулае. Веру, што дзень 8 верасьня будзе ў будучыні абвешчаны дзяржаўным сьвятам Беларусі.

*— Вы прызналіся, што захапляецеся галівудзкімі фільмамі. Можна заўважыць, як у сучасным кіно ролю цудадзейнай палачкі выконвае кампутар. У самай безнадзейнай сытуацыі герой сядае за кампутар — і выйсьце знаходзіцца. У вашым рамане падобную ролю выконвае арол, які прылятае ня толькі ў розныя краіны, але і ў розныя стагодзьдзі. Няўжо нельга было абысьціся бязь містыкі?*

— А я сам па духу містык. Заўважце, мой арол не дзьвюхгаловы, гэта арол белы, вольны арол. Я хацеў спалучыць стагодзьдзі і наўмысна пайшоў на такі крок. Мае героі пераносяцца ў іншыя стагодзьдзі — гэта таксама пад уплывам Галівуду. І каб зьвязаць падзеі і стагодзьдзі, я прыдумаў вобраз арла. Адзін з маіх герояў гаворыць пра яго так: «Недзе высока-высока ў вечнасьці жыве залаты арол волі, які прылятае толькі да тых, хто змагаецца за сваю зямлю, за сваю Айчыну, каб дапамагчы гэтым людзям у іх сьвятой барацьбе».

*— У тканку раману вельмі натуральна ўплеценыя вершы. Чые яны?*

— Мае. Я імгненна пераключаюся з прозы на вершы. Проза і паэзія для мяне — адна плынь, адна рака, якая цячэ. Паэзія — усё ж найвышэйшы ўсплёск літаратуры, мэтэарыт літаратурнага неба. І вершы ў рамане для таго, каб ярчэй азарыць гэтае неба, каб чытач пранікся верай у твор. Я не адмаўляюся, што я бэлетрыст. Бяру сапраўдную гістарычную сьцяну, але размалёўваю яе фарбамі свайго ўяўленьня.

*— Неаднойчы падзеі ў рамане нагадвалі мне падзеі сучасныя. Скажам, нападнікі ў чорных ма-*

*сках раняць вашага героя на вуліцы гораду, зьнікаюць, і ніхто ня ведае, хто яны. А вам часта бачацца такія паралелі — паміж мінуўшчынай і сучаснасьцю?*

— Пастаянна бачацца. Жыцьцё няспыннае, і яно зь мінуўшчыны цячэ ў наш сёньняшні дзень. Тады былі нападнікі ў чорных масках, і сёньня яны ёсьць. Нічога не мяняецца. Але нельга зьнішчыць ідэю беларускай дзяржаўнасьці, якая ідзе праз стагодзьдзі. Нельга паставіць на калені народ, які хоча волі, які хоча жыць у сваёй хаце, пад сваім небам, са сваім словам, са сваёй верай. «Можна зламаць шпагу — нельга зьнішчыць ідэю», — сказаў вялікі француз Віктор Гюго. Гэтыя словы адпавядаюць і нашай беларускай сытуацыі.

*— Ці бітва пад Воршай нечаму навучыла Маскву?*

— На жаль, не навучыла. У галовах расейцаў нейкая царысцкая ідэя: наверсе — адзін, а ўсе — пад ім. Расея заўсёды атакавала нашыя землі, яна хацела прарвацца ў Эўропу, шукала шляхі да Балтыйскага мора. Іван Жахлівы вёў сюды свае войскі, і яны тут гінулі. І сёньняшні прыклад з Украінай — тое самае. Пяцьсот гадоў таму беларусы і ўкраінцы ўваходзілі ў адну дзяржаву — ВКЛ, тады мы ўсе былі ліцьвінамі. Тады Масква ішла вайной на беларускія землі, а сёньня — на Данбас, на Ўкраіну, нашую сястру па ВКЛ. Маскоўцы неўспрымальныя да ўрокаў гісторыі. Хоць у іхнага арла дзьве галавы, але глядзяць яны не туды. Я сам гадоў сем жыў у Расеі. Расейскі народ вельмі добры і шчыры, ён можа і папрацаваць,

і чарку выпіць, і пасьпяваць. Але на іх прапаганда ўзьдзейнічае. Глядзіце, фільмы ў іх толькі пра нейкіх супэрагентаў, якія адным ударам зьбіваюць з ног траіх, страляюць зь дзьвюх рук. Неўзабаве ўжо і дзеці будуць камісарамі Мэгрэ ў іхных фільмах.

*— Адзін з герояў раману «Назаві сына Канстанцінам» гаворыць: «Для Масквы галоўнае — собирать Русь. Хоча Русь гэтага зьбіраньня ці ня хоча, у яе, Русі, не пытаюць». Гэта ж так сугучна сёньняшняму дню, калі Крэмль прыдумаў нейкі «русский мир» і таксама намерыўся яго зьбіраць.*

— На жаль, сапраўды гісторыя паўтараецца. Вобразна кажучы, бітва пад Воршай працягваецца і сёньня — ва Ўкраіне. Чаму ўкраінцы павінны саступіць частку сваёй тэрыторыі? Калі гэта Данбас быў Наваросіяй? Гляньце на мапу — дзе Новарасійск? На Каўказкім узьбярэжжы. А тут стварылі нейкую «Наваросію» ў Данбасе, столькі зла наварочалі. У Данбасе казакі запароскія жылі і чумакі, якія з Крыму вазілі соль, гэта ж украінамоўныя людзі. Таму і Данбас — украінская зямля. Думаю, што большасьць людзей на Данеччыне душою горнецца да Кіева, але сёньня яны жывуць пад рулямі аўтаматаў. Але я ўпэўнены, што ўкраінцы ўрэшце пераможуць, як перамаглі нашыя продкі на Крапівенскім полі.

*— Вы напісалі дванаццаць гістарычных раманаў, як для нашага часу — многа. А якое вашае стаўленьне, напрыклад, да Юзафа Крашэўскага, які напісаў шэсьцьсот раманаў і аповесьцяў, ці да Бальзака, чыя «Чалавечая камэдыя» складаецца зь дзевяноста шасьці тамоў?*

— Да пладавітых творцаў я стаўлюся станоўча. Калі ты адчуваеш сябе пісьменьнікам, ты павінен пісаць шмат, у тым ліку буйныя рэчы. На мой погляд, раман — гэта і ёсьць найгусьцейшая канцэнтрацыя літаратуры, яе найвышэйшае ўвасабленьне. Я паралельна задумваю свае раманы і часам паралельна пішу. Стараюся пісаць штодня, для мяне ўлюбёная праца — пісаньне. Зрэдку, каб адпачыць, пішу вершы ці празаічныя карацелькі, якія называю герадоцінкамі — у гонар бацькі гісторыі Герадота.

*— Пра аднаго з вашых герояў — Канстанціна Астроскага — мы ўжо пагаварылі. А ў іншых вашых раманах дзейнічаюць Усяслаў Чарадзей, Язафат Кунцэвіч, напаўлегендарны князь Вячка. Хто зь іх найбліжэйшы вам ня як пісьменьніку, а як чалавеку, як беларусу?*

— Як чалавеку, як ліцьвіна-беларусу (я так сябе называю), мне найбольш блізкі Канстанцін Астроскі, які спыніў навалу з усходу. Мы, беларусы, народ эўрапейскі. Усе нашыя рэкі, Нёман, Дзьвіна і Дняпро, цякуць у Атлянтычны акіян, гэта значыць — у Эўропу. Нават прырода падказвае нашаму народу, у якім кірунку рухацца, а нас ізноў спрабуюць разьвярнуць на ўсход. Для нашага народу цяпер самае галоўнае — захаваць нацыянальны аптымізм, зьберагчы нацыянальную энэргію. Ня трэба думаць, што нас мала, што мы бедныя і няшчасныя. Нас дастаткова, нас ажно 10 мільёнаў! Шатляндцаў, напрыклад, усяго 3 мільёны. Мы, беларусы, у канцы XX стагодзьдзя займелі сваю дзяржаву. Зірніце на эўрапейскую мапу — да гэтай пары ня маюць сваёй дзяржаў-

насьці шатляндцы, валійцы, каталёнцы, баскі, карсыканцы, гагаузы і г.д. А мы маем, і нашая задача — захаваць яе. Мы адказныя за яе перад памяцьцю продкаў, перад будучымі пакаленьнямі.

## «Як можа духоўны пастыр, жывучы ў Беларусі, ня ведаць мовы тытульнай нацыі?»

*— Ваш раман «Той, каго ўдарылі па шчацэ» — пра Язафата Кунцэвіча, якога ўніяцкая царква вызнае за сьвятога. А Жыровіцкі манастыр, што належыць РПЦ, шматтысячнымі накладамі выдае і распаўсюджвае антыўніяцкія ўлёткі. Ці варта Праваслаўнай царкве так баяцца ўніяцкай, якая ў Беларусі нешматлікая?*

— Усе мае продкі былі ўніятамі. Я і напісаў названы раман, каб аднавіць у памяці народу ўніяцкую царкву, якая захавала ў свой час беларускую мову і гісторыю. Чаго ня скажаш пра царкву праваслаўную. Дарэчы, мітрапаліт Менскі і Заслаўскі Павел прызнаўся, што ня ведае беларускай мовы. Як можа духоўны пастыр, жывучы ў Беларусі, ня ведаць мовы тытульнай нацыі? Трэба было за тры ночы вывучыць! Усё ж беларусам неабходна мець сваю беларускую аўтакефальную царкву. Мы ж у свой час праваслаўе прымалі не ад Масквы. Калі мы прымалі праваслаўе, яе яшчэ на сьвеце не было. На месцы Масквы тады яшчэ бегалі шэрыя курапаткі і вецер пыл ганяў. А сёньня расейцы падказваюць, кім нам быць — праваслаўнымі, каталікамі ці ўніятамі. Наш народ хрысьціянскі, і гэта галоўнае. Барацьба РПЦ супраць уніяцкай царквы — гэта імкненьне ўнесьці раскол. Беларусам раскол у хрысьціянскім жыцьці не патрэбен.

Нам трэба жыць мірна. Я супраць таго, каб антыўніяцкія настроі будзіліся ў грамадзтве. Гэта нам не на карысьць.

— *Вы самі сябе называеце ліцьвіна-беларусам. Цяпер у сацыяльных сетках даволі папулярная ідэя перайменаваньня Беларусі ў Літву. Як вы да гэтага ставіцеся?*

— У рамане «Назаві сына Канстанцінам» я выкарыстоўваю назву Ліцьвінія. Я ліцьвін — мая краіна Ліцьвінія, я румын — мая краіна Румынія. У мяне нават верш ёсьць: «Тут вочы шэрыя, тут вочы сінія, / і шум лясоў, і бляск дажджоў, / адна такая ты, зямля Ліцьвінія, / я за цябе душу аддаць гатоў». Што да перайменаваньня… Усё ж няхай пакуль застаецца Беларусь. Ня «Белая Русь», не «Белоруссия», а Беларусь — адным словам, адным выдыхам, адным крыкам. Як пісаў Янка Купала: «Гэта крык, што жыве Беларусь». Хай будзе назва Беларусь, а час пакажа.

— *Вернемся да вашай тэзы пра нацыянальны аптымізм. Вы доўгі час жылі ў адным доме з Васілём Быкавым, які якраз не вызначаўся нацыянальным аптымізмам. У многіх у памяці ягоныя словы пра тое, што беларусы спазьніліся на свой гістарычны цягнік. А на вашую думку, наш цягнік сапраўды стаіць перад тупіком ці яшчэ выедзе на сваю далёкасяжную магістраль?*

— Я і сёньня жыву ў тым самым доме, дзе жыў Васіль Уладзімеравіч, на вуліцы Максіма Танка. Я жыву тут, а ён ужо на нябёсах, у славе. Лічу, што беларусы нікуды не спазьніліся. Паглядзіце, колькі пакаленьняў курды (саракамільённы народ!) дамагаюцца сваёй дзяржаўнасьці. А мы

яе дамагліся. Дык чаму мы спазьніліся? Кожны народ прыходзіць і адыходзіць у свой час. Як людзі нараджаюцца, так і народы нараджаюцца. Распадаюцца імпэрыі — і ўзьнікаюць народы. На руінах Рымскай імпэрыі паўсталі румыны, італьянцы, гішпанцы. Ужо чвэрць стагодзьдзя мы ня ведаем, што такое Савецкі Саюз. Па ім у мяне няма настальгіі, хоць я там пражыў 51 год. Я заўсёды разумеў, што СССР — гэта народы, сабраныя ў адзін мяшок. Імпэрыі паміраюць — народы жывуць.

## «Наш шлях адзін — у Эўропу, і нічога з гэтым ня зробіш»

*— Апрача таго, што вы аўтар гістарычных раманаў, стваральнік фірмы «БелПі» («Беларускае піва»), вы яшчэ прыдумалі і Згуртаваньне эўрацэнтрыстаў. Хто ў яго ўваходзіць?*

— Афіцыйна такога згуртаваньня не існуе, яно не зацьверджанае ў Міністэрстве юстыцыі ці яшчэ дзе-небудзь. Яно знаходзіцца ў маёй душы, і юрыдычны адрас гэтага згуртаваньня — мая душа. Чальцом Згуртаваньня эўрацэнтрыстаў ёсьць той, хто пачуваецца эўрапейцам, каму хоць аднойчы дзьмуў у вокны вецер з Атлянтыкі. Беларусы заўсёды былі эўрапейскім народам па сваім мэнталітэце, па сваёй гісторыі. Менск, як мы ведаем, заснаваны ў 1067 годзе, і ён ані разу не ўваходзіў у склад Расейскай дзяржавы, толькі быў гвалтам далучаны да яе ў 1794 годзе, пасьля падзелу Рэчы Паспалітай. Усе, хто падтрымлівае эўрапейскі выбар нашага народу, — мае адна-

думцы, і я запрашаю іх уступаць у Згуртаваньне эўрацэнтрыстаў.

*— Беларусу сёньня не праблема трапіць у Эўропу. Гадзіна самалётам, і ты ў Эўразьвязе. Мне здаецца, палітычную арыентацыю беларусаў лягчэй зьмяніць, чым культурную. Вось, напрыклад, ваш раман «Сьлед ваўкалака» пад назвай «Тропой Чародея» выйшаў па-расейску, а не па-ангельску, па-француску ці па-гішпанску. Які беларускі раман мог бы зацікавіць сёньняшнюю Эўропу?*

— А хоць бы той самы «Назаві сына Канстанцінам». Усе мае раманы скіраваныя на эўрапейскую гісторыю, у якой існавалі і мы. Паглядзіце: Полацкае княства па Дзьвіне заўсёды гандлявала з Эўропай, з Ганзай — эўрапейскім купецкім хаўрусам. Наш народ павернуты тварам да Атлянтыкі, і душы нашых людзей, асабліва маладых, настроеныя на эўрапейскі вецер, які мы адчуваем зь дзяцінства. Калі я жыў на Магілёўшчыне, то заўсёды недзе ў сярэдзіне лютай зімы прылятаў цёплы вецер, наставала адліга, цяклі капяжы са стрэхаў. Гэта быў вецер з Захаду, эўрапейскі вецер, як я яго называю. Так што нічога з гэтым ня зробіш, наш шлях адзін — у Эўропу. І шмат якія творы беларускай літаратуры можна выдаваць і на ангельскай, і на гішпанскай, і на нямецкай мовах. Дарэчы, згаданы вамі «Сьлед ваўкалака» мусіў выйсьці па-латыску, гэта было літаральна перад развалам Савецкага Саюзу. Я даў згоду, але выдаць латышы не пасьпелі. Дык можа, сёньня яны ўспомняць пра нашую дамову. У тым рамане, дарэчы, апісваецца жыцьцё і іх продкаў.

*— Роля літаратуры ў сёньняшнім грамадзтве нязначная — пра гэта сьведчаць і наклады кніг. Зайшоўшы на ваш сайт і пачытаўшы вашыя герадоцінкі, я зразумеў, што гэта ўспрымаецца вамі спакойна, вы пішаце: ня трэба ўздымаць літаратуру на катурны, бо катурнаў вартыя толькі Біблія, Каран і Талмуд. Навошта ж вы пілуеце сук, на якім самі седзіце?*

— Пішучы пра катурны, я меў на ўвазе нізкапробную літаратуру: усе гэтыя незьлічоныя міліцэйскія дэтэктывы і жаночыя раманы, дзе — страляніна, сэкс, рабаўніцтва, забойства, разводы і жаніцьбы бясконцыя. Гэта не літаратура, а падробка, імітацыя пад літаратуру, якую ня варта прапагандаваць. А сур'ёзную беларускую літаратуру варта ўздымаць на катурны. Беларускі пісьменьнік заўсёды быў настаўнікам народу, духоўным правадыром. І тут няма нічога дзіўнага. Нездарма ж у Бібліі сказана, што спачатку было Слова. А мы, пісьменьнікі, нараджаем гэтае самае слова на сьвет. Сёньня паднялі на шчыт не пісьменьнікаў, а папсовых сьпевакоў, гумарыстаў зь іх даволі прымітыўным гумарам. Але час пісьменьнікаў яшчэ прыйдзе, бо яны паказваюць народу яго гістарычны шлях, шлях у будучыню.

*— Наколькі істотныя для вас паводзіны пісьменьніка ў грамадзтве? Ці павінен ён быць пэўным эталёнам? Скажам, такі прыклад. Паэт Эзра Паўнд у фашысцкай Італіі начытваў на радыё свае хвалебныя адозвы Мусаліні, потым сядаў на ровар, ехаў дамоў і спакойна пісаў свае філязофскія вершы.*

— На маю думку, творца павінен быць цэльным. Ён не павінен быць пярэваратнем, які раніцай хваліць адно, вечарам у сябе на кухні — другое, а недзе ў гасьцях — трэцяе. Вы згадалі Італію… Жыў на сьвеце такі італьянскі паэт Марынэці, які быў ідэолягам фашызму, услаўляў, праўда, ня белую расу, як гітлераўцы, а чорную. У яго былі выпады супраць бляндынаў, супраць арыйскай расы — гэта сьмешна, гэта палітыканства. І Марынэці раздвоіўся і наагул зьнік з італьянскай літаратуры. Паўтаруся, чалавек, пісьменьнік у першую чаргу павінен быць цэльнай натурай, не павінен раздвойвацца ці патройвацца, каб дагадзіць нейкай сытуацыі. Напрыклад, у трамваі размаўляць па-расейску, а перад чытачамі — па-беларуску.

— «*Моўнае пытаньне ў Беларусі вырашанае раз і назаўсёды, прынамсі пакуль я знаходжуся на прэзыдэнцкай пасадзе*», — *заявіў нядаўна на сустрэчы з журналістамі кіраўнік дзяржавы. А як вам бачыцца вырашэньне моўнага пытаньня ў Беларусі?*

— Моўнае пытаньне ў нас якраз ня вырашанае. Беларуская мова не павінна заганяцца ў нейкія катакомбы! Чаму ў нашым войску няма камандаў па-беларуску, чаму толькі па-расейску? Беларуская вайсковая тэрміналёгія ж ёсьць, яна распрацаваная. Раней спартовыя перадачы вяліся на беларускай мове, цяпер камэнтатары загаварылі па-расейску. Чаму мяне пазбавілі права слухаць хоць на адным канале спартовыя рэпартажы па-беларуску? Я гэтага не разумею. Гэта ж відавочна — беларуская мова павінна займаць адпаведнае яе дзяржаўнаму статусу становішча. Я ня

супраць расейскай мовы, гэта магутная мова са сваёй гісторыяй, але яна не павінна выцясьняць на задворкі мову беларускую. Вобразна кажучы, сьветлая хмара з усходу не павінна засланяць нашае спрадвечнае моўнае неба. Беларускамоўная Беларусь — гэта магчыма, але трэба, каб высілкі ішлі зьверху, з боку дзяржавы, каб шараговы чыноўнік і міліцыянт загаварылі па-беларуску. Я ведаю, што людзі ў душы гатовыя да гэтага, проста яны чакаюць — наш народ прывык усё рабіць па камандзе зьверху.

— *Наколькі ведаю, вы раней былі атэістам, прынамсі — вонкава. Калі можна, раскажыце, як вы сталі вернікам, як прыйшлі да Каталіцкага касьцёлу?*

— Вера ў Бога ўва мне жыла заўсёды. Гледзячы на начное неба, усеянае безьліччу зорак, я думаў: гэта ж ня можа стварыцца само па сабе, значыць, ёсьць нейкі найвышэйшы розум, найвышэйшая сіла. Я прыйшоў у касьцёл у 2004 годзе. Перад гэтым туды прыйшоў мой сын Сяргей, а цяпер і малодшы сын Сьцяпан там, мы ўсе каталікі. Чаму? Бо ўсе нашыя продкі ў свой час былі ўніятамі. А паколькі ўніяцкая царква была забароненая на тэрыторыі Расейскай імпэрыі ў 1839 годзе, то іх гвалтоўна загналі ў праваслаўе. Я нічога ня маю супраць праваслаўя. Гэта вялікая рэлігія. Але калі мае продкі былі ўніятамі, якія падпарадкоўваліся Рымскаму Папу, то і я перайшоў у каталіцызм. Усё хрысьціянства, хочам мы гэтага ці ня хочам, пачыналася з Рыму, апосталы зь Юдэі прыйшлі ў Рым, і адтуль пачалася хрысьціянская вера. А падзел на ўсходнюю праваслаўную

і заходнюю каталіцкую канфэсіі, які адбыўся ў 1054 годзе, мяне не пераконвае. Нашыя продкі прымалі хрысьціянства ў 988 годзе. Значыць, з 988 па 1054 год яны былі каталікамі — гэта ўсясьветная рэлігія. Вось чаму я прыняў каталіцтва і пачуваю сябе вельмі спакойна. Галоўная навука Касьцёлу якая? Ён кажа: «Жадаю вам супакою». Галоўнае, каб супакой быў у душы, каб чалавек быў упэўненым у сваім зямным жыцьці.

Кожную нядзелю мы з жонкай ходзім у Чырвоны касьцёл і чуем там цудоўныя казані ксяндза Ўладзіслава Завальнюка па-беларуску. Я бачу там сотні людзей, якія слухаюць беларускую мову, і яна для іх — сьвятая. Разумееце? Беларуская мова — сьвятая, бо на ёй размаўляе касьцёл. Пакуль існуе касьцёл — беларуская мова не загіне. Пакуль існуе беларуская літаратура — беларуская мова не загіне. І пакуль існуём усе мы, вернікі Касьцёлу і беларускай літаратуры, мова нашая не загіне. Нельга спыніць узыход сонца, нельга спыніць прыход вясны, нельга забараніць мову. Я нядаўна пачуў жарт на гэтую тэму, які мне спадабаўся: калі джына беларускасьці выпусьцілі з імпэрскай бутэлькі, то ніхто яго ўжо назад не загоніць.

*10 верасьня 2014 г.*

**Спажыткі, сабраныя ў гэтай кніжцы... для карысьці людзей паспалітых, зь якімі зрадніў мяне Бог міласьцівы, даўшы мне нарадзіцца на сьвет у гэтым народзе і ў гэтай мове.**

**Францішак Скарына**

## БАЯЗЬЛІЎЦУ НЯ МЕСЦА Ў ЛІТАРАТУРЫ

**Vis-à-viS: Ніл Гілевіч**

***Беспрэцэдэнтны выпадак у гісторыі беларускай літаратуры — народны паэт выдаў збор твораў за ўласную пэнсію. Усе 23 тамы. Мабыць, самому Скарыну пяцьсот гадоў таму было лягчэй даць люду паспалітаму 22 кнігі Бібліі — спрыяў жа яму «сын радцы места Віленскага» Багдан Онкаў. Сёньня патэнцыйныя мэцэнаты над якім-небудзь беларускім праектам сем разоў падумаюць — і ні разу не «адрэжуць». Небясьпечна стала «адразаць». Вось і давялося знанаму пісьменьніку разьлічваць толькі на свае сілы. Праўда, у гэткім самвыдаце ёсьць свае перавагі. Скажам, ніхто ня ўказваў аўтару, якія творы ўключаць у шматтамовік, а якія пакінуць у шуфлядзе... Мы гутарылі***

***зь Нілам Гілевічам, і я заўважыў, як мой суразмоўца зрэдку кідаў позірк на свае 23-кніжжа — як фэльдмаршал на пашыхтаваныя палкі.***

*— Ніл Сымонавіч, а ці няма ў вас крыўды на айчынных выдаўцоў, на грамадзкія інстытуцыі, якія ўсё ж маглі б узяць на сябе выданьне вашых твораў?*

— Ніякай крыўды няма, хоць сапраўды 23 тамы я выдаў за сваю вельмі сьціплую пэнсію, адрываючы ад таго, што трэба было пускаць на харчаваньне, на лекі. А што, хіба іншых вядомых паэтаў і празаікаў дзяржава шматтамова выдала? У лепшым выпадку — 3–4 тамы. На жаль, мне не пашанцавала на фундатараў. Мне калі і дапамагалі, дык толькі мае бедныя сваякі — хто даў 50 даляраў, хто 100. А больш ніхто не дапамог. Таму і наклады 100, 70 і нават 50 асобнікаў. А дзе браць грошы? Нават ня ўсе абласныя бібліятэкі заказалі. Уяўляеце, абласная бібліятэка — і ніводнага тома ў яе фонды ня трапіла. Да чаго мы дажыліся?

Я ўсё жыцьцё працаваў, як катаржанін. У мяне вельмі рэдка былі вольныя дні. Сябры, знаёмыя, як нядзеля — у лес на шашлыкі. Мне гэта невядома. У той час, калі добрыя людзі езьдзілі смажыць шашлыкі, я раскладаў паперы (не хапала стала — на падлозе раскладаў), бо трэба было, скажам, з 50 варыянтаў народнай песьні выбраць адзін, каб паставіць у зборнік. Вельмі мала змарнаваў я свайго жыцьця. І гэта мяне цешыць.

*— У збор твораў увайшлі і сатырычныя паэмы, сярод якіх «Сказ аб незвычайнай эпідэміі ў стара-*

*жытнай Тутэміі». Пра тое, як у адной краіне выбіралі цара. Падзеі вельмі нагадваюць першыя прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі. Ды і героі паэмы пазнавальныя — Івась, Лявось, Ляксандусь, Віктусь. Пазнаецца і новаабраны цар Васісёр, які, як кажуць у народзе, і крошачкі пабраў... Вы не баіцеся публікаваць такія творы пад сваім прозьвішчам?*

— Як вам сказаць... Я думаў пра тое, што надзённая сатыра можа абысьціся мне вельмі дарага. Увогуле, праца ў літаратуры — справа для людзей мужных. Баязьліўцу ня месца ў літаратуры. Асабліва ў такія эпохі, калі Бог ведае, што адбываецца за дзьвярыма тваёй кватэры, у тваёй краіне. Справа, што і казаць, рызыкоўная. Але я адчуваю абсалютную патрэбу выказацца на надзённыя тэмы так, як мне хочацца. А ўсё астатняе ў Божых руках. Калі нехта пазнаў сябе, хай падумае. З самага пачатку, калі ў нас памянялася ўлада, з высокай трыбуны прагучала: «Эти быковы и гилевичи». Бачыце, нават у множным ліку. Ня ведаю, ці гэта выступоўца прачытаў мае паэмы, ці проста, ведаючы маю пазыцыю... Я ж тады адразу, як было заяўлена, што беларуская мова нічога ня вартая, зрэагаваў вельмі рэзка.

— *«Я ва ўсім дэмакрат прынцыповы, / за свабоду жыцьцё пакладу, / а супроць беларускае мовы / нават з Гітлерам разам пайду!»*

— Менавіта. Я рэагаваў так, бо ня ўкладвалася ў маёй галаве, каб адказныя ў дзяржаве людзі былі супроць дзяржаўнай мовы, мовы свайго народу, мовы нацыі. Таму і «супроць беларускае мовы нават з Гітлерам разам пайду». Думаю, што гэта справядліва сказана.

*— Тры тамы вашага збору твораў займаюць пераклады. 175 баўгарскіх паэтаў, 55 славацкіх, 23 украінскія... Не шкадуеце, што столькі часу патрацілі на чужую творчасьць?*

— Шкадую, што займаўся перакладамі ў такім аб’ёме. Маю на ўвазе, што я даў беларускаму чытачу таўшчэзны баўгарскі раман, дзьве аповесьці, шмат апавяданьняў, казкі югаслаўскіх народаў і г. д. Гэтага я не павінен быў рабіць. Паэзія — мая стыхія, а безь перакладаў прозы можна было абысьціся спакойна. І з паэзіі ня столькі трэба было перакладаць. Вядома, у кожнай нацыянальнай літаратуры ёсьць імёны і творы, якімі мне пасьля прачытаньня ў арыгінале хацелася падзяліцца з чытачамі беларускімі. Ніхто ж іншы ня браўся, не рабіў, вось у чым справа. У нас перакладалі зь нямецкай, з францускай, а хто з баўгарскай? Ніхто. А паэзія выдатная! Імёны, Божа мой, якія! Пэё Явараў, Любамір Леўчаў… Ці тая ж украінская паэзія. Вялікі сучасны паэт Дзьмітро Паўлычка, пасьля Шаўчэнкі другога такога ва ўкраінскай літаратуры няма. Ёсьць і іншыя выдатныя, і жывуць, дзякуй Богу, але Паўлычка — гэта велічыня! Як я мог не перакласьці яго белыя санэты, яны ж геніяльныя! Вось у чым справа. Але мог бы я трошкі больш сілы пакінуць на сваё. Сям-там я трохі перастараўся. Што зробіш — назад не адкруціш.

*— З 1995 году ў Беларусі не прысвойваецца званьне народнага паэта. Новыя народныя артысты, скажам, зьяўляюцца, а паэты ці пісьменьнікі — не. Як вы лічыце, чаму?*

— Тут усё вельмі проста. Даць такое званьне — значыць павысіць прэстыж усёй беларускай літаратуры, яе аўтарытэт, зьвярнуць увагу ўсёй грамадзкасьці на пэўнае імя. А дзяржаўная палітыка скіраваная зусім у іншы бок. Навошта ўладзе павышаць прэстыж літаратуры, якой яна жадае сьмерці? Маўляў, няма каму тое званьне даваць. Хтосьці нешта выдае за свой кошт, як мая міласьць, — хай сабе, спускаецца ўсё на ўзровень самадзейнасьці. А падымаць аўтарытэт нашай літаратуры — гэта значыць падымаць аўтарытэт беларускай мовы. А палітыка, паўтараю, скіраваная на тое, каб прынізіць гэты аўтарытэт, яшчэ раз давесьці, што мова нашая нічога ня вартая.

Калі ня зьменіцца ў нас культурная палітыка, ня зьменяцца адносіны да літаратуры, да культуры, да беларускай мовы, нічога добрага нас не чакае. Сьвіней можна праз год нагадаваць ізноў. Ураджай можна павысіць. Машынаў можна нарабіць больш сучасных. Але калі загіне мова — канец. Разумныя людзі, асабліва інтэлігенцыя і тыя, якія маюць уладу ў краіне, павінны гэта разумець. Але пакуль не разумеюць. І гэта мой самы вялікі клопат і боль.

*— Вось запавет Кастуся Каліноўскага беларускаму народу: «Жыві ў праўдзе, жыві ў свабодзе». Здаецца, так проста — у праўдзе і свабодзе. Няўжо наша грамадзтва яшчэ не дарасло, каб жыць паводле Каліноўскага?*

— Нам не далі дарасьці. Увесь час, як толькі мы пачыналі набіраць глыбокае дыханьне, нас білі па галаве і асаджалі, заганяючы ў становішча рабоў. Згадайма 20-я гады — які ўзьлёт

беларускага духу быў, што адбывалася! Колькі цягнулася? 6–7 гадоў. А колькі пасьпелі зрабіць, якая літаратура вырасла! Было 5 пісьменьнікаў, а стала 105! Ды якія таленты! І што? Адразу — па галаве. У гады вайны, у час акупацыі нібыта павярнулася трошкі да лепшага ў Маскве, зьявілася ўвага да нацыянальнага пытаньня. Ясна чаму, бо трэба было, каб беларусы, якія тут засталіся, не пайшлі на згоду з акупантамі, ня сталі калябарантамі. Таму — калі ласка. Імем Каліноўскага нават партызанскія атрады называліся. І колькі такая палітыка пратрымалася пасьля вайны? Некалькі гадоў. У пачатку 50-х зноў пачалі гакаць і біць. І зноў — па галаве, па галаве. А вазьміце нядаўнія 90-я. Ізноў — які ўздым быў! Колькі цягнуўся? Тры-чатыры гады...

Наш народ гатовы жыць у сваёй краіне, сваім ладам-парадкам, толькі трэба па-боску паставіцца да яго памкненьняў. Дзякаваць Богу, сёньня ў нас многа маладых, якія дарасьлі, прынялі да сэрца і ўзброіліся лёзунгам Каліноўскага: жыць у праўдзе і свабодзе. Гэта, дарэчы, непадзельнае: няма праўды — няма свабоды. Доўгія стагодзьдзі забівалі ў народзе ўсё, што можна было забіць. Але ж не забілі дарэшты. Тое, што народ сёньня не бярэ зброю ў рукі і не змагаецца — нічога. Беларускі народ і ў маўчаньні вялікі. Прыйдзе пара, і вырашальнае слова будзе сказана.

*— Ніл Гілевіч — самы блізкі да нацыянальнага тэатру пісьменьнік. Я маю на ўвазе, што ад вашага дому да Купалаўскага — з паўсотні мэтраў.*

*І тым ня менш ніводная з вашых 15 (!) п’есаў не пастаўленая на сцэне. Чаму так сталася?*

— Відаць, я ня маю неабходных драматургу здольнасьцяў. П’есу трэба прабіваць, што ўмелі рабіць мае знаёмыя і сябры. Трэба ісьці ў Міністэрства культуры, да галоўнага рэжысэра і г. д. А я палец аб палец ня ўдарыў. Вось прачытаў Валеры Анісенка маіх «Родных дзяцей» і папрасіў зрабіць лібрэта для радыёп’есы. Я зрабіў. П’еса пару разоў прагучала па радыё, былі добрыя водгукі, выдатныя акторы прымалі ўдзел. Але сапраўды ніводзін тэатар не заўважыў, не зьвярнуў увагі на мае драматычныя творы. Што ж, у гісторыі літаратуры — і ўсясьветнай, і нашай — не ў аднаго мяне такая сытуацыя, калі на нейкую частку тваёй творчасьці ня зьвернутая ўвага.

*— У свой час вы плённа супрацоўнічалі зь беларускімі кампазытарамі, напісалі шмат выдатных песьняў. А ці зьвяртаюцца да вас кампазытары-песеньнікі сёньня?*

— Ужо гадоў дваццаць не зьвярталіся. Вядомыя кампазытары, людзі практычныя, пабачыўшы стаўленьне рэжыму да мяне, перасталі зьвяртацца. Навошта ім рызыкаваць? Маўляў, напішу, а ўсё роўна ня пусьцяць у эфір. За 20 гадоў па дзяржаўным тэлебачаньні ні разу не паказалі народнага паэта Ніла Гілевіча. Ніводнай перадачы на дзяржаўным радыё пра народнага паэта. І вядомым кампазытарам усё стала зразумела. Зьвярнуўся да мяне малады кампазытар, ён жа і сьпявак, Зьміцер Смольскі. У маёй паэзіі ён выбраў верш «Талісман» і напісаў песьню. Мне асабіста яна вельмі спадабалася, і ня толькі мне.

Я атрымаў шмат-шмат званкоў з падзякай за гэтую песьню. Яна і цяпер гучыць па радыё. Праўда, ніводнага разу не было названа імя аўтара. Гучыць як народная. Ну і няхай. Я, вядома, горка ўсьміхаюся і кажу майму суаўтару-кампазытару: няхай не называюць, але хай гучыць, каб людзі слухалі.

— *У вас заўсёды былі свае чытачы, і іх было шмат. Скажам, «Сказ пра Лысую гару» выйшаў агульным накладам 160 000 асобнікаў і ніколі ў кнігарнях не залежваўся. Сярод тысячаў вашых чытачоў мне хочацца назваць дзьве асобы — Ларысу Геніюш і Зоську Верас. Я рыхтаваў да друку іхныя лісты і ведаю, як яны вас цанілі. Калі б у вас была магчымасьць зьвярнуцца да Ларысы Антонаўны ці Людвікі Антонаўны, што вы ім сказалі б?*

— Найперш я пакланіўся б нізка да зямлі адной і другой. Гэта дзьве вялікія жанчыны ў нашай гісторыі. Паглядзіце, у мяне на самым бачным месцы стаіць партрэт Ларысы Геніюш. Што датычыць Зоські Верас, то мне ўдалося выправіць адну страшную несправядлівасьць у дачыненьні да яе. Яна ж не была нават сябрам нашага Саюзу пісьменьнікаў, маючы вялікі літаратурны стаж. А значыць, не атрымлівала пэнсіі. І мне ўдалося паспрыяць ёй, з дапамогай Генадзя Кахаnоўскага, бо была адна фармальнасьць. Кандыдат у СП мусіў абавязкова жыць у Беларусі, а Зоська Верас жыла пад Вільняй. Дык Каханоўскі меў сваю хату ў Маладэчне і прыпісаў да сябе нейкую бабульку, ніхто там не разьбіраўся. Перашкода была зьнятая, і я тут жа, без прыёмнай камісіі (быў жа пер-

шым сакратаром саюзу) — адразу на прэзыдыюм, і ўсе падтрымалі.

Літаральна назаўтра — па тэлефоне сярдзіты голас з ЦК КПБ, загадчык аддзелу Антановіч: «Што вы робіце? Вам не хапала ў Саюзе пісьменьнікаў гэтай старэчы?» Я кажу: «Вельмі не хапала. Вы проста ня маеце ўяўленьня, што гэта за чалавек, колькі яна зрабіла для нашай літаратуры і культуры». — «Больш не рабіце так». Вось які быў жудасны страх ва ўлады перад беларускім нацыяналізмам, дакладней, перад беларускім патрыятызмам. Перад беларускай мовай і перад асобамі, якія столькі зрабілі для нашай культуры.

*— У сваіх творах вы часам выкарыстоўваеце трасянку. Вось як прамаўляе тост у гонар маці герой раману «Родныя дзеці»: «У ту вужасную разруху, / благадара і вапракі, / ана ня пала сілай духу, / пускала нас, как пціц, з рукі». Сёньня на трасянцы пішуцца цэлыя кнігі. Як вы да гэтага ставіцеся?*

— Я катэгарычна супраць трасянкі. Яна — пераходная ступень да поўнай ліквідацыі беларускай мовы. Спачатку, як у базарных бабаў, цераз слова трасянка, а потым замест трасянкі — расейская мова. Вось і ўсё. Трасянка — зьява пачварная, іншай ацэнкі быць ня можа. Той, хто думае іначай, проста памыляецца. А інтэлігентам беларускім у гэтым нельга памыляцца. Таму трэба вельмі крытычна ставіцца да трасянкі як зьявы. Я за доўгае жыцьцё пераканаўся — пачынаецца з трасянкі, а заканчваецца расейшчынай. Выняткі і тут могуць быць, але адзінкавыя.

*— Сёлета ў вас выйшла кніга пад назвай «З Божай ласкі — дасеўкі». Але мне здаецца, што сяўня ваша яшчэ не пустая.*

— Здаўна ў народзе гаварылася: засеўкі і дасеўкі, зажынкі і дажынкі. Мне здалося было — пара падбаць і пра дасеўкі. А калі нешта ўдасца яшчэ зрабіць, Бог мне маю пасьпешлівасьць даруе. Вось выйшлі 23 тамы, але ж у мяне тэкстаў яшчэ на некалькі тамоў падрыхтавана. Назьбіраецца вершаў на цэлы том, ужо набраныя тамы публіцыстыкі, літаратуразнаўства і крытыкі. Ну і, напэўна, тамы два будзе эсэістыкі. Прыкідваю, што можа набрацца тамоў сем дадатковых да збору твораў, якія я выдам, калі пасьпею. А не пасьпею — іншыя выдадуць.

*29 верасьня 2014 г.*

**Майсей пералічвае, што павінна стаяць у бажніцы — скрыня Закону, на веку якой паставы двух херувімаў; сьвяцільнік на ўзор сьцябла і галінаў — увесь са шчырага золата, а на ім вогмені, што гарэлі б; стол з праснакамі асьвечанымі; аброчнік, акуты золатам, каб кадзіць духмяны цімвян.**

**Францішак Скарына**

## НАВОШТА КАНАНІЗАВАЦЬ СКАРЫНУ?

**Vis-à-viS: Адам Мальдзіс**

***Неяк у хаце дырэктара Гудзевіцкага літаратурна-этнаграфічнага музэю Алеся Белакоза я пабачыў на покуці незвычайны абраз. Зь яго паглядала знаёмае пшанічнавусае аблічча, перад якім, як і належыць у падобных выпадках, гарэла лямпадка. Прыгледзеўшыся, я пазнаў… Скарыну. Гаспадар хаты патлумачыў, чаму ён узьвёў беларускага першадрукара ў почат сьвятых. Маўляў, ён даў народу тры вялікія рэчы — Слова Божае, друкаваную Кнігу і найлепшую формулу патрыятызму: зьвяры ў пустэльні ведаюць ямы свае, рыбы ў моры і рэках чуюць віры свае, пчолы і ім падобныя бароняць вульлі свае… Прыклад з Гудзевічаў вырашыў узяць***

***стольны Менск, дзе на ініцыятыву прафэсара Адама Мальдзіса ўзьнік грамадзкі камітэт па кананізацыі Скарыны.***

— *Адам Восіпавіч, як бачыце, у народзе Скарына і так у вялікай пашаноце. Навошта яму яшчэ і царкоўная кананізацыя?*

— А я і ня ведаў пра гудзевіцкую «кананізацыю». Гэта цікавы факт. На маю думку, павінна быць справядлівасьць — асьветнікі Кірыла і Мятод аднесеныя ж да ліку сьвятых. А чым Скарына за іх горшы? Вы кажаце пра пашаноту… На жаль, не заўсёды ёсьць тая пашанота. Я добра памятаю, як на нас нападалі супрацоўнікі акадэмічнага Інстытуту гісторыі, калі мы, літаратуразнаўцы, прысьвечаныя Скарыну выданьні (каля 10 кніг, якія выйшлі да 500-годзьдзя першадрукара) вылучылі на Дзяржаўную прэмію. Гучалі меркаваньні, што Скарына — ашуканец, бо назваўся каталіцкім імем Францішак, каб паступіць у Кракаўскі ўнівэрсытэт...

— *Гэта даўняя дыскусія: хто быў Скарына паводле веравызнаньня. Вы ж нібыта адшукалі нейкія дакумэнты, якія ставяць кропку ў гэтай спрэчцы. Пра што ў тых дакумэнтах гаворыцца?*

— Тыя дакумэнты сьведчаць, што з канца XV стагодзьдзя ў Полацку існаваў каталіцкі бэрнардынскі ордэн, які вёў там актыўную прапаведніцкую дзейнасьць, меў права хрысьціць людзей. Дарэчы, падмуркі бэрнардынскага касьцёла ў Полацку адшуканыя. Дзейнасьць полацкіх бэрнардынцаў набыла такі размах, што яшчэ ў 1501 годзе выклікала занепакоенасьць маскоўскага цара

Івана III. І вось, як мяркуе гісторык ордэна Кантак, полацкія бэрнардынцы ахрысьцілі мноства палачанаў, у тым ліку і сям'ю Францішка Скарыны, якая ад пачатку была праваслаўнай. Калі прыняць на веру сьцьвярджэньне Кантака, то шмат што становіцца зразумелым. Скажам, такі выпадак. Вялікі герцаг прускі Альбрыхт захацеў, каб Скарына прыехаў у Каралявец (былы Кёнігсбэрг, цяперашні Калінінград). Паколькі ў Вільні не было грошай на кнігавыданьне, Скарына ўзяў ды паехаў. А потым паглядзеў, што ад яго патрабуе Альбрэхт, і ўцёк адтуль. А прускі герцаг хацеў, каб Скарына выдаваў пратэстанцкія кнігі на тэрыторыі Прусіі і Жамойці. Для Скарыны гэта была б здрада праваслаўю, а ён здраджваць не хацеў. Таму і ўцёк, прыхапіўшы з сабой друкара-габрэя. Да 1498 году сям'я Скарыны была праваслаўнай, значыць, і імя яго было іншым, магчыма, што і Георгій. Але гэта ня мае вялікага значэньня з той прычыны, што за ім заставаліся і старое імя, і новае — бэрнардынскі ордэн гэта дазваляў. Думаецца, невыпадкова Скарына прыняў імя Францішак, бо сьвяты Францішак быў адным з апекуноў ордэну.

*— Сёньня Скарына роўнавялікі для ўсіх — для праваслаўных, каталікоў, уніятаў. Калі ж яго кананізуе нейкая адна царква, напрыклад каталіцкая, ці не зашкодзіць гэта Скарыну?*

— Можа зашкодзіць і Скарыну, і беларусам як народу. Калі так станецца, у нас Майдану, спадзяюся, не адбудзецца, але сур'ёзныя сутычкі могуць мець месца. І сяму-таму з нашых суседзяў «скарынаўскі раскол» быў бы на руку. Таму трэба, каб

у справе кананізацыі Скарыны тры царквы — каталіцкая, праваслаўная і ўніяцкая — ішлі разам ці хаця б паралельна.

— *А ці быў за тысячу гадоў хоць адзін падобны выпадак? Нешта я не прыпомню.*

— Тут можна згадаць гісторыю з Соф'яй Слуцкай. Яна ж цяпер у нас праваслаўная сьвятая, у Слуцку помнік стаіць, а новыя апублікаваныя матэрыялы гавораць, што яна была замужам за Радзівілам, які быў пратэстантам. Тут, праўда, трэба разумець адну акалічнасьць. У той час не патрабавалася ніякага пераходу з адной канфэсіі ў другую. Лічылася, што пратэстантызм — гэта таксама хрысьціянства. І для Скарыны пераход у каталіцтва таксама быў неістотным. Ён цытаваў у сваіх прадмовах айцоў царквы — і праваслаўных, і каталікаў. Ён нідзе не выступаў ворагам праваслаўя. Наадварот, ён паехаў у Маскву прадаваць кнігі сярод праваслаўных. Значыць, менавіта праваслаўных ён лічыў сваімі чытачамі.

— *Скарына прадаваў свае пераклады Бібліі. Тое, што ён займаўся прадпрымальніцкай дзейнасьцю, не перашкода для кананізацыі?*

— Калі скончылася дапамога ад віленскіх фундатараў і не было каму дапамагчы, то што ён мусіў рабіць? Ён паехаў у Маскву, каб прадаваць там кнігі і зарабляць на наступныя выданьні. Але неўзабаве яму давялося адтуль зьяжджаць. Беларускія дасьледнікі на эміграцыі пісалі, што выданьні Скарыны не былі прынятыя Масквой праз яе адсталасьць, нізкі ўзровень культуры і асьветы ў маскавітаў. Але мне бачыцца тут іншая прычына. У Масковіі тады панаваў культ кнігі ру-

капіснай, таму і кнігадрукаваньне ўспрымалася варожа. Цяпер у Беларусі распачатая справа аб кананізацыі Эдварда Вайніловіча, які быў адным з самых багатых памешчыкаў Менскай губэрні, будаваў і каталіцкія касьцёлы, і праваслаўныя цэрквы, і мусульманскія мячэці, і сынагогі для габрэяў — у гэтым праяўлялася ягоная любоў да бліжняга. І мы павінны ісьці менавіта такім шляхам. І той жа Скарына быў надканфэсійным. Я таксама бяру ўдзел у кананізацыі Вайніловіча і, прызнацца, усё чакаў адпаведнага пытаньня ад «адваката д'ябла». Але такога пытаньня не было — сумленная гаспадарчая дзейнасьць ня лічыцца грахом.

*— Кандыдат у сьвятыя мусіць быць цудатворцам. Кнігадрукаваньне можна разглядаць як цуд?*

— А хіба ня цуд тое, што Скарына пераклаў Біблію ўсяго за чатыры гады? Іншыя перакладнікі ўсё жыцьцё перакладалі, а тут нейкія чатыры гады. Цудам можна лічыць і тое, што Скарына змог уцячы з Прусіі, мяжа зь ёю была на той час сур'ёзная. Да таго ж Скарына праявіў акт гуманізму, калі ўзяў за жонку Маргарыту Адвернік з дваімі дзецьмі і прызнаў іх за сваіх.

*— Скарына быў вольны ў выказваньнях і фактычна на адным узроўні ставіў Бога і чалавека. Вы ж памятаеце: «Дваякая праўда — Божая і чалавечая; дваякі суд — Божы і чалавечы; дваякая пахвала — Божая і чалавечая». Як паставіцца да такіх выказваньняў Царква, якая вызнае вяршэнства Бога?*

— У Скарыны тут проста выявілася жаданьне зямное, цялеснае паставіць на адзін узровень зь

нябесным. Чалавек абвяшчаўся істотай разумнай і дасканалай і таму рабіўся сувымерным з дасканаласьцю Боскай. Тут наш першадрукар ішоў за заходнеэўрапейскімі гуманістамі. Даючы чытачу (а не Царкве) пераклады Бібліі на родную мову, ён тым самым даваў яму магчымасьць свабодна вывучаць і інтэрпрэтаваць тэксты, якія ў сярэднявечныя часы лічыліся даступнымі толькі царкоўнікам. Скарына як бы прыпадымаў чалавека да дыялягічнага кантакту з Богам. Урэшце, хто стварыў чалавека, калі ня Бог? Дык хто за ўсё адказны?

*— Адзін праваслаўны сьвятар мне казаў: Скарына быў ерэтыкам, бо пісаў акафісты Ісусу Хрысту ў форме акравершаў, а ў Бібліі друкаваў свае партрэты. Што б вы таму сьвятару адказалі?*

— З партрэтамі ў Бібліі Скарына, магчыма, і пасьпяшаўся. Што да акравершаў... А чаму тады Эвангельле напісана ў форме прыпавесьцяў? Ды проста таму, каб людзі зразумелі. Калі б эвангелісты выказваліся ў форме філязофскіх трактатаў, хто б іх зразумеў? Таму на дзейнасьць Скарыны трэба глядзець вачыма яго тагачасных чытачоў.

*— «Не капай пад другам сваім ямы, сам увалісься ў яе», — афарызмы Скарыны актуальныя ва ўсе часы. А ў чым яшчэ ягоная актуальнасьць?*

— Найперш у патрыятызьме. Усе ведаюць словы Скарыны пра зьвяроў, якія любяць норы свае, пра пчолаў, якія бароняць вульлі свае, пра рыбаў, якія помняць віры свае… Дык гэта зьвяры, пчолы і рыбы! А чалавек проста павінен любіць сваю зямлю. І, вядома ж, велізарная заслуга Скарыны ў тым, што ён даў зразумелы беларускаму

чытачу тэкст Сьвятога Пісаньня, найперш Эвангельляў. Разумееце, Біблія — гэта інфармацыя, зачэрпаная не наўпрост, а ў перdesigners. А Эвангельле ж запісанае з вуснаў Хрыста. Вось мусульмане лічаць, што Алаха на зямлі ніхто ня бачыў і ня чуў. А Хрыстос усё ж быў на зямлі, таму хрысьціянства для мяне вышэйшае ў параўнаньні зь іншымі рэлігіямі. І яшчэ адзін вельмі важны момант. Разам з 500-годзьдзем беларускага кнігадрукаваньня трэба было б адзначыць і 800-годзьдзе першай згадкі ў рукапіснай крыніцы самога слова «Беларусь». У Вугоршчыне выйшаў слоўнік, дзе ёсьць запіс пра тое, як у 1217 годзе каралевіча вугорскага садзілі на пасад Валынь і Галіцыя. І там, у дакумэнце, напісана: «Альбарусія». Самім беларусам тады хапала слова «Русь», не гаварылі «Белая». І той жа Скарына называе сябе то русінам, то ліцьвінам. Называючыся ліцьвінам, ён падкрэсьліваў прыналежнасьць да дзяржавы.

*— Вы згадалі пра юбілей беларускага кнігадрукаваньня. Што ў гэты юбілейны год варта зрабіць дзеля яшчэ большага ўшанаваньня Скарыны? Можа быць, вярнуць ягонае імя галоўнаму праспэкту беларускай сталіцы?*

— Я таксама пра гэта думаў. Неяк у мяне маскоўскія карэспандэнты пра гэта пыталіся. І я ім адказаў, што Скарынаўскі праспэкт стаў праспэктам Незалежнасьці, як я магу быць супраць незалежнасьці? Гэта, вядома, унікальны выпадак. Іншая справа, што імем вялікага Скарыны трэба было назваць ня вуліцу на менскай ускраіне, а нешта больш раўназначнае. А 500-годзьдзе беларускага кнігадрукаваньня мне бачыцца так.

Пачацца юбілей павінен там, дзе Скарына нарадзіўся, — у Полацку. Потым — польскі Кракаў, дзе ён вучыўся. Наступны этап — італьянская Падуя, дзе ён здаваў іспыты. Потым — чэская Прага і Вільня. Вось такі круг. І я сабе ўяўляю, як два першагерархі — Папа Рымскі і Патрыярх Маскоўскі — робяць разам падарожжа па гэтых краінах і разам ушаноўваюць Скарыну. Вось гэта было б сапраўдным сьведчаньнем яднаньня хрысьціян.

*— «Унукамі Скарыны» называў усіх беларусаў ваш сябра Ўладзімер Караткевіч, пра якога вы напісалі захапляльную кнігу. А ці праўда, што і ён вас зрабіў героем раману «Чорны замак Альшанскі»?*

— Праўда. Раней каля майго дома на вуліцы Чарвякова спыняліся вясковыя фурманкі — побач быў Старажоўскі рынак. І вось аднойчы пад вокнамі маёй кватэры (яна знаходзіцца на першым паверсе) сяляне расьпівалі барышы, і я бачу, што людзі саромеюцца піць з бутэлькі. Я дастаў з буфэта чаркі і падаў ім праз адчыненае акно. А яны мяне пачаставалі добрай самагонкай. Жонка Марыя ведала, што ў хаце няма сьпіртнога. А я выходжу сьнедаць нападпітку — яна была дужа зьдзіўленая! Я расказаў гэтую гісторыю Караткевічу, і ён зрабіў яе сцэнай у рамане.

*— Перачытваючы нядаўна вашу «Беларусь у люстэрку мэмуарнай літаратуры XVIII стагодзьдзя», я напаткаў зьвесткі, што ў горадзе Шклове даўней было вельмі шмат шулераў і розных авантурнікаў. Ці зьвялася іх парода на Шклоўшчыне, ці іхных нашчадкаў яшчэ можна сустрэць?*

— Авантурнікі жылі ня толькі ў Шклове, а ў любым значным горадзе і мястэчку, дзе былі мэцэнаты. Прыяжджалі ў горад мэцэнаты, займаліся дабрачыннай дзейнасьцю, будавалі тэатры, друкарні — а сьледам падцягваліся людзі сумнеўных заняткаў, зь нячыстымі думкамі. Гэтак Шклоў у свой час апанавалі фальшывамANэтчыкі. І калі расейскай імпэратрыцы Кацярыне II трэба было адшукаць якога злачынцу, то яна звычайна загадвала паглядзець, ці няма яго ў Шклове.

*22 траўня 2015 г.*

**Як патрыярх Якаў акрэсьліў: «Не адыдзе жазло ад Юды і ўлада ад спадкаемцаў ягоных, пакуль ня прыйдзе той, хто пасланы будзе, — яго чакацьмуць народы».**

**Францішак Скарына**

## ТРЫЦЦАЦЬ СРЭБНІКАЎ ЗАЎЖДЫ Ў ЦАНЕ

**Vis-à-viS: Віктар Казько**

***Першую прэмію Ежы Гедройця за 2014 год атрымала кніга Віктара Казько «Час зьбіраць косьці», якая доўга ішла да айчыннага чытача. Тры аповесьці, што склалі кнігу, былі апублікаваныя ў перакладах у Кіеве, Сафіі і Маскве, а ў родным выдавецтве «Мастацкая літаратура» ляжалі бяз руху больш за пятнаццаць гадоў. І праляжалі б яшчэ пятнаццаць, калі б пра выданьне не парупіўся незалежны Саюз пісьменьнікаў, прыналежнасьць да якога па-ранейшаму насьцярожвае рэдактараў на дзяржслужбе, што самохаць парабіліся цэнзарамі. Што ж, творцу — творцава, а цэнзару — цэнзарава.***

*— Віктар Апанасавіч, прачытаўшы тры аповесьці ў вашай новай кнізе, я паспрабаваў вызначыць, хто ў той тройцы караньнік, а хто — прыпражныя. На маю думку, галоўны твор — «І нікога, хто ўбачыць мой страх», дзе дасьледуецца тэма дачыненьняў творцы і ўлады. А чаму вы прысьвяцілі гэтую аповесьць кінарэжысэру Віктару Тураву?*

— Мы зь ім у свой час разам працавалі і вельмі багата часу праводзілі сам-насам. Гэта быў апошні год Турава, ён тады здымаў фільм паводле маёй аповесьці «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел». Здымаў ужо безнадзейна хворым. Выдатны, безумоўна, быў чалавек, меў незвычайную эрудыцыю. І вось дзіўна: Тураў размаўляў па-расейску, але ён — наш самы нацыянальны, самы беларускі рэжысэр. Усё ім зьнятае так ці іначай зьвязана зь Беларусьсю. Таму аповесьць і прысьвечаная Тураву, ён шмат чаго пазычыў майму герою Майстру. Увогуле, усё мною напісанае ідзе ад жыцьця. Убачанае, пачутае і адчутае калісьці пераасэнсоўваецца і прарастае на паперы. Многія памятаюць, як Тураў зрэжысаваў свой адыход, як гэта было кранальна. Ён здолеў падняцца над сьмяротнай хваробай, яго на апошні юбілей даставілі зь лечкамісіі на «хуткай дапамозе», ужо амаль бязмоўнага. Гэты эпізод увайшоў і ў маю аповесьць. Увогуле, творчасьць — гэта інтуіцыя. Інтуіцыя вока, якое бачыць падсьвядомае, і вуха, якое чуе будучыню. І неяк інтуітыўна я тут абапёрся на Турава.

*— Вашага Майстра займае праблема прадажнасьці мастацтва. Вось ягоныя развагі: «Трыц-*

*цаць срэбранікаў пры ўсялякім курсе застаюцца трыццацьцю срэбранікамі. Пры кожнай уладзе і кожным часе. Гэта мы толькі падманваем сябе, што вось адзіны раз схібім, паступімся, а потым выправімся, апраўдаемся. Вытрываем зьдзек, гвалтаваньне, атрымаем ляўрэацкі значок, званьне народнага і набудзем голас. Узвысімся і загаворым на ўсю моц. Але голас ужо хрыпаты. Вось так і перацінае нам глотку». Трыццаць срэбнікаў — наколькі гэтая валюта хадавая ў сучаснай Беларусі?*

— Самая хадавая. Трыццаць срэбнікаў — валюта, якая ніколі ня ведае інфляцыі. Яна вечная, як і сама дыспазыцыя «мастак і ўлада». Пытаньне прадажнасьці праяўляецца ня толькі ў сэнсе матэрыяльным. Яно больш балючае, калі справа тычыцца душы. Мой Майстра ня мае прозьвішча. Камусьці тут можа ўбачыцца ўплыў Булгакава. Што ж, на Булгакава, на Маркеса сёньня як можна забыцца? Героі ўсіх трох аповесьцяў, што ўвайшлі ў кнігу «Час зьбіраць косьці», — безыменныя, таму што надышло бясчасьсе для творцаў. Наша творчасьць ужо нікуды нікога не вядзе, яна нікому ўжо непатрэбная. Я пішу пра згубленасьць мастака ў часе. Мастака і героя.

— *Але ваш Майстра знаходзіць у сабе сілы не згубіцца. Ён усё ж моцны чалавек.*

— Яму згубіцца не дазваляе талент. Ад самога сябе нікуды не падзецца. Майстра ў канцы свайго шляху задумваецца пра сэнс жыцьця. Прычым бяспатасна — вось што галоўнае. Цяпер пайшла літаратура патасная, арыентаваная на тыя ж трыццаць срэбранікаў. Але для любога сапраўднага творцы настае час, калі ўзьнікаюць пэўныя

пытаньні, і зьяўляецца нейкая нават грэблівасьць да самога сябе за тыя колішнія трыццаць срэбранікаў, якія давялося прыняць. І ён пачынае сябе судзіць, ён, нібы лермантаўскі герой, разумее: «Есть высший Судия…». Мастак заўсёды паўстае перад найвышэйшым судом.

— *У вашага Майстра ёсьць талісман, які дапамагае яму захаваць сябе ў стасунках з уладай. Гэта каменьчык з магілы Максіма Багдановіча. Калі расшыфраваць гэты вобраз, што павінен мець за душой творца, каб застацца самім сабой?*

— Найперш мець у сабе чалавечую годнасьць. У аповесьці шмат што зьвязанае з Багдановічам. Я прыгадваю, як далёкі ад літаратуры чалавек, дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм» Уладзімер Гарбачоў змагаўся за перанос праху Багдановіча ў Беларусь. Я ня ведаю, наколькі гэта абгрунтавана, ці варта трывожыць косьці паэта. Але пра косьці нам усім трэба заўсёды думаць. Што будзе з нашымі касьцямі, дзе яны лягуць і наколькі яны будуць чыстымі.

— *Мне яшчэ запомніліся развагі Майстра пра тое, як дзяржава выкарыстоўвае ў сваіх інтарэсах пісьменьнікаў-нябожчыкаў. Гэта перагукаецца з нашым часам. Скажам, нядаўна ў Мядзеле з помпай адкрылі помнік Максіму Танку, а пры жыцьці ў дзяржавы не знайшлося грошай на стымулятар для ягонага сэрца.*

— Улада зыходзіць з таго, што жывы пісьменьнік можа і ў хамут стукнуць, а мёртвы ён паслухмяны. Ставячы помнікі і красуючыся на іх фоне, улада праяўляе клопат не пра творцу і ягонае мастацтва, яна тут клапоціцца найперш пра самую

сябе. Гэта тое, што называецца танцамі на магіле. А ў Беларусі нэкрафільства квітнее са страшнай сілай. Тут варта згадаць і таго ж Багдановіча, і Купалу, і Коласа, і Танка, і Быкава. У выпадку з Быкавым гэта ўвогуле зьдзек. А што ўлада тварыла з Танкам пры жыцьці? Ты пра стымулятар успомніў. Калі паэт ляжаў у лечкамісіі, яго зьмясьцілі ў палату на сонечным баку, дзе нават штораў не было. А стаяла самая сьпёка... І самае жахлівае, што пад ложкам у палаце стаяла урна з прахам паэтавай жонкі. А цяпер, калі ласка, — бронза і медзь. Мёртвага душаць у абдымках.

## «Чым бліжэй улада да храма, тым далей яна ад Бога»

*— Ёсьць два вядомыя азначэньні ўлады. «Кожная ўлада ад Бога» — у нас гэта любяць паўтараць. І радок Мандэльштама: «Власть омерзительна, как руки брадобрея». Вам якое азначэньне бліжэйшае?*

— Мандэльштамаўскае. Ён вельмі трапна сказаў аб прытворстве ўлады. Яна вялікая прытворшчыца. І гэта не ад душы ідзе, не ад нашай нацыянальнай культуры. Бо ў беларускай нацыянальнай культуры такога няма. Там заўсёды ёсьць месца паразуменьню, сьціпласьці, памяркоўнасьці. Так, мы памяркоўныя, але мы можам ісьці зацята да самага краю прорвы. Мы можам пакласьці сябе, як той казаў, на алтар Айчыны і жыцьця, калі трэба. Што да ўлады ад Бога... Гэта тое, што нам увесь час падсоўвае РПЦ. Я разумею ерэтычнасьць таго, што гавару. Але сёньняшнія царкоўнікі выракліся таго, што было ў Абакума,

што было ў Ніканаўскай царкве. Сёньняшняя царква пайшла на зьбліжэньне з уладай. І ўлада пайшла на зьбліжэньне з царквой. Але чым бліжэй улада да храма, тым далей яна ад Бога. Гэтую ўзаемную прыстасаванасьць улады да царквы і царквы да ўлады мы бачым па ролі РПЦ ва Ўкраіне. Царква фактычна дабраслаўляе ўсё, што творыцца ў гэтак званых ДНР і ЛНР. Гэта ж зьдзек з боку Расеі — распачаць вайну, разбурыць усё, а потым карміць людзей сваімі гуманітарнымі грузамі! Ды яшчэ абвінавачваць пры гэтым нейкую сэнатарку, якая прывезла на Майдан булачкі...

*— Вайна ва Ўкраіне то заціхае, то зноў успыхвае. Якая будучыня ў сувязі з украінскімі падзеямі чакае нас? Можа быць, абламаўшы зубы на Ўкраіне, Расея пакіне ў спакоі Беларусь?*

— Не пакіне. Імпэрскія апэтыты бязьмежныя. Расеі цяпер патрэбная невялічкая пераможная вайна. Таму што эйфарыя праходзіць, рэйтынг Пуціна неўзабаве ўпадзе ніжэй за плінтус. У Беларусі ўсё можа быць. Скажам, нас могуць узяць ціхай сапай. Нас ужо спрабуюць такім чынам узяць. Толькі адно можа спыніць Расею — вайна будзе на мяжы ўсясьветнай. Пуціна спыніць толькі разуменьне таго, што Расея будзе змушаная ваяваць з усім сьветам. Сёньня яны як ніколі падобныя — Пуцін і Лукашэнка. Пуцін гойсае па сьвеце — Індыя, Узбэкістан, Турцыя... Ён ляціць туды, дзе можна на нешта спадзявацца. Тое ж самае мы памятаем і ў Беларусі, калі Лукашэнка ляцеў то ў Азэрбайджан да Аліева, то ў Ірак да Садама Хусэйна, то ў Вэнэсуэлу да Уга Чавэса. Гэта агідна, гэта тое агіднае, пра што гаварыў Ман-

дэльштам. І гідота гэтая заўсёды суправаджае ўладу, калі ёю страчаная нацыянальная культура, страчаны народ, страчаная мова. Вось тады, усё страціўшы, улада і павінна некуды зьвяртацца, некуды бегчы, недзе шукаць ратунку.

*— Улада адмаўляе існаваньне «чорных сьпісаў» зь «нячэснымі» пісьменьнікамі ды музыкамі. А вы па сабе ці адчуваеце наяўнасьць тых сьпісаў?*

— Улада не перастае маніць свайму народу. Сьпісы, складзеныя шмат гадоў таму, ня зьніклі, і я гэта зусім нядаўна адчуў на сабе. Запрасілі мяне на творчую сустрэчу ў адну навуковую ўстанову. Спачатку ўсё ішло спакойна, а потым у арганізатарак узьнікла сумненьне: а ці можна мяне запрашаць? Ну, нібыта можна. Я прыйшоў на сустрэчу, а там сядзяць тры чалавекі. Што рабіць? Сыходзіць, адмяняць сустрэчу? Не. Я выступаў перад трыма слухачамі дзьве гадзіны. Жонка жартавала потым: ты як Аляксандар Блок, які падчас грамадзянскай вайны ў Пецярбургу выступаў перад адным слухачом.

Ці другі выпадак. Запрасілі выступіць у сталічным пэдунівэрсытэце. Скажу шчыра, я ня вельмі люблю падобныя сустрэчы, але калі людзі шчыра рыхтуюцца і запрашаюць, то згаджаюся. Гэта недзе ідзе ад вясковай нашай талакі, ад беларускага характару, — ісьці насустрач чалавеку, які цябе кліча, просіць пра нейкую дапамогу. І вось я ўжо еду ў аўтобусе на сустрэчу, а мне званок: «Віктар Апанасавіч, сустрэча адмяняецца». Праўда, студэнты так лёгка не адступіліся, зьвярнуліся да вышэйшага начальства. Тое дало каманду, і студэнтам прынесьлі раздрукаванае

маё выступленьне на Радыё Свабода, далі пачытаць і выкладнікам. Каб і выкладнікі, і студэнты ведалі, хто такі гэты Казько, каб не запрашалі на сустрэчы апазыцыянэра. А я ніякі не апазыцыянэр, я не ўваходжу ў палітычныя партыі. У мяне проста ёсьць пазыцыя, ёсьць свая думка. І я бяздумна ніколі не пабягу ў чаргінцоўскі саюз, як бягуць некаторыя хлопчыкі. У мяне ёсьць і сумленьне, і паняцьце ўласнай вартасьці, уласнай чалавечай годнасьці. Тое пільнае ўнівэрсытэцкае начальства, як цяпер кажуць, мяне прапіярыла — студэнты пасьля тае забароны кінуліся шукаць мае кніжкі.

— *Але ж і кніжак вашых няма ў кнігарнях.*

— Дык жа дзесяць гадоў нічога новага не выдавалася ў дзяржаўных выдавецтвах! Мая кніжка «Час зьбіраць косьці», за якую мне прысудзілі прэмію Гедройця, 15 гадоў праляжала ў «Мастацкай літаратуры»! Там тры аповесьці, адна зь іх была надрукаваная ў Баўгарыі, другая — ва Ўкраіне, трэцяя — у маскоўскім часопісе «Дружба народаў». А ў нас ляжала бяз руху. Я пайшоў і забраў. Выдавецтва змаўчала, ні слова не сказала, хоць была ўжо і дамова падпісаная. Магчыма, я нават падам на яго ў суд — за невыкананьне. Я думаю, што працэс вымаганьня сваіх літаратурных правоў павінен у Беларусі пачацца. Чаму я гэта кажу? Вось у той самай «Мастацкай літаратуры» выйшла перавыданьне маёй аповесьці «Суд ў Слабадзе», для школьных бібліятэк. Яшчэ ў пазамінулым годзе закончыўся тэрмін распродажу, і 85%, як мне сказалі ў бухгальтэрыі, распрадалі. Я больш за год хадзіў па ганарар. Гэта было

вельмі абразьліва, ганебна — хадзіць туды і прасіць тое, што ты зарабіў. Становішча пісьменьніка ў нашай дзяржаве сёньня можна параўнаць хіба са становішчам гастарбайтара. Я хадзіў-хадзіў, а потым прыйшоў і сказаў: «Хлопцы, калі вы і далей будзеце мяне абкрадаць, я падам на вас у суд». Заварушыліся, выплацілі. Але, зноў жа, нашая хамская, напарстачнікавая, жмотная дзяржава сябе паказала — недаплацілі роўна столькі, каб я ня мог зьвярнуцца ў суд.

*— У вашай біяграфіі ёсьць адна зашыфраваная мясьціна. Там напісана, што вы як празаік «дэбютавалі ў таштагольскай газэце «Красная Шория»«. Што азначаюць гэтыя словы — таштагольская, Шорыя?*

— «Красная Шория» — галоўная газэта Горнай Шорыі, што знаходзіцца ў цяперашняй Кемераўскай вобласьці, на мяжы паміж Алтаем і Сіхатэ-Алінем. А Таштагол — тамтэйшы галоўны горад. Гэта цяперашні Кузбас, там яшчэ Пржавальскі падарожнічаў. Упершыню Горная Шорыя згадваецца ў кітайскіх пісьмовых помніках 6 тысяч гадоў таму. Такім чынам, яна старэйшая за эгіпэцкія піраміды. Па тэрыторыі Шорыя — прыблізна як Беларусь. Мясьціны, надзвычай багатыя золатам, каменным вугалем, жалезнай рудой. Шорцаў засталося вельмі мала, іх амаль вынішчылі. Шорыя ў сталінскія часы была вядомая сваімі ГУЛАГамі. Шорцы спрабавалі падняцца, гэта адбылося недзе ў 1920-я гады. Спрабавалі стварыць сваю рэспубліку, патрабавалі, каб усе расейцы зьехалі. Але неўзабаве іхны ўрад у поўным складзе быў арыштаваны — адпусь-

ціць Горную Шорыю Масква не магла. Такі багаты край, што казалі: там кожнага жыта — па лапаце. Дык вось, пэўны час я жыў у Кузбасе, пачаў там друкавацца.

*— Вы даволі шмат часу пражылі ў Расеі, ведаеце яе, што называецца, знутры. Вось жа высокапастаўленыя палітыкі ў Менску і Маскве паўтараюць: беларусы і расейцы — адзін народ. А ваш досьвед пра што гаворыць?*

— Я сапраўды пражыў у Расеі ладны кавалак жыцьця. Дайшло да таго, што Віктар Астаф'еў называў мяне «сыбірскім пісьменьнікам». Насамрэч розьніца паміж намі вялікая. Міт пра братэрства трох славянскіх народаў нам уводзілі ў вушы яшчэ ў Савецкім Саюзе. Што з гэтага атрымалася, мы бачым на прыкладзе Ўкраіны. Чым мы адрозьніваемся ад расейцаў? Я прывяду прыклад маёй бабулі, карэннай паляшучкі Юстыны Говар, якая пражыла 112 гадоў. За сваё жыцьцё яна пабудавала тры хаты! Першая хата згарэла, другую яна аддала майму бацьку і сваёй дачцэ. Застаўшыся на голым месцы, агорала трэцюю. Гэта ж якія жылы трэба было мець кабеце, каб паставіць тры хаты! Цягавітасьць беларуса ня ведае межаў. А цяпер паглядзіце на Смаленшчыну, Браншчыну, Пскоўшчыну, на колішнія землі ВКЛ, дзе зямля гэткая ж, як і ў сёньняшняй Беларусі. Іх адабралі, разадралі Беларусь, і што? Сёньня расейцы любуюцца праз мяжу нашымі палямі, бо на той жа Смаленшчыне зямля ў занядбаньні. Здаецца, тая ж самая зямля, тыя ж самыя людзі, а мэнталітэт ужо зусім іншы.

*— Нядаўна ў Беларусі (усьлед за Расеяй) быў забаронены да паказу мастацкі фільм «№ 44» — пра злачынствы сталінскага НКВД. Затое нядаўна адбыўся пад апекай БПЦ хрэсны ход з Заслаўя на «Лінію Сталіна». Як вы да гэтага ўсяго ставіцеся?*

— Праваслаўную царкву, на жаль, прыстасавалі да патрэбаў дзяржавы. У яе адабралі Божае, духоўнае, чым яна павінна займацца. У сувязі з тваім пытаньнем мне ўспамінаецца адна гісторыя. Трапіў я аднойчы ў Валгаград — былы Сталінград. У мяне там нямала сяброў жыве, але не хацелася нікога турбаваць, і я паехаў начаваць на Мамаеў курган. Там, дарэчы, загінуў мой дзядзька, згарэў у танку, за яго мая бабуля атрымлівала ажно цэлы рубель пэнсіі... Я пераначаваў на кургане, там яшчэ нейкія «дзікія» турысты начавалі. Ранкам задумаў памыцца, а вады нідзе няма. Палез вышэй, да манумэнту Маці-Радзімы. А там няма дзе ступіць, усё зас…на. Вось так у Расеі шануецца памяць палеглых на Мамаевым кургане. Памятаеш заяву Пуціна — калі народ папросіць, то мы вернем гістарычнае імя Сталінград? Гэта проста цынізм. Сталінград — не гістарычная назва, калі ўжо вяртаць, то Царыцын. А так… У народзе нездарма гавораць: як карабель назавеш, так ён і паплыве.

## «Сучасная літаратура страціла праўдзівасьць, згубіла этыку і мараль»

*— Калісьці Янка Брыль назваў вас «празаікам, строгім да праўды». Строгімі да праўды бачацца мне Максім Гарэцкі і Васіль Быкаў. Ці ня стра-*

*ціла сучасная літаратура вось гэты болевы парог праўдзівасьці?*

— Сучасная літаратура страціла ня толькі парог праўдзівасьці, яна страціла этыку, згубіла мараль. А самае галоўнае — сёньняшняя літаратура не дапамагае чалавеку спазнаваць самога сябе. Сёньня ўсё пішацца паводле галівудзкіх узораў, паводле Фройда ды ягонага псыхааналізу — гэтага выкідышу чалавечай галавы. Як гаварыў сьветлай памяці Анатоль Кудравец, абарвалася культурная пупавіна. Беларус сёньня ня мае магчымасьці вучыцца па-беларуску, чытаць усясьветную і сваю літаратуру на роднай мове. Ён амаль абязмоўлены. А што можа быць страшнейшым за бязмоўе народу?

— *Ці ёсьць для вас табуяваныя тэмы, да якіх вы ня зьвернецеся ні пры якіх абставінах?*

— Мне абсалютна нецікавая страўнікавая, унітазная, экскрэмэнтная літаратура. Літаратар сядае на ўнітаз і пачынае нешта даводзіць… Нічога, апрача грэблівасьці і ванітаў, ягоная пісаніна ў мяне не выклікае. Вось да такой літаратуры я ніколі не хацеў бы зьвяртацца. Неяк нашы пісьменьнікі пераклалі на беларускую мову кнігу аднаго дыктатара зь Сярэдняй Азіі. Пра гэта мы разгаварыліся зь літаратуразнаўцам Міхасём Тычынам. І я кажу яму: не разумею іх, ніхто ж зь пісталетам за сьпінай не стаяў. А Міхась коратка адказаў: «Страцілі грэблівасьць». І я зь ім пагадзіўся. Ні чалавек, ні літаратура бяз грэблівасьці існаваць ня могуць.

— *Гісторыя айчыннай літаратуры такая, што пісьменьніку вельмі проста ўпасьці*

*ў дэпрэсію, зьняверыцца ў той справе, якую ён робіць. А вам знаёмы дэпрэсіўны стан?*

— Чаму ж незнаёмы… бывае. Але тут я мушу сказаць вось пра што. Як не бывае былых кадэбэшнікаў, так не бывае і былых пісьменьнікаў. Калі пісьменьніку дадзены талент, то якая б ні была дэпрэсія, ён будзе карпець над аркушам паперы. Бо ня ён сам, а нехта водзіць яго рукой. Калі ёсьць Божая іскра — яна ня гасьне.

— *А чым вы ратуецеся ад дэпрэсіі?*

— Памяцьцю, толькі памяцьцю. Памяцьцю пра тое, што і сонца было, і вада была, і агонь быў. Прырода ўваходзіла ў мае вочы, у мае вушы, абуджала мяне і выводзіла з чорнага настрою. Думалася — былі такія беды, столькі разоў я паміраў, але ж застаўся, выжыў. Памяць ня толькі не дае мне супакоіцца і скласьці рукі, памяць злучае нас зь вечнасьцю. Хто ведае, можа, трошкі і мяне ў гэтай вечнасьці застанецца, як засталося трошкі маіх дзядоў і бацькоў пад крыжамі на занядбаных могілках. Могілкі — адзінае месца, дзе яшчэ дрыжыць нашае сэрца.

— *У героя вашай аповесьці «Суд у Слабадзе» Колькі Лецечкі ёсьць запаветная мара: плаваць рыбінай у цёплай, як сырадой, рэчцы і вазіць на сьпіне месяц. А пра што марыць сам Віктар Казько?*

— Мару вярнуцца на бераг рэчкі, пасядзець з вудаю, толькі цяпер мне шкада той рыбіны, якую магу злавіць... У другога майго героя была мара, як у Язэпа Драздовіча. Пачапіць на плячо торбачку, выйсьці праз акно і адправіцца ў падарожжа па Сусьвеце. Знайсьці там камэту з брыльянтамі і золатам і пасадзіць яе ў Беларусі, тым

самым ашчасьлівіць радзіму. Хоць і фантастычная, але чыста зямная мара. Бо Беларусь як была старцам у торбах дваццаць гадоў таму, так ім і засталася.

## «Каб успомніць родную мову, старшыні калгасу дастаткова было трох чарак гарэлкі»

*— Спачатку вы пісалі па-расейску, увесь Савецкі Саюз чытаў вашыя кнігі «Високосный год», «Здравствуй и прощай». У 1978 годзе вы перайшлі на беларускую мову. Ці не шкадуеце сёньня пра той свой крок, ці не настальгуеце па тых часах, калі вашыя кнігі выходзілі вялізнымі накладамі?*

— Шкадаваньня ў мяне няма ні грама, яго проста ня можа быць. Пераход на беларускую мову павінен быў адбыцца, як і мой пераезд з Кузбасу ў Беларусь. Мяне з чужыны ўвесь час цягнула на радзіму. Нас усіх цягнула, дваццаць выхаванцаў дзіцячага дому, якія зьехалі на шахты, паступілі ў рамесьніцкія вучэльні ў Кузбасе. Помніцца, з адным з такіх выхаванцаў, з Толем Бельскім, мы нават гаварылі: калі б можна было вярнуцца ў Беларусь, то мы пайшлі б пешкі, на кожным кілямэтры падалі б на калені і цалавалі б зямлю. Вось да чаго даходзіла… Таксама цягнула і беларуская мова. Дарэчы, згаданы табою «Високосный год», апублікаваны «Новым миром», я пачаў пісаць на беларускай мове. Пачаў і кінуў, адчуў, што па-беларуску ня выцягну… І пераезд мой у Беларусь быў дзіўны. Я адчуў, што больш ужо не магу жыць у Сыбіры. Памятаю, недзе ў Валгаградзе, пасьля заканчэньня Маскоўскага літінстытуту, заходжу ў кнігарню, і мне трапляецца томік вершаў Ула-

дзімера Лугаўскога. Я загадваю, разгортваю, пальцам тыкаю ў радок і чытаю: «Итак, домой, на родину, в Итаку». Гэта было як знак. І больш ужо я не раздумваў. Я прыехаў і, каб вывучыць беларускую мову, пайшоў рабіць у «Чырвоную зьмену».

*— Наўрад ці «Чырвоная зьмена» так выкшталціла вашую мову, пра якую Янка Брыль сказаў: «Сакавітая і вобразная, зь лёгкім дамешкам мясцовай гаворкі, дынамічная ў дыялёгах, усхваляваная ў лірычных адступленьнях». Дык адкуль ваша мова, не з Кузбасу ж?*

— З Каленкавічаў, зь вёсак Даманавічы і Анісавічы, ад бабулі і таго асяродзьдзя, у якім я жыў. Памятаю, калі я рабіў у «Нёмане», нябожчык Валодзя Кудзінаў казаў мне: «Твая мова не расейская, не беларуская, яна каленкавіцкая». І гэта сапраўды так. Мая бабуля пражыла 112 гадоў на адным месцы, я і ад яе засвойваў мову. Беларускае слова ўвайшло ў мяне, як хлеб, як соль, як вада, як паветра. Чым ты дыхаеш, тым і гаворыш, тым і жывеш. Карані не забываюцца. Езьдзячы па Беларусі ў той савецкі час, калі беларусаў актыўна адвучвалі ад беларускай мовы, я заўважыў адну акалічнасьць. Каб успомніць родную мову, старшыні калгасу дастаткова было трох чарак гарэлкі. Да гэтага ён гаварыў па-расейску, а пасьля трэцяй чаркі куды тая расейшчына дзявалася!

*— Каб жа так лёгка можна было вырашыць моўную праблему... Выдатны расейскі пісьменьнік Уладзімер Салаухін гаварыў, што, каб чытаць Прышвіна, ён мусіць замарудзіць плынь сваёй душы. А з чыёй душой ваша душа плыве з аднолькавай хуткасьцю?*

— Найбольш блізкія мне па адчуваньні беларускай зямлі і неба беларускага Анатоль Кудравец і Алесь Жук. Як пісьменьнік я вучыўся таксама ў Янкі Брыля, Івана Мележа і Івана Шамякіна. І сёньня гэтая навука яшчэ доўжыцца.

*— У аповесьці «Суд у Слабадзе» вы паказалі вайну, убачаную вачыма дзіцяці. Васіль Быкаў паказаў перадавую — само пекла вайны. А якая вайна ў нашай літаратуры яшчэ не апісаная?*

— Праўдзіва не апісаная яшчэ вайна партызанская, вясковая вайна, блізкая да грамадзянскай. У нас яшчэ ня сказана пра тое, якой яна была — і жорсткай, і крывавай, і сьмешнай. Не паказаны яшчэ селянін, які павінен быў падымаць дзяцей, сеяць хлеб і карміць дзьве ўлады — нямецкую і савецкую, партызанскую. І немцы, і партызаны як маглі абдзіралі сялянаў. Менавіта селянін — найвялікшы пакутнік у гэтай вайне. І вось гэтая сялянская вайна, вайна пад стрэхамі, як яе назваў Алесь Адамовіч, яшчэ не апісаная. А вазьмі такую асобу, як генэрал Гіль-Радзівонаў. Ён і ад Гітлера атрымаў вышэйшую ўзнагароду Райху, і ад Сталіна Героя Савецкага Саюзу. Як такое магло адбыцца? І вось праўда пра такую вайну тады-сяды выходзіць на паверхню — насуперак афіцыйнай ідэалёгіі і мітатворчасьці.

*— Паэтка Аксана Спрынчан нядаўна ў сваім «Фэйсбуку» разьмясьціла партрэты беларускіх клясыкаў, разьвешаныя ў актавай залі Дома літаратара (там цяпер кіраўніцтва прыўладнага Саюзу пісьменьнікаў сядзіць). Скажу шчыра, у мяне быў шок ад тых партрэтаў. Не зусім пэўны ў сваім*

*мастацкім гусьце, я паказваю тыя партрэты вам. Што скажаце?*

— Гітлера так не малявалі ў партызанскія часы, як тут Быкаў намаляваны! Гэта проста зьдзек. Такія пачварныя твары не намалюеш, падспудна не трымаючы ў галаве жаданьне некаму дагадзіць, некаму паказаць — во якія яны выродлівыя, во каго яны за сьцяг трымаюць!

*— Калісьці ў Віктара Астаф'ева спыталіся на тэлебачаньні: «А дзеля чаго вы пішаце?» І ён адказаў: «Пішу, каб пракарміць сям'ю». Сёньня за свой ганарар беларускі пісьменьнік ні сям'і не пракорміць, ні сам не пражыве. А які ў такім выпадку ў вас стымул для творчасьці?*

— Тое што мы робім, мы робім найперш для саміх сябе. Пісьменьнікі, увогуле творцы, чуюць голас зямлі, чуюць голас неба. Гэта тое, што Вярнадзкі і Фёдараў называлі біясфэрай, вышэйшым розумам, які кіруе намі і прымушае рабіць тое, што патрэбна. Гэта ня толькі Божая іскра, але і загад Божы — рабіць і ня хібіць. Рабіць і не дзяліцца на «чэсных і нячэсных», не падпарадкоўвацца, не хадзіць у чэлядзі і халопах. Вось што стаіць над душой пісьменьніка — ня толькі патрэба хлеба надзённага, але і духоўны пачатак. Душа важыць 22 грамы, як сьцьвярджаюць спэцыялісты. Дык вось гэтыя 22 грамы і прымушаюць нас заставацца творцамі, заставацца людзьмі, захоўваць сумленнасьць і сваю чалавечую вартасьць на гэтай зямлі.

*— «Пісьменьнікам з параненым сэрцам» назваў вас крытык Міхась Тычына, скарыстаўшы выраз Дастаеўскага. І сапраўды, вашы кнігі ба-*

*люча і страшна чытаць. Азарыцкі канцлягер, дзе аўчаркі загрызаюць насьмерць трохгадовую дзяўчынку… Нябожчык, якога нехта невядомы выкопвае з магілы… Поўная сажалка мёртвай рыбы і жабаў, якія зварыліся жыўцом, паколькі завод зьліў у сажалку кіпень… Як на маю думку, павінен усё ж быць нейкі болевы парог у пісьменьніка.*

— Справа нават ня ў болевым парогу — справа ў чалавеку. Чалавек бяз болевага парогу — нешта мэханічнае, зомбі без пачуцьцяў. А болевы парог павінен быць. Калі пісьменьніку нічога не баліць, яму ня варта браць у рукі пяро, прыкоўваць сябе да стала і хлусіць словамі-пачуцьцямі.

## «Сёньняшнюю Беларусь я хацеў бы паказаць Маркесу і Дастаеўскаму»

*— Вы наводзіце на людзкое зло лінзу свайго пісьменьніцкага мікраскопа, і яно, тое зло, міжволі павялічваецца, робіцца больш прыкметным і маштабным. А ці не пачынае тут пісьменьнік міжволі слугаваць гэтаму злу?*

— Гэта тое, што мяне апошнім часам вельмі хвалюе. Я думаю, што літаратура, мастацтва саслужылі вельмі благую службу, нібыта выкрываючы зло. І Гогаль, адчуўшы гэта, спаліў рукапіс другога тома «Мёртвых душаў». Я ня ведаю, што адбываецца, але я не магу супраціўляцца злу свайго пісьма, сваёй памяці, сваёй істоты. Тут ужо нікуды не падзенесься. І калі ты нешта выкрываеш, злуесься, гэта ж і паводле Бібліі вялікі грэх. Гэтая грэшнасьць і сьвятасьць пісьма ляжаць у прыродзе чалавека, у прыродзе пісь-

меньніка. Я думаю, што нам ад гэтай грахоўнасьці ўласнай прыроды нікуды ня дзецца.

— *«Быцьцё толькі тады і пачынае быць, калі яму пагражае небыцьцё», — запісаў у сваім дзёньніку згаданы ўжо Дастаеўскі. Вы апісваеце жыцьцё ў прадчуваньні катастрофы, тут вы недзе блізкія з Алесем Адамовічам. Адкуль ваш пэсымізм?*

— Ёсьць талент сьветлы, які сьмяецца, жартуе, піша пра сонечнае жыцьцё. А ёсьць змрочны. І я не магу сказаць, ад чаго гэта залежыць. Мой пэсымізм, відаць, паходзіць ад жахлівай выпадковасьці, што я застаўся жывым. Я ж некалькі разоў паміраў — і ў час вайны, калі забілі маці і памерла сястра, калі я, трохгадовы хлопчык, пайшоў за людзьмі ў Азарыцкі канцлягер. І далей гэтыя паміраньні доўжыліся. Калі я пісаў раман «Неруш», то сядзеў па сямнаццаць-васямнаццаць гадзінаў за пісьмовым сталом. Аднойчы страціў прытомнасьць, упаў, нібыта выпаўз на вуліцу, на сьнег і там сустрэў памёрлых бацьку і матку. Яны мяне пагналі назад, сказаўшы, што я рана да іх прыйшоў... Беларусь — самая вялікая магіла сьвету. Тут столькі костак, столькі забітых і памерлых, і гэты дух таксама ня можа не ўплываць.

— *У эсэ «Гаючая вада — белы параход», што ўвайшло ў вашу кнігу «Дзікае паляваньне ліхалецьця», вы апісваеце сваю паездку на Палесьсе з Васілём Быкавым, Алесем Адамовічам і Сяргеем Залыгіным, якая адбылася ў далёкім 1984 годзе. А каму зь пісьменьнікаў сьвету вы хацелі б паказаць сёньняшнюю Беларусь?*

— Сёньняшнюю Беларусь я хацеў бы паказаць Маркесу. Дастаеўскі ніколі ня быў у Беларусі,

я і яго запрасіў бы. Паказаў бы яму ягонае радавое гняздо Дастоева, у што яно ператварылася, у нейкі сьвінарнік. Але мне хацелася б, каб яны пабачылі, што Беларусь — гэта ня толькі дыктатура, ня толькі штодзённая дзяржаўная хлусьня, а гэта яшчэ і сам беларус — зь яго прытоенай закаханасьцю, любоўю да свайго краю.

*— Як вы лічыце, ці блізкія нашым суайчыньнікам словы Францішка Скарыны пра пчолаў, якія бароняць вульлі свае? Ці за паўтысячы гадоў яны страцілі сваю прывабнасьць?*

— «Бараніць вульлі свае» — як хораша сказана! На жаль, сёньня ва ўсім сьвеце ідзе зьнікненьне пчолаў. А калі зьнікнуць пчолы, зьнікнуць і людзі. На пчолах усё трымаецца — тут і мёд жыцьця, і сьвечка разьвітальная. Нягледзячы на ўсе выпрабаваньні, мы моцна трымаемся сваіх вульляў. У якасьці прыкладу згадаю свайго сына, які зь сям'ёй кінуў Менск, прадаў кватэру і пабудаваў хату ў вёсцы. І гэтак сёньня робіцца паўсюль. Што заўсёды вызначала беларуса? Калі ён усё ж пайшоў, то адрэзаў сабе шляхі для адступленьня. Ён упарты, зацяты, ён ідзе да канца. І ён гатовы бараніць свой вулей на сваёй зямлі, каб яму не перашкаджалі жыць.

*12 чэрвеня 2015 г.*

**Знойдзеш, чытаючы ў гэтай кнізе распаведы пра ўшану Крыжа Жыватворнага, пра Божую справядлівасьць, пра веліч Гасподніх судоў, пра дзіўную міласьць і пра шчадроты, якія сваім абранцам чыніў Гасподзь.**

**Францішак Скарына**

## ДЗЕ ШУКАЦЬ КРЫЖ ЭЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ

**Vis-à-viS: Сяргей Тарасаў**

***У магілёўскім мастацкім музэі можна пабачыць... Крыж Эўфрасіньні Полацкай. Вы заходзіце ў маленькі пакой-сэйф, за вашай сьпінай зачыняюцца таўшчэзныя сталёвыя дзьверы, зь нябачных дынамікаў гучаць царкоўныя сьпевы. Крыж выглядае так натуральна, што яго хочацца памацаць. На жаль, гэта ўсяго толькі галяграма. А арыгінал зьнік з таго самага будынка, з таго самага пакояэйфа 75 гадоў таму. З тае пары дзе яго толькі ні шукалі — у амэрыканскіх фундацыях, у сховішчах Ватыкану, у расейскіх музэях. Беспась-***

***пяхова. Гісторык Сяргей Тарасаў прапаноўвае сваю вэрсію месцазнаходжаньня нашай нацыянальнай рэліквіі.***

— *Сяргей, дык дзе і хто хавае Крыж Эўфрасіньні Полацкай?*

— Скажу пра гэта трохі пазьней. Спачатку хачу нагадаць ранейшыя вэрсіі. Самая папулярная ў савецкі час — што Крыж быў зьвезены немцамі. Выказвалася і гіпотэза, што ў 1920-я гады, калі рэквізаваліся царкоўныя каштоўнасьці, Крыж маглі прадаць на адным з аўкцыёнаў, пасьля чаго ён мог трапіць за акіян — у ЗША (а ў Магілёве знаходзілася копія). Гаварылася і пра тое, што машыны, на якіх везьлі каштоўнасьці з Магілёўскага музэю разам з архівам ЦК КПБ, недзе па дарозе трапілі пад бамбаваньне, і Крыж быў зьнішчаны ці трапіў кудысьці ў Расею. Калі прыняць на веру «нямецкую» вэрсію, то і тут падзеі маглі разьвівацца па-рознаму. Скажам, падчас рэстытуцыі, калі нарабаваныя нацыстамі каштоўнасьці вярталіся назад зь Нямеччыны, іх маглі павезьці далей, у Расею. Прычына тут простая — немцы складалі свае вопісы, давалі свае назвы, і савецкія спэцыялісты пасьля маглі не разабрацца, што куды трэба вяртаць. Нарабаванае ў Магілёве маглі завезьці, умоўна кажучы, у Яраслаўль.

Я, дарэчы, спачатку схіляўся да апошняй вэрсіі. Але пасьля таго, як у піцерскім Эрмітажы выявілася кража розных каштоўных рэчаў, у Расейскай Фэдэрацыі прайшла суцэльная праверка фондаў абсалютна ва ўсіх музэях. Калі б Крыж

быў у нейкім музэі, ён абавязкова ўсплыў бы. Проста так хаваць і нікому не паказваць, а тым больш ня ўносіць у фондавыя сьпісы, яго не маглі. Але тут цікавая акалічнасьць: вывезены разам з Крыжам архіў ЦК КПБ, як сьведчаць мае калегі-архівісты, захаваўся цалкам.

*— Значыць, па дарозе не разбамбілі. Тут можна дадаць, што ў 2003 годзе нечакана знайшлося і Слуцкае Эвангельле, якое таксама разам з Крыжам зьнікла ў 1941 г. з Магілёва. Прычым царква нічога не тлумачыць, спасылаючыся на таямніцу споведзі. Проста дзіва нейкае.*

— Сапраўды, адбыўся цуд. У 2003 годзе мітрапаліт Філарэт на Эпархіяльных чытаньнях прадставіў Слуцкае Эвангельле 1582 году. Паводле вэрсіі царквы, нейкая прыхаджанка перадала яго аднаму са сьвятароў. Ні прозьвішча, ні адрасу тае прыхаджанкі — ніякіх зьвестак абсалютна няма. Але чамусьці сьцьвярджаецца, што ўвесь час, пачынаючы з 1941 году, тое Эвангельле не пакідала межаў Беларусі. Гэта проста фантастыка. Такога ў прынцыпе быць не магло. Ня будзем забываць, што Эвангельле і Крыж — не адзіныя рэчы, якія зьберагаліся перад вайной у Магілёве. Там было шмат царкоўнага начыньня, старажытная зброя, дасьпехі, шмат чаго іншага. Але сам факт зьяўленьня арыгіналу Эвангельля паказвае, што ёсьць і арыгінал Крыжа.

Калі ў другой палове 90-х берасьцейскі мастак Мікола Кузьміч рабіў копію Крыжа, рэжысэр Віктар Шавялевіч зьняў пра гэта дакумэнтальны фільм. І ў тым фільме ёсьць адзін вельмі цікавы эпізод. Уладыка Філарэт, знаходзячыся

ў сябе ў эпархіі, у дамовай царкве, апавядае пра тое, як удалося знайсьці сьвятыні-рэліквіі, якія былі закладзеныя ў Крыж Эўфрасіньні Полацкай. Там была часьцінка Крыжа Госпадняга, фрагмэнты сьвятых мошчаў. І вось уладыка гаворыць у кадры, што зь цягам часу ўдалося знайсьці ўсё, апрача часьцінкі крыві Ісуса Хрыста. І вось аднойчы, калі ён быў у сябе на радзіме ў Загорску, у Троіца-Сергіевай лаўры, у рызьніцы ён убачыў на нейкай «дошчачцы» маленькую кропельку і надпіс над ёй (скарочана): «Кроў Хрыстова». Тады ўладыка Філарэт папрасіў дазволу ў захавальніка рызьніцы адшчыкнуць часьцінку рэліквіі, каб перанесьці яе на крыж, які зрабіў майстар Кузьміч. Што і было зроблена. І тут паўстае толькі адно пытаньне: што гэта за «дошчачка» з кроўю Хрыста ў рызьніцы ў Загорску? На маю думку, гаворка можа ісьці толькі пра Крыж Эўфрасіньні Полацкай. Другой рэліквіі з крывёй Ісуса Хрыста там папросту не магло быць.

## «Крыж параўнальна нядаўна бачылі, у тым ліку людзі зь Беларусі»

— *Дапусьцім, што Крыж знаходзіцца ў Загорску. І што, за ўвесь гэты час яго ніхто, апрача ўладыкі Філарэта, ня бачыў?*

— Паводле маіх зьвестак, Крыж параўнальна нядаўна бачылі, у тым ліку людзі зь Беларусі. У час, калі ў нас пачалася кампанія, умоўна кажучы, «слуцкія паясы», калі іх паўсюль шукалі, каб наладзіць вытворчасьць у Беларусі. На жаль, я не магу назваць імёнаў, магу толькі сказаць, што гэта афіцыйныя асобы. Разумееце, Троіца-Сер-

гіева ляўра вельмі значная для Расейскай праваслаўнай царквы. Туды адкрытага доступу няма. Крыж ляжыць у такім месцы, куды звычайнаму чалавеку трапіць немагчыма.

*— Слухайце, Крыж Эўфрасіньні Полацкай знаходзіцца ў афіцыйным вышуку, яго, між іншым, шукае Інтэрпол. Ёсьць людзі, якія яго нядаўна бачылі, а значыць, сьведкі. Можа, пасьля нашай гутаркі справай зоймецца Сьледчы камітэт ці КДБ?*

— Сьведкі павінны быць. Калі Крыж сапраўды там ляжыць, яго бачылі многія. Сьвятары, якія туды прыяжджаюць, проста не маглі яго не заўважыць. Аднак я ня думаю, што пасьля нашай з вамі размовы нейкія спэцслужбы зоймуцца пошукамі Крыжа. Наша размова не падстава для таго, каб абшукваць усю загорскую ляўру. Гэта ўсё ж інстытут царкоўны, а ня сьвецкі. Паўтаруся, месца як бы навідавоку, але ў той жа час недаступнае.

*— Але якім чынам Крыж мог трапіць у тую ляўру?*

— Давайце прыгадаем: да 1941 году ў Савецкім Саюзе нідзе ня згадваліся ні Аляксандар Неўскі, ні Мінін з Пажарскім, ні Ўшакоў, ні Нахімаў. А вось калі пачалася вайна, яны раптам былі абвешчаныя героямі, іх выявы неўзабаве зьявіліся на ордэнах, пра іх масавымі накладамі выдаваліся брашуры, якія разыходзіліся ў тым ліку і па кішэнях салдатаў на перадавой. Сталін дазволіў царкоўныя службы, даў царкве карт-бланш — і царква ішла насустрач дзяржаве, малілася за перамогу савецкай зброі. Гэта быў такі своеасаблівы «баш на баш». І за гэты «баш» дзяржава

мусіла нечым заплаціць. А чым? Усё, што было сканфіскавана ў царквы, было занесенае ў «госхраны» альбо ў фонды музэяў. А адтуль дастаць і вярнуць царкве было немагчыма. Заставалася аддаць тое, што не было ўлічана. А такімі няўлічанымі маглі стацца эвакуяваныя каштоўнасьці, у тым ліку і з Магілёўскага музэю.

*— Калі Крыж — сьвятыня для Праваслаўнай царквы, то і стаўленьне да яго мусіць быць адпаведнае. А між тым на Крыжы напісана: «Калі ж хто вынесе крыж з манастыра (маецца на ўвазе манастыр у Полацку), хай ён будзе пракляты сьвятой Троіцай і сьвятымі айцамі». Калі Крыж хаваецца царквой, то атрымліваецца, што яна не выконвае сваіх жа пастулятаў? Супярэчнасьць нейкая.*

— Безумоўна, супярэчнасьць тут ёсьць. І першым яе заўважыў, як ні дзіўна, Іван Жахлівы. Да 1563 году Крыж са Смаленску трапіў у Маскву. Калі Іван Жахлівы пасьля ўзяцьця Смаленску ішоў на Полацак, то ідэалягічнай падставай для гэтага быў намер вярнуць Крыж Эўфрасіньні на радзіму. І ён гэта зрабіў. Ён вёз Крыж побач з сабой, відаць, сапраўды, пабаяўшыся таго закляцьця. Такім чынам у XVI стагодзьдзі Крыж вярнуўся ў Полацак. І з таго часу ён Беларусі не пакідаў. Тое закляцьце, відаць, усё ж мела сілу. На Крыжы, дарэчы, яшчэ напісана, што рабаўнік будзе пракляты ўсімі сьвятымі айцамі і сямю сьвятымі саборамі. А сем сабораў царквы — гэта тыя саборы, на якіх былі прынятыя асноўныя сымбалі веры. Гэта сур’ёзныя рэчы. І тое закля-

цьце, безумоўна, распаўсюджваецца і на тых, хто ўтрымлівае Крыж сёньня.

— *Ці можна дапусьціць, што Крыж Эўфрасіньні Полацкай, як згаданае Слуцкае Эвангельле, у пэўны момант можа ўзьнікнуць невядома адкуль?*

— Хацелася б, каб такі цуд адбыўся. Праўда, я ня надта ў гэта веру. У нашай гісторыі ня так шмат каштоўных сьвятыняў, зьвязаных з канкрэтнымі людзьмі — у нашым выпадку зь імёнамі майстра Лазара Богшы і сьвятой Эўфрасіньні, патронкі Беларусі, нашай нябеснай заступніцы. Ёсьць яшчэ крыж Аўраамія Смаленскага, які быў зроблены на ўзор Крыжа Эўфрасіньні. Пальцаў адной рукі хопіць, каб гэтыя сьвятыні пералічыць. Таму наш Крыж зьяўляецца надзвычай каштоўным — і ў духоўным сэнсе, і ў матэрыяльным. Яго краналіся рукі самой Эўфрасіньні, ён рэч сакральная.

Мы ж сёньня яшчэ не ўсьведамляем да канца, кім для нас ёсьць Эўфрасіньня Полацкая. Усе народы ганарацца, калі знаходзяць нашчадкаў сваіх вялікіх папярэднікаў — Чынгісхана, Напалеона, Рурыкавічаў і г.д. А мы маглі б знайсьці нашчадкаў нашых Рагвалодавічаў і Ўсяславічаў! Адзіныя парэшткі, косьці чалавека з гэтага роду — гэта мошчы Эўфрасіньні, і яны ў нас ёсьць. Што да Крыжа, то нежаданьне перадаць яго Беларусі можа быць патлумачана як заўгодна. Скажам, у Расеі даўно прыняты закон аб рэстытуцыі, які забараняе вываз каштоўнасьцяў. З другога боку, адмова можа гучаць і ў тым сэнсе, што копія Крыжа ў вас ёсьць, хопіць вам і яе... Так што наўрад ці Крыж будзе вернуты. У адным я абсалютна ўпэўнены — ён цэлы.

## «Сакральныя памеры Крыжа пры капіяваньні парушаныя»

*— У свой час мастак Мікалай Кузьміч зрабіў копію Крыжа Эўфрасіньні, якая ў 1997 годзе была нават асьвячоная Праваслаўнай царквой. Але што дзіўна — у розных крыніцах вышыня Крыжа (арыгіналу) падаецца розная: ад 50,5 см да амаль 52-х. А які памер дакладны?*

— Сапраўды, памеры называюцца розныя. Я праглядзеў шмат энцыкляпэдый і дасьледаваньняў, у тым ліку вядомых навукоўцаў — Георгія Штыхава, Леаніда Аляксеева і інш. Справа ў тым, што нашыя продкі ў XII стагодзьдзі сантымэтрамі ня мералі. Асноўнай мерай даўжыні былі сажні. Сажні розныя — замкавыя, гарадавыя, грэцкія, царкоўныя, махавыя. Асаблівасьць сажня ў тым, што ён дзеліцца толькі папалам. І пры яго дзяленьні атрымліваюцца паўсажні, локці, пясьці, пядзі і вяршкі. Што да Крыжа, то за ўвесь час яго абмяралі толькі двойчы, яшчэ да рэвалюцыі, і абмеры былі зробленыя якраз у вяршках. Калі я паскладваў усе тыя вяршкі, то выявілася, што вышыня Крыжа складае адну пядзю грэцкую плюс адну пясьць грэцкую і адзін грэцкі вяршок — разам сем грэцкіх вяршкоў. Тут мы бачым траічнасьць — пядзя, пясьць, вяршок. Гэта сымбаль Тройцы. А ў суме сем вяршкоў — сымбаль Хрыста.

*— Сем вяршкоў — гэта колькі сантымэтраў?*

— 50,4 сантымэтра — гэта і ёсьць сапраўдная вышыня Крыжа. Даўжыня верхняй перакладзіны — тры вяршкі малога сажня, ніжняй — тры вяршкі казённага сажня. Зноў жа — сымбаль

Тройцы. Такім чынам, у Крыж ад пачатку закладзеныя дзьве ідэі — Троіцы і Хрыста.

— *А копія, зробленая Кузьмічом, адпавядае гэтым лічбам?*

— На вялікі жаль, не. Вышыня копіі — 51 см. Розьніца як быццам невялікая — 0,6 сантымэтра. Новы крыж асьвячоны паводле ўсіх канонаў, для вернікаў ён сьвятыня, але ўсё ж гэта ня тое, што закладалася ў арыгінальны Крыж сьвятой Эўфрасіньняй. Сакральныя памеры Крыжа пры капіяваньні парушаныя.

— *А як такое магло стацца? У камісію па аднаўленьні Крыжа ўваходзілі дасьведчаныя навукоўцы. Чаму тады ніхто не зьвярнуў увагі на тыя сантымэтры і вяршкі?*

— Агульнапрынятыя памеры Крыжа пайшлі з кнігі Леаніда Аляксеева «Полацкая зямля», якая выйшла ў 1966 годзе. Дарэчы, Аляксееў уваходзіў у названую камісію. Гэта дзякуючы яму мы маем выдатныя фотаздымкі і надпісы на бакавінах крыжа. Гісторык знайшоў у адным з маскоўскіх архіваў нэгатывы, зробленыя маскоўскім фатографам Бэргманам, калі ў 1905 годзе Крыж вазілі ў Маскву і Санкт-Пецярбург. Чамусьці пры ўзнаўленьні на памеры ніхто ўвагі не зьвярнуў. Быў зроблены «навадзел», які назвалі вобразам Крыжа Эўфрасіньні Полацкай. Але ў ім таксама закладзеныя рэліквіі, мошчы сьвятых, ён асьвячоны і стаў культавым прадметам.

— *А як увогуле ўзьнікла ідэя стварыць копію Крыжа?*

— На пачатку 90-х у Менску праходзіў зьезд беларусаў блізкага замежжа, які шырока асьвят-

ляла тэлебачаньне, нават трансьлявала ў жывым эфіры. Гэтым займаўся мой сябра рэжысэр Віктар Шавялевіч. Аднойчы ён мне патэлефанаваў і сказаў, што пазнаёміўся на зьезьдзе зь беларусам з Сургуту, які хоча штосьці для радзімы зрабіць, а што — ня ведае. І прапанаваў мне пагаварыць зь ім. Я пагадзіўся. Нашая сустрэча адбылася ў гатэлі «Кастрычніцкі», дзе той сургуцкі беларус займаў неблагія апартамэнты. Звалі яго Анатоль Сілівончык. Спачатку я прапанаваў яму ўкласьці грошы ў аднаўленьне аднаго з разбураных замкаў, але гэта яго не зацікавіла. Царкву аднаўляць ён таксама не захацеў. Тады я расказаў яму пра страчаны Крыж Эўфрасіньні Полацкай, які няблага было б аднавіць. Тут Сілівончык адразу ўхапіўся, папрасіў напісаць яму падрабязную гісторыю Крыжа. Я напісаў. Ідэя адразу ж пачала абмяркоўвацца на зьезьдзе і нават трапіла ў рэзалюцыю: «Бацькаўшчына» бралася дапамагаць у аднаўленьні Крыжа. Утварылася камісія, якую ўзначаліў Адам Мальдзіс, але не было неабходных фінансаў.

— *Сілівончык адмовіўся фінансаваць?*

— Не адмовіўся, але грошай спатрэбілася значна больш, чым ён мог даць. У Сілівончыка ў Сыбіры па тых часах быў даволі сьціплы бізнэс. Справа зрушылася пасьля першых прэзыдэнцкіх выбараў, калі мітрапаліт Філарэт пайшоў непасрэдна да кіраўніка краіны. Можа, трошкі ў дэталях памылюся, але далей падзеі адбываліся наступным чынам. Навукоўцы з камісіі дапамагалі майстру працаваць з эмалямі, бо тэхналёгія перагародкавай эмалі была ўжо страча-

ная. Дарэчы, дзесьці на гэтым этапе спраўдзіць памеры і забыліся. Узялі 51 см, асабліва ня думаючы, адкуль яны ўзяліся. Потым да справы аднаўленьня Крыжа далучылася Беларуская праваслаўная царква, потым дзяржава. Царква ўзяла на сябе аснову крыжа, рэліквіі і, здаецца, жэмчуг. Дзяржава займалася каштоўнымі мэталамі і камянямі. Сілівончык узяў на сябе аплату працы Кузьміча, выданьне кнігі «Жыватворны сымбаль Бацькаўшчыны», якую напісаў Уладзімер Арлоў, і здымкі дакумэнтальнага фільму. Плюс дзяржава ўзяла на сябе ахову — міліцыянты вартавалі майстэрню, каб адтуль нічога ня скралі.

## «Аляксандар Неўскі, якому паставілі помнік у Віцебску, — прыёмны сын хана Батыя»

— *І яшчэ адну тэму хацелася б з вамі абмеркаваць. Адносна нядаўна ў Віцебску зьявіўся помнік Аляксандру Неўскаму. Аказваецца, помнікі яму ўжо стаяць у блізкім да Беларусі Пскове і далёкай Чыце, у былой сталіцы Расейскай імпэрыі Санкт-Пецярбургу і Богам забытай Усьць-Іжоры. Каму спатрэбіўся помнік расейскаму князю ў Беларусі?*

— Слушна сказаў у інтэрвію Радыё Свабода доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч, што гэты помнік — своеасаблівы адказ «русского мира» на пастаўлены ў тым жа Віцебску помнік князю Альгерду. З гледзішча сучаснай расейскай ідэалёгіі Альгерд, безумоўна, вораг Масквы. У 1368 годзе ён падышоў да Масквы, прысланіў дзіду да гарадзкой брамы і ўсклікнуў: «Няхай князь маскоўскі памятае, што войска літоўскае

стаяла пад Масквой!». А мяжа Вялікага Княства тады праходзіла недзе пад Вязьмай.

І тут будзе дарэчы нагадаць, як гадоў восем таму расейцы з дапамогай фэдэральнага тэлебачаньня вырашылі высьветліць, хто ж зьяўляецца найбольш выдатнай асобай у расейскай гісторыі. Адбылося тэлегаласаваньне, і калі былі падведзеныя вынікі, то арганізатары схапіліся за галаву. На першым месцы апынуўся Ёсіф Вісарыёнавіч Сталін! Тады ж было абвешчана, што адбыўся тэхнічны збой у праграме, і галасаваньне зладзілі нанова. І вось ужо тады было выбрана імя Аляксандра Неўскага, і ён стаў лічыцца першай фігурай расейскай гісторыі. І таму расейцы прасоўваюць яго паўсюль. Вось і да нашага Віцебску чарга дайшла.

*— І абгрунтоўваецца гэта тым, што Аляксандар Неўскі быў жанаты на дачцэ віцебскага князя Брачыслава. Маўляў, аднаго гэтага дастаткова, каб паставіць помнік. А ці былі ў князя яшчэ нейкія заслугі перад нашай зямлёй?*

— Ніякіх заслуг у яго не было. Лічыце самі — адзіная бітва, дзе войскі Аляксандра Неўскага і полацкія дружыны змагаліся разам, адбылася ў 1240 годзе на Няве. Летапісы паведамляюць, што ў той бітве Якаў Палачанін моцна папаліў швэдзкія караблі. Але ў той бітве мы не атрымалі значнай перамогі. Сеча закончылася ўвечары, швэды спакойна пахавалі сваіх загінулых і на тых караблях, якія засталіся, спакойна вярнуліся дадому.

Другая бітва — на Чудзкім возеры ў 1242 годзе — стала вядомай толькі дзякуючы фільму Сяргея Эйзэнштэйна «Аляксандар

Неўскі». Насамрэч яна была лякальнай. З абодвух бакоў у ёй удзельнічала ня так шмат войска. Швэдзкія крыніцы кажуць, што загінулі 20 рыцараў і 6 трапілі ў палон.

«Заслугі» Аляксандра Неўскага куды больш істотныя на ўсходнім кірунку. Ягоны бацька Яраслаў ня стаў супрацiўляцца манголам, а сьвядома аддаў сваё княства пад ардынцаў, а потым уся Маскоўская Русь стала фактычна ўлусам Залатой Арды. Той жа Аляксандар Неўскі стаў прыёмным сынам хана Батыя. Калі Батый пасадзіў яго на гэты ўлус, князь забясьпечваў збор даніны і перадачу яе ў Залатую Арду. Самая «гераічная» справа, якую зрабіў Аляксандар Неўскі, — правядзеньне ў 1252 годзе падушнага перапісу ўсяго насельніцтва маскоўскага ўлусу. Адзінай мэтай перапісу было кожнага жыхара, ад багатага да самага беднага, абкласьці данінай. Кожны мусіў тую даніну выплочваць. Калі не выплочваў, то аддаваўся ў рабства манголам альбо манголамі прадаваўся. Зразумела, ня ўсе пагаджаліся плаціць даніну. Скажам, наўгародцы і пскавічы як маглі супраціўляліся. Тады Аляксандар Неўскі загадаў, каб усім нязгодным зь яго палітыкай адразалі насы альбо вушы.

*— На помніку імя жонкі Аляксандра Неўскага — Аляксандра. У Наўгародзкім летапісе яна Параскева. Дык як сапраўды звалі княгіню?*

— Тады славянскія імёны пры хрышчэньні мяняліся на агульнахрысьціянскія, звычайна грэцкага паходжаньня. У гэтым выпадку мы маем два імі грэцкага паходжаньня, абодва хрысьціянскія — Параскева і Аляксандра. Я думаю,

што першым імем усё ж была Параскева. А падчас шлюбу Параскеву чамусьці перахрысьцілі ў Аляксандру. Прычынай, на мой погляд, можа быць наступнае. Справа ў тым, што хрысьціянства ў XI-XIII стагодзьдзях на полацкіх землях, на тэрыторыі ВКЛ і ў Маскоўскай Русі моцна адрозьнівалася. Тут быў трошкі іншы погляд на паходжаньне ўсяго існага, на адзінабожжа, мнагабожжа і г.д. Там былі свае адрозьненьні. Скажам, захаваўся шалом, які належаў Аляксандру Неўскаму. Ён цяпер знаходзіцца ў Гістарычным музэі Крамля (так званая Аружэйная палата). Дык вось, на шаломе Аляксандра Неўскага арабскай вязьзю высечаны радок з Карану.

*— Гэта не перашкодзіла РПЦ залічыць уладальніка шалома ў почат сьвятых.*

— Бо лічыцца, што Аляксандар Неўскі захаваў праваслаўе. Забываецца, што ён біў земныя паклоны і цалаваў ногі ардынскаму хану, што ён, праводзячы падушны перапіс, зьнішчаў уласнае насельніцтва. Галоўнае — захаваў праваслаўе. У што потым ператварылася тое праваслаўе, можна пабачыць на гравюрах, скажам, Івана Жахлівага. На галаве ў яго турбан, апрануты ў ён у доўгі халат, а на нагах у яго чаравікі з загнутымі насамі — у мусульманскай традыцыі, каб не варушыць прах памерлых. Ня варта забываць, што свайго старэйшага сына Васіля, які быў супраць падушнага перапісу, Аляксандар Неўскі пасадзіў у вязьніцу, а потым адправіў у Арду.

*— Дык Аляксандар Неўскі яшчэ і «клапатлівым» бацькам быў… А ці не выглядаюць гэтыя два віцебскія помнікі — Аляксандру Неўскаму і Аль-*

*герду — як зьявы антаганістычныя? «Ваяваць» яны між сабою ня будуць?*

— Спадзяюся, што ня будуць. Але Альгерд і Аляксандар Неўскі — асобы абсалютна розных вагавых катэгорый. Альгерд быў сапраўдным абаронцам сваёй зямлі. На адкрыцьці помніка Аляксандру Неўскаму, ягонай жонцы і сыну гаварылася, што іх скульптурныя выявы — гэта таксама сымбаль моцнай сям'і. Але калі прыгадаць, як князь абышоўся са сваім сынам, то сямейныя вартасьці помніка вельмі сумнеўныя. На мой погляд, гэты помнік у Віцебску — проста недарэчнасьць.

*— Зь імем згаданай княгіні Параскевы-Аляксандры зьвязана зьнікненьне аднаго з цудадзейных абразоў. Што гэта за гісторыя?*

— Маецца на ўвазе абраз Божай Маці Адзігітрыі Эфескай. Гэта адзін з чатырох абразоў, напісаных, як лічыцца, эвангелістам Лукой. Захоўваўся ён у Эфесе. На просьбу Эўфрасіньні Полацкай Канстанцінопальскі Патрыярх даслаў ёй гэты абраз. Некаторыя навукоўцы лічаць, што гэта была копія. У XIII стагодзьдзі абраз быў падараваны Параскеве як дабраславеньне на шлюб з Аляксандрам Неўскім. Вянчаньне адбылося ў Багародзіцкім саборы ў горадзе Тарапец, дзе потым абраз застаўся і захоўваўся ажно да 1921 году. Калі бальшавікі сканфіскоўвалі царкоўную маёмасьць, яны забралі і абраз, які ў 1936 годзе апынуўся ў Ленінградзе, у Расейскім музэі.

У пачатку 90-х была магчымасьць вярнуць яго на радзіму. Мы з маім сябрам, рэжысэрам Віктарам Шавялевічам, досыць часта наведвалі Пецяр-

бург, бывалі ў Пушкінскім доме, дзе дырэктарам працаваў акадэмік Дзьмітрый Ліхачоў, мы зь ім былі ў вельмі добрых сяброўскіх стасунках. Аднойчы мы ў яго пацікавіліся, ці магчыма той абраз перадаць Беларусі, паколькі ён — наша нацыянальная каштоўнасьць. А фондамі Расейскага музэю на той час кіравала дачка акадэміка, і яна паведаміла: магчыма, толькі трэба зьвярнуцца з афіцыйным лістом ад імя Рэспублікі Беларусь. Па прыезьдзе ў Менск я падрыхтаваў такі ліст, і ён быў пакладзены на стол тагачаснага міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі. Прайшоў цэлы год, а ў яго так і не дайшлі рукі той ліст падпісаць. А праз год у Расеі быў прыняты закон аб рэстытуцыі, які забараніў вываз за межы Расейскай Фэдэрацыі любых гісторыка-культурных каштоўнасьцяў.

*— Дык той полацкі абраз па-ранейшаму знаходзіцца ў Пецярбургу?*

— Не. У 2009 годзе Міністэрства культуры Расейскай Фэдэрацыі прыняло рашэньне аб перадачы абраза Прасьвятой Багародзіцы Эфэскай з Расейскага музэю ў новазбудаваную царкву Аляксандра Неўскага, якая знаходзіцца ў катэджным пасёлку Княжае Возера Істрынскага раёну Маскоўскай вобласьці. Гэта яшчэ адна «Рублёўка», проста камусьці з расейскіх нуварышаў захацелася мець там менавіта гэты абраз. Там ён цяпер і знаходзіцца.

*— Вернемся да віцебскага помніка. Калі Аляксандар Неўскі там зьявіўся як праява «русского мира», то трэба ж неяк яго стрымліваць. Каго ў дапамогу Альгерду ў Віцебску і Ўсяславу Чарадзею*

*ў Полацку вы паставілі б на пастамэнты ў іншых беларускіх гарадах?*

— Найперш варта паставіць помнік вялікаму князю Вітаўту — у Менску. Чаму ў суседняй Літве ёсьць і вуліцы, і плошчы Вітаўтаса, і помнік у цэнтры Вільні, а ў нас нічога няма? І помнік Міндоўгу трэба было б паставіць у Наваградку. Зразумейце, Аляксандар Неўскі для нас нічога добрага не зрабіў. А пра зробленае ім для Маскоўскай дзяржавы нават сорамна прыгадваць.

*16 сакавіка 2016 г.*

**Зь цягам часу людзі размножыліся і скіравалі думкі свае на злое, і прынялі злое ў сваю душу.**

**Францішак Скарына**

## СПАЛІЦЬ ПАСЬЛЯ ПРАЧЫТАНЬНЯ

**Vis-à-viS: Аляксандар Фядута**

***Ён адправіў на шыбеніцы і пад расстрэл 128 паўстанцаў 1863 году. Ён саслаў у Сыбір тысячы прыналежных да паўстаньня. Нават у пецярбурскіх салёнах яго называлі людаедам, а мянушка Вешальнік стала часткай ягонага прозьвішча яшчэ пры жыцьці. У сакавіку 1864-га ён канфірмаваў сьмяротны вырак Кастусю Каліноўскаму, а пятлю ў народзе з тае пары сталі называць «мураўёўскім гальштукам»... Ворага трэба ведаць як мага падрабязьней — вырашылі ў менскім выдавецтве «Лімарыюс» і выпусьцілі ў сьвет мэмуары генэрал-губэрнатара Міхаіла Мураўёва з прадмовай і камэнтарамі Аляксандра Фядуты.***

*— Аляксандар, вось жа кажуць, што мэмуарамі чалавек у старасьці выпраўляе грахі маладосьці. Грахі Мураўёва мы ведаем. А ва ўспамінах ён сябе праведнікам паказвае?*

— Калі чалавек піша мэмуары ў старасьці, гэта значыць, што ён стварае ўласны вобраз такім, якім хоча застацца ў памяці нашчадкаў. Міхаіл Мікалаевіч Мураўёў, граф Віленскі, вельмі хацеў застацца ў памяці нашчадкаў чалавекам жорсткім, прынцыповым абаронцам Расейскай імпэрыі, унутраным, я б сказаў, апазыцыянэрам да пецярбурскай улады, які не баіцца спрачацца з самім імпэратарам. І яшчэ — чалавекам, цалкам адпаведным уласнай рэпутацыі, якую яму стваралі ягоныя ворагі, зь якімі ён змагаўся, найперш жыхары былой Рэчы Паспалітай і палітычныя расейскія эмігранты. Нагадаю, што ўспаміны Мураўёва выходзілі ў Польшчы, прычым двойчы. Упершыню іх надрукавалі ў перакладзе на польскую мову яшчэ ў 1898 годзе, без камэнтароў. Падрыхтаваў тое выданьне, наколькі я разумею, Тадэвуш Корзан, з паходжаньня мянчук, вядомы гісторык. Другі раз яны друкаваліся ў 1990 годзе — таксама без камэнтароў. Такім чынам, нашае выданьне — фактычна першае камэнтаванае, якое ўлічвае беларускія, польскія, расейскія і часткова літоўскія крыніцы.

*— Вы сказалі пра жорсткасьць Мураўёва, пра тое, што ён і ў памяці нашчадкаў хацеў застацца жорсткім. 128 канфірмаваных ім сьмяротных прысудаў, тысячы сасланых на катаргу… Як для запалохваньня, гэта яўна зашмат. Гэта ўжо нейкая хваравітая жорсткасьць, паталягічная.*

— Не было ў Мураўёва ніякай паталёгіі. Існавала заканадаўства Расейскай імпэрыі, і Мураўёў цалкам кіраваўся ім і тымі паўнамоцтвамі, якія меў як генэрал-губэрнатар і фактычны намесьнік Паўночна-Заходняга краю. Ішла карная апэрацыя, фактычна ён узначальваў карнікаў. І кіраваўся тымі выракамі, якія выносілі ваенна-палявыя суды. Калі чалавека лавілі са зброяй у руках, калі было даказана, што ён змагаўся супраць імпэрскай арміі, калі ён удзельнічаў у партызанскіх аддзелах, то, зразумела, выносіўся сьмяротны прысуд. І што Мураўёў не зьмякчаў тыя прысуды, гэта вядома. Ён прыехаў сюды, ведаючы, чаго ад яго чакалі. Пецярбурская ўлада чакала, што Мураўёў будзе цалкам адпавядаць сваёй мянушцы Вешальнік, і ён сьвядома ёй адпавядаў. Ягоны папярэднік Уладзімер Назімаў знарок не зьмякчыў сьмяротныя прысуды двум ксяндзам, спадзеючыся, што Мураўёў скарыстаецца гэтай магчымасьцю, каб давесьці віленскай эліце, што зь ім можна мець справу. Але Мураўёў падпісаў сьмяротныя выракі. Існуюць успаміны Якуба Гейштара, аднаго зь лідэраў паўстанцаў, дзе ён прыгадвае, як тое сьмяротнае пакараньне ўзрушыла натоўп, што прыйшоў на плошчу і да канца спадзяваўся, што павешаньне ўсё ж будзе адменена. Гейштар нават узяў з сабой сына, і зусім малы хлопец бачыў, як вешалі ксяндзоў...

*— Мураўёў служыў на высокіх пасадах, сыходзіў у адстаўку, зноў служыў... Запатрабаванасьць Мураўёва ў 1864 годзе — гэта запатрабаванасьць ката?*

— Так. Чаму Аляксандар II адклікаў папярэдніка Мураўёва Назімава? У Назімава была рэпутацыя міратворцы, ён ніколі не дазваляў крыўдзіць эліту. І таму ў Пецярбургу лічылі Назімава адным з тых, хто вінаваты ў антыімпэрскіх настроях на гэтых тэрыторыях. Менавіта таму замест яго быў прысланы чалавек, якога ва ўладзе не любілі, які быў вядомы сваёй жорсткасьцю, якога, скажам так, ідэалягічна было не шкада. Бо Аляксандар II вельмі не любіў Мураўёва, і Мураўёў не любіў Аляксандра II. І менавіта таму адзін пасылае, а другі думае: «Ты лічыш мяне катам, дык я буду катам, бо адказваць за ўсё будзеш і ты таксама». Што і адбылося. Мураўёў памёр уласнай сьмерцю, а Аляксандра II забіў беларус Ігнат Грынявіцкі.

*— Мяне зьдзівіла, што ў сваіх мэмуарах Мураўёў толькі аднойчы згадвае Кастуся Каліноўскага.*

— Разумееце, наш погляд на тую ці іншую гістарычную постаць можа вельмі адрозьнівацца ад поглядаў сучасьнікаў. Хто такі Каліноўскі для нас? Гэта сапраўдны змагар, нацыянальны герой. Хто такі ён для Мураўёва? Усяго адзін з паўстанцаў.

*— І для Мураўёва ён усё ж — кіраўнік мяцяжу ў Краі.*

— Для Мураўёва галоўны вораг ня той, хто кіраваў мяцяжом у Краі. Для яго галоўныя ворагі, зь якімі ён змагаўся, сядзелі ў Пецярбургу. Большая частка яго ўспамінаў — гэта апісаньне таго, як ён супярэчыць ураду, як урад яму перашкаджае наводзіць тут парадак. Вось што для яго галоўнае. З другога боку, як тут не прыгадаць цу-

доўнае апавяданьне нобэлеўскага ляўрэата Анатоля Франса «Понтыюс Пілят». Там Пілят расказвае гісторыю свайго жыцьця, і суразмоўца ў яго пытаецца: «Спадар пракуратар, а вы памятаеце, быў такі Ісус?». «Ня памятаю», — адказвае Пілят. І ён сапраўды ня памятаў. Для яго Ісус — гэта ўсяго адзін дзень жыцьця. Вось так і для Мураўёва прысуд Каліноўскаму — гэта ўсяго адзін дзень жыцьця, а для нас — гераічная старонка нашай гісторыі.

## «Пастамэнт помніка Мураўёву ў Вільні быў памазаны салам, і ўсе гарадзкія сабакі бегалі туды...»

*— У школьных падручніках гісторыі Беларусі Мураўёў названы «таленавітым адміністратарам». Калі б вам было прапанавана падрэдагаваць тыя падручнікі, што б вы напісалі?*

— Я напісаў бы так: «Карную апэрацыю на тэрыторыі тагачаснага Паўночна-Заходняга краю ўзначальваў вядомы сваёй жорсткасьцю генэрал Міхаіл Мураўёў. За пасьпяховую карную апэрацыю ён атрымаў графскі тытул і прыдомак „Віленскі"». Усё. Можна гаварыць пра яго матывы, вызначаць, чым і як ён кіраваўся, але ўсё гэта — элемэнты карнай апэрацыі. А тое, што ён быў «таленавіты адміністратар»... У свой час ён паказаў сябе сапраўдным гуманістам, калі ў 1820-я гады падчас голаду на Смаленшчыне зьбіраў грошы, каб карміць сялянаў. І што, гэта мусіць неяк зьмяніць наш погляд на тое, чым ён займаўся ў якасьці кіраўніка карнікаў? Адно другога ня тычыцца.

*— На сумленьні Мураўёва — сотні загубленых жыцьцяў, і нават «Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі» не забываецца на ягоную мянушку. Але чаму яго не любілі ў Расеі, пры двары? Пецярбурскі генэрал-губэрнатар публічна называў Мураўёва «людаедам». Не кажучы ўжо пра тыя характарыстыкі, якія Мураўёў атрымаў ад Аляксандра Герцэна.*

— Тут трэба ўлічваць, што 1860-я гады — час адноснай адлігі ў расейскім грамадзтве, якая настала пасьля сьмерці Мікалая I. Пры Аляксандру II уплывовымі зрабіліся сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку замежныя, эмігранцкія. Калі паспрабаваць знайсьці паралелі, то «Колокол» і «Полярная звезда» Герцэна — гэта нашы сучасныя «Хартыя» і «Беларускі партызан». І калі Мураўёў зразумеў, што прайграе бойку за ўласную рэпутацыю ў Эўропе, ён пачаў працаваць на рэпутацыю ў Расеі. І ён перамог, бо толькі самотнікі-інтэлектуалы давалі яму нэгатыўныя ацэнкі ў Расеі. А народ зьбіраў грошы на помнікі Мураўёву пасьля яго сьмерці. І на віленскі помнік, пастаўлены ў 1898 годзе, былі сабраныя грошы, каб ён быў пастаўлены менавіта ў Вільні — як адказ на помнік Адаму Міцкевічу. Гэты факт выклікаў абурэньне ў студэнтаў Кіеўскага ўнівэрсытэту, але ў Пецярбургу і Маскве ніякіх маніфэстацыяў не было.

*— Помнікі, пастаўленыя па волі і на грошы народу, не ахоўвае дзень і ноч паліцыя. А помнік Мураўёву ў Вільні пільна ахоўваўся.*

— Я пішу пра гэта ў прадмове, спасылаючыся на ўспаміны Паўліны Мядзёлкі. Яна згадвае, што пастамэнт помніка Мураўёву быў памазаны са-

лам, і ўсе гарадзкія сабакі бегалі туды. Пасьля гэтага ўлада і была вымушаная паставіць там гарадавога. А што да народных грошай… Тагачасны народ Расейскай імпэрыі — гэта таксама і Калуга з Тамбовам, дзе Мураўёва лічылі героем.

*— Чытаючы мэмуары Мураўёва-Вешальніка, немагчыма ня ўспомніць сучасную Расею. Калі Мураўёў некага хваліў, то казаў, што той чалавек «воистину русский». А калі некага ганіў, то не абыходзіўся бяз выразаў: «космополит», «приверженец европейских идей». Ці такі дзяяч, як Мураўёў, мог бы сёньня спатрэбіцца ў Расеі?*

— А вы паглядзіце на тых, хто сёньня кіруе Расеяй. Дый на кіраўнікоў Беларусі. Постаць Мураўёва як матрыца, якую можна накласьці на палітыкаў той ці іншай постсавецкай краіны, і мы ўбачым, як праяўляецца дзяяч, які асацыюецца з «моцнай рукой». Ён будзе апрануты трошкі больш сучасна, будзе карыстацца трошкі іншай лексыкай, але ён абавязкова зьявіцца. У «смутныя часы», калі ў дзяржаве ня ведаюць, як кіраваць, што рабіць і куды ісьці, зьяўляецца запатрабаванасьць у цьвёрдай і жорсткай руцэ. «Зараз мы навядзем парадак! Мы адменім усе лібэральныя рэформы, і вы ўбачыце, якой моцнай будзе наша краіна!» — так гавораць, прыходзячы, новыя мураўёвы.

*— Пра паўстаньне 1863 году засталося нямала мэмуараў. Як на іхным тле выглядаюць успаміны Мураўёва з гледзішча факталёгіі?*

— Калі я працаваў над камэнтарамі, найцікавейшым для мяне было знайсьці тыя моманты, дзе ён сьвядома хлусіць. Напрыклад, гісторыя

сьмяротнага пакараньня Зыгмунта Серакоўскага. Мураўёў гаворыць, як непрыстойна слабым выглядаў Серакоўскі. Але яго на плошчы не было! На плошчы быў той чалавек, якому Мураўёў дыктаваў свае ўспаміны, Масалоў. І ўспаміны Масалова былі надрукаваныя ў 1868 годзе, усяго праз два гады пасьля сьмерці Мураўёва. І Масалоў піша, як годна трымаўся Серакоўскі. Чалавек, які сьвядома лжэ, у мяне выклікае агіду.

*— Калі Мураўёва чытаць агідна, бо ён хлусіў, то ці мела сэнс выдаваць яго мэмуары, ды яшчэ ў такой паважнай сэрыі, як «Беларуская мэмуарная бібліятэка»?*

— На маю думку, кожны чалавек, які займаецца гісторыяй Беларусі другой паловы XIX стагодзьдзя, мусіць раз у жыцьці прачытаць гэтую кнігу. А той, хто лічыць Мураўёва ворагам, зь якім трэба змагацца, павінен гэтую кнігу набыць, прачытаць і спаліць. Абавязкова прачытаць, бо бязь веданьня крыніцаў немагчыма зразумець, адкуль бярэцца ўсё гэта. Трэба чытаць, трэба разумець — я ў гэтым упэўнены.

## «Холад турмы і холад краіны — гэта жудасныя рэчы»

*— Адну са сваіх кніг вы напісалі ў турме, дзе апынуліся пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году. Тварылі ў «амэрыканцы», таму і кніга называецца адпаведна — «Амэрыканскія вершы». Прапаную прыгадаць тыя часы, лічыце, што вы ізноў трапілі на допыт. У прадмове да тае «турэмнай» кнігі вядомая расейская праваабаронца Натальля Гарбанеўская напісала, што вас за кратамі рата-*

*валі дзьве рэчы — вершы і гумар. Ну, гумар — ён у кожнай сытуацыі ня лішні. А што такое ратаваньне вершамі?*

— Кожнаму чалавеку ўласьціва размаўляць з кім-небудзь, бо чалавек — такая істота, якая думае, сьмяецца і размаўляе. І калі я пачаў пісаць вершы ў турме, гэта адбылося менавіта ў той момант, калі я апынуўся ў адзіночнай камэры. Я зразумеў, што калі не пачну з кім-небудзь гаварыць, то проста звар'яцею. А вар'яцець мне вельмі не хацелася. Жонка перадала мне ў камэру некалькі агульных сшыткаў, я прыгадаў, дзе знаходжуся, і напісаў на адным са сшыткаў «Амэрыканскія вершы». Як потым сказаў адзін з герояў кнігі Пракотыч, «ну вось цяпер вы — галоўны амэрыканскі паэт Беларусі».

*— А чаму ў турме вершы пачынаюць пісаць нават тыя, хто іх ніколі не пісаў на волі?*

— Я пісаў вершы і на волі, але ніколі не зьбіраўся іх друкаваць, бо яны былі нікому не цікавыя. А чаму пачынаюць усе пісаць... Мабыць, таму, што ўсё роўна нейкая музыка гучыць у тваёй галаве, усё роўна з кімсьці ты размаўляеш, усё роўна ёсьць імкненьне нешта сказаць. Вось ты і кажаш. Некалькі вершаў прыйшлі да мяне, калі я проста шпацыраваў па адведзенай для вязьняў пляцоўцы, якую я называў сваёй Плошчай. Ходзіш па той пляцоўцы і раптам ловіш сябе на думцы, што ногі самі сабой пачынаюць адбіваць пэўны рытм.

*— Вершы пачыналі «пісацца» нагамі?*

— Вершы «пісаліся» нагамі, вершы пісаліся ад таго, што нешта там зарыпела, калі ты сеў на

«шконку». Нават вада — кропля за кропляй — з крана можа стаць прычынай зьяўленьня верша.

*— Але ў вас атрымалася нейкая незвычайная турма. Вашыя сьледчыя чытаюць Авідыя ў арыгінале, начальнік турмы запрашае вас на гарбату для задушэўнай размовы... Ці не застаўся цёмны бок турмы па-за старонкамі кнігі?*

— Не застаўся. Я апісаў усё — адзіноту, турэмную цэнзуру, спробы ўзьдзейнічаць на вязьняў незаконнымі мэтадамі. Я апісаў сытуацыю несвабоды, калі табе не дазваляюць рабіць тое, што ты хочаш. А запрашэньні на гарбату... Сёньня я разумею, што нас усіх запрашалі не таму, што начальнік турмы добра да нас ставіўся. Проста ўсе размовы за гарбатай запісваліся на відэа, і пасьля турэмныя псыхолягі рабілі пэўныя высновы, падказвалі сьледчым, як з намі працаваць. Што да сьледчага, які цытаваў Авідыя ў арыгінале... Ён жа вёў справу аднаго з найлепшых паэтаў Беларусі — Уладзімера Някляева. Гэты чалавек, па адукацыі філёляг, проста павінен быў разумець псыхалёгію свайго падапечнага.

*— Вязень ГУЛАГу Барыс Мікуліч згадваў, як ён уначы на марозе чытаў з памяці вершы Блока — і саграваўся імі. А чыя паэзія дапамагала змагацца з турэмным холадам вам?*

— Помніцца, што я сьпяваў песьні Булата Акуджавы. Справа ж ня ў тым холадзе, які навокал. Ад яго можна абараніцца — спаць апранутым, накрыцца дзьвюма коўдрамі, якія нам давалі, бо было вельмі холадна. Калі на вуліцы стаяў мароз мінус 22, то ў камэры было ўсяго плюс 10. Нават на радыятары, умураваным у

сьцяну, нельга было прасушыць бялізну. Пра той турэмны холад я напісаў у адным зь вершаў, які прысьвечаны памяці Сьвятланы Навумавай. «Этот холод зимы, затянувшейся в март. / Этот холод игры, где не светит нам фарт. / Этот холод страны. Этот холод тюрьмы...» Холад турмы і холад краіны — гэта жудасныя рэчы. Але найстрашнейшы холад усё ж унутры цябе. Вось ад гэтага холаду ратавацца было складаней. І я, як і Барыс Мікуліч, ратаваўся таксама вершамі. Чытаў іх сваёй жонцы — на дыстанцыі. Праз адвакатку альбо празь лісты мы дамаўляліся, што на гэтым тыдні, напрыклад, я чытаю ёй Мікалая Гумілёва.

— *Гумілёва таму, што ён пра цёплую Афрыку пісаў?*

— Не. Разумееце, вершы бываюць цёплыя альбо халодныя. Гумілёў усё ж цёплы паэт, нават калі піша не пра Афрыку. У прытурэмнай «Цэнтральнай кнігарні» для мяне набывалі кнігі. Памятаю, як я перажываў, калі мне не ўдалося атрымаць двухтамовік Адама Бабарэкі — на маім рахунку проста не хапіла грошай. Усе вязьні маюць рахункі, і ты выбіраеш, што набыць: хлеб, гарбату, якія табе патрэбныя, альбо кнігі. Як правіла, я выбіраў кнігі.

— *А хіба ў турме КДБ няма бібліятэкі?*

— Бібліятэка ёсьць, яна невялічкая, займае адзін пакойчык. Насамрэч атрымліваецца, што «першы барак мяняецца з другім». Была вельмі добрая акцыя, калі вязьням перадавалі паштоўку. Я прапаную яшчэ адну акцыю. Давайце зьбярэм беларускую бібліятэчку для сьледчага ізалятару КДБ. Калі хто са слухачоў «Свабоды» адгукнецца

на маю прапанову, няхай зьвернецца да мяне. Сабраць пару дзясяткаў добрых беларускіх кніг было б вельмі дарэчы.

*— Слушная ідэя — відаць, беларускамоўныя чытачы ў тае бібліятэкі яшчэ будуць… Магчыма, варта зьвярнуцца да нашых вядомых пісьменьнікаў, якія б надпісалі свае кнігі. Мне раптам падумалася, што Якуб Колас сваю кнігу надпісаў бы прыкладна так: «Я менскую турму люблю — пісаў там „Новую зямлю”».*

— Думаю, шмат хто надпісаў бы: Валянцін Таўлай, Уладзімер Дубоўка, тая ж Ларыса Геніюш…

*— Пра турму КДБ вершы пісаліся задоўга да вас. «Менск прыгожы, і Менск — сталіца, / і чужы там, і свой натоўп. / Для мяне Менск — мая цямніца / з адзіночкаю, быццам гроб». Гэта радкі Ларысы Геніюш, якая знаходзілася там, дзе і вы, толькі ў 1948 годзе. Думаю, што вы чыталі яе ўспаміны. Што ў турме КДБ нагадвае пра тыя даўнія ўжо сталінскія часы?*

— Найперш сам будынак, які быў адбудаваны першым у пасьляваенным разбураным Менску. Наколькі я ведаю, ягоная рэканструкцыя не праводзілася. Магчыма, у адной з тых камэраў, дзе знаходзіліся мы зь Някляевым, сядзела і Ларыса Антонаўна. Дарэчы, яна «вярнулася» ў тую турму на канвэрце, выпушчаным «Белпоштай» да яе стагодзьдзя. Атрымліваючы лісты ў геніюшаўскіх канвэртах, я ўспамінаў, як улетку 2010 году мы ўсе сьвяткавалі юбілей паэткі. І для мяне гэта быў пэўны знак. Памятаю, у адным зь лістоў прачытаў такія словы: «Ну вось і ты апынуўся ў тым „гатэлі”, дзе бавілі час Якуб Колас,

Максім Танк, Валянцін Таўлай...». Мяне выклікаў выканаўца абавязкаў начальніка турмы і кажа: «Я памятаю, што Танк і Колас — гэта псэўданімы, а якія былі іх сапраўдныя прозьвішчы? Мы можам паглядзець іхныя справы». І тут я разгубіўся. Я патлумачыў палкоўніку, што ні Колас, ні Танк у гэтым будынку ніколі не сядзелі. Але я чамусьці выпусьціў з-пад увагі Ларысу Геніюш! І калі б я назваў тады яе прозьвішча, магчыма, адбыўся б цуд, і, спрабуючы ўзьдзейнічаць на вязьня Фядуту, палкоўнік дазволіў бы мне пагартаць турэмную справу Ларысы Геніюш. На жаль, гісторык літаратуры тады ўва мне прамаўчаў. І я пра тую нескарыстаную магчымасьць дагэтуль шкадую.

*12 красавіка 2016 г.*

**Як зьвяры, што блукаюць у пушчы, ад нараджэньня ведаюць сховы свае, як птушкі, што лётаюць у паветры, помняць гнёзды свае, як рыбы, што плаваюць у моры і ў рэках, чуюць віры свае, і як пчолы бароняць вульлі свае — гэтак і людзі да месца, дзе нарадзіліся і ўзгадаваны ў Бозе, вялікую ласку маюць.**

**Францішак Скарына**

## БЕЗ АЙЧЫНЫ НЯМА ЧАЛАВЕКА

**Vis-à-viS: Уладзімер Някляеў**

***Рэцэнзуючы напісаную ў турме кнігу Уладзімера Някляева «Лісты да Волі» (2011), аўтар гэтых радкоў зьдзіўляўся: «Уявіце сабе тузаніну турэмнага жыцьця: частыя і нечаканыя выклікі на допыт, вобшукі-шмоны ў камэры, цяснотцьце і халадэчу ў тых каменных мяшках, ізаляванасьць ад вонкавага сьвету. Але, нягледзячы на ўсё гэта, кожны дзень на паперы (ці ў памяці) натаваўся верш». Шчыра кажучы, я і сёньня не разумею, як могуць сумяшчацца-чаргавацца брутальна разганяныя вулічныя акцыі — і паэтычная гармонія, частыя казённыя***

***судзілішчы — і сьветлая мэлядычная проза, суткі-месяцы ў турме — і свабода ва ўспрыманьні і асэнсаваньні рэчаіснасьці. А што гэта сапраўды так — сьведчаць новыя кнігі пісьменьніка, якія з зайздроснай пэрыядычнасьцю прыходзяць да чытача, атрымліваючы прэстыжныя айчынныя і замежныя прэміі. Пра некаторыя зь іх мы і пагутарым з аўтарам.***

*— Уладзімер Пракопавіч, ваша апошняя па часе выданьня кніга «Толькі вершы» амаль цалкам складаецца зь сяброўскіх прысьвячэньняў. Каб столькі сяброў у семдзесят гадоў займець, што трэба рабіць?*

— Трэба проста хацець сябраваць. Я з маладосьці памятаю пачуцьцё цэхавасьці: вось мы, паэты, зьбіраемся ў сваім коле, у застольлі, на нейкай вечарыне ці ў вандроўку выбіраемся разам. Гэтае адчуваньне я пранёс праз усё жыцьцё, як мару. Я шмат якія праекты рабіў, каб спраўдзіць гэтае адчуваньне. Скажам, часопіс «Крыніца» таксама быў марай пра пісьменьніцкую еднасьць. На жаль, яна не зусім спраўдзілася.

*— «Не абрастай сябрамі — прададуць», — казаў народны паэт Пімен Панчанка будучаму народнаму паэту Рыгору Барадуліну. А вас часта сябры прадавалі?*

— Так, здрады здараліся. Але, пражыўшы столькі гадоў, я прыйшоў да высновы, што людзей трэба любіць, часам нават празь сілу. І не рабіць таго, за што яны цябе не любілі б. Гэта значыць не прадаваць іх ні ў чым — ні ў каханьні, ні ў сяброўстве, ні ў прафэсіі, ні ў працы. Здрада — самая

жудасная рэч, якую я ўжыцьці зьведаў і зь якой ніколі не зьміруся. Праўда, з гадамі пачынаеш паіншаму глядзець на некаторыя рэчы. Тыя людзі, якія лічаць, што яны табе ня здрадзілі, таксама маюць рацыю. Бо разыходжаньні нашыя адбываліся ня толькі зь іхнай, але і з маёй віны. Сёньня я шмат што зрабіў бы іначай, а галоўнае — цяпер я так не крыўдаваў бы.

— *Дык вы ўсім гатовыя даравацьранейшыя крыўды?*

— Ні ў якім разе, я ня ўсёдаравальнік. Якраз на сёньняшні дзень я займеў значна больш непрыяцеляў, чым раней. Проста гэтыя людзі стаяць на шляху да мары майго жыцьця — каб Беларусь стала беларускай. І я ніколі зь імі не зьміруся, як не зьміруся і з тымі, хто па натуры сваёй здраднік. Мне часта закідаюць: што ты ўсё з гэтымі сексотамі, стукачамі ў палітыцы высьвятляеш? У мяне зь дзяцінства нянавісьць да розных даносчыкаў. Усе нашы драмы сямейныя палягалі на тым, што на бацьку бясконца пісалі даносы. Праз тыя даносы яго выключалі з партыі, арыштоўвалі, і калі ён вяртаўся пасьля ўсіх высьвятленьняў дахаты, то злосьць спаганяў на сям'і — на маці, на мне. Бацька крычаў, страляў (у яго быў пісталет): «Гэтыя сукі, гэтыя сексоты, гэтыя стукачы!». Ува мне гэта засталося на ўсё жыцьцё. Я разумею, гэта адна з праяваў жыцьця, але я ўсё раблю дзеля таго, каб яе не было.

— *Сьветлай памяці Генадзь Бураўкін казаў, што пасьля сыходу Рыгора Барадуліна беларускі паэт № 1 — Някляеў. А вам самому хочацца быць першым?*

— Дык кожны паэт і ёсьць першым. Больш за тое, кожны чалавек ёсьць першым. Калі сышлі мае старэйшыя сябры, спачатку Барадулін, а за ім Бураўкін, мне проста невыносна было. Я начамі ня спаў, так усё балела, было адчуваньне, што я застаўся на гэтым сьвеце сірацінай. А пасьля я пачаў думаць, што яны, пражыўшы, зрабілі пэрсанальна для мяне — сяброўствам, вершамі, застольлямі нашымі. І мяне паступова пакінула адчуваньне страты, замест яго зьявілася адчуваньне ўдзячнасьці. З гэтым адчуваньнем я цяпер і жыву.

## «Спорт — відовішча, палітыка — відовішча, вось і паэзія мусіць быць відовішчнай»

*— У Беларусі практычна няма кніжнага рынку, як, скажам, у Расеі ці ва Ўкраіне. А значыць, літаратура ня корміць. Так ёсьць. Але так было і раней. Скажам, Моцарту і Баху ганарары за музыку плацілі ў тым ліку дровамі і півам. А вы чым хацелі б атрымліваць плату за свае творы?*

— Кожная праца павінна ацэньвацца, гэта натуральна. Праца інтэлектуальная — таксама. Але ў нашым грамадзтве існуе меркаваньне, што калі чалавек ляжыць на канапе з гусіным пёркам у руках (так уяўляюць паэта з XVIII стагодзьдзя), то ён нічога ня робіць і яму нічога за гэта ня трэба плаціць. Але ёсьць і іншыя прыклады. Скажам, Пушкін атрымліваў за кожны радок па залатым чырвонцу. За свае ганарары ён дроваў і піва мог купіць колькі заўгодна, па скон жыцьця мог тым півам сяброў частаваць. Сёньня беларускаму паэту наагул не выпадае гаварыць пра нейкі заробак. Прынамсі, я апошнім часам за свае кнігі і пу-

блікацыі ніякіх ганарараў ня меў. Да гэтага, між іншым, лёгка прызвычаіцца.

— *І робіцца дастаткова чытацкай удзячнасьці?*

— Дастаткова таго, што Бог яшчэ дае табе нешта напісаць. Дастаткова таго, што ёсьць магчымасьць гэта выдаваць. Дастаткова таго, што на сустрэчу з табой прыходзяць некалькі соцень тваіх чытачоў.

— *Каб прыцягнуць увагу да паэзіі, сёньня моладзь ладзіць розныя флэш-мобы, слэмы, яшчэ нешта — каб было відовішча. Гэта не прыніжае паэзію?*

— А чаму відовішча павінна прыніжаць паэзію? Сёньня безь відовішчаў нічога не абыходзіцца. Спорт — відовішча, палітыка — відовішча, вось і паэзія мусіць быць відовішчнай. Калі ты выпадаеш з агульнага кантэксту, цябе проста ніхто не заўважае. Таму я разумею моладзь. Навошта я ў дастаткова маладым узросьце папёрся ў Маскву і ўшчаміўся ў кагорту эстрадных паэтаў? Бо зразумеў, што кніжка выйшла — добра, але гэтага табе не хапае, гэта цябе не задавальняе. А вось паэтычныя чытаньні на стадыёне — гэта відовішча. Дзесяць тысячаў слухачоў, конная міліцыя, коні парай дыхаюць, хвастамі махаюць — гэта ж відовішча! А ты ідзеш — кум каралю паміж конскімі азадкамі. Так што я і слэмы прымаю, і сам на іх хаджу, праўда, удзелу ўжо не бяру.

— *Неяк госьцем «Вольнай студыі» быў выдатны латыскі паэт Улдыс Бэрзыньш. Мы зь ім потым доўга гутарылі, і мне запомніліся словы чалавека, які пераклаў на родную мову Біблію і Каран:*

*«Закончылася ўсё, засталіся толькі я і Бог». А вам такое адчуваньне знаёмае?*

— Знаёмае. Неяк я напісаў, што чалавек ёсьць рух Бога ў ім. Я напісаў так не таму, што гэта прыгожа выглядае, а таму, што я так адчуваю. І гэта непазьбежны шлях для кожнага чалавека. Сёньня, бадай, большасьць маіх сяброў прызнаецца мне ў тым, што яны між сабой сябруюць праз сілу. Раней я панічна баяўся такога стану. Памятаю, выдатны расейскі паэт Аляксандар Межыраў зьяжджаў у ЗША, і я спытаўся: «Што гэта вы надумалі зьехаць адсюль, дзе вас мільёны любяць і чытаюць? Там жа нічога падобнага ня будзе». І Межыраў адказаў: «А мне ўжо ўсё роўна». Мы ведаем прыклады з гісторыі, калі геніяльныя, вядомыя на ўвесь сьвет мастакі, літаратары, музыкі зьяжджалі на нейкія выспы, зьбягалі ад таго, што здавалася славай, а пасьля стала тлумам. Але ніколі не зразумее гэтага той, хто ў жыцьці тае славы хоць бы не паспрабаваў.

— *Вы ж паспрабавалі. На выспу зьбіраецеся?*

— Не, мая выспа — Беларусь. Вялікая выспа, і я зь яе на нейкую меншую зьяжджаць не зьбіраюся.

## «Толькі ў беларушчыне мы зможам уратавацца, застацца ў родзе сваім»

— *Разбураюцца помнікі архітэктуры, забываюцца героі, памірае ўсё, што жыве. Адзінае бясьсьмерце ўсякага народу — у ягонай мове. Можа быць, мы за сваю мову так змагаемся, што іншага бясьсьмерця ў нас няма?*

— Я б ня ставіў так пытаньне, што Беларусь — гэта толькі мова. Нельга адносіць да беларуш-

чыны толькі беларускамоўнае. Але змагацца за беларушчыну неабходна, мы мусім людзям даводзіць, што толькі ў беларушчыне яны змогуць уратавацца, застацца ў родзе сваім. Так застацца, каб нашчадкі некалі сказалі: «Вось наш бацька, дзед, прадзед зрабілі нешта, з чаго вырасла нашая сучаснасьць». Іхная сучаснасьць — нашая беларуская будучыня. І я раблю ўсё дзеля таго, каб яна была. Калі ў 2010 годзе праходзіла прэзыдэнцкая кампанія, у мяне на кожнай сустрэчы пыталіся: «А калі станеце прэзыдэнтам, вы будзеце змушаць нас гаварыць па-беларуску?» І я адказваў: «Не, змушаць я вас ня буду, страляць ня буду, але настойліва (слова «настойліва» прамаўлялася з адпаведнай інтанацыяй) прасіць вас быць беларусамі я абавязкова буду». І аднойчы адзін мужык устаў і сказаў: «Уладзімер Пракопавіч, вы слова *настойліва* прамаўляеце так, нібыта ў вас у руках пісталет».

*— Дзяржава і безь пісталета народ ад мовы адвучыць.*

— Ды надакучыла ўжо чуць ад прадстаўнікоў улады: «Мы будзем мацаваць нашую дзяржаву». Задушыліся б вы з вашай дзяржавай! Якая ў вас дзяржава?! Ёсьць Айчына! Вось што насамрэч ёсьць. Штó вашая дзяржава? Сёньня адна, заўтра другая. А бацькі — тыя ж, дзяды і прадзеды тыя ж, зямля тая, вада тая, нябёсы тыя ж, Бог той жа! І ўсё гэта — Айчына. А без Айчыны няма чалавека. На мой погляд, прадстаўнікі ўлады, якія не разумеюць, што такое Айчына, — ня людзі. Прызнацца, я доўгі час лічыў іх няшчаснымі, пазбаўленымі нечага ў дзяцінстве. А потым зра-

зумеў, што яны — проста ворагі, зь якімі трэба змагацца.

*— Паэт і нобэлеўскі ляўрэат Чэслаў Мілаш пісаў: «Вярнуўся з Тэхасу, чытаў там вершы. Нідзе так добра ня плацяць за вершы, як у Тэхасе». Вы сёлета выступалі зь вершамі і лекцыямі ў ЗША. Пра ганарары пытацца ня буду, але што хочуць пачуць сёньня на Захадзе ад беларускага паэта?*

— Сёлета я нібы ўпершыню пабываў у ЗША, хоць езьдзіў туды і раней. Раней было так: самалёт — гатэль — паўгадзіны пагаліцца — нейкі офіс Дзярждэпу — яшчэ нейкі офіс — зноў гатэль — прыём, і так тры дні. А на чацьвёрты — гуд бай, Амэрыка. Гэтым разам усё было іначай, і я ўразіўся той энэргетыкай, якая адчуваецца ў гэтай краіне. Усё рухаецца, усе расы — жоўтая, белая, чорная — нібы сплеценыя ў клубок, усё рухаецца ўніз-уверх, уніз-уверх, асабліва ў буйных мэгаполісах, скажам, у Нью-Ёрку. Горад гэты ўвесь вэртыкальны, ён прымушае цябе рухацца ўгору. Я выступаў у амэрыканскіх унівэрсытэтах і расказваў пра Купалу (перад гэтым папрасіўшы перакласьці яго вершы). Я расказваў пра Багдановіча, пра нашых геніяльных празаікаў — Кузьму Чорнага і Максіма Гарэцкага, расказваў пра Васіля Быкава. Я спрабаваў з дапамогай аднаго славіста паказаць амэрыканцам такую непаўторную зьяву, як Рыгор Барадулін. Доўга гэты працэс цягнуўся, але калі амэрыканцы дапялі, што дзівосная паэзія Барадуліна трымаецца на гуках і іх спляценьнях, то ў нейкі момант яны ўсталі і зладзілі авацыю. Калі мы самі адчуваць-

мем каштоўнасьць і вартасьць свайго беларускага жыцьця, тады нас зразумеюць і іншыя народы.

## «Я пражыў у Менску жыцьцё, і мне не хапала легенды пра яго»

*— Ваш раман «Аўтамат з газіроўкай з сыропам і без» атрымаў прэмію Гедройця. Верш ці апавяданьне могуць проста здарыцца. Іван Пташнікаў убачыў, як травінка праз асфальт прабілася, і напісаў апавяданьне-шэдэўр «Ільвы». Раман жа заўсёды мае нейкую звышзадачу. У вашым выпадку — якую?*

— Я пражыў у Менску жыцьцё, і мне не хапала легенды пра яго. Мне мала апісанай у «Слове пра паход Ігараў» бойкі на беразе Нямігі, пасьля якой — амаль тысячагодзьдзе пустэчы ў калектыўнай памяці. Мне патрэбная была легенда пра Менск. І я падумаў, што гэтай легендай можа быць маё юнацтва, што ў гэтую легенду ўвойдуць тыя людзі, якіх я ведаў і любіў у 60-я гады. Шыкоўныя, прыгожыя гады, бо гэта былі часы маладосьці. Але гады тыя былі адметныя і з гістарычнага гледзішча — час адлігі, калі савецкая краіна паспрабавала адвярнуцца ад сталінізму.

*— У рамане дзейнічаюць рэальныя людзі — пад сваімі імёнамі і мянушкамі, апісваюцца рэальныя падзеі, скажам, паэтычныя чытаньні каля сталічнага Тэатру юнага гледача. Дарэчы, ці былі яны санкцыянаваныя?*

— У тым уся і штуковіна і адметнасьць таго часу, што чытаньні тыя не былі нікім санкцыянаваныя. Дарэчы, нядаўна прыяджджаў у Менск маскоўскі выдавец Барыс Пастэрнак, які ў па-

чатку 60-х працаваў у менскім гаркаме камсамолу. І прызнаўся мне, што ён тады паспрабаваў фармалізаваць тыя стыхійныя выступы і ўнёс на паседжаньні гаркаму прапанову. Але яму сказалі: ні ў якім разе ня ўмешвайся, бо там ужо КДБ працуе. Там іх, вядома ж, было як насыпана... Але, як ні дзіўна, ніхто ня ўмешваўся і чытаньні адбываліся стыхійна. Дарэчы, у рамане амаль дакумэнтальна ўсё апісана. Мяне туды ўпершыню прывёў старэйшы сябра Віктар Ледзенеў, і вось там я пазнаёміўся з Кімам Хадзеевым, легендарнай постацьцю.

*— А чаму Хадзееў у рамане — Палкоўнік?*

— Проста ў яго была такая мянушка, гэта ня я прыдумаў. Кім Хадзееў — адзіны тагачасны паўнавартасны дысыдэнт, які сядзеў у дзьвюх турмах за савецкім часам. Ягоны ўплыў на мяне быў вельмі вялікі. Гэта ад Хадзеева я ўпершыню пачуў, што Савецкі Саюз — зусім ня казачная і не найлепшая ў сьвеце дзяржава, як мяне вучылі ў школе. І што Сталін і пазьнейшыя савецкія кіраўнікі — зусім не чараўнікі, а злачынцы. Дарэчы, першым разам пасадзілі Хадзеева за тое, што ён на камсамольскім сходзе ў 1949 годзе (пры жыцьці Сталіна!) устаў і сказаў: «Сталін ніякі не правадыр усіх народаў, гэта крыважэрны зьвер».

*— А колькі зьбіралася слухачоў на тых чытаньнях?*

— Гэта не была плошча Маякоўскага, як у Маскве. Іншым разам маглі прыйсьці 20 чалавек, а часам і 120.

*— Як доўга тыя чытаньні працягваліся?*

— Два леты як мінімум. Я на першыя чытаньні трапіў у жніўні 1962 году, калі прыехаў паступаць у Менскі тэхнікум сувязі.

*— У вашым рамане пад калянадай Тэатру юнага гледача чытае верш пра Спартака безыменны паэт, у якім пазнаецца Анатоль Вярцінскі. Але верш той датуецца 1967 годам.*

— Проста верш Вярцінскага пра Спартака вельмі добра лёг у стылістыку таго часу: «Спартак, Спартак! Героі ўсіх эпох! / Ці не такі быў лёс ваш у фінале? / Вас расьпіналі, калі ў Рыме спалі, / і білася жанчына каля ног». Інтанацыяй, вобразнай сыстэмай гэта абсалютна той час, таму я Анатоля Ільліча і паставіў на тыя прыступкі, апрануў яго па-мадняцку.

*— Разам зь Вярцінскім з тых прыступак выступае паэт, паводле апісаньня — Рыгор Барадулін. Але верша пра партыю, якая думае за нас, я ў яго не знайшоў. Ці наконт Барадуліна я памыліўся?*

— Не памыліўся. Барадулін — цэлая эпоха ў нашай літаратуры. Дык як я мог уявіць тыя чытаньні без Барадуліна? Я яму патэлефанаваў і спытаўся: «Рыгор, ты чытаў вершы ў 1962 годзе каля Тэатру юнага гледача?» Ён кажа: «Не, не чытаў». — «А хочаш прачытаць?» — «Як жа я прачытаю, гэта ж было 50 гадоў таму». І я яму прапанаваў напісаць верш, які б ён прачытаў у 1962-м пад тэатрам, калі быў студэнтам БДУ. Ён напісаў, і я яго паставіў з тым вершам на сцэну. Ён там нават уцякае, калі яго хочуць арыштаваць. Думаю, такія фантазіі дазволеныя ў літаратуры.

Пагатоў «Аўтамат з газіроўкай...» не дакумэнтальны раман.

— *Адзіны пісьменьнік, які дзейнічае ў рамане пад сваім прозьвішчам, — Уладзімер Караткевіч. Але ён узьнікае — і зьнікае. Мне як чытачу такога «Караткевіча мімаходзь» бракуе. У такой эпізадычнай ролі ці варта было яго ўвогуле ўводзіць у раман?*

— Тут я вымушаны прызнацца ў тым, у чым звычайна не прызнаюцца. Гэта, бадай, адзіная сюжэтная хіба ва ўсім рамане. Тлумачу, як яна ўзьнікла. Паводле задумы, галоўны герой павінен быў сядзець у турме. Але яго, пятнаццацігадовага, не павінны былі пасадзіць у 1962 годзе — за ўдзел у антысавецкай групоўцы Кіма Хадзеева. Ён мусіў сесьці пазьней, у 1973-м, калі ў Менску была раскрытая іншая групоўка — так званы акадэмічны асяродак». У гэты асяродак Караткевіч фармальна не ўваходзіў, але быў для яго чальцоў абсалютным аўтарытэтам. Павінна была ў рамане зьявіцца вось гэтая групоўка, і таму Караткевіч узьнік эпізадычна ў 1962 годзе, бо меўся зьявіцца і ў 1973–1974 гадах. Але калі я пачаў гэтую сюжэтную лінію разьвіваць, то ў мяне стала парушацца агульная кампазыцыя. У маім невялікім рамане і так пэрсанажаў вельмі шмат, а тут назьбіраўся нават не пляцкартны, а агульны пасажырскі вагон. І разабрацца ў тым вагоне, хто ёсьць хто, мне і самому стала складана. І тады я адмовіўся ад такога разьвіцьця сюжэту. Пагатоў у мяне зьявілася магчымасьць перакінуць масток у 2010 год, калі мой герой і сеў. Так жыцьцё разьмеркавала. Але адмовіцца ад Караткевіча я ня здолеў. Так што

ты слушна заўважыў, ён выглядае ў рамане ўсё ж выпадковым героем.

*— Адна з самых запамінальных сцэнаў у рамане — калі яго пэрсанажы трапляюць у Навінкі, у псыхіятрычную лякарню, і ладзяць там паседжаньне Палітбюро з Хрушчовым на чале... Адкуль у вас гэткае веданьне дэталяў жыцьця ў вар'ятні?*

— Сам я ў вар'ятню не трапляў, але ў мяне ёсьць сябры, якія там пабывалі. Я скарыстаўся іхным досьведам, у прыватнасьці досьведам аднаго з галоўных пэрсанажаў рамана, Віктара Леdзенева. Яго якраз і запіхнулі ў вар'ятню, як і яшчэ некалькі чалавек з той групоўкі Хадзеева. Кагосьці — прымусова, а нехта проста псыхалягічна ня вытрымаў перасьледу з боку спэцслужбаў. Так што было дастаткова людзей, якія мне маглі распавесьці пра ўсе дэталі.

*— Адзін мой сябра дужа любіць паэта Някляева і з гэтай прычыны прынцыпова не чытае вашай прозы. Як я яго ні ўгаворваю. А чым лірычны герой адрозьніваецца ад героя эпічнага?*

— Проза і паэзія — гэта ня проста розныя жанры, гэта розны спосаб жыцьця. Ня толькі твой знаёмы, але і мой блізкі сябра Генадзь Бураўкін доўга не прызнаваў Някляева-празаіка. Але ўсё ж з «Аўтамату з газіроўкай...» я яго наталіў. Ён напіўся вады з сыропам з 60-х, патэлефанаваў мне і сказаў: «Ну, Валодзя, я здаюся». Паэзія — гэта імпульс, магутны выкід энэргіі ў сьціснутым часе. Проза ніяк ня можа вось так акумулявацца ў адным энэргетычным згустку. Каб напісаць нешта вартае ў прозе, трэба ўвайсьці

ў яе цалкам, як у рэальнае жыцьцё. Трэба ня проста змушаць герояў рабіць тыя ці іншыя ўчынкі, але і прыслухоўвацца да таго, што яны кажуць, што яны хочуць рабіць.

*— Шолахаў прызнаваўся: «Пасылаў Грышку Мелехава ў Чырвоную армію — не ідзе».*

— Не ідзе — абсалютна так і ёсьць. У мяне ў рамане быў напісаны цэлы разьдзел пра тое, як галоўны герой, пятнаццацігадовы хлопчык, спазнае фізычнае каханьне. Яны едуць зь дзяўчынай у Крым, і там у пячоры... Але той хлопчык мне сказаў: «Не. Гэта ты сам можаш так зрабіць. Дык ідзі і рабі, але ў іншым месцы і зь іншым чалавекам». І я выкінуў той разьдзел.

## «Большасьць маскоўскіх пісьменьнікаў разводзіла рукамі: «Какая независимость, извините...»

— Нядаўна адно з маскоўскіх выдавецтваў заснавала адмысловую сэрыю «Раман для Эўропы», г. зн. для выданьня твораў, якія пішуцца адразу з разьлікам на замежнага чытача. Думаю, «Аўтамат з газіроўкай з сыропам і без» зацікавіў бы і замежных чытачоў. А вось каго яшчэ зь беларускіх пісьменьнікаў вы параіце для чытаньня ва ўсім сьвеце?

— Таго ж Караткевіча. Падзеі, што адбываюцца ў замку Альшанскім, ці прывіды коней над балотам у «Дзікім паляваньні караля Стаха», ці героі раману «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — яны ж цікавыя ня толькі беларусам. «Дзікае паляваньне...», па-мойму, і ў Віетнаме пераклалі. З маленькай дэталі можа быць зробленая вялікая

літаратура. І зь вялікай падзеі можа выйсьці, як у той кузьні, калі ты сунеш гарачы прэнт у ваду, толькі пшык. Уся вялікая літаратура напісаная пра невялічкія мястэчкі. Вазьміце ці беларускую, ці расейскую, ці амэрыканскую літаратуру. Фолкнэр ці Апдайк — гэта што? Амэрыка маленькіх гарадоў і Амэрыка сем'яў. Калі ты сапраўдны пісьменьнік, ты мусіш стварыць з прыватнай гісторыі тое, што будзе цікава людзям ва ўсім сьвеце. Мне Валянцін Акудовіч нядаўна, уздыхнуўшы, сказаў: «Раман твой, вядома, харошы, але шкада, што ён толькі пра Менск, і прачытаюць яго толькі тыя, чыё жыцьцё зьвязанае зь Менскам». Я яму адказаў: «Дык у мяне ў адным Менску мільёна паўтара патэнцыйных чытачоў, гэта ня так і мала!»

*— Да вашай кнігі «Окно» (пераклады на расейскую) прадмову напісаў Яўгеній Еўтушэнка. Дык вось, ён там са шкадаваньнем заўважыў: ну, ня выйшла ў Някляева супрацоўніцтва зь беларускай уладай, дык у тым вінаватыя беларускія нацыяналісты… Калі б гэта хто іншы напісаў, я б не зьдзівіўся, але Еўтушэнка…*

— Тая прадмова была напісаная задоўга да таго, як я пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году трапіў у турму. Магчыма, сёньня Еўтушэнка напісаў бы па-іншаму. Але тут насамрэч існуе праблема. Памятаю, як з Васілём Быкавым мы езьдзілі ў Маскву. Тады, пасьля 1991 году, ішло станаўленьне Беларусі, і нам трэба было, каб нехта падтрымаў нас, сказаў: малайцы, беларусы, будуйце сваю дзяржаву, у вас гэта атрымліваецца. І ўсё ў нас добра і гожа ў той Маскве выходзіла — да той пары, пакуль мы не пачыналі размову пра

беларускую незалежнасьць. Тут нашае паразуменьне з расейскімі пісьменьнікамі заканчвалася. Можа, пару чалавек нас разумелі. Прыкладам, Віктар Някрасаў нас падтрымліваў, я помню размову зь ім у Цэнтральным доме літаратара. І рэч ня ў тым, што ён сябра Быкава, таксама ваяваў на фронце. Проста Някрасаў разумеў: існуе беларускі народ, які мае сваю мову і культуру. А большасьць маскоўскіх пісьменьнікаў разводзіла рукамі і казала нам з Быкавым: «Какая независимость, извините! Что вам ещё нужно? Всё у вас и так есть».

Памятаю, я напісаў тады ў паэме «Русский поезд»: «Чем фигово тебе в русском стане? / Та же кровь, тот же дух, та же речь. / И серебряный есть подстаканник — / пить культурно и пальцы не жечь». Так што вельмі даўняя гэтая праблема. Прычым ня толькі ў адносінах з Усходам, але і ў адносінах з Захадам. І вось калі мы вырашым гэтую праблему, калі ніхто ня будзе зьдзіўляцца з таго, што ў нас ёсьць прэтэнзіі на раўнапраўнае існаваньне ў сьвеце — з усімі астатнімі, тады мы і станем сапраўдным народам.

— *Мне прыгадваецца, як аднойчы расейская журналістка пасьля чарговага прэс-туру па Беларусі запыталася ў Аляксандра Лукашэнкі: «А дзе ж вашыя пісьменьнікі?». І ён адказаў, што нікога вартага ня бачыць. Ня бачыць ён — значыць, ня бачыць і ўся ўладная вэртыкаль. Скажыце, як доўга нацыянальная літаратура можа існаваць у такім не прызнаваным уладай статусе?*

— Колькі заўгодна. Для літаратуры гэта ня ёсьць вялікай пагрозай. Пагрозай гэта ёсьць хут-

чэй для грамадзтва, калі заўгодна — для народу. Я праехаў усю Беларусь і ведаю, што нашыя людзі захавалі галоўнае — духоўнасьць, якую літаратура якраз і падмацоўвае. У свой час я наладзіў сустрэчу Лукашэнкі з радай тады яшчэ адзінага Саюзу пісьменьнікаў, стараючыся неяк яго ўсё ж схіліць да беларускасьці. Я думаў: ён жа беларус, ён не зваліўся на нас зь Месяца, не з Кітаю да нас прыехаў. Дык адкуль у яго такая нянавісьць да ўсяго беларускага? Думаў, нехта яму мазгі ня так управіў, нешта скасіў, трэба паспрабаваць выправіць, адкасіць. Нічога ня выйшла. Гуляўся ён са мною, усякія абяцанкі-цацанкі былі зь яго боку. Лукашэнка сёньня нейкага расейскага папсавіка будзе віншаваць з днём народзінаў, цалаваць і абдымаць, а да таго, каб у Беларусі зьявілася вуліца Васіля Быкава, ён ня можа апусьціцца. Быкаў для Лукашэнкі таксама ніякі не пісьменьнік, бо выступаў супраць яго. Сёньня ў Беларусі ёсьць вельмі якасная літаратура — і паэзія, і проза. Улада проста яе ня бачыць. Для Лукашэнкі ўсе пісьменьнікі, апроч некаторых з прыўладнага саюзу, якія вылізваюць яму адно месца, гэта нацыяналісты і ворагі a priori. У ім была і застаецца пагарда чалавека неадукаванага да ўсяго, што ёсьць сапраўдная культура. Вось чаму ўладу гэтую трэба мяняць, а ня толькі з прычынаў эканамічных.

*7 ліпеня 2016 г.*

**Знойдзеш, чытаючы, у гэтай кнізе аповеды пра пакуты грэшных людзей, пра верад, якім уражваліся ліхадзеі, пра помсту, што спасьцігала злачынцаў, і пра загубу, што апаноўвала акаянцаў.**

**Францішак Скарына**

## ЗЬ БЕЛАРУСКАЙ РАТУШЫ ЭЎРОПА БЛІЖЭЙ

**Vis-à-viS: Алег Трусаў**

***Стагодзьдзямі нашыя геаграфічныя суседзі глядзелі на Беларусь як на «крэсы ўсходнія» ці «северо-западный край». Адпаведна і мы паглядвалі ў бок суседніх сталіцаў дзе зь непадробным, а дзе з удаваным піетэтам. Гэткае становішча адбівалася на ўсіх сфэрах дзейнасьці нашых папярэднікаў. Згадайма, напрыклад, савецкія падручнікі па беларускай гісторыі, дзе нашая мінуўшчына сузіралася пераважна з чужой званіцы. Ня кажучы ўжо пра эўрапейскую ці ўсясьветную гісторыю, якая пісалася для нас, як правіла, замежнымі адмыслоўцамі. Заганную традыцыю вырашыў парушыць доктар гістарычных навук Алег Трусаў, аўтар «Гісторыі сярэднявечнай Эўропы V–XV стагодзьдзяў», якая нядаўна выйшла ў сьвет.***

*— Спадар Алег, роўна дваццаць гадоў таму ў Менску вялікім накладам (40 000 асобнікаў) была выдадзеная «Гісторыя Эўропы», напісаная дванаццацьцю адмыслоўцамі з дванаццаці заходнеэўрапейскіх краінаў. Чым ад той «Гісторыі…» адрозьніваецца ваша?*

— Па-першае, мовай. Тая «Гісторыя…» была перакладзеная ўсё ж на расейскую. Па-другое, тыя дванаццаць аўтараў пачыналі ад каменнага веку і заканчвалі XX стагодзьдзем. Я не замахнуўся на ўсю гісторыю, апісаў толькі Сярэднявечча — зь V па XV стагодзьдзе. Па-трэцяе (і гэта галоўнае), мая «Гісторыя…» напісаная зь беларускага гледзішча, гэта погляд менавіта беларуса на гісторыю Сярэднявечча. Чаму Сярэднявечча? Бо адтуль вытокі нашай нацыі, нашай мовы і нашага народу. Пад канец Сярэднявечча наша Вялікае Княства Літоўскае было адной з самых магутных і вялікіх дзяржаваў Эўропы. Якраз у гэты час узьнікла Гішпанія, скончылася 100-гадовая вайна паміж Францыяй і Англіяй, а ВКЛ дасягнула свайго росквіту — пасьля князя Вітаўта. Падкрэсьлю, гэтая дзяржава была пераважна беларускай. Хоць там прысутнічалі літоўскія і ўкраінскія элемэнты.

## «Каралеўская дынастыя Ягелёнаў — на 100% беларуская»

*— У тым «заходнеэўрапейскім» выкладзе ўсе землі на ўсход ад Польшчы называліся «русскими княжествами». Там ні слова не гаварылася ні пра Бітву пад Воршай, ні пра Францішка Скарыну…*

*Чаму ўсё ж мы такія непрыкметныя для замежных гісторыкаў?*

— Таму што беларускай вэрсіі гісторыі Эўропы фактычна не існавала. Я зрабіў першую спробу. Такія гісторыі ўжо напісалі палякі, латышы, літоўцы, расейцы, цяпер пішуць украінцы. Вядома ж, кожная нацыя піша эўрапейскую гісторыю, гледзячы са сваёй званіцы. А мы, знаходзячыся ў цэнтры Эўропы, з розных прычынаў такой гісторыі не напісалі. У нас былі нейкія фрагмэнты — беларусы ў складзе ВКЛ, у складзе Рэчы Паспалітай, у складзе Расейскай імпэрыі.

— *З гэтага яшчэ Мікалай Улашчык падсьмейваўся: як гэта — беларусы ў складзе ВКЛ? Атрымлівалася — беларусы ў складзе беларусаў...*

— Вось-вось. І таму прыйшоў час напісаць такую кнігу. Скажам, я паказаў гісторыю славянаў зь беларускага гледзішча. Таму што ёсьць польская вэрсія славянства, ёсьць баўгарская, ёсьць расейская (самая страшная — так званы панславізм, які склаўся ў XIX стагодзьдзі). Я напісаў беларускую вэрсію. Бо менавіта нашае Палесьсе — праславянская тэрыторыя, бо першыя славяне зьявіліся на тэрыторыі Беларусі яшчэ ў IV–V стагодзьдзях. І мы не павінны адкідваць сваю ролю ў разьвіцьці славянства. А потым жа ў ВКЛ на старабеларускай мове статуты выдавалі, пісьмовых помнікаў на кірыліцы тут найбольш было, у суседніх краінах нашмат менш, асабліва ў Масковіі. У сваёй кнізе я паказаў Масковію як улус Залатой Арды, які плаціў манголам даніну, дзе князі змагаліся за атрыманьне мангольскага ярлыка на княжаньне.

*— Вы кажаце пра беларусацэнтрычнасьць вашай кнігі. Але як можа быць выказаная тая беларусацэнтрычнасьць у нарысах, скажам, пра Ганзэйскі саюз гарадоў ці гусіцкія войны ў Чэхіі?*

— Элемэнтарна. Ганза з Беларусьсю пасябравала яшчэ ў XIII стагодзьдзі. Была ж дамова паміж Ганзай і Полацкам, Віцебскам і Смаленскам — славутыя граматы, выдадзеныя Ганнай Харашкевіч у Маскве. Дарэчы, граматы тыя напісаныя на старабеларускай мове, там нават дзеканьне і цеканьне ёсьць. Больш за тое, ганзэйцы ўжо ў пачатку XIII стагодзьдзя мелі свой касьцёл сьвятога Пятра ў Полацку. А другі ганзэйскі касьцёл быў у Смаленску, археолягі знайшлі яго падмуркі. Што тычыцца Чэхіі, дык тут сувязі яшчэ большыя. Аднаго з нашых вялікіх князёў нават запрашалі на пасаду караля Чэхіі. І наш атрад (3 000 жаўнераў) ваяваў поплеч з гусітамі. Талер чэскі быў нашай валютай. Так што мы маем самыя непасрэдныя сувязі з усёй Заходняй Эўропай — ад Італіі да Нарвэгіі.

*— Некаторыя з вашых сьцьвярджэньняў могуць не спадабацца нашым суседзям. Той жа «ўлус Залатой Арды» ці, напрыклад, тое, што славутая каралеўская дынастыя Ягелёнаў была на 100% беларускай.*

— А гэта ня я прыдумаў. Пры напісаньні кнігі я карыстаўся крыніцамі розных народаў. Скажам, пішучы пра ВКЛ, я спасылаўся на прэзэнтацыйную «Гісторыю Літвы» ад літоўскага МЗС (яе пераклаў Вінцук Вячорка) і расказаў вэрсію літоўцаў на паходжаньне ВКЛ. Паралельна падаў і вэрсію Міколы Ермаловіча. І чытач можа параўнаць

гісторыю Літвы, напісаную чатырма літоўскімі гісторыкамі, і гісторыю Ермаловіча. Я на баку Ермаловіча, але я ж ня ўтойваю і літоўскай вэрсіі. Што тычыцца Ягайлавічаў, то ў палякаў у гэтай тэме штук дваццаць дысэртацый абаронена. Праўда, яны пішуць, што Ягелёны паходзяць ад «рускай княжны Сонькі». А я пішу, што рускія і ёсьць беларусы, а сёньняшнія расейцы — ніякія ня рускія. Гэта ўсё ў маёй кнізе ёсьць. І «руская княжна Сонька» — гэта праваслаўная беларуская княжна. А хто маці Ягайлы? Цьвярская княжна. Вось вам ужо 75%. А яшчэ 25% знойдзем, калі паглядзім на нашчадкаў Гедыміна — яны ўсе жаніліся з праваслаўнымі. А на якой мове гаварыў Ягайла? На старабеларускай. Палякі дасьледавалі гэта яшчэ ў часы Пілсудзкага, бо літоўцы ўсюды пісалі, што Ягайла карыстаўся літоўскай мовай. Палякі паднялі ўсе дакумэнты — ніводнага літоўскага слова Ягайлы не знайшлі! Больш за тое, пры польскім каралеўскім двары на той час усе гаварылі па-нямецку. Бо кароль Казімер прывёў у Кракаў габрэяў і немцаў. І я пішу, што дзякуючы Ягайлу спынілася германізацыя польскай шляхты. Там такія ж працэсы былі, як у Чэхіі пры гусітах, і толькі Ягайлавічы іх спынілі.

— *У сваёй кнізе вы разглядаеце і рэлігійныя пытаньні. Ня так даўно Канстантынопальскі патрыярх заявіў, што Украінская праваслаўная царква мае права перайсьці ў яго юрысдыкцыю. А Беларуская праваслаўная царква такое права мае?*

— Вядома ж, мае. Пра самастойнасьць царквы дбалі яшчэ вялікія князі літоўскія. Нездарма была створаная літоўская мітраполія, сталіцай якой

быў спачатку Наваградак, потым Вільня. Маскоўскі патрыярх Кірыл любіць гаварыць пра Беларусь як кананічную тэрыторыю РПЦ. Пра якую «кананічную тэрыторыю» ідзе гаворка, калі Масковія аддзялілася (за вялікі хабар!) ад Канстантынопалю толькі ў другой палове XVI стагодзьдзя?! У XV стагодзьдзі і маскоўскія землі, і беларускія падпарадкоўваліся Канстантынопальскаму патрыярху. Самае цікавае, што адным зь першых уніятаў быў адзін з маскоўскіх мітрапалітаў — ён падпісаў Флярэнтыйскую унію. І калі прыехаў у Маскву, яго там ледзь не забілі.

### «Хутка мы мецьмем справу не з хрысьціянамі, а з мусульманамі, бо іх колькасьць у Расеі расьце ў геамэтрычнай прагрэсіі»

*— Вы настойваеце на тым, што сёньняшняя Беларусь зьяўляецца неад'емнай часткай усходнеславянскай хрысьціянскай цывілізацыі. Але насамрэч мы ўваходзім у Эўразійскі эканамічны саюз, актыўна супрацоўнічаем з Кітаем, ня кажучы ўжо пра Расею. Дык якім пальцам якой нагі стаім мы ў той усходнеславянскай цывілізацыі?*

— Мы стаім там, дзе стаялі яшчэ ў часы ВКЛ. Беларусаў у нашай дзяржаве больш за 80%, астатнія таксама славяне — расейцы, украінцы. А неславянаў у Беларусі — 1 на 30 (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 1 на 24; у Расеі — 1 на 5). Нягледзячы на войны, сем дзесяцігодзьдзяў Савецкага Саюзу, сталінскія рэпрэсіі, усё роўна нашым падмуркам засталіся Полацкае княства і Вялікае Княства Літоўскае. І цяпер ідзе адраджэньне гэтага падмурку — мы аднаўляем нашыя замкі,

цэрквы, ратушы і г.д. А з ратушы калі глядзець — Эўропа адназначна бліжэй. Усе намаганьні зацягнуць нас у Эўразійскі саюз канчаюцца тым, што Лукашэнка ўжо намерыўся адазваць адтуль беларускіх чыноўнікаў... Сёньня ў пуцінскай Расеі эўразійскі кірунак разьвіцьця яўна перамагае. І мы павінны дакладна ведаць, што расейцы нам ніякія не браты і не сябры. Хутка мы ўвогуле будзем мець справу нават не з хрысьціянамі, а з мусульманамі, бо іх колькасьць у Расейскай Фэдэрацыі расьце ў геамэтрычнай прагрэсіі. Згодна з апошнім перапісам, расейцамі ў Маскве запісаўся аж 31% жыхароў. Расея сёньня нагадвае Рым часоў заняпаду. Там ідуць такія працэсы, што, калі іх не спыніць, будзе тое ж, што ў Косаве. Косава было спрадвечнай сэрбскай тэрыторыяй, пакуль туды не запрасілі альбанцаў. У альбанскіх сем'ях было па дзесяць дзяцей, а ў сербаў па адным. І сэрбы страцілі Косава.

*— Думаю, што ваша «Гісторыя сярэднявечнай Эўропы» моцна паўплывае на тых студэнтаў, якія яе прачытаюць. А якія кнігі ў свой час на вас аказалі сьветапоглядны ўплыў?*

— Адна з такіх кніг — «Нарысы беларускага мастацтва» Міколы Шчакаціхіна, які вызначыў, што было беларускае барока, была беларуская готыка і што мы эўрапейцы. Дарэчы, ягоная кніга ў БССР знаходзілася пад забаронай і чытаць яе я езьдзіў у віленскія бібліятэкі. А калі стаў дэпутатам, зрабіў усё, каб перавыдаць «Нарысы…» масавым накладам. Яшчэ адна такая кніга — «Живописная Россия» (том прысьвечаны Беларусі) Адама Кіркора. Яшчэ — «Геаграфія Беларусі» Ар-

кадзя Смоліча, якую я фактычна і паклаў у аснову сваёй «Гісторыі…». А яшчэ «Белорусы в Москве XVII века» Лаўрэнція Абэцэдарскага. Там паказана, наколькі мы ў той час былі вышэй за маскоўцаў, колькі мы ў Маскве зрабілі эўрапейскіх справаў. Дарэчы, я ўдзячны Абэцадарскаму, бо гэта ён назваў мяне ўпершыню «мсьціслаўскім недасекам», бо я з Мсьціслава. І калі ён пра гэта даведаўся, то спытаўся: «Ты быў у мсьціслаўскім касьцёле?» «Быў», — кажу. «А Трубяцкую разьню там бачыў?» — «Не». — «Ну і казёл!». А я ж у той касьцёл хадзіў бутэлькі здаваць, але ніколі не падняў галавы, каб пабачыць, што там намалявана. Пасьля той гутаркі я і пачаў сур'ёзна цікавіцца гісторыяй. Помню, Абэцадарскі казаў: «Такія археолягі, як ты, закапаюць маю навуку». Так і атрымалася — мы яе закапалі.

## «Алексіевіч мусіць вывучацца на ўроках беларускай літаратуры, ніякім чынам не расейскай»

*— Нядаўна кіраванае вамі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны зьвярнулася ў Міністэрства адукацыі з прапановай уключыць у навучальныя праграмы па беларускай літаратуры творы Сьвятланы Алексіевіч. А перад Міністэрствам інфармацыі вы хадайнічаеце, каб усе кнігі Сьвятланы Алексіевіч выдаць у дзяржаўных выдавецтвах. І што вам адказалі з абодвух міністэрстваў?*

— Мы прапануем ня проста выдаць. Неабходна перакласьці тыя кнігі, якія яшчэ па-беларуску не выдаваліся. Мы хочам, каб нашы людзі

прачыталі ўсе творы Алексіевіч на роднай мове. Зь Міністэрства інфармацыі мы атрымалі адказ, што нашая прапанова будзе разгледжаная, калі пісьменьніца дасьць згоду на перавыданьне сваіх кніг у беларускім дзяржаўным выдавецтве. А мы пад гэта яшчэ некалькі тысячаў подпісаў зьбяром. Думаю, людзі ахвотна падпішуцца пад зваротам у Міністэрства інфармацыі: хочам прачытаць на беларускай мове кнігі нобэлеўскай ляўрэаткі.

*— У сувязі з вашай ідэяй выдаць Алексіевіч пабеларуску мне прыгадалася, як яшчэ пры жыцьці Васіля Быкава выдавецтва «Мастацкая літаратура» зьбіралася выпусьціць у сьвет збор твораў пісьменьніка ў 8 тамах. Нават рэклямны буклет выпусьцілі і раздавалі яго на Франкфурцкім кніжным кірмашы. А потым аказалася, што гэта была ўсяго толькі прапагандысцкая акцыя, ніхто той збор выдаваць не зьбіраўся.*

— А я вам пра іншыя выпадкі нагадаю. Памятаеце, як пачынаўся збор твораў Уладзімера Караткевіча ў 25 тамах? Спачатку выдавецтва абвясьціла, а потым сказала: няма грошай. І толькі калі грамадзянская супольнасьць, ТБМ у тым ліку, пачало адмысловую кампанію, Караткевіч пачаў выходзіць. Ужо, калі не памыляюся, тамоў пятнаццаць выйшла. Ды і справа з выданьнем Быкава тады не заглухла. Знайшоўся Аляксандар Казулін, які адшукаў фінансы, і таксама, па-мойму, тамоў дзесяць выйшла. А нядаўна мы зьвярнуліся ў Міністэрства сувязі з прапановай ушанаваць мастака Фердынанда Рушчыца, і на днях зьявіўся канвэрт зь яго партрэтам, дзе не напісана, што гэта польскі мастак. Такім чынам,

мы і Рушчыца вярнулі ў нашу нацыянальную скарбонку. І падобных фактаў я магу назваць шмат. Зноў жа кажу: усё залежыць ад колькасьці грамадзянаў. Калі толькі Скобла ці Трусаў будуць гэтым займацца, то, хутчэй за ўсё, справа скончыцца чыноўніцкай адпіскай. Мы будзем ініцыяваць перавыданьні Алексіевіч, а калі дзяржаўныя выдавецтвы не захочуць, дык гэта зробяць прыватныя. І выдадуць, і прададуць, і прыбытак атрымаюць. Якая нам розьніца, хто будзе выдаваць? Галоўнае, каб выйшла. Не захоча «Мастацкая літаратура», то «Галіяфы» выдадуць ці яшчэ якое выдавецтва.

— *А якія творы Сьвятланы Алексіевіч, на вашу думку, трэба вывучаць у беларускіх школах? З улікам таго, што яны разьлічаныя ўсё ж на дарослага чытача.*

— Трэба вывучаць усе шэсьць кніг. Зразумела, у старшых клясах. Трэба, каб спачатку вучні прачыталі і засвоілі «На імпэрыялістычнай вайне» Максіма Гарэцкага і ваенныя аповесьці Васіля Быкава. За Гарэцкім і Быкавым Алексіевіч становіцца ў адзін шэраг. А што, творы Дастаеўскага лёгкія? Альбо «Ціхі Дон» — простае чытаньне? Іншая справа, што школьнікам трэба добра гісторыю выкладаць. Бо я, напрыклад, калі ўпершыню ў 9-й клясе прачытаў першы том «Ціхага Дону», то ня мог зразумець, чаго расейцы пайшлі ў Прусію. У мяне ўзьнікла маса пытаньняў. У школе пра гэта не казалі, Першую ўсясьветную вайну мы наогул не вывучалі… Таму Алексіевіч у школе — гэта нармальна. Як гэта, каб творы нобэлеўскага ляўрэата не вывучалі ў школе? Дарэчы,

Міністэрства адукацыі фармальна з намі пагадзілася. Больш за тое, Алексіевіч мусіць вывучацца на ўроках беларускай літаратуры, ніякім чынам не расейскай.

*— І адразу ўзьнікае лягічнае пытаньне: а чаму б на ўроках беларускай літаратуры не вывучаць тады і выдатную паэзію магілёўца Ігара Шклярэўскага ці, крый Божа, прозу менчука Чаргінца?*

— Я зыходжу з таго, што многія народы прынцыпова перакладаюць на родную мову творы сваіх землякоў. Тады яны становяцца часткай іхнай культуры. Возьмем, напрыклад, Адама Міцкевіча. Па-польску нашы дзеці яго не прачытаюць. Калі ж мы бяром «Дзяды» ці «Пана Тадэвуша», таленавіта перакладзеныя на беларускую мову, мы адразу адчуваем, што Міцкевіч — гэта наш чалавек. Мова заўжды вяртае чалавека ў тое месца, адкуль ён выйшаў. Я магу прыгадаць і свайго земляка Аляксандра Твардоўскага. Мы зь ім наогул з аднаго Мсьціслаўскага раёну, проста мяжа нашу зямлю разрэзала. Твардоўскі бліскуча ведаў беларускую мову і называў сябе беларусам.

*— То і Твардоўскага трэба вывучаць поруч з Барадуліным?*

— Так, і Твардоўскага. Але ў беларускамоўнай вэрсіі.

*— Калі ў праграму па беларускай літаратуры ўвесьці Міцкевіча з Ажэшкай ды Твардоўскага са Шклярэўскім, то там не застанецца гадзінаў на Караткевіча, Мележа ці таго ж Быкава.*

— Па-рознаму можна вывучаць. Можна ўсё ж знайсьці час на тых творцаў, якія зьвязаныя зь Бе-

ларусьсю, нашых землякоў. І калі б Шклярэўскага з Твардоўскім на ўроку хаця б згадалі і далі прачытаць нейкія творы, то вучні зразумелі б, што гэта не чужыя нам людзі. Разумееце, калі аўтар піша пра Беларусь, ня будучы беларусам і карэнным жыхаром, то ён нашых рэаліяў ніяк ня зможа апісаць. А калі ён нарадзіўся тут, то ўсё роўна, на якой мове ён бы ні пісаў, у яго творах будзе беларуская прырода, як у Міцкевіча, будуць нашы замкі, наш фальклёр, як у Яна Чачота ў «Песьнях ліцьвінаў». І калі мы такому аўтару дадаём фармальную, але важную прыкмету — мову, ён стоадсоткава становіцца нашым. Напрыклад, Мікола Гусоўскі. Пісаў ён на лаціне, а мы яго своечасова пераклалі на беларускую мову, і ён стаў нашым.

*— Падчас першай прэс-канфэрэнцыі ў статусе набілянткі Сьвятлана Алексіевіч сказала, што з разуменьнем паставілася б да дзяржаўнай узнагароды (гаварылася, здаецца, пра магчымае наданьне ёй званьня Героя Беларусі). Як вы лічыце, чаму дзяржава не пайшла на гэта? А пайшла на звыклую для яе канфрантацыю?*

— А чаму Хрушчоў пайшоў на канфрантацыю з Пастэрнакам? Усё паўтараецца ў гісторыі. Каб кіраўнік нашай дзяржавы быў трошачкі больш адукаваным, ён бы тут жа падпісаў указ аб узнагароджаньні Алексіевіч. І стаўленьне да яго на Захадзе палепшала б, і крэдыт хутчэй бы атрымаў. Але ўсё паўтараецца, бо яны з Хрушчовым мэнтальна блізкія. Быццам нешта добрае робяць, але ня вельмі добрае.

### «Добра, што лукашэнкаўская ўлада ня выкарыстала нашы сымбалі, а прыдумала свае — зь імі яна і адыдзе ў нябыт»

*— Нядаўна я быў у вашым родным Магілёве і не паверыў сваім вачам — на франтоне аблвыканкаму да гэтай пары вісіць герб БССР. Дваццаць пяць гадоў! Прыгадваецца, што і на менскім Доме ўраду бээсэсэраўскі герб доўгі час пад Пагоняй вісеў.*

— Гэта была якраз мая прапанова — не зьбіваць савецкі герб, а закрыць яго Пагоняй. Каб зьбіць яго, трэба было чатыры паверхі ламаць! А Дом ураду — помнік архітэктуры эпохі канструктывізму, помнік гісторыі.

*— Памятаю, людзі ўсё ж абураліся, што Пагоню начапілі зьверху на стары герб.*

— Ведаеце, ёсьць правілы. Я рэстаўратар, я спэцыяліст у гісторыі. Нельга ламаць спадчыну. Бальшавікі пачыналі з таго, што зламалі помнікі ўсім царам і паставілі свае. Эўропа не ламала помнікаў каралям. Нельга так проста, як бальшавікі, усё ламаць і ўзрываць. Герб БССР на франтоне Дома ўраду — ня проста гіпсавая цацка, гэта элемэнт савецкай архітэктуры, які стаіць на дзяржаўным уліку.

*— Як усё ж сталася, што ў 1991 годзе камуністычная большасьць у Вярхоўным Савеце прагаласавала за нацыянальныя сымбалі? Хто на яе найбольш паўплываў?*

— Асноўным быў выступ Георгія Таразевіча. Ён тады займаў высокую пасаду намесьніка старшыні прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР. Мне даручылі правесьці зь ім перамовы. Я паехаў у Маскву, знайшоў Таразевіча, завёз яму ўсе

патрэбныя матэрыялы і на просьбу парлямэнцкай апазыцыі папрасіў яго прыехаць у Менск і выступіць у падтрымку. Таразевіч быў чалавекам адукаваным, і ён пагадзіўся. Шчыра кажучы, я тады ня вельмі верыў, што ён набярэцца мужнасьці прыехаць у Менск з такой мэтай. Але ён прыехаў і выступіў, і яго выступ быў пераканаўчым. Бо калі ўжо Таразевіч за новую сымболіку... Выступ прэзыдэнта Акадэміі навук Уладзімера Платонава таксама адыграў значную ролю, бо ён зачытаў меркаваньне Інстытуту гісторыі. Вось два базавыя выступы, якія пераканалі дзьве трацiны дэпутатаў.

— *А зь нябазавых чые выступы можаце прыгадаць?*

— Адзін з такіх можна ўспомніць з гумарам. Я думаю, што і ён быў асноўным, так бы мовіць, апошняй кропляй. На тую хвіліну мы пару разоў ужо галасавалі, не хапала 2–3–5 галасоў. Шушкевіч зноў ставіць на галасаваньне. І вось выступае адзін з вэтэранаў (а я на трыбуне стаю): «Алег Анатолевіч, давайце мы з вамі дамовімся. Хай будзе гэты ваш конь, хай будзе гэты рыцар, але давайце замест крыжа зьмесьцім на гербе нашу родную чырвоную пяцікутную зорку!». Я тады ня вытрымаў і кажу: «Ведаеце, толькі нячыстая сіла крыжа баіцца». Усе засьмяяліся, асабліва сьмяяўся мітрапаліт Філарэт. Пасьля гэтага сымболіка ўсё ж набрала патрэбную колькасьць галасоў. Дарэчы, усе тры дэпутаты-сьвятары на чале зь Філарэтам за сымболіку прагаласавалі, за што я ім удзячны па сёньняшні дзень.

*— Помніцца, у той вечар, 19 верасьня 1991 году, мы з журналістам Іванам Ждановічам вялі маладзевую праграму «Крок» на Беларускім тэлебачаньні. І да нас у жывы эфір прыехалі Станіслаў Шушкевіч, Ніл Гілевіч і Дзьмітры Булахаў. У студыі тады гаварылася, што новыя герб і сьцяг будуць урачыста і публічна ўзьнятыя над Домам ураду. А атрымалася, што сьцяг нехта ўзьняў таемна, ці ня ноччу. Для чаго гэта было зроблена?*

— Калі я прыйшоў на працу ў Вярхоўны Савет, сьцяг ужо вісеў. Урачыста ці не ўрачыста яго ўзьнялі — для мяне было ня так істотна. Галоўнае, бела-чырвона-белы сьцяг — на Доме ўраду! Па тым, як цяжка праходзіла сымболіка, было зразумела, што дэпутацкая большасьць не захоча аніякіх урачыстасьцяў. І прэм’ер-міністар Кебіч не захацеў. Я больш скажу: Кебіч зрабіў усё, каб герб Пагоня не павесілі на Дом ураду. Ён быў даўно зроблены, і дзіркі ўжо былі прасьвідраваныя, але павесілі яго толькі падчас прэзыдэнцкіх выбараў, праз тры гады. На франтоне Дома ўраду Пагоня зьявілася толькі летам 1994 году — дзякуючы мне. Але гэта асобная гісторыя.

*— Вы ж, здаецца, узначальвалі Камісію па забесьпячэньні адзінай палітыкі выкарыстаньня дзяржаўных сымбаляў. Чаму ж не дапільнавалі, каб Пагоня своечасова заняла вызначанае ёй месца?*

— Па-першае, вельмі доўга рабілі эталён. Потым доўга адлівалі. Па-другое, Кебіч цягнуў час, і мы нічога не маглі зрабіць. То грошай не было, то нам казалі, што новы герб вельмі цяжка павесіць. Дарэчы, калі ў Менск у 1941 годзе прыйшлі немцы, яны проста зрабілі свастыку з тканіны

і завесілі савецкі герб. Бо архітэктар Лангбард так спраектаваў будынак, што герб на ім — архітэктурная дэталь. Там маналіт.

*— Пры сучасных тэхналёгіях маналіт лёгка зразаецца.*

— Зрэзаць можна, але я і тады, і сёньня супраць гэтага. Дом ураду — гэта помнік, а помнікі трэба захоўваць. Дарэчы, згаданы вамі Магілёўскі аблвыканкам — копія менскага Дому ўраду.

*— Нідзе ў постсавецкіх рэспубліках нацыянальную сымболіку не адмянялі. Чаму так сталася ў нас? Увогуле, Лукашэнка і бела-чырвона-белы сьцяг — рэчы сумяшчальныя?*

— Чаму ж не, ён жа прысягаў пад гэтым сьцягам. І сумяшчаліся яны да лета 1995-га, амаль год. А потым яму захацелася выкарыстаць у сваіх мэтах настальгію савецкіх людзей. І ў Расеі ж многія хацелі вярнуць савецкую сымболіку. Каб ня Ельцын на танку, яна была б вернутая і там. Але сёньня як гісторык я лічу так: добра, што лукашэнкаўская ўлада ня выкарыстала нашы сымбалі, а прыдумала свае. Яна з гэтымі сымбалямі і адыдзе ў нябыт. Вось мне ўспамінаецца, калі мы ў Вярхоўным Савеце абʼявілі галадоўку, нас зьбівалі міліцыянты ў форме з Пагоняй, і гэта было асабліва балюча…

## «Трэба не прымушаць уладу размаўляць па-беларуску, а гаварыць на ёй самім»

*— Многія дзяржаўныя чыноўнікі па-свойму разумеюць статус беларускай мовы. Яны лічаць: раз расейская мова таксама дзяржаўная, дык можна ўсё справаводзтва весьці на ёй. Як пры-*

*мусіць іх з большай павагай ставіцца да мовы тытульнай нацыі?*

— Праблема ў тым, што пасьля рэфэрэндуму 1998 году ў Закон аб мовах былі ўнесеныя адпаведныя папраўкі, якія дазваляюць любому чыноўніку не карыстацца беларускай мовай. Але сучасны Закон аб мовах дазваляе і нам з вамі расейскай не карыстацца! Гэта палка з двума канцамі. І нам трэба гэта ўлічваць. Што я, напрыклад, і раблю. І каб нашае грамадзтва было больш адукаваным, больш патрыятычным, то нават з гэтым законам чыноўнікаў можна было б паставіць у вельмі няпростую сытуацыю. Напрыклад, калі мне даюць на пошце ці ў міліцыі расейскамоўны блянк, я яго аўтаматычна запаўняю па-беларуску, аддаю назад… і прыехалі. Ніхто мяне не прымусіць перапісаць яго па-расейску. І каб усе грамадзяне так рабілі, то ў нас і з гэтым законам сытуацыя істотна зьмянілася б. Усё залежыць ад мэнтальнасьці народу, які хоча, каб нехта іншы за яго ўсё зрабіў. Што сёньня гавораць сацыёлягі? 54% насельніцтва хочуць, каб гучала беларуская мова, 30–40% — каб была адна мова дзяржаўная, беларуская. Але пераходзіць на гэтую мову не сьпяшаюцца, бо начальства на ёй не гаворыць. Нядаўна да нас у ТБМ прыйшоў чалавек і сказаў, што мы павінны беларусізаваць усе ўнівэрсытэты, а пакуль не беларусізуем, ён сваё дзіця ў беларускую школу не аддасьць. Вось такі мэнталітэт. Я лічу так: ня трэба прымушаць уладу размаўляць па-беларуску, трэба размаўляць на роднай мове самім. Я, напрыклад, нікому і нідзе беларускую мову не навязваю. Проста ста-

раюся сам па-расейску ні пры якіх абставінах не размаўляць.

— *Мова — таямнічая субстанцыя і праяўляе сябе часам неспадзявана. Вось адзін з маіх улюбёных пісьменьнікаў Антон Чэхаў. Выдатны стыліст, тонкі знаўца расейскай мовы. І раптам гэтае перадсьмяротнае: «Ich sterbe». Чаму? Адкуль?*

— Таму што нямецкая мова сядзела ў ягонай падсьвядомасьці. Невыпадкова Чэхаву стварылі ў Нямеччыне тры цудоўныя музэі. Былі выпадкі, калі чалавек пасьля аўтакатастрофы пачынаў гаварыць на мове тысячагадовай даўнасьці. Адбываецца нешта, як збой у кампутары, і людзі пачынаюць размаўляць, напрыклад, на арамейскай мове. Таму самае галоўнае, каб чалавек па-беларуску думаў. А чаму ён ня думае на мове? Таму што інфармацыю бярэ на іншых мовах. Я вельмі паважаю тых, хто перакладае ўсясьветную клясыку на беларускую мову. Пакуль мы ўсю клясыку не перакладзём, мы ніколі ня зробім нашую мову эўрапейскай і дзяржаўнай. Калі чалавек большую масу інфармацыі бярэ на чужой мове, гэта ўсё роўна ў свой час спрацуе. Чужая мова «стрэліць» у любой сытуацыі. Як у выпадку з Чэхавым. Ды і я ні з пушчы ні з поля магу нешта сказаць па-польску ці па-расейску. Значыць, гэты блёк інфармацыі засвоены мною на гэтых мовах, і ён прачнуўся. І яшчэ — вельмі важна рабіць з ворагаў сяброў. А для гэтага трэба не навязваць сваю мову, але заўжды гэтай мовай карыстацца, пры любых абставінах.

*11 кастрычніка 2016 г.*

**Іншае права — язычніцкае: здабываньне зброяй земляў чужых, заснаваньне мястэчак і гарадоў; а калі вайна — дык яе аб'ява сваім варагоўцам.**

**Францішак Скарына**

## ЧЫРВОНАЕ — ЛЮБОЎ, А ЧОРНАЕ — ЖУРБА

**Vis-à-viS: Дзьмітро Паўлычка**

***Няма ўкраінца, які ня ведаў бы песьні «Два колеры». Яна гучыць і на афіцыйных канцэртах у выкананьні тытуляваных сьпевакоў, і ў любой бяседзе, дзе сьпяваюць хто голасам, а хто душой. Аднойчы я пабачыў «Два колеры» вышытымі на ручніку — на сьцяне ва ўкраінскай хаце, поруч з «Заповітом» Шаўчэнкі. Чуў, як падцягвалі «Червоне — то любов, а чорне — то журба» мае суайчыньнікі на прыёме ва ўкраінскай амбасадзе, дзе славуты паэт і Герой Украіны чытаў санэты Купалы ў сваім перакладзе. Назіраў, як незадоўга перад вайной «Двума колерамі» распачаўся вялікі галя-канцэрт на Шаўчэнкаўскім сьвяце ў Данецку. Таму***

***сёлета ў Кіеве, седзячы ў кватэры Дзьмітра Паўлычкі на Крашчаціку, я ня ведаў, з чаго — зь песьні ці з вайны — распачаць нашую гутарку…***

*— Пане Дзьмітро, украінскія СМІ гавораць пра антытэрарыстычную апэрацыю (АТА) на ўсходзе краіны, расейскія — пра грамадзянскую вайну. А на ваш погляд, з кім ваюе сёньня ўкраінская армія?*

— Наша армія змагаецца супраць захопніка, супраць ворага, супраць пуцінскай Расеі, якая кінула на нас зброю, забрала ў нас незаконна, парушыўшы ўсе міжнародныя пагадненьні, Крым, які спакон веку быў украінскім. Бо яшчэ ў XVII стагодзьдзі на крымскай тэрыторыі жыло больш украінцаў, чым татараў. Парадокс, але, праходзячы праз гэтую вайну, дзякуючы Пуціну, мы сталі аб'яднанай нацыяй. Мы аб'ядналіся з расейскамоўнай Украінай.

*— Дык вам трэба падзячны ліст Пуціну паслаць.*

— А такі ліст ёсьць. У мяне верш ёсьць, дзе я дзякую Пуціну за ўсё, што ён зрабіў; за тое, што цяпер ня толькі ва Ўкраіне, але і паўсюль у сьвеце ня любяць расейскую мову. Менавіта дзякуючы Пуціну яна стала носьбітам імпэрыі, агрэсіі, носьбітам антыэўрапейскага духу.

*— На вашу думку, дзе была памылка ўкраінскага кіраўніцтва, што трэба было зрабіць, каб захаваць тэрытарыяльную цэласнасьць краіны?*

— Памылка была на самым пачатку, калі мы абвясьцілі незалежнасьць Украіны. Я тады ўзначальваў Камітэт замежных спраў Вярхоўнай Рады і зьвярнуўся да Краўчука, першага нашага прэз-

ыдэнта, і да іншых тагачасных лідараў. Я прапанаваў запрасіць на жыхарства ў Крым украінцаў з Эстоніі, Латвіі, Літвы і Беларусі. І яны пераехалі б, бо ў гэтых краінах холадна, а ў Крыме выдатнае надвор'е, урадлівыя землі і мора цёплае. Але мне адказалі: «Вы хочаце рэзка настроіць Расею супраць Украіны? Мы ня будзем гэтага рабіць, мы будзем ісьці спакойна». І гэта была вялікая памылка! А яшчэ ў 1992 годзе я з дазволу Краўчука езьдзіў да генэральнага сакратара NATO Манфрэда Вэрнэра і размаўляў зь ім пра ўступленьне Ўкраіны ў NATO. Я бачыў, што Польшча неадкладна туды ўступіла, а потым ужо ў Эўразьвяз. І мы таксама павінны былі гэта зрабіць. Нашыя заходнія суседзі — вугорцы, румыны, чэхі, славакі — пайшлі ў NATO, і нам трэба было да іх прычапіцца, і нас, я перакананы, прынялі б. Бо тады Расея была дэзарыентаваная страшэнным ударам — упала чырвоная імпэрыя, і ў Крамлі ня ведалі, што ім рабіць. Вось гэтыя палітычныя памылкі і прывялі да таго, што ў нас лёгка забралі Крым. Калі б Крым быў населены ўкраінцамі, калі б там у дастатковай колькасьці было ўкраінскіх вайскоўцаў, усё было б інакай.

### «Як толькі Ўкраіна здасца, імпэрыя паўстане зноў, і тады ня будзе жыцьця ні нам, ні беларусам, ні літоўцам»

*— Масква і яе падапечны Данбас цьвердзяць, што моўная праблема таксама спрычынілася да канфлікту на ўсходзе. Можа, і сапраўды палітыка Кіева ў моўным пытаньні мусіла быць больш гнуткай?*

— Мы ўкраінскую мову нікому не навязвалі. Да канфлікту ва Ўкраіне было 57 тысяч школаў з расейскай мовай навучаньня. 57 тысяч! У Данбасе былі ўнівэрсытэты, дзе ўсё выкладаньне вялося па-расейску. Так што ня ў мове справа. Пытаньне Ўкраіны вырашаецца сёньня не ў Маскве, а ў Вашынгтоне, у спадара Трампа. Калі прэзыдэнт ЗША абдымецца з Пуціным і прапануе: «Скарачі атамную зброю, а я табе Ўкраіну аддам», будзе вялікая вайна. Украінская нацыя сёньня ўжо ня тая, што была, мы ўжо ўмеем ваяваць. Чаму сёньня пуцінскія танкі стаяць на памежжы з Украінай? Яны чакаюць дазволу з Амэрыкі. Але калі Амэрыка дасьць такі дазвол, яна страціць усё. Расея хоча заваяваць ня толькі Ўкраіну, яна хоча забраць усю Эўропу — ажно па Гібралтар (гэта максымум), ці ўсе краіны па Дунай — увесь былы сацыялістычны лягер (гэта мінімум). Сёй-той з эўрапейскіх палітыкаў ужо згодны аддаць усю Украіну, абы толькі мір быў. І ў нас ужо ўзьнімаюць такое пытаньне. Надзея Саўчанка, якой я і ўсе ўкраінцы былі зачараваныя... Калі яна выйшла з расейскай турмы, на яе грудзях ляжаў трызубец, але гэты трызубец ёй прышыла Масква, каб яна нас дурыла. І вось яна цяпер кажа, што Крым трэба аддаць. І наша ўлада маўчыць, бо ня ведае, што рабіць далей. А Масква працуе.

*— А калі ня будзе падтрымкі звонку, пра якую вы казалі, Украіна выстаіць?*

— Мы выстаім. Мы ўжо выстаялі. Наша задача — і далей стаяць, і тады Расейская імпэрыя не адродзіцца. Але як толькі Ўкраіна здасца, імпэрыя паўстане зноў, і тады ня будзе жыцьця ні

нам, ні беларусам, ні літоўцам — нікому. Але калі б і наступіла такая чорная ноч, калі б прыехалі танкі і акупавалі ўсю Ўкраіну, тая ноч ня будзе доўгай. У нас ужо былі такія ночы. Мы жывём не адно стагодзьдзе, Украіна жыве тысячу гадоў. Мы мелі сваю дзяржаву з часоў Кіеўскай Русі, мы мелі казацкую дзяржаву з войскам — Запароскую Сеч. Між іншым, казакі Багдана Хмяльніцкага ваявалі і ў Францыі — на баку французаў. Украіна як нацыя, як дзяржава, як народ, як культура — незьнішчальная.

І тут яшчэ адзін момант. Калі ўсясьветная супольнасьць дазволіць Расеі ўзяць Украіну, то падрасейская Ўкраіна будзе дапамагаць і мацаваць імпэрыю, як тое ўжо было раней. І калі Ўкраіна дапамагала, то імпэрыя ўсё забірала. Мы звыклі на нешта абапірацца, на некага спадзявацца. Але сёньня мы павінны спадзявацца толькі на сябе. І мы не павінны адступіць, мы не павінны пагаджацца на ўмовы Масквы. Мы павінны стаяць на сваім, нашыя тэрыторыі павінны быць нам вернутыя, мяжа на ўсходзе павінна быць адноўленая. А ўсход Ўкраіны зможа размаўляць па-расейску, як тое і раней было. Але ўкраінская мова павінна быць адзінай дзяржаўнай. Толькі пры такіх варунках мы захаваем дзяржаву.

*— Як выглядае, Расея спрабуе адабраць ва ўкраінцаў іх старажытную гісторыю. Згадайма экранізацыю «Тараса Бульбы» ці нядаўні фільм пра князя Ўладзімера, які ў тым фільме паказаны вікінгам. Гэтак і Тараса Шаўчэнку можна залічыць у расейскія пісьменьнікі, паколькі прозу ён пісаў пераважна па-расейску.*

— Дык даўно залічылі! Памятаю, за мяжой у савецкія часы былі такія крамы «Расейская кніга» — у Нью-Ёрку, Парыжы і г.д. Там Тарас Рыгоравіч праходзіў як расейскі пісьменьнік. Ніколі Расея не прызнавала яго ўкраінскім. Шаўчэнку савецкі рэжым цярпеў. На ягонае пахаваньне ў 1861 годзе прыйшлі Дастаеўскі і Тургенеў, уся вялікая расейская літаратура схілялася перад ім. І бальшавіцкая рэвалюцыя ў 1917-м у вялікай ступені была інсьпіраваная духам Шаўчэнкі, праўда, ён не ўяўляў, якой пачварнай яна можа быць. Шаўчэнка быў антыімпэрскі паэт, і ён валіў імпэрыю. Нездарма Іван Франко сказаў, што Шаўчэнка вызваляў Расейскую імпэрыю ад царызму, маючы сілу адзін — як дзесяць армій. І гэта праўда. І Шаўчэнку немагчыма зьнішчыць ці забраць, як той Крым. Шаўчэнка да гэтай пары ў Маскве і Пецярбурзе стаіць, і расейцы ня ведаюць, што рабіць: ці кветкі ўскладаць, ці зьнімаць яго.

*— Сёньня Расея — гэта паказваюць сацыялягічныя апытаньні — патрабуе цьвёрдай рукі. Калі гэтая рука ва ўладзе ўмацуецца, чаго чакаць усім нам?*

— Пагроза такая ёсьць. Расея як была цёмнай, цёмнай і засталася. І па-ранейшаму лічыць, што мае нейкую вызначаную звыш місію. Памятаеце, яшчэ Дастаеўскі пісаў, што Стамбул — расейскі горад. Дарэчы, гэта быў пісьменьнік-філёзаф, які фактычна прышчапляў расейцам фашысцкія настроі. Але гэтая цемра ўрэшце павінна рассеяцца. Таму што сёньняшні сьвет паяднаны тэлебачаньнем і інтэрнэтам. Ня можа Беларусь, як

яна ні намагаецца, быць і ў цемры, і на сьвятле. Ваш прэзыдэнт вельмі хітры. Ён хоча, каб яго любілі і Польшча, і Захад, і Пуцін. І гэта ў яго часам атрымліваецца. Але Лукашэнка ўжо зрабіў вялікае зло — практычна вывеў беларускую мову зь дзяржаўнай сфэры карыстаньня.

*— Па маіх назіраньнях, градус нянавісьці да Расеі ў сёньняшняй Украіне дужа высокі. Гэта надоўга?*

— Мы расейцаў перамагаць не зьбіраемся. Мы павінны шанаваць расейскі народ за тое, што ён перажыў крывавыя рэжымы Івана Жахлівага, Пятра І, Сталіна (самі расейцы прызнаюць іх крывавымі). І гэты народ ніколі ня зьнікне. Але ён павінен мець над сабой іншую ўладу, якая будзе дбаць найперш пра сваіх людзей, пра кожны правінцыйны горад, пра ўсю сваю зямлю. А ня будзе шнырыць прагнымі вачыма па чужых землях, ваяваць у Сырыі, у Афрыцы, у Аўганістане ці на Кубе. Расея ўвесь час хацела жыць не сваім жыцьцём, імкнулася загрэбці чужое. Гэты час ужо канчаецца. Павінен скончыцца.

*— У беларускай мэдыйнай прасторы Ўкраіна сёньня прысутнічае прыкметна — у сувязі з падзеямі на Данбасе. А як часта Беларусь прыцягвае ўвагу ўкраінцаў і зь якіх нагодаў?*

— Пра Беларусь я ўспамінаю ледзь не штодня, калі думаю пра нашыя праблемы. Мы ваюем з Расеяй, а беларуская ўлада даўно з Масквой у нейкіх хаўрусах. А сёньня, як ніколі, Украіне патрэбная беларуская дапамога. Я нядаўна быў ва Ужгарадзе, у так званым Славянскім унівэрсытэце, які заснаваны пры падтрымцы Расеі. Я паглядзеў

там музэй, прайшоў па ўсіх катэдрах, пабачыў паляністыку, баўгарыстыку, там вывучаюць сэрбскую, харвацкую, славенскую, чэскую, славацкую мовы... Пытаюся, а дзе тут у вас беларускае аддзяленьне? Няма, кажуць... І гэта пры тым, што ва Ужгарадзе існуе шматлікая і актыўная беларуская суполка. Я пытаюся ў выкладнікаў: як жа ў вашым унівэрсытэце можа ня быць Беларусі?! Вы мне паказваеце, як абразы на сьценах, партрэты ўсіх славянскіх паэтаў. А дзе беларускія паэты? Мне сорамна, што на тэрыторыі маёй краіны існуе такі «славянскі ўнівэрсытэт». Я адчуваю сорам і за тое, што ў нас няма помніка Янку Купалу. Я напісаў пра гэта ўкраінскаму прэзыдэнту з просьбай дапамагчы, дамовіцца з прэзыдэнтам Беларусі і зрабіць так: беларусы ставяць помнік у Менску гетману Піліпу Ворліку (ён родам зь Меншчыны), а мы ставім помнік Францішку Скарыну ў Кіеве. Але нічога зрабіць нам не ўдалося.

## «Расейская мова нясе імпэрыю, на ёй сёньня, як і ў 1968 годзе, размаўляюць танкі»

*— У Беларусі дзьве дзяржаўныя мовы. І нярэдка ў афіцыйных СМІ можна пачуць, што і Ўкраіне не зашкодзіла б двумоўе. Наколькі ведаю, і ў вас такія думкі выказваюцца, нават у Вярхоўнай Радзе.*

— Я баюся гэтага найбольш і думаю, што гэтага баіцца нават той, хто прапануе двумоўе. Вы разумееце, сёньня расейская мова ва Ўкраіне фактычна займае дамінантнае месца. Яна не пераследуецца, яна ўсюды пашыраная. Дык навошта другая дзяржаўная мова ва Ўкраіне? А я вам скажу, для чаго. Для таго, каб зьнішчыць Украіну.

Бо як толькі ва Ўкраіне будзе ўведзеная другая дзяржаўная мова, у нас адразу адбудзецца раскол на расейскамоўнае і ўкраінскамоўнае насельніцтва. Калі другой дзяржаўнай стане расейская мова, якая па сваёй прыродзе агрэсіўная, ніякага паралельнага ўжываньня ня будзе. А ня будзе ўкраінскай мовы — ня будзе і ўкраінскай нацыі, ня будзе і ўкраінскай дзяржавы. Калі, ня дай Божа, расейская мова набудзе ў нас статус другой дзяржаўнай, я таксама вазьму ў рукі зброю! Хоць мне ўжо ідзе восемдзесят восьмы год. Я лепш памру, я не хачу жыць ва Ўкраіне, дзе будзе панаваць расейская імпэрская мова. Гэтая мова не зьяўляецца звычайнай мовай, яна не дае магчымасьці выйсьці на ўсясьветную арэну. Мне польская мова, ангельская, беларуская мова адкрываюць вокны ў душы іншых народаў, а расейская ніякага акна не адкрывае. Расейская мова нясе імпэрыю, гэтай мовай размаўляе армія, гэтай мовай размаўляюць танкі, якія рваліся ў Чэхаславакію ў 1968 годзе. Расейскія танкі мрояць пра гэта, ім хочацца яшчэ паезьдзіць па Эўропе. Але яны ўсе размаўляюць на расейскай мове. Таму расейская мова — гэта сьмерць Украіны.

*— Вы, як і ўкраінскія жаўнеры, гатовыя ўзяцца за зброю. Але хіба ня ёсьць зброяй паэта слова?*

— Не, ня ёсьць. Мы так прывыклі гаварыць, гэта наша даўняя ўлюбёная мэтафара. Але бяда ўся ў тым, што ні Купала, ні Шаўчэнка, ні Пушкін, ніхто з паэтаў ня змог спыніць арміі, якія ішлі адна на другую. Ніякім словам я сёньня не магу спыніць вайну ў Данбасе.

*— Я цытаваў гэтыя радкі ўсім знаёмым украінцам, працытую і вам. Іх аўтар — Уладзімер Сасюра, ён зьвяртаецца да Ўкраіны так: «У галаве тваёй — макуха, / хіба ты можаш жыць сама, / расейска-польская ты шлюха, / маларасейская турма!»*. Ці мае права паэт так гаварыць са сваёй краінай?*

— Мае права. І Сасюра тут ня быў адзіным, вялікі Яўген Маланюк пісаў: «Цябе б канём татарскім гнаці, праклята бранка стэпава». І далей — ты курва, шлюха і прастытутка... Гэта адчайны крык нашых паэтаў. Разумееце, калі я кажу пра зброю, я ведаю, што я не адзін такі. І калі ў нас у Вярхоўнай Радзе знойдзецца 300 прадажных дэпутатаў, якія прагаласуюць за другую дзяржаўную мову, то нічога тады не застанецца, і тады ўжо нікога не стрымаеш.

*— Але ж гэта грамадзянская вайна. Гэта ж самае страшнае, што можа быць.*

— Вы правільна думаеце, я таксама так думаю. Але наша слабасьць заўжды пачынаецца з таго, што мы баімся крайнасьцяў, мы заўжды шукаем кампраміс: маўляў, зброя толькі кроў пускае і г.д. Я гэта ўсё ведаю. Але я вам 1000 разоў гатовы паўтарыць, што ёсьць у гісторыі такія хвіліны, калі ня ўсё вырашае хітрая дыпляматыя. Зразумейце, калі б палякі і беларусы не паўставалі ў XIX стагодзьдзі двойчы — у 1830-м і ў 1863-м — не было б сёньня Польшчы і Беларусі. І не было б самастойнай Украіны, калі б мой старэйшы брат Пятро не загінуў у гестапа, калі б мае сябры не

* Пераклад В. Жуковіча.

загінулі. Вы ведаеце, была 300-тысячная ўкраінская Паўстанцкая армія — яна не ў Сыбіры палягла, а тут, у лясных баях, у бункерах хлопцы падрываліся... Я гавару эмацыйна, але я хачу, каб вы маю думку зразумелі: ёсьць час дыпляматычны, ёсьць час пошуку кампрамісаў нават з ворагам. Але ёсьць час, калі адступаць немагчыма.

*— Вы шмат каго зь беларускіх паэтаў пераклалі на ўкраінскую. Гэтыя пераклады займаюць цэлы том у вашым нядаўна выдадзеным дзесяцітамовіку. А хто з нашых творцаў вам найбліжэй?*

— Яшчэ з часоў, калі я жыў у Львове, прыгадваю свае сустрэчы з Аркадзем Куляшовым. Максім Танк — выдатны паэт, але ён мяне расчароўваў сваімі выступамі на ўсесаюзных зьездах у Маскве, ужо так угінаўся... Дарэчы, на адным з такіх зьездаў я пазнаёміўся з Васілём Быкавым. Мне сказалі, што Быкаў піша свае творы па-расейску, а потым сам перакладае на беларускую мову. Я наважыўся, падышоў, далікатна спытаўся і пачуў: «Дзьмітро, гэта няпраўда». Потым мы сядзелі побач, слухалі прамовы, і я адчуў, што каля мяне сядзіць вялікі беларускі патрыёт. Калі ён пры Лукашэнку выехаў зь Беларусі і нейкі час жыў у Празе, я знайшоў яго там, і мы доўга размаўлялі. А калі ў 2009 годзе я быў у Беларусі, то папрасіў сваіх сяброў Генадзя Бураўкіна і Вячаслава Рагойшу, каб звазілі мяне на магілу Быкава. Паглядзеўшы на той камень, я тады напісаў верш-экспромт: «На магіле Васіля Быкава — / камень зь белаю жылкаю, / няйначай бліскавіца застыла ў ім, / ударыўшы зь неба. / Я дакрануўся, а яна пячэ. / То ня зь неба, а скрозь камень агонь

вялікага беларускага болю цячэ, / з сэрца зямлі, дзе Васіль Быкаў спачывае. / Беларусь, тваё сэрца / нават пад каменем не ўмірае, / а б'ецца ў руку маю, б'ецца ў маё плячо».

— *Многія пісьменьнікі ў сёньняшняй Беларусі занесеныя ўладай у чорныя сьпісы. Што вы ім можаце пажадаць?*

— Гэта вялікі гонар — быць у тых сьпісках. Я пажадаю ім аднаго — трымацца! Ведаю, што ў апале былі мае сябры, якіх ужо няма з намі, — Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін. Ведаю, што сёньня ў апазыцыі Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законьнікаў, Уладзімер Някляеў… Гэта творцы, на якіх будуць маліцца наступныя пакаленьні, бо ніхто ня будзе маліцца на тых прадажных беларускіх пісьменьнікаў, якія сёньня служаць лукашэнкаўскаму рэжыму. Дарэчы, у вас у Беларусі вельмі шмат украінцаў, якія знаходзяцца пры ўладзе, асабліва ў Магілёве. Я быў там, калі адкрывалі помнік Шаўчэнку. Са мною яны па-ўкраінску размаўлялі. Я кажу ім, забыўшыся на ўсю дыпляматыю: «Сволачы, чаму вы не гаворыце па-беларуску?». А яны ў адказ: «У нас так не прынята». І ўсё ж Беларусь ніколі ня будзе цалкам зрусіфікаваная, бо ёсьць шмат беларусаў, якія трымаюцца свайго. Я люблю слухаць беларускае Радыё Свабода, я люблю слухаць вашых творцаў, звычайных людзей з вуліцы. Нацыянальная дзяржава і для Беларусі, і для Ўкраіны павінна стаць прыярытэтам. І тады мы разам станем часткай Эўропы, паасобку ў нас нічога ня выйдзе.

## «Чырвоны і чорны — гэта ж колеры сьцягу УПА, савецкая намэнклятура гэтага ня ведала і сьпявала»

*— Адна турыстычная кампанія склала мапу, дзе замест назваў краінаў — папулярныя песьні. У выпадку з Украінай на той мапе прадказальна апынуліся вашыя «Два колеры». Я чуў, што гэтая песьня дапамагла вам атрымаць званьне Героя Ўкраіны. Гэта праўда?*

— Было так. Наш другі прэзыдэнт Леанід Кучма яшчэ ў юнацтве пачуў «Два колеры», і песьня яму дужа спадабалася. Ён, дарэчы, родам зь сяла на мяжы зь Беларусьсю, дзе спакон веку гучалі ўкраінскія песьні. Няма адукаванага беларуса, які б ня ведаў украінскіх песьняў. Дык вось, калі Кучма стаў прэзыдэнтам і калі да яго прыходзілі на прыём нашыя дэмакраты, ён браў гітару і сьпяваў «Два колеры». Усім, вядома ж, вельмі падабалася. А я выступаў супраць Кучмы, і неаднойчы. На 75-гадовы юбілей была мая вечарына ў Опэрным тэатры. Мае сябры прыйшлі да Кучмы і сказалі: «Сёньня ў Паўлычкі юбілей. Дайце яму Героя, ён заслужыў, вы ж яго песьню сьпяваеце». Кучма спачатку адмаўляўся, а потым пагадзіўся і падпісаў указ. Але, ведаеце, песьняй «Два колеры» я ўсіх падмануў. Чырвоны і чорны — гэта ж колеры сьцягу УПА. Савецкая намэнклятура гэтага ня ведала і сьпявала. А сёньня чырвоны і чорны — гэта наш сымбаль і сьцяг на вайне супраць Расеі. Ня толькі жоўта-блакітны, але і чырвона-чорны.

*— Вы сказалі, што ўсе адукаваныя беларусы ведаюць украінскія песьні. А вы беларускія ведаеце?*

— Ведаю, і нямала. Я люблю сьпяваць «Ой хацела ж мяне маці ды за першага аддаці…» Я люблю дэклямаваць Янку Купалу па-беларуску, вершы іншых беларускіх паэтаў, асабліва Рыгора Барадуліна. Думаю, што мы, украінцы, павінны сярод усіх славянаў найбольш шанаваць беларусаў. Бо Беларусь найбольш пацярпела, бо беларускую мову найбольш зьняважылі — самі кіраўнікі найвышэйшага рангу не размаўляюць на роднай мове! Гэта ж нонсэнс. Але я веру: беларуская мова будзе сапраўды дзяржаўнай, я яшчэ дачакаюся гэтага.

*1 лютага 2017 г.*

**Калі ж займае твой розум і вабіць твой позірк зьвяздарства, у гэтай кнізе знойдзеш багата сьведчаньняў і назіраньняў, як стаяла сонца на месцы адным нерухома і не магла настаць ноч.**

**Францішак Скарына**

## ІМЯ СКАРЫНЫ НАПІША СОНЦА

**Vis-à-viS: Алесь Аркуш**

***У Менску, Празе, Полацку і Лідзе стаяць аднатыпныя помнікі Францішку Скарыну: першадрукар у поўны рост на пастамэнце з абавязковым атрыбутам — кнігай — у руках. Помнікі тыя хіба вышынёй могуць памерацца. Найвышэйшы — дванаццаць мэтраў — на полацкай плошчы. У тым жа Полацку неўзабаве мае паўстаць яшчэ адзін помнік Скарыну, хіба самы арыгінальны з усіх, якімі калі-небудзь ушаноўваліся славутыя беларусы. Палачане вырашылі ўславіць знакамітага земляка ў суаўтарстве з... сонцам. Ініцыятарам праекту выступіў пісьменьнік Алесь Аркуш.***

— *Алесь, як зьявілася ідэя такога незвычайнага помніка?*

— Ідэя прыйшла мне ў галаву яшчэ гадоў пяць таму. Сонца — адзін з сымбалічных знакаў Скарыны, і мне захацелася, каб і яно «паўдзельні-

чала» ў праслаўленьні беларускага першадрукара. Ідэя помніка наступная. У вялікім мэталічным лісьце выразаецца слова *Скарына*, ён устанаўліваецца такім чынам, каб сонца, праходзячы празь літары-адтуліны, пісала імя Скарыны промнямі на сьцяне. Я падзяліўся гэтай ідэяй са скульптарам Гэнікам Лойкам, і ён намаляваў праект. На гэты момант помнік ужо вырабляецца і будзе ўстаноўлены ў жніўні 2017 году на маёй сядзібе ў Запалоцьці, на беразе Дзьвіны. Месца выбрана невыпадкова. Справа ў тым, што ў XVI стагодзьдзі там знаходзіўся бэрнардынскі кляштар, дзе, на думку скарынаведаў, вучыўся юны Францішак, прынамсі толькі там ён мог вывучыць лаціну. Атрымліваецца, што дзесьці на маёй сядзібе Скарына сядзеў за партай! Дарэчы, калі я пра гэта даведаўся, я і падумаў пра нейкі помнік. З полацкімі сябрамі мы некалькі разоў зьбіраліся на маёй сядзібе ў розны час сутак, назіралі, як сонца ўстае над Дзьвіной, як абмацвае промнямі мой сад. І нарэшце зрабілі ўсе неабходныя вылічэньні. Так што ўжо сёлета імя Скарыны на ягонай радзіме будзе напісана сонцам!

— *А ці маеш ты дазвол на ўсталяваньне помніка ад полацкіх уладаў?*

— Такі дазвол не патрэбен, паколькі гэта мая прыватная тэрыторыя і я там не зьбіраюся праводзіць нейкія будаўнічыя работы. Калісьці Анатоль Белы ў Старых Дарогах на сваёй сядзібе паставіў дзясяткі помнікаў, не пытаючы ніякіх дазволаў. Там, дарэчы, бывае шмат наведнікаў. Мая полацкая сядзіба таксама даволі ажыўленае месца, там знаходзіцца майстэрня маёй жонкі

мастачкі Тацьцяны Козік, там ёсьць альтанка на беразе Дзьвіны, дзе можна павесіць мэмарыяльную шыльду з прозьвішчамі вядомых пісьменьнікаў, якія зь яе сузіралі наддзьвінскія краявіды.

*— Полацак — адзіны горад, дзе ёсьць дзьве вуліцы Скарыны, прычым абедзьве цэнтральныя. Сапраўды, дзе густа, а дзе пуста. А як так сталася?*

— Вуліца Скарыны здаўна была ў Полацку, а галоўны гарадзкі праспэкт раней насіў імя Карла Маркса. Ладна б там нейкага беларускага савецкага дзеяча, а то Маркса, які да полацкай гісторыі ня меў ніякага дачыненьня. І калі мэрам Полацку працаваў Уладзімер Тачыла, праспэкт пераназвалі ў гонар самага славутага палачаніна. Але ж і вуліца засталася. Цікава, што праспэкт і вуліца ідуць паралельна, у адным кірунку. Тады ж вуліца Фрунзэ стала насіць імя Эўфрасіньні Полацкай, а вуліца Леніна, якая вядзе да Сафіі і на якой знаходзяцца ўсе асноўныя полацкія музэі, вярнула сабе назву Ніжне-Пакроўскай.

## «Дзяржава перастала даваць пісьменьнікам прэміі, каб не ствараць аўтарытэтаў зь дзеячоў нацыянальнай культуры»

*— Сваімі ініцыятывамі ты прыкметна ажыўляеш літаратурны працэс у Беларусі. Дастаткова прыгадаць выдавецкую суполку «Полацкае ляда» ці Таварыства вольных літаратараў. Адна з такіх ініцыятываў — прэмія ТВЛ «Гліняны Вялес», якою беларускія пісьменьнікі ўзнагароджваюцца ўжо больш за два дзясяткі гадоў. Штогод адсочваць цікавыя кнігі, зьбіраць журы, арганізоў-*

*ваць прэзэнтацыі — гэта ж клопатная справа. Навошта гэта табе?*

— Галоўнае для мяне — зрабіць сьвята для пісьменьнікаў, сказаць калегам па літаратурным цэху добрае слова. Я ведаю, як сёньня ўспрымаюць пісьменьнікі вылучэньне на «Вялеса», абмяркоўваюць шорт-ліст. Мяне гэта, вядома ж, радуе. Раней («Вялес» быў заснаваны ў 1993 годзе) пераможца вызначаўся калегіяльна — сябрамі ТВЛ. Калі ж таварыства прыйшло ў заняпад, мы штогод утваралі журы з дванаццаці чалавек, кожны раз выбіраючы новых, што было няпроста зрабіць. Праблема ў тым, што беларуская літаратурная прастора досыць абмежаваная. Заўсёды так атрымліваецца, што ляўрэат можа быць у нейкіх сувязях зь сябрам журы — ці гэта рэдактар яго кнігі, ці сябар, ці штосьці яшчэ іх зьвязвае. Таму кожны раз мы ламалі галаву, каго запрасіць у тое журы. Але апошнім часам ТВЛ набывае новае дыханьне, і мы зноў пачалі вызначаць ляўрэата калегіяльна.

— *«Гліняны Вялес» існуе ўжо дваццаць два гады. Праходзіць час — людзі зьмяняюцца, зьмяняецца іх грамадзянская пазыцыя. Ці ўсе ўзнагароджаныя і сёньня адпавядаюць першапачатковым крытэрам? Помніш, як сьпяваў Высоцкі? «Отберите орден у Насера, не подходит к ордену Насер!» Меліся на ўвазе ордэн Леніна і прэзыдэнт Эгіпту. А «Гліняннага Вялеса» ні ў кога адабраць ня хочацца?*

— Ня хочацца. Зь «велесаваных» пісьменьнікаў мяне ніхто не расчараваў — і як творца, і як чалавек. Усе нашы ляўрэаты для мяне былі і засталіся аўтарытэтамі. Нават паэт-пчаляр Мікола Папека,

які так і застаецца аўтарам аднаго паэтычнага зборніка. Але ён вельмі шмат зрабіў для літаратурнага працэсу на Берасьцейшчыне: заснаваў літаратурную Мядовую прэмію, клапаціўся пра ўшанаваньне памяці пісьменьнікаў Міколы Купрэева і Васіля Гадулькі, дапамагаў паставіць надмагільныя помнікі. Тут трэба зазначыць вось што. «Гліняны Вялес» спачатку задумваўся як андэрграўндная ўзнагарода. Калі паглядзець на нашых першых ляўрэатаў, то можна заўважыць, што яны ўзнагароджваліся за штосьці арыгінальнае, экспэрымэнтальнае. Напрыклад, Людка Сільнова атрымала «Вялеса» за кніжку візуальнай паэзіі «Рысасловы» — першую такую ў беларускай літаратуры. Нам хацелася заахвочваць экспэрымэнты, пашыраць іх жанрава. Але потым сярод ляўрэатаў зьявіліся Алесь Разанаў і Ўладзімер Някляеў — клясыкі пры жыцьці. Так атрымалася таму, што недзе ў пачатку XXI стагодзьдзя «Гліняны Вялес» застаўся ці не адзінай незалежнай літаратурнай прэміяй. Сытуацыя вымагала нас ужо ня толькі дапільноўваць нейкія экспэрымэнты, але і сачыць за усёй беларускай паэзіяй.

*— Сёньня сытуацыя зь незалежнымі літаратурнымі прэміямі палепшылася — у Беларусі іх даволі шмат. Як на маю думку, яны зьяўляюцца як рэакцыя грамадзтва на фактычную адмену Дзяржаўнай прэміі па літаратуры, якая ўжо каторы год не ўручаецца. Як ты лічыш, чаму?*

— Таму што беларуская дзяржава абсалютна не зацікаўленая ў разьвіцьці нацыянальнай культуры. Што значыць уручыць прэмію? Гэта стварыць пэўны аўтарытэт. Уявім сабе, што Дзяр-

жаўную прэмію ўручылі, напрыклад, Уладзімеру Някляеву, а ён заўтра з гэтым аўтарытэтам, з гэтай прэміяй пайшоў на прэзыдэнцкія выбары.

— *Дык так у выпадку зь Някляевым і сталася.*

— Вось-вось. І выпадак гэты, мне здаецца, таксама паўплываў на сытуацыю. Дзяржава перастала даваць пісьменьнікам прэміі, каб не ствараць аўтарытэтаў зь дзеячоў нацыянальнай культуры. Толькі так я гэта тлумачу. І сёньня наша культурная прастора ўсё больш і больш згортваецца. Застаўся нейкі дзясятак пісьменьнікаў, якіх сапраўды ведаюць у Беларусі, якіх чытаюць, якіх вывучаюць у школе. А новыя аўтарытэты (у шырокім разуменьні) проста не зьяўляюцца. Чаму пісьменьнікаў майго пакаленьня, таго ж Андрэя Федарэнку, не заўважае дзяржава? Значыць, тут ёсьць нейкая мэта.

— *Федарэнка ў свой час быў вылучаны на Дзяржаўную прэмію з аповесьцю «Нічые» — пра Слуцкае паўстаньне. Зразумела, не атрымаў.*

— І ня мог атрымаць. Калі б «Нічые» былі адзначаныя Дзяржаўнай прэміяй, то дзяржава мусіла б прызнаць слуцкіх паўстанцаў героямі, прызнаць, што ў 20-я гады ішла барацьба за незалежнасьць Беларусі. Дзяржава павінна была б паставіць там помнікі, адзначаць Слуцкі чын на адпаведным узроўні. А так няма падзеі — няма і прэміі.

— *Ты зьяўляесься аўтарам тэксту гімну Полацку. А як часта даводзілася прысутнічаць на афіцыйных імпрэзах, дзе гэты гімн гучыць?*

— Раней прысутнічаў часьцей, цяпер радзей. Любое сьвята гораду адбываецца пад гэты гімн.

Мне запомнілася, як аднойчы палачане сабраліся на плошчы Свабоды і выканалі гімн усе разам. Гэта ж проста выдатна — прасьпяваць усім гарадам па-беларуску патрыятычны гімн! «Гімн Полацку» — адзіны мой верш, які ведаюць на памяць тысячы чалавек. Калі полацкім мэрам быў згаданы ўжо Ўладзімер Тачыла, то ён нават правяраў розных чыноўнікаў на веданьне гімну. Аднойчы падчас нейкай імпрэзы ён заўважыў, што хтосьці не сьпявае, і той чыноўнік нібыта быў звольнены з працы.

## «Мы павінны ня толькі жыць у беларускім абсягу, але і пашыраць яго»

*— У апошнія гады ты шмат часу праводзіш у Беластоку. А няма спакусы пісаць і па-польску, як тое робяць беластачане Міра Лукша і Міхась Андрасюк?*

— У кожнага пісьменьніка ёсьць дамінантная мова, на якой ён пераважна і піша. Што тычыцца названых беластоцкіх аўтараў, то яны ад нараджэньня жывуць у польскамоўным асяродзьдзі, таму іх зварот да польскай мовы зразумелы. Для мяне таксама важна, у якой культурнай прасторы я знаходжуся. На сёньня я знаходжуся ў выключна беларускамоўнай прасторы, нават у тым жа Беластоку. Мне яна цікавая, і я там жыву. Мне там утульна, мне гэтай прасторы дастаткова, каб нармальна функцыянаваць — творча і жыцьцёва. Мы павінны навучыцца жыць у стракатым, шматколерным сьвеце — культурным, эстэтычным, нацыянальным, моўным. У ім прыкметна

прысутнічае беларускі абсяг. І мы павінны ня толькі жыць у гэтым абсягу, але і пашыраць яго.

*— Калісьці касманаўт Уладзімер Кавалёнак папрасіў, каб яму на арбіту даставілі беларускую кнігу, і просьба была выкананая. Уявім, што ты ў космасе. Якія кнігі папрасіў бы ты пры ўмове, што грузавы карабель больш за пяць не падыме?*

— Я адчуваю сябе заглыбленым у полацкую гістарычна-культурную прастору, таму мне найперш цікавыя кнігі, зьвязаныя з Полаччынай. А што выбраў бы для космасу? Кнігі, якія пэрыядычна перачытваю і кожны раз адкрываю там нешта новае. Гэта «Лябірынты» Вацлава Ластоўскага, «Шляхціц Завальня» Яна Баршчэўскага, «У горадзе валадарыць Рагвалод» Алеся Разанава, «Споведзь» Ларысы Геніюш і «Сотнікаў» Васіля Быкава. Апошнія дзьве таму, што і сёньня пытаньне маральнага выбару для ўсіх нас вельмі істотнае.

*— На прэзэнтацыі раману «Захоп Беларусі марсіянамі» ты прызнаўся, што назву кнігі табе ў сьне падказаў Вацлаў Ластоўскі. Гэта што, літаратурная гульня?*

— Не, не гульня. Мне прысьніўся Ластоўскі і сапраўды прапанаваў напісаць кнігу з такой назвай — «Захоп Беларусі марсіянамі». Я да сёньняшняга дня дакладна памятаю ўсе дэталі таго сну. Гэта адбылося ў Полацку, я прачнуўся і разважаў над прысьнёным. Спачатку падумаў, што гэта нейкія бздуры — ці мала што можна прысьніць. Але той сон мяне не адпускаў, я ўвесь час да яго вяртаўся. Памятаю да драбніцаў, як мы з Ластоўскім ішлі па Полацку, як зайшлі ў нейкі разь-

біты будынак, і ён, паказаўшы мне закурадымленую полацкую мэрыю, сказаў, што Полацак і ўсю Беларусь захапілі марсіяне. І што я мушу напісаць пра гэта кнігу. Я ня ведаў, пра што павінна была быць тая кніга. Пра якіх фантастычных марсіянаў, я ж ня Ўэлс.

*— І сапраўды, ад кнігі з такой назвай чытач чакае, відаць, нейкіх зорных войнаў і г.д. Але марсіяне на яе старонках зьяўляюцца на вельмі кароткі час. Незразумела, хто гэта, чаго ім трэба, навошта яны абстрэльваюць Полацак. Ты знарок іх так затаямнічыў?*

— Насамрэч марсіяне — гэта мэтафара чужынцаў, зь якімі немагчыма дамовіцца, знайсьці нейкі кампраміс. Яны прыйшлі, каб зваяваць цябе, падпарадкаваць і зьнішчыць. Калі хочаце, гэта гібрыдная вайна, нам сёньня добра вядомая. Пісьменьнік Віталь Воранаў пытаўся ў мяне: «Марсіяне — гэта расіяне?». А мне хацелася, каб гэта быў такі ўнівэрсальны сымбаль, бо сёньня да нас могуць прыйсьці расіяне, заўтра — хтосьці іншы. Для мяне нават энкавэдысты, якія зьнішчылі герояў маёй кнігі Міхася Чарота і Алеся Дудара, — тыя ж марсіяне.

## «Маладнякоўцы як маглі змагаліся — не са зброяй у руках, а словам, нейкім рызыкоўным учынкам»

*— Чаму галоўным героем раману ты вырашыў зрабіць паэта-маладнякоўца Алеся Дудара?*

— Тэма «Маладняка» мяне даўно цікавіла. Я некалькі разоў пісаў нарысы пра «маладнякоўцаў» — пра полацкую філію. Выдаў кніжачку

вершаў Ганны Брэскай — забытай паэткі, якая жыла ў Полацку. Сярод «маладнякоўцаў» маю ўвагу прыцягваў найперш Алесь Дудар — ён найбольш вядомы як аўтар верша «Пасеклі Край наш папалам». Але сярод ягоных учынкаў ня толькі гэты твор. Ён падпісваў ліст у абарону беларускага нацыянальнага тэатру, дзе гаварылася, што «мы ня мусім лазіць па задах расейскага тэатру, а павінны стварыць свой тэатар, на нацыянальных падмурках». Дудар таксама напісаў ліст-пратэст, дзе даводзілася, што БДУ ня ёсьць беларускім унівэрсытэтам. І зьдзейсьніў яшчэ шмат падобных учынкаў, якія зьбіраюцца ў адзін пасыл — гэтыя людзі хацелі жыць ва ўласнай краіне, вучыцца ў нацыянальным унівэрсытэце, глядзець пастаноўкі нацыянальнага тэатру. Яны хацелі, каб у Беларусі прымаліся рашэньні без крамлёўскай візы. Маладнякоўцы як маглі змагаліся — не са зброяй у руках, а словам, нейкім рызыкоўным учынкам. І калі мы паглядзім, як раскручваўся махавік сталінскіх рэпрэсій, то лёгка заўважыць, што якраз маладнякоўцы першымі трапілі пад сталінскія жорны. Для рэжыму яны былі ворагамі, бо актыўна праводзілі беларусізацыю. Гэта ж яны зрабілі ў Полацку беларускамоўную газэту — быў «Полоцкий пахарь», а стала «Чырвоная Полаччына». У Полацку іхнымі намаганьнямі выдаваліся тры літаратурныя альманахі!

*— У цябе Алесь Дудар — актыўны паэт-адраджэнец, які не баіцца кінуць выклік уладам. Але ён выступаў яшчэ і пад псэўданімам Тодар Глыбоцкі, вышукваючы клясавых ворагаў у тагачаснай бела-*

*рускай літаратуры. Чым ты патлумачыш такое раздваеньне асобы?*

— Па-першае, агульнавядомы факт — Дудар не ўспрымаў творчасьць Купалы і Коласа, называў яе «старызнай». Ён не любіў паэта «чыстай красы» Ўладзімера Жылку, быў у канфлікце з усімі ўзвышэнцамі, пісаў пра іх абразьлівыя артыкулы. Нават унутры маладнякоўскай суполкі ён канфліктаваў, пасварыўся ўрэшце нават зь сябрам Андрэем Александровічам. На маю думку, гэта была ўнутраная беларуская барацьба — наша даўнядаўняя хвароба. Мы ніяк ня можам аб'яднацца вакол чагосьці істотнага і важнага, а сварымся празь нейкія драбніцы. Па-другое, Тодар Глыбоцкі зьявіўся ўжо ў 30-я гады, пасьля ўсіх гучных «гэпэушных» спраў, пасьля таго, як Дудару пагражалі сьмерцю. Артыкулы Глыбоцкага я ўспрымаю як спробу проста ўратаваць жыцьцё. У 30-я гады Дудар стаў ваяўнічым бальшавіком, амаль як Бэндэ, каб паказаць, што ён выправіўся... Цікава, што ў сёньняшняй Беларусі (і на чытацкіх сустрэчах гэта вельмі заўважна) людзей найперш цікавіць, што за чужынцы руйнуюць Полацак, зьнішчаюць Сафійскі сабор. Страх перад марсіянамі — як разгубленасьць перад заўтрашнім днём.

*— Гэта як у вядомым вершы Канстантынаса Кавафіса «Прышэсьце барбараў». Ты ў сваім рамане неаднойчы згадваеш аповесьць Вацлава Ластоўскага «Лябірынты», героі якога вынайшлі дзівоснае рэчыва крывін, якое запальвае ў цемры сьвятло і робіць жыцьцё вечным. Што для нашых суайчыньнікаў можа стацца такім крывінам?*

— Складанае пытаньне. Магчыма, Крыж Эўфрасіньні Полацкай, яго вяртаньне ў Беларусь.

*— Гісторык Сяргей Тарасаў у адной з «Вольных студый» даволі аргумэнтавана вызначыў месцазнаходжаньне Крыжа — Сергіеў Пасад пад Масквой. Чаму Расея не аддае Крыж, зразумець няцяжка, але чаму Беларусь не шукае, не патрабуе ўрэшце?*

— Так, беларуская дзяржава яшчэ ні разу ня ставіла сур'ёзна пытаньне пра вяртаньне Крыжа. Думаецца, для Расеі ён — дадатковы козыр у палітычных гульнях. Маўляў, беларусы, калі будзеце да нас ляяльнымі, калі будзеце сябрамі-братамі, то, магчыма, урэшце і атрымаеце гэты падарунак. Але ж на Крыжы напісана: той, хто зьнёс яго з Полацку, будзе пракляты. Яго нават небясьпечна трымаць у нейкіх сховах. Людзі, якія яго хаваюць, называюць сябе хрысьціянамі, сьвятарамі, але чамусьці суровы праклён для іх нічога ня значыць. А юрыдычна перадаць Крыж нескладана, бо ён быў вывезены на часовае захаваньне падчас акупацыі Беларусі Нямеччынай. І таму сёньня Крыж можа быць проста перададзены з аднаго манастыра РПЦ у другі — у Полацку.

*11 красавіка 2017 г.*

**Кнігу чытаць карысна ўсякаму чалавеку, бо ўсякі зь яе будзе мець спажытак: разумны і неразумны, багаты і бедны, стары і малады, а найбольш тыя, што хочуць укараніцца ў звычаях добрых, навуку зьведаць, да мудрасьці прычасьціцца.**

**Францішак Скарына**

## У ЧЫМ НЕЎМІРУЧАСЬЦЬ ДРУКАВАНАЙ КНІГІ?

**Vis-à-viS: Мікола Нікалаеў**

***У Санкт-Пецярбург як сталіцу імпэрыі зь Беларусі звозіліся сканфіскаваныя пасьля паўстаньняў скарбы, у тым ліку кніжныя. Зьбіраныя пакаленьнямі кнігазборы Радзівілаў і Сапегаў, найбуйнейшыя сярод магнацкіх, папаўнялі фонды Імпэратарскай бібліятэкі (цяпер Расейская нацыянальная), бібліятэкі Акадэміі навук, расьцярушваліся па розных адукацыйных установах. Ды няма ліха без дабра. З 1978 году у РНБ працуе беларус, выняньчаны вёскай Нянькава пад Наваградкам, Мікола Нікалаеў (да ягонай афіцыйнай навуковай сту-***

***пені доктара філялёгіі хочацца дадаць акадэміка кнігазнаўства). Выкарыстоўваючы сваё службовае становішча, ён дасьледаваў наша кніжніцтва пачынаючы з X стагодзьдзя, а ягоныя манаграфіі «Палата кнігапісная» (1993) і «Гісторыя беларускай кнігі» (2009) заслужана сталі клясыкай жанру.***

*— Спадар Мікола, вядомая дакладная дата зьяўленьня на сьвет першай друкаванай беларускай кнігі — 6 жніўня 1517 году. Неўзабаве адзначацьмем 500-годзьдзе. Але ж і да Францішка Скарыны кнігі існавалі, хай сабе і рукапісныя. Вы можаце назваць самую старажытную рукапісную кнігу?*

— Такіх кніг дзьве. Фрагмэнты Эвангельля знайшлі на сьметніку ў Тураве (адсюль назва — Тураўскае Эвангельле), зь цягам часу датавалі яго XI стагодзьдзем. А другая кніга цалкам захавалася — Полацкае Эвангельле, XII стагодзьдзе. Прычым Полацкіх Эвангельляў захавалася некалькі, я ў сваіх руках трымаў тры — XII і XIV стагодзьдзя, яны маюць больш позьнія дапіскі. Усе тры знаходзяцца ў Пецярбургу — у Расейскай нацыянальнай бібліятэцы.

## «Мацей Дзясяты перапісваў Біблію пяць гадоў без адрыву ад вытворчасьці»

*— Як зьяўлялася на сьвет рукапісная кніга? Скажам, перапісваў яе адзін перапісчык ці працавала цэлая брыгада?*

— Часьцей за ўсё адзін перапісчык — ад пачатку да канца. Кнігі калектыўна на продаж па-

чалі вырабляць толькі ў XVI стагодзьдзі. Узьніклі манастырскія скрыпторыі. Такія скрыпторыі былі ў Супраскім і Лаўрышаўскім манастырах. Хутчэй за ўсё, існаваў скрыпторый і ў Навагрannoдку, дзе знаходзілася рэзыдэнцыя кіеўскіх мітрапалітаў. Так-так, Наваградак быў сталіцай Кіеўскай мітраполіі. Звычайна людзі, пачуўшы выраз «Кіеўская мітраполія», адразу перакідваюцца думкамі на Кіеў. А кіеўскі мітрапаліт у XV і XVI стагодзьдзях сядзеў у Наваградку. І каля мітрапаліта мусіў працаваць скрыпторый, павінны былі перапісваць кнігі.

*— А колькі часу перапісчык працаваў над адной кнігай?*

— Каля году. Бывала і даўжэй. Скажам, шыкоўную Біблію Мацей Іаанавіч (Мацей Дзясяты) перапісваў з 1502 да 1507 году. Пяць гадоў, што называецца, без адрыву ад вытворчасьці. Ён быў пісарам у канцылярыі ВКЛ, і начальства вызваліла яго ад усіх абавязкаў, думаю, з захаваньнем заробку. Ён быў добры каліграф, і яму даверылі перапісваць Біблію, 700 старонак вялікага фармату, каляровым атрамантам. Рыхтаваўся падарунак каралеве, жонцы караля Аляксандра Ягелёнчыка. Але кароль памёр, ягоная жонка стала неактуальнай палітычнай фігурай, і перапіску біблейскага зводу перанесьлі зь Вільні ў Супраскі манастыр. Усё ж Мацей Дзясяты закончыў сваю працу. Пра ягоную Біблію мусіў ведаць Францішак Скарына, бо родны брат Мацея Дзясятага быў у Полацку ігуменам манастыра. А сьвет тады быў цесны. Калі мы сёньня маем мільённыя і статысячныя гарады, то ў Полацку ў той час жыло

каля 8 000 чалавек. Ды і Вільня была маленькая. Калі ўжо родны брат ігумена перапісваў Біблію, гараджане, думаю, ведалі пра гэта.

— *«Яко же рад заяц ценета избегши, так рад писец, последнюю строку дописавши»... Заканчэньне працы для перапісчыка было сьвятам?*

— Як і дажынкі. Людзі радаваліся, што сабралі ўраджай, што пераджывуць зіму. Толькі дажынкі паўтараліся штогод, а перапісчык, чалавек духоўны, ведаў, што робіць кнігу, можа, адну на ўсё жыцьцё. Таму і зьяўляліся традыцыйныя вобразныя прыпіскі, адну зь іх вы працытавалі. А яшчэ пісалі, маўляў, «як карабель, доўга не прыходзіўшы ў гавань, так і я ўзрадаваўся, што вярнуўся з бурнага мора, дапісаўшы кнігу».

— *У Максіма Багдановіча ёсьць радкі: «І бачу я ў канцы няхітрую прыпіску, / што кнігу гэтую раб Божы дзяк Гапон / дзеля душы сьпісаў у месьце Ваўкавыску / у рок сем тысяч сто васьмы з пачатку дзён». Дык усё ж займаліся гэтай цяжкой працай дзеля заробку ці дзеля душы?*

— Пераважная большасьць перапісчыкаў — дзеля душы. Як тады зьяўляліся кнігі? Прыходзіць сьвятар у царкву служыць, глядзіць, а там сярод маёмасьці — ніводнай кнігі. А ў царкве без Эвангельля немагчыма служыць. І сьвятар мусіў альбо купіць, альбо перапісаць, дзесьці пазычыўшы. Гэта яго жыцьцё, яго заробак, яго хлеб. Першыя кнігі перапісваліся найперш дзеля духоўных патрэбаў. Што да згаданага вамі верша Багдановіча... Думаю, што паэт меў на ўвазе нейкую канкрэтную кнігу, магчыма, нават трымаў яе ў руках. Верагодна, недзе ў віленскім музэі Івана

Луцкевіча. Я ўжо даўно тую «ваўкавыскую» кнігу шукаю, шмат псалтыроў перабраў, не знайшоў пакуль. Але некалі знайду.

## «Старажытныя кнігі так добра выглядаюць, бо папера там якасная, сёньня грошы з горшай робяць»

*— Ня сьпішаш грахі яго на воловай скуры, сем воловых скур сьпісаў… Прыказкі гэтыя дайшлі да нашых дзён. А колькі на адну кнігу ішло тых самых воловых скураў?*

— Валоў стараліся ня браць — у іх тоўстая скура. Стараліся браць маладых цялятак, козаў. У залежнасьці ад памеру кнігі колькасьць жывёлаў магла даходзіць да дзясятку — цэлы статак. Вельмі цікавая тэхналёгія вырабу кнігі. Часам маладыя дасьледнікі не разумеюць, што азначае прыпіска на апошняй старонцы: «Хто забудзецца зашпількі зашпіліць, таго хай Бог пакарае!». А справа ў тым, што скура мае схільнасьць скручвацца, прычым толькі ў адзін бок. Ёсьць два бакі — дзе поўсьць была, і бліжэйшы да мяса. Дык скура скручваецца ў «мясны» бок пры высыханьні. Таму дасьведчаны кнігапісец чаргаваў старонкі, даваў іх рознымі бакамі. І ўсё роўна кніга пасьля гэтага яшчэ зашпільвалася альбо завязвалася, і рабіўся цьвёрды пераплёт з дошак, каб утрымаць скуру ад скручваньня. Таму і прыпіскі зьяўляліся накшталт: «Хай у таго рукі адсохнуць, хто не зашпіліць кнігу». Гэта тэхналягічная інструкцыя для карыстальніка, бо інакш кніга высахне і сапсуецца.

*— У маёй калекцыі ёсьць аўтограф Зьмітрака Бядулі 1939 году, дык яго ледзьве можна прачытаць — атрамант пабляк. А кнігі, пісаныя 600–700 гадоў таму, чытаюцца лёгка. З чаго вырабляўся такі даўгавечны атрамант?*

— Атрамант даўгавечны, бо вырабляўся з добрага натуральнага матэрыялу. Выкарыстоўваўся льняны алей, звычайная сажа, часам адвар дубовых арэшкаў. Усе малюнкі і літары ў такіх кнігах сапраўды ня блякнуць і не выцьвітаюць. Пэргамін і папера (у XVI стагодзьдзі ўжо дзейнічалі папяровыя млыны ў Вільні і Смаргоні) добра прымаюць такі атрамант і захоўваюць. Першыя папяровыя рукапісныя кнігі так добра выглядаюць яшчэ і таму, што папера там вельмі высокай якасьці. Сёньня грошы з горшай робяць. Паперу тады выраблялі з натуральных анучаў. Вы кажаце, аўтограф Зьмітрака Бядулі паблякнуў. Бо ў 30-я гады паперу ўжо рабілі зь пілавіньня.

*— Чаму рукапісныя кнігі працягвалі зьяўляцца і пасьля Скарыны? Навошта іх перапісвалі яшчэ і ў XIX стагодзьдзі?*

— Дык і сёньня рукапісная кніга ў модзе. Сучасныя каліграфы, перапісваючы кнігі, зарабляюць неблагія грошы. Хоць гэта ўжо ня масавая прадукцыя, а твор мастацтва. А ў ранейшыя часы… Калі ты можаш перапісаць патрэбную табе кнігу і тое абыдзецца таньней, чым купіць... Гэта як боты пашыць. Таму і перапісвалі. Потым ня трэба забываць, што ў Беларусі здаўна існавалі розныя канфэсіі. І, скажам, пратэстанты ці кальвіністы дзе маглі купіць патрэбную ім літаратуру? Вось і яны перапісвалі. Ці, прыкладам,

правінцыйны сьвятар, які служыў недзе наводшыбе ў Наваградзкім павеце, пазычаў Эвангельле і перапісваў — для сябе.

## «Сваіх партрэтаў у Бібліі, як Скарына, больш ніхто не друкаваў»

*— А само зьяўленьне друкарскага варштата Скарыны — з чым яго можна параўнаць у гісторыі культуры?*

**—** Велізарнае значэньне для нашай культуры ў тым, што Біблія пайшла ў народ. Пасьля рукапісьніка Мацея Дзясятага (ён, паўтаруся, закончыў перапісваць Біблію ў 1507 годзе) зьявілася друкаваная кніга. Гэта вельмі важна, каб у гісторыі былі дзьве кропкі, праз якія можна правесьці лінію, а яна ўжо дае кірунак руху. І вось Мацей Дзясяты і Скарына два такія пункты пазначылі, менавіта гэтыя дзьве асобы, але ж і народ за імі стаіць. Іх жа фундавалі; Скарына ў Празе працаваў, значыць, грошы трэба было яму падвозіць. Кнігі тады каштавалі дорага, і ён, напэўна, зарабляў на гэтым.

Карыстаючыся сваім службовым становішчам (я працую ў адной з самых багатых у сьвеце бібліятэк), я зацікавіўся, як аздобленыя кнігі скарынаўскай эпохі. Бо калі выйшлі першыя друкаваныя кнігі, узьнікла палеміка сярод багасловаў: а ці можа быць сьвяшчэнная выява надрукаваная, а не напісаная, як абраз? Аляксандар Навумаў (гісторык, філёляг і багаслоў беларускага паходжаньня, які працуе ў Венэцыі) давёў, што тая дыскусія вельмі хутка закончылася на карысьць прызнаньня сьвятасьці друкаваных абра-

зоў. А кнігі Скарыны размаляваныя цалкам паводле канонаў ілюмінацыі эўрапейскай — найперш чэскай і нямецкай. Я ўзяў інкунабулу — «Хроніку» Шэдаля 1496 году, чэскую Біблію 1506 году (расфарбаваныя экзэмпляры), асобнік Бібліі з Гёрліца (ён выстаўляўся ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і нават трапіў у факсымільную сэрыю) — там зусім іншы прынцып расфарбоўкі малюнкаў. І я думаю, што Скарына частку сваіх накладаў рабіў каляровымі, хоць вядомыя нам чорна-белыя гравюры — асноўная маса яго прадукцыі. Аздабляліся колерамі, думаю, падарункавыя выданьні, больш дарагія.

*— Мне яшчэ незразумела, чаму Статут ВКЛ так доўга ня мог трапіць на друкарскі варштат?*

— Шмат каму гэта незразумела. На маю думку, нашкодзіў Мікалай Радзівіл Чорны. Шляхта ВКЛ хацела мець друкаваны Статут. І Мікалай Радзівіл Чорны як канцлер павінен быў забясьпечыць друкаваньне. А ён замест гэтага арганізаваў друкарню, якая выдавала пратэстанцкія кнігі. Ён зрабіў унёсак у адну галіну культуры, але зьняважыў усю шляхту, якая на сойміках патрабавала ад караля надрукаваць Статут. Кароль даручыў справу канцлеру, а той прывёз пратэстантаў і пачаў друкаваць Біблію на польскай мове… І толькі пазьнейшы канцлер Леў Сапега даў адмашку, як цяпер кажуць, Мамонічам, падтрымаў іх, і яны пачалі варушыцца, заказваць шрыфты, паперу, ілюстрацыі рыхтаваць. І тры выданьні Статуту ВКЛ зьявіліся на сьвет.

*— Вы трымалі ў руках дзясяткі старажытных Біблій. Ці хто-небудзь яшчэ асьмельваўся зьмя-*

*шчаць там свае партрэты? Ці толькі Скарына быў такі сьмелы?*

— Не, сваіх партрэтаў больш ніхто ў Бібліі не друкаваў. Праўда, у адной нямецкай Бібліі ёсьць партрэт выдаўца, але невялічкі, ня вынесены на цэлы аркуш. Сьмеласьць Скарыны была прадыктаваная адсутнасьцю традыцыі, ён акурат яе і фармаваў. Дарэчы, я ня схільны лічыць, што Скарына сам сябе нарысаваў; думаю, гэта зрабіў прафэсіянал. Нават калі ён змог нарысаваць, дык вырэзваў, напэўна, спэцыяліст. Думаю, што партрэт Скарыны ў Бібліі ня мог зьявіцца без узгадненьня з фундатарамі, з «браціяй русьсю». Ніводзін глябальны праект немагчыма ажыцьцявіць аднаму чалавеку. Адзін чалавек толькі выконвае.

*— Вы працавалі з магнацкімі бібліятэкамі. А як яны камплектаваліся? Мяне дзівіць, што, скажам, у бібліятэцы Сапегаў не было той жа Скарынавай Бібліі.*

— Камплектаваньне кнігазбораў залежала ад густу магнатаў і ад тагачаснай моды. Прыкладам, захаваўся ліст Паўла Сапегі ў Ружаны да маці, дзе ён піша: «Мамачка, я накупляў у Парыжы многа добрых кніг, таму тыя, што ў нас ёсьць, ты выкінь, я прывязу лепшыя». З другога боку, разумныя беларускія магнаты стваралі родавыя бібліятэкі, з пакаленьня ў пакаленьне іх папаўняючы. Скажам, у нясьвіскіх Радзівілаў ардынацкая бібліятэка папаўнялася з розных родавых бібліятэк і нават мела права абавязковага асобніка выданьняў, якія зьяўляліся ў ВКЛ. Гэта можна назваць пачаткам абавязковага экзэмпляру. Думаю, Радзівілы і тыя ж Сапегі мелі вы-

даньні і Скарыны, і Буднага. Але калі бібліятэкі рассыпаліся, рабаваліся, то найчасьцей зьнікалі мясцовыя кнігі. Проста іх першымі ўкралі, калі прыйшоў час.

— *Сапегаўскую бібліятэку вывезьлі зь Дзярэчына пасьля паўстаньня 1831 году, як і ўсе творы мастацтва, каштоўнасьці і г. д. Трапіў той кнігазбор у Санкт-Пецярбург, у бібліятэку, дзе вы сёньня працуеце. Зь якім пачуцьцём вы бераце ў рукі кнігі зь Беларусі?*

— Знайсьці кнігу з прыкметамі прыналежнасьці да беларускіх бібліятэк заўсёды радасна, асабліва калі яна з ваколіцаў майго роднага Наваградку. Ці гартаеш нейкую лацінскую кнігу-інкунабулу і раптам бачыш, што яна зь Берасьця. Такія сустрэчы прыемныя, ты проста радуесься, пішаш пра знаходку сябрам. Страта гэтых кніг як носьбітаў інфармацыі для нас ужо не актуальная, бо тэксты даступныя з самых розных крыніцаў. Але музэйная, а часам і сакральная вартасьць кніг застаецца. Ці магчымае вяртаньне такіх старадрукаў? Тут трэба падумаць. Скажам, мы маем прыклад Польшчы, вельмі нэгатыўны. Калі Польшча выйграла вайну з бальшавікамі і ў 1921 годзе быў падпісаны Рыскі мір, то паводле ягоных умоваў палякі вярнулі кнігі, вывезеныя некалі Расейскай імпэрыяй. Ленін распарадзіўся аддаць усё. Але палякі не змаглі абараніць свае кнігі. Немцы спалілі Варшаву і Нацыянальную бібліятэку Польшчы, дзе згарэла нямала і нашых кніг. Калясальныя духоўныя каштоўнасьці, польскія і беларускія, на жаль, загінулі. Але на пазасталыя старадрукі палякі проста моляцца. Параў-

нальна нядаўна і Беларускі Экзархат ажыцьцявіў вельмі добры праект у факсымільным перавыданьні Полацкага Эвангельля. Была распрацаваная тэхналёгія вырабу плястыку, які нагадвае пэргамін. Лязэрам выпільваліся краі, усё вытачылі, усё паўтарылі. Каманда адмыслоўцаў прыяжджала ў Пецярбург, выдатны беларускі фатограф Георгі Ліхтаровіч рабіў копіі. І потым выдавецтва Экзархату па нэгатывах зрабіла тое, што робяць найлепшыя гішпанскія і францускія фірмы па вырабе муляжоў.

### «Кніга на паперы — гэта вечная форма захаваньня інфармацыі»

*— Мне даводзілася бываць у кватэрах адукаваных людзей, дзе зусім няма кніг — іхныя бібліятэкі ў кампутары. Друкаваная кніга адыходзіць у гісторыю?*

**—** Эра Гутэнбэрга заканчваецца, але друкаваная кніга ня зьнікне. Проста прайшоў яе пік. Інтэрнэт забраў чытацкую аўдыторыю, па ўсім сьвеце людзі адмаўляюцца ад друкаваных кніг. Але электронная кніга іх цалкам не заменіць. За сорак гадоў працы ў бібліятэцы я працаваў з усімі варыянтамі. Скан у руках не патрымаеш, тактыльная інфармацыя зьнікае. Друкаваная кніга сыходзіць у іншую нішу, і беларусы, мне здаецца, не заўсёды асьцярожна і ўдумліва вырашаюць гэтую праблему. Скажам, нават у такіх гарадах, як мой Наваградак, зьніклі кнігарні. Гэта, відаць, зьвязана з цэнтралізацыяй, з савецкай мадэльлю — калі ўжо робяць глупства, то адразу і паўсюль. Шкада, што тут няма ходу прыват-

най ініцыятыве, дзяржава не дае якому-небудзь дзядку-букіністу зарабіць. Людзі ж паміраюць, бібліятэкі выкідваюцца на сьметнік. Дзецям яны не патрэбныя, яны звыкліся з кампутарнай культурай. Я нядаўна ехаў з Горадні ў Наваградак, перада мною сядзелі дзьве дзяўчыны і чыталі. Я пацікавіўся, што. Адна чытала расейскую кніжку, другая — польскую. І мне падумалася — горкая доля беларускай культуры працягваецца, Беларусь не дала тым мілым дзяўчатам сваю кнігу: тое, што іх цікавіць, яны знайшлі ў польскай і расейскай кніжках.

— *Дык ці ёсьць будучыня ў друкаванай кнігі?*

— Будучыня ёсьць абавязкова, і значэньне папяровай кнігі ніколі ня зьменшыцца. Маштабы выданьняў зьменшацца, але надрукаваны наклад робіць кнігу неўміручай. А электронныя кнігі будуць залежаць ад наступнага пакаленьня электронных носьбітаў. Прыйдуць кампутары іншага пакаленьня, і перанесьці, перапісаць кнігі можа стацца праблемай.

Неяк у Пецярбург прыяжджаў калега з Токіё Такуакі Банай — ён вывучаў расейскія сядзібы, у тым ліку бібліятэкі, цікавіўся і беларускімі кнігазборамі. І ён мяне ў такую гульню ўцягнуў. Едзем мы ў мэтро, і ён кажа: «Паглядзіце, у вас шмат хто чытае газэты і кнігі на паперы. У нас у Токіё ўжо гэтага няма». З таго часу прайшло гадоў восем, і я часам спрабую падлічыць, колькі людзей чытае з мабільнікаў і колькі на паперы. Цяперашняя прапорцыя — 3 чалавекі на паперы, а 7 — з гаджэтаў. І ўсё ж сёньня толькі 20% інфармацыі пераведзена ў электронны выгляд, і ча-

сам узьнікаюць сур’ёзныя праблемы з захаваньнем, зь вірусамі і г. д. І як мне патлумачылі нашы бібліятэчныя кампутарнікі, далей будзе яшчэ горш — менавіта з апрацоўваньнем і пераносам на наступныя носьбіты. А кніга на паперы — гэта вечная форма захаваньня інфармацыі.

*26 траўня 2017 г.*

**Сьвятыя айцы паставілі гэтую кнігу сярод усіх іншых на першае месца і наказалі чытаць найперш.**

**Францішак Скарына.**

## БІБЛІЯ ДЛЯ ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ

**Vis-à-viS: Ірына Дубянецкая**

***Гісторыя налічвае звыш сарака спробаў перакладу Сьвятога Пісьма на сучасную беларускую мову. Хтосьці перакладаў адно ці некалькі Эвангельляў, хтосьці — Псалтыр. Нехта — больш удала, зь веданьнем справы, нехта — па-аматарску. Тры поўныя пераклады Бібліі за ўвесь час пасьля Скарыны зьявіліся толькі ў другой палове XX стагодзьдзя. Іх зрабілі Янка Станкевіч, Васіль Сёмуха і айцец Уладзіслаў Чарняўскі. Навошта спатрэбіўся чацьвёрты? Пра гэта ведае доктар тэалёгіі Ірына Дубянецкая, якая яшчэ ў 2012 годзе сабрала групу перакладнікаў-аднадумцаў.***

*— Ірына, спачатку давайце высьветлім, як сталася, што 500 гадоў таму мы апынуліся ў першых шэрагах? Гэта выпадак ці заканамернасьць — чалавек па імені Скарына?*

— Найперш гэта дзіва. Усяго былі чатыры культуры, якія пасьпелі зь перакладамі Бібліі да пачатку Рэфармацыі ў Эўропе: нямецкая, італьянская, чэская ды наша. Гэта важна ўсьведамляць, бо акурат Рэфармацыя дала моцны імпульс да пашырэньня Бібліі і, як вынік, да яе перакладу на народныя мовы. Дык вось, тры з чатырох першапраходцаў былі папярэдзе астатніх цалкам заканамерна. Самымі першымі былі немцы. Першы друкаваны пераклад Бібліі на нямецкую мову выйшаў у 1466 годзе — неўзабаве пасьля пачатку кнігадрукаваньня. Нямецкая культура пераклáдаў Бібліі радыкальна адрозьнівалася ад усіх астатніх у Эўропе. Калі ў іншых народаў было зроблена па некалькі такіх перакладаў (а часам і зусім не было), то ў немцаў захавалася каля 1 000 манускрыптаў перакладной Бібліі! Тое самае і з друкаванамі перакладамі. Калі Марцін Лютар пачаў перакладаць Новы Запавет у 1522 годзе (што вельмі рана ва ўсясьветным маштабе), ужо існавала каля 90 (!) друкаваных Біблій — поўных і няпоўных, у перакладах на розныя верхне- і ніжненямецкія дыялекты. Так што калі Яганэс Мэнтэлін выдрукаваў у Страсбургу першую ў сьвеце друкаваную Біблію на народнай мове, гэта выглядала абсалютна лягічным і натуральным.

Другім быў пераклад на італьянскую мову, які выдаў у Вэнэцыі ў 1471 годзе Нікалё Малермі. Гэта было таксама заканамерна. Па-першае, менавіта

зь Італіі пачаўся Рэнэсанс, які абудзіў інтэлектуальную, дасьледчую і творчую энэргію эўрапейцаў. Па-другое, італьянская мова была, па-сутнасьці, першай літаратурнай моваю ў Эўропе. Ужо на пачатку XIV стагодзьдзя Дантэ стварыў сваю «Камэдыю», пазьней названую Боскай, на народнай мове. Неўзабаве Франчэска Пэтрарка пачаў пісаць свае шэдэўры, якія спрычыніліся да станаўленьня італьянскага гуманізму, а там і Бакачча разварушыў думкі суайчыньнікаў. І гэта пры тым, што ў іншых краінах літаратура на народнай мове зьявілася праз стагодзьдзе, а то і праз два-тры… А ў XV стагодзьдзі Вэнэцыя была адным з найбуйнейшых усясьветных інтэлектуальных, культурных ды камэрцыйных цэнтраў.

— *Нездарма і Скарына туды памкнуўся.*

— Нездарма, безумоўна. Там віравала жыцьцё, там сустракаліся і ўзаемадзейнічалі розныя ідэі, традыцыі, народы. Нездарма і армянскае кнігадрукаваньне пачалося таксама ў Вэнэцыі — на 5 гадоў раней за Скарыну. І таму вэнэцыянскае выданьне перакладной італьянскай Бібліі справядліва апынулася на другім месцы. А трэцімі былі чэхі. Дзякуючы Яну Гусу, Рэфармацыя ў Чэхіі пачалася на стагодзьдзе раней, чым у іншых, і таму цікавасьць да біблійных перакладаў там была надзвычайная. Да Скарыны былі надрукаваныя ажно тры чэскія пераклады — у 1488 годзе ў Празе, праз год — у Кутнай Горы, і яшчэ адзін — у 1506 годзе ў той жа Вэнэцыі. Відаць, гэты апошні і трапіў у рукі Скарыну, моцна натхніў, і ў яго зьявілася ахвота зрабіць нешта падобнае для сваёй краіны. Як бачым, немцы,

італьянцы і чэхі павінны былі быць першымі, але чаму ў гэты шэраг трапіў і Скарына — гэта дзіва. Гэта сапраўды вялікі цуд. Можна сказаць, што Скарына быў першым сярод усіх астатніх.

## «Беларуская мова — адзіная з тытульных моваў сьвету, на якую няма сучаснага якаснага перакладу з арыгінальных моваў»

*— За пяцьсот гадоў пасьля Скарыны было зроблена нямала подступаў да перакладу Бібліі. Але толькі тры чалавекі дайшлі да канца — Янка Станкевіч, Уладзіслаў Чарняўскі і Васіль Сёмуха. Як вы ацэньваеце іх працу?*

— Тры Бібліі, якія мы маем, розныя, і ўсе па-свойму цікавыя. Першая поўная Біблія была перакладзеная доктарам Янкам Станкевічам і выдадзеная ў Нью-Ёрку ў 1973 годзе. Яна поўная з гледзішча пратэстанцкага канону — 39 кніг Старога Запавету (каталіцкі і праваслаўны Стары Запавет зьмяшчаюць 46 кніг, а многія праваслаўныя традыцыі шануюць да 50 кніг і болей). Станкевіч — вялікі знаўца беларускай і добры знаўца грэцкай мовы, але габрэйскай мовы ён ня ведаў. Зь ім працаваў Масей Гітлін, які ведаў габрэйскую, хоць і ня ведаў беларускай. Пераклад атрымаўся якасны, аднак яго беларуская мова далёкая ад цяперашняй. Пераклад Васіля Сёмухі выйшаў у 2002 годзе. Там шмат добрых моўных знаходак. Сёмуха — выдатны знаўца нямецкай лютэраўскай традыцыі. Ён кансультаваўся зь Бібліяй Лютэра — з сучаснымі, выпраўленымі выданьнямі, хоць, відаць, асноўнай крыніцай перакладу быў расейскі Сынадальны пераклад. Праз

гэта шматлікія хібы расейскага Сынадальнага перакладу трапілі і ў пераклад Сёмухі. Ён таксама ўключае толькі 39 кніг Старога Запавету. Поўная (з праваслаўнага і каталіцкага гледзішча) Біблія была выдадзеная ў 2012 годзе Беларускім біблійным таварыствам. Аснова гэтага выданьня — пераклад айца Ўладзіслава Чарняўскага. Ягонай галоўнай крыніцай была польская Біблія Тысячагодзьдзя. Праўда, хадзіла легенда ў Беларусі, што ён перакладаў з Вульгаты — лацінскага перакладу. Насамрэч гэта ня так, хоць лацінскі пераклад ён ведаў і зь ім кансультаваўся. У перакладзе Чарняўскага часам вельмі ўдалыя адаптацыі на беларускую мову біблійных імёнаў і геаграфічных назваў. Праўда, Біблія 2012 году спраўджаная па Новавульгаце (сучасным перакладзе на лаціну), але тэкстуальная традыцыя не захаваная — туды дадалі матэрыялу зь бізантыйскае (пазьнейшае і найбольш распаўсюджанае ў манускрыптах пасьля IX стагоддзя) тэкстуальнае традыцыі, за якой ідуць славянская і расейская традыцыі, але ніяк не лацінская.

Так што глядзіце: пераклад Станкевіча зроблены на неўжывальную беларускую мову і няпоўны; у Сёмухі — пераклад зь перакладаў і няпоўны; пераклад Чарняўскага — поўны, але, зноў жа, пераклад зь перакладу, зь мяшанай тэкстуальнай традыцыяй. У XXI стагодзьдзі нядобра быць у такой сытуацыі. Беларуская мова — адзіная з тытульных моваў сьвету, на якую няма сучаснага якаснага перакладу з арыгінальных моваў (гэбрайскай, арамэйскай ды грэцкай) і якасных тэкстуальных крыніцаў.

— *Цяпер разумею, чаму вы ўзяліся за новы пераклад. Вы робіце гэтую працу адзінаасобна, ці грамадой?*

— Час адзінаасобных перакладаў Бібліі прайшоў. І прайшоў ён ужо ў XVI стагодзьдзі. Першая поўная Біблія, выдадзеная ў Беларусі, — Берасьцейская (Радзівілаўская) Біблія, якая пабачыла сьвет у 1563 годзе, — перакладалася калегіяй навукоўцаў, якіх сабраў і спансараваў Мікалай Радзівіл Чорны (праўда, пераклад быў зроблены на польскую мову). Аўтарскія пераклады робяцца і дагэтуль, найчасьцей паасобных кніг Бібліі. Аднак зь сёньняшнім узроўнем біблістычных дасьледаваньняў ніводзін чалавек ня можа ахапіць усе назапашаныя веды ў гэтай галіне. Гэтая праца абавязкова мусіць быць калегіяльнай. Раней у нас (асабліва за савецкім часам) проста не было такіх адмыслоўцаў, якія б валодалі аднячасова габрэйскай і грэцкай мовамі, а тым больш прафэсійных знаўцаў Бібліі, біблійнага кантэксту — найбагацейшых рэлігійных ды літаратурных традыцый старажытнага Блізкага Ўсходу, зь якімі Біблія знаходзіцца ў няспынным сумоўі, а таксама біблійнага багаслоўя, гістарычнага і культурнага кантэкстаў і г. д. Цяпер жа такія людзі ёсьць — габраісты, эліністы, біблісты, багасловы, а таксама беларускія лінгвісты, літаратары, стылісты. Мая першая спроба сабраць перакладніцкую групу адбылася ў 2010 годзе, але не была пасьпяховаю. А ў 2012-м, на Міжнародным кангрэсе дасьледнікаў Беларусі ў Коўне, упершыню сфармавалася сэкцыя навуковага біблійнага перакладу. І там здарыўся цуд: людзі загарэліся ідэяй супольнай

працы над новай беларускай Бібліяй — Бібліяй для XXI стагодзьдзя. Ад таго часу група і трымаецца. Распрацавалі канцэпцыю перакладу, падумалі над мэтамі і мэтадалёгіямі — і пачалі перакладаць. Праўда, мы яшчэ ў самым пачатку шляху, і няма ніякіх гарантыяў, што мы пройдзем яго да канца. Але хоць нешта пазытыўнае ад нашай працы для Беларусі, спадзяюся, будзе.

## «Калі я замежным біблістам казала, што ў Беларусі няма адзінага прынятага спосабу адаптацыі імені Ісус, мне ня верылі»

*— БПЦ і Каталіцкі касьцёл у Беларусі таксама працуюць у гэтым кірунку. Вынікі іх працы часткова апублікаваныя. Вядома ж, у іх розныя падыходы да перакладу Сьвятога Пісьма. А якія падыходы і прынцыпы ў вас? Ваш пераклад мусіць быць надканфэсійным?*

— Так. У ідэале павінен атрымацца тэкст, прымальны для ўсіх канфэсій. У нас найперш навуковы пераклад. Ён вылучаецца максымальнай блізкасьцю да арыгіналу. Навуковы пераклад абавязкова робіцца з найлепшых біблістычных крыніцаў, як гэта прынята ў сучаснай біблістыцы. Яны даўно вядомыя, тут вынаходзіць нічога ня трэба. Сёньня нам, безумоўна, аглядацца на царкоўна-славянскі, расейскі сынадальны, польскі ці лацінскі пераклады няма ніякай патрэбы. Хоць мы ўлічваем традыцыю шматлікіх беларускіх перакладаў XX і XXI стагодзьдзяў.

*— Мне расказваў Васіль Сёмуха, які спачатку ўваходзіў у перакладніцкую камісію БПЦ, што там*

*нейкія спрэчныя словы прымаліся галасаваньнем. А як прыходзіце да згоды вы?*

— Пакуль што мы ў такой сытуацыі не былі, хоць спрэчных момантаў надзвычай многа. Скажам, у Беларусі ўтварылася падвойная традыцыя адаптацыі некаторых біблійных імёнаў — ёсьць Язэп і Восіп, Якуб і Якаў, Тамаш і Фама. Калі я замежным бібліістам сказала, што ў Беларусі няма адзінага прынятага спосабу адаптацыі імені Ісус, дык мне не паверылі. Але гэта найменшыя праблемы. Асноўныя — зьвязаныя з разуменьнем старажытнага тэксту, часам для нас цьмянага, часта замглёнага традыцыяй. Спрэчных момантаў, думаю, будзе нямала. Нядаўна мы ладзілі скайпавую канфэрэнцыю — абмяркоўвалі пераклад «Песьні песьняў», які рабіў Сяргей Шупа і над якім працавалі Галіна Сініла і Караліна Мацкевіч зь Лёндану. Мы моцна спрачаемся, бо ўсе аргумэнты за розныя прачытаньні сур'ёзныя. Аднак даходзім да кансэнсусу, а самыя неразьвязальныя моманты пакідаем для камэнтароў, якімі суправаджаюцца нашыя пераклады. З намі ад самага пачатку працаваў найвыдатнейшы беларускі мовазнаўца — сьветлай памяці Зьміцер Саўка. На ягоную ўзважаную прафэсійную думку мы маглі абаперціся. А ўвогуле ў нашай групе недзе паўтара дзясятка чалавек — калі лічыць усіх, зь пяці краінаў. Самая галоўная праблема — праца з арыгінальнымі тэкстамі, адэкватнае іх разуменьне. Старажытныя біблійныя тэксты працуюць такім чынам — чым больш іх чытаеш, тым больш ты можаш у іх убачыць. Увесь час адкрываюцца нейкія іншыя сэнсы, паказваюцца глы-

бейшыя ўнутраныя сувязі. Чым больш учытваесься, тым больш цэласная карціна бачыцца. І калі пачынаеш разьбірацца, то бачыш, што многія традыцыйныя пераклады паўтараюць тыя самыя памылкі, якія пачаліся ці не ад перакладу Бібліі на грэцкую мову ў III–I стагодзьдзях да нашай эры, які рабіўся ў Александрыі (вядомы як Сэптуагінта). А іншыя маюць ужо новае, эўрапейскае паходжаньне.

### «У габрэйскім тэксьце няма ні Адама, ні Евы, ні рабрыны, ні яблыка, ні спакусы»

— *У маім кнігазборы ёсьць некалькі перакладаў Бібліі. Часам іх цікава параўнаць. Скажам, вось як пачынаецца Стары Запавет у таго ж Станкевіча: «Зямля была бяз хормы а пустая». Той жа фрагмэнт у Сёмухі: «Зямля была нябачная і пустая». У вас: «Зямля была голая і кволая». Абсалютна розныя словы з розным сэнсам. Як вы абгрунтуеце свой варыянт?*

— Гэты верш па-габрэйску гучыць рытмізавана, ён вымагае пэўнага рытму дыханьня. У ім апісваецца стан рэчаў пасьля ўзьнікненьня, але да стварэньня сьвету — такі сабе пачатак перад пачаткам. Працытаванае вамі ў арыгінале стварае вельмі яркую і вобразную карціну, якая перададзеная двума кароткімі рыфмаванымі словамі: tohu wa-bohu (wa — гэта злучнік «і»). Адно зь іх атэставанае дастаткова няблага і азначае нешта пустое, спустошанае, марнае, а другое — амаль неатэставанае (у Бібліі сустракаецца яшчэ толькі двойчы, прычым адзін раз у гэтай самай дуплетнай пары). Такім чынам, дакладнага значэньня

выслоўя мы ня ведаем, але можам меркаваць, што гэта ўстойлівы выраз. А ўстойлівы выраз, як правіла, перакладаецца іншым устойлівым выразам. Таму калі перакладнік ідзе за сэмантыкай, ён траціць вобраз, дзеля якога падбіраліся словы аўтарам тэксту, пры гэтым і сама сэмантыка застаецца няпэўнаю. Сёмухавы варыянт «зямлі нябачнай» ідзе ад няправільнага прачытаньня грэцкага перакладу, дзе стваральнікі Сэптуагінты выбралі слова *aoratos* — маючы на ўвазе тое, што ня мае выгляду. Мы стараліся падабраць пару з двух кароткіх і пажадана рыфмаваных беларускіх словаў. Варыянт «голая і кволая» прапанаваў Зьміцер Саўка. Цікава, што калі людзі ўпершыню яго чуюць, то неяк адразу адпрэчваюць — настолькі нязвыкла гучыць. А потым праходзіць час, і ім ужо не падабаецца, калі я мяняю яго на «голая і пустая» (гэта мой варыянт). Прытым у некаторых частках Беларусі слова «кволая» ўжываецца да неўрадлівай, пустой зямлі.

— *А яшчэ адна і тая ж расьліна з Эвангельля ад Лукі ў перакладніка Чарняўскага названая шыпшыньнікам, у Станкевіча — чупчыньнікам, у Міцкевіча — асотам, у Клышкі — ажынай, а ў Сёмухі — хмызьняком. Цэлы гербарыюм.*

— Гербарыюмаў там сапраўды хапае. У той жа «Песьні песьняў» мы шукалі, як назваць кветку, зь якой параўноўвае сябе дзяўчына на пачатку другога разьдзелу. Як яе толькі ні называлі — ад ружы да нарцыса. Мы спыніліся на пралесцы, бо дзяўчына гаворыць пра свой някідкі ды сьціплы выгляд. У Кнізе Ёва ёсьць фраза, дзе ўжываецца пяць розных словаў для азначэньня ільва. Роз-

накарэнных! Паспрабуйце перакласьці. І такіх варыянтаў сапраўды вельмі многа. Перакладнікі перакладалі паводле свайго (або замацаванага ў традыцыі) разуменьня тэксту, падбіралі словы так, каб яны адпавядалі іхнаму ўяўленьню пра тэкст. А тэкст мог быць зусім не пра тое. Усе ведаюць гісторыю, што адбылася ў райскім садзе паміж Адамам і зробленай зь ягонае рабрыны Евай, якая потым спакусіла яго яблыкам. У габрэйскім тэксьце няма ні Адама, ні Евы, ні рабрыны, ні яблыка, ні спакусы. Фактычна нашая культура, улюбёная ў гэты сюжэт, сама сабе яго прыдумала. Вядомы ўсім канцэпт першароднага граху і грэхападзеньня быў сфармуляваны толькі ў V стагодзьдзі, ён трывала замацаваўся ў эўрапейскай сьвядомасьці, але, каб яго знайсьці ў арыгінальнай гісторыі Саду, трэба прыкласьці добрую інтэрпрэтатарскую фантазію.

— *Дык з чаго ўсё ж створаная Ева?*

— Ева ні з чога ня створаная, яе ў арыгінальным тэксьце няма. Ева ўзьнікла пры перакладах Бібліі. Двойчы на ўсю Габрэйскую Біблію жанчына завецца *Chava (Хавá)* — як зьвязаная з канцэптам жыцьця, *chaj*. Сэптуагінта адзін раз перакладае сэмантычна — *Zoe* (што значыць «жыцьцё»), а другі раз больш-менш фанэтычна — *Eua*. І гісторыя пра рабрыну паўстала таксама зь перакладу. У першатэксьце ёсьць чалавек, па-габрэйску *adam (адам)*, які зьвязаны зь зямлёй, зь якой ён зроблены і якую яму наканавана ўрабляць, па-габрэйску *adamah (адамá)*. Потым зьяўляецца жанчына, якую Бог «збудоўвае» з аднаго з бакоў чалавека. Літаральна гучыць:

«Узяў адзін з *цэлá* ягоных і закрыў цела на тым месцы. І зрабіў Госпад Бог з *цэлá*, які Ён узяў з чалавека, жанчыну». Слова *цэлá* настолькі звыкла стала прачытвацца як «рабрына», што нават у сучасным іўрыце азначае гэта ж. У Бібліі гэтае слова нідзе ніколі не азначае рабрыну. Яно няблага атэставанае, і ягонае ўжываньне зразумелае. Гэта найчасьцей архітэктурны тэрмін, які абазначае «бок». Бок алтара-ахвярніка ці будынка, часам бок узгорку. У гэтым вершы і дзея Бога называецца архітэктурным тэрмінам — «збудаваў». Карціна паўстае такая: чалавек цэльны, але мае два бакі. І калі цэльны ня справіўся са сваімі задачамі (раней канстатуецца, што, маўляў, «нядобра чалавеку быць самому», яму патрэбна дапамога), то Бог з кожнага з бакоў робіць самастойную істоту. Такім чынам узьнікае жанчына, у дачыненьні да якой чалавек завецца мужчынам.

### «Наша задача — трохі „адчысьціць" біблійныя тэксты ад таго, што да іх „прыліпла" за стагодзьдзі»

— *А ці будзе ваша «рэканструяваная» Біблія запатрабаваная для багаслужбаў?*

— А чаму не? Я тут ня бачу ніякіх праблемаў. Нашая традыцыя — і хрысьціянская, і культурная — базуецца на тэксьце Бібліі. Дык чаму нам базавы тэкст нашай цывілізацыі не паспрабаваць прачытаць так, як ён быў напісаны? Уявіце сабе рэстаўрацыю старой карціны, на якую, апроч гразі і сажы, наклаліся яшчэ дапісваньні, дамалёўваньні — спачатку вучняў, потым мастакоў

пазьнейшых часоў, якія хацелі «абсучасьніць» яе, потым папрацавалі рэстаўратары зь няякаснымі фарбамі. Памятаеце, калі ў XX ст. пачалі чысьціць старыя абразы, то раптам аказалася, што яны… яркія! А ніхто гэтага ня ведаў. Усе думалі, што абразы павінны быць цёмнымі, зь цьмянай пазалотай. А аказалася, што яны ня цёмныя, а яркія, пранізаныя сьвятлом, што яны будзяць розум, узьдзейнічаюць на сьвядомасьць і ўзносяць дух нашмат больш эфэктыўна. Вось і з тэкстам так бывае. Наша задача не паўтараць традыцыю, а, калі трэба, трохі «адчысьціць» біблійныя тэксты ад таго, што да іх «прыліпла» за стагодзьдзі.

— *Найбольш распаўсюджаны ў Беларусі пераклад Бібліі Васіля Сёмухі афіцыйна не прызнаны ні Беларускім Экзархатам РПЦ, ні Касьцёлам. Ці прэтэндавацьме ваш пераклад на такое прызнаньне?*

— Адзін з нашых слоганаў, які зьявіўся цягам працы, — народная Біблія. Яна прызначацьмецца для ўсіх, для любых выпадкаў, дзе можа выкарыстоўвацца Біблія ў XXI стагодзьдзі. Калі яна будзе афіцыйна прызнаная, мы будзем гэта толькі вітаць, калі не — будзем чакаць, калі прызнаюць. Мы знаходзімся на пачатку шляху, я нават не ўяўляю, як гэты працэс будзе ісьці. У нас няма ніякіх апекуноў і мэцэнатаў, у нас няма ні Мікалая Радзівіла Чорнага, ні брытанскага караля Якуба, якія падтрымлівалі падобныя праекты. Мы перакладаем у вольны ад асноўнай працы час. Праца паціху ідзе, і я вельмі спадзяюся, што ўжо сёлета будзе апублікаваны першы плён.

*29 чэрвеня 2017 г.*

## Скарына як эпіграф

*Пасьляслоўе аўтара*

Гадоў дваццаць пяць таму сябры падаравалі мне вялікі габэлен. З-за сваіх памераў ён доўгі час праляжаў у скрутку — не знаходзілася адпаведнай сьцяны. Інтэрнат, здымныя кватэры, аднапакаёўка, запалоненая кніжнымі паліцамі… Прызнацца, я адчуваў няёмкасьць, чарговым разам запіхваючы той габэлен пад ложак, у канапу ці ў іншыя непашанотныя закануркі.

Нарэшце габэлен дачакаўся свайго часу і заняў належнае яму месца на шырокай сьцяне. І — адразу пэўным чынам падпарадкаваў сабе навакольную прастору, стаўшы яе сэнсавай дамінантай. Кожны, хто трапляў у маю кватэру, абавязкова зьвяртаў увагу на габэлен, часам нават рэагаваў на яго як на прысутную асобу.

На тым габэлене — Францішак Скарына. Ён ня толькі пераклаў Біблію і запусьціў беларускі друкарскі варштат (працуе без супынку ўжо пяцьсот гадоў), але і прыдумаў для нас найлепшую формулу патрыятызму: «Як зьвяры, што блукаюць у пушчы, ад нараджэньня

ведаюць сховы свае, як рыбы, што плаваюць у моры і рэках, чуюць віры свае…»

Тэксты Скарыны — гэта скарбніца мудраслоўяў, вычаканеных зь біблійнага золата самай высокай якасьці. За паўтысячагодзьдзя яны не прыцьмелі. І не прыцьмеюць, пакуль мы не развучымся чытаць. Напісанае ім гучыць эпіграфічна, як ніякі іншы твор.

Скарына і сам — як эпіграф. Эпіграф да Беларусі — эўрапейскай, полацкай, вялікакняскай, кніжнай, хрысьціянскай, міралюбнай, толькі пры скрайняй неабходнасьці ваяўнічай (згадайма пчолаў, што бароняць вульлі свае). Чытаць Беларусь найцікавей ад Скарыны, хоць у яго былі годныя папярэднікі, увенчаныя нават німбамі сьвятых.

Кажуць: трэба кананізаваць і Скарыну, як армяне прылічылі да ліку сьвятых свайго асьветніка Мэсропа Маштоца. Наўрад ці варта гэта рабіць — з-за нашай беларускай спэцыфікі. Беларускі асьветнік цяпер — усіхны, навошта ж забіраць яго да нейкай адной канфэсіі?

Хоць аднойчы сьвятога Скарыну мне давялося пабачыць. У хаце знакамітага Алеся Белакоза ў слынных Гудзевічах. На покуці ахінуты ручнікамі віднеўся абраз са знаёмым абліччам, перад ім вісела запаленая лямпадка. Гаспадар хаты прызнаўся, што моліцца да сьвятога

Францішка, і той дапамагае, нават зьдзяйсьняе цуды. І праўда, Гудзевіцкі музэй, абсалютна несавецкі ў сваёй сутнасьці, які савецкая ўлада так і не змагла прыкрыць, — хіба ня цуд?

Неяк у Лідзе падчас люднага фэсту мы падышлі да бронзавага Скарыны і ўлажылі яму ў руку кнігу, якую незадоўга перад гэтым пільныя айчынныя памежнікі прызналі экстрэмісцкай. Неўзабаве заінтрыгаваны натоўп ужо стаяў перад помнікам, на якім кідаўся ў вочы яшчэ і надпіс-наказ: «Бярыце і чытайце». І нават падасьпелы міліцыянт не адразу адважыўся канфіскаваць кнігу ў раптоўна пасуровелага першадрукара.

Назву «Высьпятак ад Скарыны», відаць, многія ўспрымуць як чын пакараньня кагосьці. Што і казаць, вартых добрага высьпятка можна знайсьці і сярод герояў гэтай кнігі, і паўсюль у краіне. Ну ня гладзіць жа па галаве чыноўнікаў, якія толькі за апошняе дзесяцігодзьдзе зачынілі тысячы бібліятэк, ліквідавалі сотні кнігарняў і цэламу Саюзу беларускіх пісьменьнікаў перакрылі шлях да дзяржаўных выдавецтваў і друкарняў.

Але ў згаданай назвы ёсьць яшчэ і другі сэнс. Калі немаўля зьяўляецца на сьвет падазрона маўклівае, яму даюць лёгкага плескача, і яно падае голас.

Вось і Скарына пяцьсот гадоў таму даў нам нязлоснага высьпятка, гучнага плескача па далікатным месцы.

І мы падалі голас. І мы жывем.

# Іменны паказьнік

**В**

**Д**

**К**

**Л**

**М**

**С**

**Т**

**У**



**Ф**



**Х**



**Ц**

**Ч**



**Ш**

## Пра аўтара



**Міхась Скобла —**
паэт, эсэіст, перакладнік, дасьледнік літаратуры.

Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын на Зэльвеншчыне. Скончыў Дзярэчынскую СШ (1984) і філфак БДУ (1991). Працаваў намесьнікам галоўнага рэдактара часопіса «Роднае слова» і выдавецтва «Беларускі кнігазбор», у Міністэрстве культуры і друку.

Аўтар кніг «Вечны зьніч» (1990), «Розгі ў розьніцу» (1993), «Вочы савы» (1994), «Камень-перунок» (1998), «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999), «Нашэсьце поўні» (2001),

«Акно для матылькоў» (2009), «Вольная студыя» (2009), «Саркафагі страху» (2016), «Камізэлька для месяца» (2016). Укладальнік паэтычных анталёгій «Краса і сіла: беларуская паэзія ХХ стагодзьдзя» (2003) і «Галасы з-за небакраю: паэзія сьвету ў беларускіх перакладах ХХ стагодзьдзя» (2008).

Уклаў і пракамэнтаваў «кнігазбораўскія» аднатамовікі Ўладзімера Жылкі (1998), Ларысы Геніюш (2000), Рыгора Крушыны (2005), Рыгора Барадуліна (2008); а таксама зборы твораў Алеся Салаўя (2010), Ларысы Геніюш (у 2 тамах; 2010), мемуарныя зборнікі Мікалая Улашчыка (2016) і Міхася Стральцова (2017). Апублікаваў тамы эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш — «Каб вы ведалі» (2005) і «Лісты з Зэльвы» (2012), Зоські Верас — «Я помню ўсё» (2013) і «Пакуль рука пяро трымае» (2015).

Сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў (з 1991), зьяўляўся намесьнікам старшыні СБП (2002–2010). Вёў аўтарскую праграму «Вольная студыя» на Радыё Свабода (1998–2017).

Ляўрэат літаратурных прэмій Ведзьмака Лысагорскага (1988), Алеся Адамовіча (2000), «Залаты апостраф» (2016) «Гліняны Вялес» (2017), Міжнароднай прэміі «Воін сьвятла» (2016).

Жыве ў Менску.

## Summary

The book by a writer and literary historian Mihas Skobla "A Kick from Skaryna" consists of two sections. The first one contains social and political polemic essays devoted to the major events in the cultural life of Belarus, the restraint on creative freedom, the creative authors who battle for their rights to be published without having to endure censorship. Her Majesty the Book is raised upon a podium here. According to Terentianus Maurus every book has its own destiny. Not without reason every essay starts with an epigraph from F. Skaryna, who activated Belarusian printing machine 500 years ago. The second section is a compilation of conversations with outstanding contemporaries. The author discusses Belarus and the World with a Polish film and theatre director Krzysztof Zanussi, a Russian dissident Valerya Navadvorskaya, a Ukrainian poet Dzmitro Paulychka, with creatively gifted Belarusians such as an artist Aliaksei Marachkin, Doctor of Theology Iryna Dubianetskaya, a historian Ales Krautsevich, a writer Uladzimir Niakliaeu and others. The discussions are selected from a radio show Free Studio, which the author has been hosting in RFE/RL Minsk radio studio (1998—2017).

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009–2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.